# ПОЛЫМЯ
# РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС
ЛІТАРАТУРЫ,
МАСТАЦТВА,
МАРКСІСЦКА-
ЛЕНІНСКАЙ
ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ



## 6

1 9 3 7



# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА, МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА
СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

*КНІГА ШОСТАЯ*







МЕНСК — 1937



*А. М. Горкі*

*М. Горкі*

# МА-АЛЕНЬКАЯ!..

...„І была яна, браток, целам—ды ма-аленькая!..“ Кожны раз, калі я ўспамінаю гэтую фразу, з далечы мінулага мне ўсміхаюцца дзве пары падслепаватых старэчых воч, усміхаюцца такой ціхай ласкавай усмешкай любві, шкадавання, і ў вушах гучаць два надтрэснутыя галасы, якія аднолькава характэрна падкрэсліваюць тую акалічнасць, што „яна“ была маленькая!..

І мне робіцца так хораша і лёгка ад гэтых успамінаў, лепшых за ўсе дзесяць месяцаў майго хаджэння па крывых дарогах нашай радзімы, такой вялікай і такой сумнай...

---

Па дарозе з Задонска ў Варонеж я дагнаў двух багамольцаў— старога і старую. Абодвум ім з выгляду было год паўтараста; яны ішлі так марудліва і няўмела, цяжка ступаючы па гарачаму пылу дарогі, і абодвы мелі ў фізіяноміях і ў адзенні ледзь улоўнае нешта, гэтае нешта адразу дазваляла заўважыць, што старыя ідуць здалёк.

— З Табольскай губерніі шагам... са господняй дапамогай!— пацвердзіў стары мае меркаванні.

А старая на хаду ласкава азірнула мяне добрымі, калісьці блакітнымі вачамі і, дабрадушна ўсміхаючыся, дадала, уздыхаючы:

— З самага Н-скага завода, вёскі Лысай будзем мы з айцом— вось!

— То-та, нябось, вы стаміліся?

— Мы-та?

— Нічога! Пакуль рухаемся... паўзём божай міласцю!

— Па абяцанню, ці што, альбо так, дзеля старасці?

— Па абяцанню, браток. Абяцанне, значыцца, далі кіеўскім і салавецкім угоднікам божым... Так...—ізноў пацвердзіў стары.— Маці! пасядзім, адпачнем крыху?—звярнуўся ён да спадарожніцы.

— Ну што-ж,—згадзілася яна.

І вось мы селі ў цень ад старой прыдарожнай вярбы. Дзень быў жаркі, уперадзе і пазадзе нас вілася дарога і ўходзіла ў далі, завешаныя спякотнай імгой. Наўкола было пустэльна і ціха. Па абодвух баках дарогі нерухома стаяла чэзлае жыта.

— Высмакталі зямлю-та!—сказаў стары, падаўшы мне некалькі сарваных калассяў.

Мы загаварылі аб зямлі і аб жорсткай залежнасці ад яе сялянскага лёсу. Старая слухала нас і ўздыхала, часам устаўляючы ў нашу гутарку харошае, вопытнае слова.

— Каб жыва была яна, колькі-б нанудзіла сэрцайка сваё на такім-ту полі!—раптам сказала старая, азірнуўшыся навокал, на коласы нізенькага, выгарэўшага жыта, якія стракацелі плешынамі.

— Та-ак! Парупілася-б ужо...—матнуў галавой стары.

І абодвы яны раптам замаўчалі.

— Аб кім гэта вы?—спытаў я.

Стары добрадушна ўсміхнуўся.

— Тут... успамінаем аб адной...

— Пастаялка наша была... паненка...—уздыхнула старая.

І раптам абодвы яны, гледзячы на мяне, нібы дагаварыўшыся між сабой, працягнулі марудліва і жаласліва, ва ўнісон адзін другому:

— Ма-анінькая такая была целам-ту!..

Гэта было дзіўна, і вельмі балюча рэзнула мяне па сэрцу. Нешта заўпакойнае гучэла ў іх старых галасах... А яны раптам, спяшаючыся і перабіваючы адзін другога, пачалі расказваць так хутка, што мне, сядзеўшаму сярод іх, заставалася толькі паварачваць галаву ад аднаго расказчыка да другога.

— Прывёз яе да насураднік і здаў, значыцца, старасту. Вызначылі яе на пастой,—гаворыць...

— На кватэру, стала быць, каму-небудзь!—растлумачыла старая.

— Яе да нас і змясцілі...

— Глядзім,—чырвоная ўся... дрыжыць з холаду-та...

— А сама такая ма-анінькая...

— Ах, у слёзы мы...

— Госпадзі, думаем, куды яе такую заслалі?

— На якую яе патрэбу? За якую такую правінку?..

— А яна, чуеш ты, аднекуль-та адсюль...

— З Расіі, стала быць...

— Мы яе перш за ўсё на печ...

— Печ-та ў нас вя-ялікая... да цё-ёплая,—жаласліва ўздыхнула старая.

— Ну, потым, значыцца... карміць яе!

— Смяецца!

— Вачаняткі-та чо-орныя... як у мышы...

— І ўся-та яна, як мыша... гладкая ды круглая...

— Аддыхалася... плача. Дзякуй, кажа, родныя!

— І пачала круціць!!

— І пачала-ж ужо!—з захапленнем выкрыкнуў стары і засмяяўся, прыжмурыўшы вочы.

— Катаецца табе па хаце-та, як клубок, і што толькі не вырабляе... і тое, і гэтае... і тое паставіць так, і гэтае гэтак. Цэбар з памыямі вон, свінням, гаворыць, цягніце... Да сама яго і хваць ручанькамі-та, да пасклізнулася, да па плечы рукі-та ў па-а-мыі-та бабух! Ах, ты...

І абодвы яны засмяяліся, задыхаючыся і кашляючы да слёз.
— Парасяты зноў-жа...
— Цалуе іх проста ў рыла!..
— Немагчыма, гаворыць... Вон парасёў!
— За тыдзень умучыла вось як!
— А вось, бывала, угоніць...
— Рагоча, крычыць, нажонкамі топае...
— А то раптам пацямнее ўся, запалохаецца...
— А як памрэ?..
— Ды ў слёзы... Ужо рыдае, рыдае, так гэта яе знутры б'е. Кружышся, кружышся, каля яе-та... Чаго ёй? Незразумела... Хоць сама плач. І плачам бывала... не ведаючы аб чым. Абыймеш яе ды і зальешся разам...
— Вядома, дзіцё нібы...
— А жывём-та мы адны... Сына ў салдаты здалі, а другі на залатых промыслах...
— А ёй-та восемнаццаты, здаецца, гадок...
— Якое! З выгляду калі даваць, ніяк не больш дванаццаці...
— Ну, ужо ты—больш дванаццаці!.. бачыш ты!..
— А больш—скажаш? Як-жа!
— Чаго? Дзяўчына яна была сакавітая... А што мала расла, дык гэта хіба-ж у дакор ёй?
— А я ў дакор кажу? Гэткая!
— То-та!—дабрадушна здалася старая.
Паспрачаўшыся, старыя абодвы і адразу замаўчалі.
— Ну, а што-ж далей!—запытаў я.
— Далей нічога, браток!—уздыхнуў стары.
— Памерла яна... Агнявіца яе спаліла,—і па маршчакаватых шчаках пацяклі дзве слязінкі.
— Та-ак, брат, памерла... Два гадочкі толькі з намі пажыла... Уся яе вёска ведала. Чаго ўся вёска! Шмат хто ведаў. Грамацейка была. На сходы хадзіла. Крычыць сабе бывала... Нічога, разумніца.
— А галоўная справа—душа! Ах, якая душа андзельска! Усё-та да яе даходзіла, усё-та сэрцайка ведала! Паненка-ж як ёсць гарадская, у бархатнай кофтачцы... іstужачкі... чаравічкі, кніжкі чытае і ўсё гэта, а сялянства разумела, ах, як проста! Усё ведала! Адкуль толькі ты гэта мілушка? У кніжцы, гаворыць, прапісана! Н-ну, ужо!! Чаго-б ёй гэта, зачым? Замуж бы вышла, паней была, а тут вось заслалі, і памёрла...
— І дзіўна! Вучыць усіх... такая-ж манінькая!.. Да ўсіх гэта так сур'ёзна... Тое не так, другое не так...
— Граматніца, што гаварыць. Руплівіца пра ўсё, ды пра ўсіх... Дзе хто хворы,—бяжыць, дзе хто...
— Паміралa-та ў непрытомнасці... трызніла толькі. „Мама,— гаворыць,—мама!“—жаласліва гэтак... Паехалі былі за папом, можа, маўляў, апрытомніцца... А яна, мілушка, не пачакала, сканала...
Па твару старой цяклі слёзы, і мне было так хараша, нібы гэта аба мне плакалі...

— Уся вёска сабралася да нас... Таўкуцца на вуліцы і на двары... Як?! Як?! усе яе любілі, не нарадаваліся на яе.

— Эх, дзяўчурачка была залатая!—уздыхнуў стары.

— Усім мірам і пахавалі... А потым да маслянай сорак дзён вышла і надумалі... айда-ка, маўляў памолімся за яе! І суседзі таксама... чаго вы, кажуць, і ўсамдзеле? Ідзіце-тка! Людзі вы, значыцца, свабодныя, не рабочыя... А ёй, можа, улічыцца. Мы і крануліся.

— Дык гэта вы за яе?—спытаў я.

— За яе, дзяўчынку, родны, за яе! А можа, маўляў, госпад-бог бацюшка прыме нашу грэшную малітву, даруе ёй! І пайшлі вось на першым тыдню паста, якраз ва ўторак вышлі...

— За яе!—паўтарыў я.

— За яе, друг!—пацвердзіў стары.

Мне хацелася яшчэ шмат разоў чуць, што іменна, жадаючы маліцца за яе, яны прайшлі тысячы вёрст. На мой погляд гэта было так хораша, што здавалася непраўдападобным. Я падсказваў ім другія пабуджальныя прычыны, жадаючы яшчэ больш пераканацца, што яны пашлі іменна „за яе“, маленькую дзяўчынку з чорнымі вачамі. І на вялікае маё задаволенне я, нарэшце, пераканаўся ў гэтым.

— Няўжо пехатой усё ідзіцё?

— Не, куды нам, калі і прысядзем. Паедзем дзянёк, а потым ізноў стараемся памалу. Старыя ўжо завельмі мы пехатой-та ўсё ісці... Гасподзь—бачыць, стары... Каб нам яе ножкі, куды-б іншая справа!

І абодвы яны ізноў наўзахапкі ўзяліся гаварыць аб ёй, маленькай дзяўчынцы, закінутай лёсам далёка ад дому і мамы і памершай ад агнявіцы...

Гадзіны праз дзве мы ўсталі і пайшлі. Я думаў аб маленькай дзяўчынцы, але не мог уявіць яе сябе... мне было да болю крыўдна гэтае бяссілле ўяўлення...

Хутка нас дагнаў хахол на возе. Ён меланхалічна агледзеў нас і, прыпадняўшы шапку на наш паклон, крыкнуў старым:

— Садзецеся, падвязу да вёскі!

Яны селі і зніклі ў воблаку пылу. Я доўга ішоў у ім і глядзеў, як уводдалі знікаў воз, увозячы старых, якія прайшлі тысячы вёрст, каб памаліцца аб маленькай дзяўчынцы, якая прымусіла іх палюбіць сябе...

*Пераклаў з рускай* МІХАСЬ ЛЫНЬКОЎ.

Апавяданне надрукавана ў „Самарской газете“ у № 173 ад 13 жніўня 1895 г.

*М. Горкі*

# ГРЫЎНЯ

*Эпізод з жыцця аднаго рамантыка*

Мне хочацца расказаць пра самы сумны выпадак з майго жыцця, расказаць пра першую насмешку лёсу нада мною, пра тое, што ўпершыню пазнаёміла мяне з тугою і прымусіла сэрца маё ў страху задрыжэць ад жорсткай іроніі выпадку, іроніі, якую так часта і так бязлітасна сапраўднасць кідае ў твар летуценнікам.

Гэта было вясною; толькі што распусціліся дрэвы. Яны стаялі ў пышным убёры зеляніны, яшчэ бледнай і маладой, і густы пах яе быў такі салодкі—нібы з неба ён струменіў разам з песнямі нябачных жаўранкаў.

Усё навакол мяне было свежае і новае—нават зямля, на якой я ляжаў каля краю лесу, здавалася абноўленай і нібы абяцала людзям шмат чагосьці такога, што яшчэ нязведана імі.

Было поўдня.

Група рабочых, якая рабіла тэхнічныя росшукі для чыгуначнай веткі, размясцілася пасярод поля адпачыць, а я, у той час дваццаці-трохгадовы „практыкант“, студэнт-тэхнолаг, адышоўся ад рабочых у бок сажняў на дзвесце, лёг каля краю лесу і, абапёршыся локцем на стары пень, пазіраў у неба.

Адчуванне навізны і свежасці, якія павявалі ад усяго, што было вакол мяне, і тая вясновая лагоднасць і летуценнасць, з якімі знаёмы кожны, хто любіць адзіноту і прыроду,—усё гэта ўвяло мяне ў стан поўдрамоты, няўяўнае нешта, сплеценае з многіх поўдумак, поўадчуванняў, якія соладка закалыхвалі адчуванне быцця і ў той-жа час нібы пашыралі межы свядомасці.

Часам вецер ціха гайдаў лес, і мяккі шум яго вецця яшчэ больш закалыхваў мяне, сплываючы ў бясконцасць неба, заглушаючы звонкія галасы жаўранкаў і знікаючы ў блакітнай пустыні, якая песціла мае вочы пяшчотным тонам свайго колеру.

Мне было хораша, як заўсёды бывае ў такія хвіліны, я не ўсведамляў часу. Бог ведае, колькі хвілін або гадзін прайшло ў лятуценнях да таго часу, пакуль слых мой не ўлавіў гукаў песні, якая чулася з лесу. Разам з усім іншым, што гучэла вакол, я ўдыхаў у сябе і гэтую песню, не разбіраючы яе слоў, і я ленаваўся расплюшчыць вочы, каб зірнуць, хто гэта спявае.

Але я ўсведамляў, што гэта спявае жанчына, спявае і ўсё набліжаецца да мяне. Сакавіты, моцны контральта ліўся шырокім, вібруючым струменем, і ціхі шолах нібы быў фонам для яе.

„Напэўна, красуня...“, надумаў я, расплюшчваючы вочы.

Я не памыліўся. Яна якраз у гэты момант выйшла з лесу і, уздрыгануўшыся, спынілася ўскрай яго. Адною рукою яна схапілася за галінку дрэва, другую шпаркім рухам прытуліла да грудзей.

Высокая і статная, у белай пухавай палерыне на плячах, у цяжкім бэзавага колеру плацці, якое шчытна аблягала яе бюст і пышнымі складкамі спадала ад бёдраў да ног, яна стаяла нерухома, утаропіўшы на мяне невялікія цёмныя вочы, і паміж яе тонкіх брывей лягла рэзкая зморшчына.

Яна спалохалася мяне, сполах пабліскваў у яе вачах, і шчокі яе спачатку ўспыхнулі ружовым агнём...

З палаючым тварам, гатовая абараніцца, дзівосна прыгожай была яна! Страх забіў не ўвесь яе гонар, і крыху пагарды пабліsквала ў яе позірку на мяне.

А я, зачараваны яе прыгожасцю, нерухома і не зводзячы позірку з твару, паглядаў на яе і, каб яе вочы не былі чорнымі, можа, палічыў-бы яе за фею...

Секунду, напэўна не больш, яна стаяла нерухома супроць мяне, але я шмат перажыў у гэтую секунду. Тое добрае, што трапляецца нам у жыцці, заўсёды вымераецца секундамі.

Вялікая асалода пазіраць на прыгожую жанчыну вачамі, не зацемненымі туманам брыдкіх жаданняў!

Я іменна так пазіраў на гэту жанчыну, і я не мог пазіраць інакш, бо, не быў упэўнены, ці сапраўды жанчына яна—стварэнне з касцей крыві і нерваў, або гэта ўвасабленне няўлоўных мар маіх—усяго, што я адчуваў да моманту яе з'яўлення перада мною.

Але вось яна ўсміхнулася ледзь-ледзь, толькі краем губ, і пашла, і калі яна праходзіла паўз мяне, край яе плацця ледзь не крануўся маёй галавы і лёгкі павеў дыхнуў мне ў твар.

Я быў невымоўна шчаслівы, што мог пазіраць на яе: яна была сапраўды дзівосна прыгожай! І асабліва ўрэзаўся ў памяць маю яе лоб, высокі мрамарны лоб, з тонкімі выгнутымі брывямі і рэзкай, гордай, дзівосна-гордай зморшчынай паміж імі. Гэта надавала ёй выгляд багіні, абражанай тым, што смертны адважыўся не пасціцца перад яе харастовом.

Яна аддалялася павольна, плаўна і нячутна; мне здавалася, што трава не прыгінаецца пад яе нагамі, і мне рабілася сумна па меры таго, як яна адыходзіла. Вось яна пашла, і я не бачу больш яе дзівоснага, горда прыгожага твару!

Ад кожнага кроку яе туга мая ўсё больш павялічвалася і сэрца білася ўсё больш мацней, нібы імкнучыся следам за ёю... Я ўжо меўся крыкнуць што-небудзь, каб яна павярнулася і хоць раз яшчэ, адзін толькі раз яшчэ, зірнула на мяне.

І раптам яна сапраўды азірнулася. Тады, падпарадкуючыся нейкаму нутранаму штуршку, я ўвесь успыхнуў ад шчасця, падняўся з зямлі і працягнуў да яе адну руку...

Яна, усміхаючыся ласкава і ясна, падышла да мяне. З адчуваннем пачцівага трэпету я чакаў яе і ў вачах маіх усё цямнела і дзіўна кружылася. Захапленне, невядомае мне да таго часу, ахапіла мяне, я дрыжэў, магчыма, я нават плакаў ад шчасця...

Вось яна падышла да мяне, я адчуў тонкі пах парфумы, штосьці халоднае капнула мне ў руку... Я сударгава сціснуў яе.

Я доўгі час пасля пазіраў услед красуні, доўгі час, пакуль яна не схавалася далёка за прыдарожнымі кустамі. Мне было да болю соладка пазіраць услед ёй, і я адчуваў, што яна не пашла ад мяне,—успамін пра яе, прыгожую, велікадушную, чулую і гордую, як пра сімвал усяго лепшага ў жыцці, астаўся ў маім сэрцы назаўсёды разам з адбіткам яе дзівоснага твару.

Але вось я разняў руку, адчуваючы, што ў ёй асталося штосьці...

Лепш-бы аслепнуць мне перад гэтым!

У маёй руцэ была грыўня, маленькая срэбраная грыўня, але яна была такая страшэнна цяжкая! Невымоўна цяжкая!

Лепш-бы яна ўдарыла мяне, гэта красуня!

Навошта, навошта яна была такая добрая?

Я адчуваў, што душа мая назаўсёды паранена...

Я зразумеў: мая брудная блуза і ўвесь гарнітур рабочага прымусіў яе палічыць мяне за валацугу, мой жэст яна вытлумачыла, як просьбу міласціні...

Навошта яна была такая спагадлівая?

... Мне неаднойчы на працягу жыцця даводзілася ўспамінаць пра гэтую пошлую, маленькую мяшчанска-скромную і бліскучую грыўню.

Я меў адвагу шукаць у каханні высокіх і чыстых духоўных асалод, чакаў ад яго адраджэння духу, новага жыцця, і калі тая, якой я аддаў душу, раскрыла перада мною сябе,—я з болем успамінаў пра грыўню, лёганькую, пошлую, бліскучую манетку.

Я шмат чаго шукаў і шмат неаднойчы чакаў... Але знаходзіў мала і заўсёды ўспамінаў пра гэтую пошлую грыўню.

І вось цяпер, калі жыццё маё выпетрала, зрабілася пустым і нудным,—бо няма ўжо больш у мяне жаданняў! Няма ўжо іх! І вось цяпер, азіраючыся ў мінулае, туды, дзе некалі ярка ўзгаралася зара быцця майго, у далеч, дзе асталіся надзеі і жаданні, я пытаюся ў сябе:

Ці не была гэта жанчына лёсам, ці не была яна жыццём, якое заўсёды, калі набліжаецца да нас, абяцае так многа, але, схапіўшы нас, як жабракам, кідае крошкі і грашы і, знікаючы, пакідае нас такімі-ж жабракамі і беднымі, якімі мы былі і ў першы дзень нараджэння?

*Пераклаў з рускай М. ПАСЛЯДОВІЧ*

Апавяданне надрукавана ў „Самарской газете“ № 89 ад 23 красавіка 1896 г.



*Максім Горкі*

# НА СОЛІ

1

— Ідзі ты, браце, на соль! Там заўсёды знойдзеш работу. Заўсёды знойдзеш. Бо як справа гэтая катаржная, страшэнная справа, доўга на ёй не ўбудзеш. Уцякаюць, адтуль людзі... не трымаюцца. Вось ты і павазі дзянёк. Па сем капеек з тачкі дадуць, відаць... на дзень—нічога, хопіць.

Рыбак, які раіў мне гэта, плюнуў убок, паглядзеў у блакітную даль мора і меланхалічна замуркатаў у бараду сабе нейкую песню. Я сядзеў з ім у цені, ад сцяны курэня,—ён лапіў палатняныя шаравары, пазяхаў і паволі цадзіў праз зубы ўсялякія сумныя сентэнцыі аб недастачы на зямлі работы людзям і аб тым, як многа трэба чалавеку пакласці працы ў пошуках работы.

— Калі не ўтрымаешся... прыходзь сюды адпачываць... Раскажаш... Тут недалёка, вёрст пяток... Так... Вось паспрабуй!

Я развітаўся з ім, падзякаваў яго за параду і рушыў берагам „на соль“. Была гарачая жнівеньская раніца, неба было чыстае і яснае, мора ласкавае і пустыннае і на ўзбярэжны пясок адна за другой узбягалі зеленаватыя хвалі. Наперадзе перада мной, далёка ў блакітнай спякотнай імгле на жоўтым беразе ляжалі белыя лапіны—гэта Ачакоў;ззаду—курэнь тануў за ўзгоркамі ярка-жоўтага пяску, моцна адцененага аквамарынавай вадой мора...

Я вельмі многа наслухаўся ў курэні, дзе начаваў, усялякіх глыбокадумных—дурных гісторый і развагаў і быў настроены мінорна. Хвалі гучэлі ва ўнісон настрою і ўзмацнялі яго.

Неўзабаве перада мной разгарнулася карціна саляной дабычы. Тры квадраты зямлі, сажняў па дзвесці, акопаныя нізенькімі валамі і абведзеныя вузкімі канаўкамі. былі трыма фазісамі дабычы. У адным, поўным морскай вады, соль выпарвалася, асядаючы блішчастым на сонцы, бледна-шэрым, з ружаватым адценнем пластом. У другім—яна зграбалася ў кучкі. Жанчыны, якія зграбалі яе, з лапатамі ў руках, па-калені тапталіся ў бліскучай чорнай гразі—і нейк вельмі мёртва, без крыку і гамонкі павольна і стомлена варушыліся іх брудна-шэрыя постаці на чорным, бліскучым фоне тлустай, салёнай і едкай „рапсы“, як называюць

гэтую гразь. З трэцяга квадрата соль вывозілася. Крукам сагнутыя над тачкамі рабочыя тупа і маўкліва паўзлі ўперад. Колы тачак нылі і вішчэлі, і гэты гук здаваўся прыкра-сумным пратэстам, адрасаваным да неба і народжаным у доўгім ланцугу чалавечых спін, павернутых да яго. А яно ліло нясцерпную агністую спёку, якая напаліла шэрую, патрэсканую зямлю, дзе-ні-дзе ўкрытую чырвона-бурай саланчакавай травой і дробнымі да болю бліскучымі крышталамі солі. З манатоннага віску тачачных колаў грубой і рэзкай нотай выдзяляўся басісты голас кладчыка, які забіяцка лаяў рабочых-вазакоў, што ссыпалі з тачак да яго ног соль. Ён паліваў соль вадой з вядра і выкладваў у даўгаватую піраміду. Стоячы на высокай кучы солі і размахваючы ў паветры рыдлёўкай, кладчык, высокага росту, чорны як вугаль мужчына, у сіняй рубашцы і белых шырокіх шараварах—ва ўсё горла камандаваў узвозіўшым па дошцы ўгару тачачнікам:

— Сып налева! Налева сып, д'ябал калматы! Ах ты, прастрэль цябе ў станавую жылу! Кол табе ў вочы! Куды ты прэш? Куды? Ах ты, чортаў кіпець!..

Затым ён, раздражнены, выціраў спацелы твар падолам рубашкі, злосна ухаў і браўся, ні на момант не пакідаючы брыдкасловіць, выраўноўваць соль, з усіх сіл стукаючы па ёй рыдлёўкай. Рабочыя аўтаматычна ўзвозілі тачкі ўгару, так-жа аўтаматычна пераварочвалі іх па камандзе „направа! налева!" і, ледзь разгінаючы спіны, цяжкай няроўнай хадой, цягнучы за сабой тачкі, якія скрыпелі цішэй і больш стомлена, ішлі па дрыжачых і завязлых у чорным тлустым іле дошках зноў па соль.

— Варушыся спрытней, чэрці!—пагукваў ім наўздагон кладчык.

Але яны варушыліся так-жа маўкліва, прышыблена, і толькі іх хмурыя, зморaныя і стомленыя, укрытыя гразёю і потам твары, з сціснутымі губамі, часамі злосна і жорстка ўздрыгвалі. Часамі кола тачкі з'яжджала з дошкі і вязла ў гразі, пярэднія тачкі ад'язджалі, задния спыняліся і рухаючая іх сіла, абшарпаныя і брудныя басякі, тупа і безудзельна пaглядалі на таварыша, які стараўся падняць і паставіць кола шаснаццаціпудовай тачкі зноў на дошку.

А з бязхмарнага, пацягненага гарачым туманам неба агністае паўднёвае сонца ўсё з большай шчырасцю распальвала зямлю, быццам яму якраз сёння няйначай трэба было давесці ёй аб сваёй гарачай увазе да яе.

Паглядзеўшы, стоячы ўбаку, на ўсё гэта, я адважыўся паспрабаваць шчасця і, узяўшы як мага больш незалежны выгляд, падышоў да дошкі, па якой рабочыя ішлі з апарожненымі тачкамі.

— Дзень добры, браткі! Памагай бог!

У адказ атрымалася штосьці зусім для мяне нечаканае. Першы—сівы, здаровы стары, з закасанымі па калені штанамі і па плечы рукавамі рубашкі, агаляўшымі бронзавае жылістае цела,—нічога не чуў і, не зрабіўшы аніякага руху ў мой бок, прайшоў паўз мяне далей. Другі—русы малады хлопец, з шэрымі злымі

вачамі—злосна паглядзеў на мяне і скрывіў перада мной рыла, моцна вылаяўшы на астачу. Трэці, відаць, грэк, чорны, як жук і кучаравы, зраўняўшыся са мной, выказаў, што шкадуе, што ў яго заняты рукі і што ён не можа паздароўкацца сваім кулаком з маім носам. Гэта ў яго выйшла нейк неадпаведна жаданню абыякавата. Чацвёрты кпліва гукнуў на ўсё горла: „здароў, шкляныя зекры“! і паспрабаваў убрыкнуць мяне нагой.

Гэты прыём быў якраз тым, што ў культурнай грамадзе называецца „неветлым прыёмам“, і гэтага ніколі не здаралася са мной у такой рэзкай форме. Збянтэжаны, я міжвольна зняў акуляры і, сунуўшы іх у кішэню, крануўся да кладкі, маючы намер запытацца ў кладчыка—ці не можна папрацаваць. Да месца кладкі я яшчэ не паспеў дайсці, калі ён гукнуў мне:

— Эй, ты! Чаго табе? Работы, ці што?

Я сказаў.

— А ты на тачцы працуеш?

Я сказаў, што, значыцца, вазіў зямлю.

— Зямлю? Не. Зямля зусім іншая справа. Тут соль возяць, а не зямлю. Пашоў к свіням на хутар! Ну, ты, кікімора, валі проста на ногі.

Кікімора—абарваны сівы геркулес з доўгімі вусамі і сінім прышчаватым носам,—ухнуў на ўсе грудзі і абярнуў тачку. Соль пасыпалася. Кікімора пусціў лаянку, кладчык пусціў яму сваю насустрач. Абодва здаволена ўсміхнуліся і абодва-ж адразу накіравалі на мяне сваю ўвагу.

— Ну чаго-ж табе?—запытаў кладчык.

— А ты, кацапе, мабуць, варэнікі істы до солі прыйшов?—падміргваючы яму, гаварыў Кікімора.

Я пачаў прасіць кладчыка ўзяць мяне на работу, упэўніваючы яго, што я прывыкну і што буду вазіць не горш за іншых.

— Ну, тут, раней чым прывыкнеш, спіну сабе звіхнеш. Але бог з табой, ідзі! Першы дзень больш паўрубля не пакладу. Гэй! Давайце яму тачку!

Аднекуль вынырнуў хлопец у адной рубашцы, з голымі нагамі перавязанымі да кален бруднымі анучамі, скептычна паглядзеў на мяне і праз зубы сказаў:

— Ну, ідзі.

Я пашоў за ім да кучы тачак, наваленых адна на адну, і падышоўшы, пачаў выбіраць сабе лягчэйшую. Хлопец чухаў сабе ногі і моўчкі аглядаў мяне.

— Што ты ўзяў? Хіба не бачыш,—у ёй кола крывое,—сказаў ён, калі я, нагледзеўшы сабе тачку, узяў быў яе,—і абыякавата адышоўшыся ў бок, ён лёг на зямлю.

Я, выбраўшы другую тачку, стаў у рад і пашоў па соль, адчуваючы, што нейкае невыразнае цяжкае пачуццё душыць мяне, не дазваляючы мне загаварыць з таварышамі па рабоце. На ўсіх фізіяноміях, не гледзячы на стомленасць, якая скажала іх, ясна вырысоўвалася глухая, пакуль яшчэ захаваная, злаславасць. Усе былі

змучаны і раззлаваны на сонца, што бязлітасна паліла скуру на дошкі, што хісталіся пад коламі тачак, на „рапу“, гэта брыдкі, тлусты і салёны іл, перамешаны з вострымі крышталямі, якія раздзіралі ногі і з потам, які раз'ядаў драпіны ў вялікія мокрыя раны,— на ўсё навакольнае. Гэтая злоба была відна ў касых позірках адзін на аднаго, у заборыстай, ядавітай лаянцы, што часам вырывалася з распаленых смагаю глотак. Мяне ніхто не браў на ўвагу. Толькі ўваходзячы ў квадрат і размінаючыся з тачкамі па разложаных накрыж дошках да куч солі, я адчуў удар па назе з-заду і, абярнуўшыся, пачуў проста ў твар кінены злы выгук:

— Падбірай пяты, доўгі чорт!

Я шпарка падабраў ногі і, паставіўшы тачку, пачаў рыдлёўкай сыпаць у яе соль.

— Пауней насыпай!—скамандваў мне геркулес-хахол, які стаяў побач са мной.

Я насыпаў, як мог поўна. У гэты час заднія скамандвалі пярэднім: „Вязі!“ Тыя паплявалі ў рукі і крэкчучы, рушылі тачкі, зноў гнучыся, траха не пад простым вуглом і выставіўшы карпусы наперад, нейк дзіўна выцягнулі шыі, быццам-ба гэта павінна было зрабіць працу лягчэйшай.

Заўважыўшы ўсе гэтыя прыёмы, я так-жа, як толькі льга, сагнуўся і выцягнуўся ўперад, прыўзняўшы тачку,—кола праразліва завішчала, косці ключыц занылі, напружаныя да апошняга рукі задрыжалі... я, хістаючыся, ступіў раз, два—мяне хістанула ўлева, пасля ўправа, тузанула ўперад... Кола тачкі з'ехала з дошкі і я паляцеў у гразь проста тварам. Тачка навучальна стукнула мяне па патыліцы ручкай і пасля гультаявата перавярнулася дагары дном. Страшэнны свіст, крык, рогат, якія прывіталі мяне ў гэты момант, быццам яшчэ больш заганялі мяне ў цёплую тлустую гразь і, боўтаючыся ў ёй, дарэмна спрабуючы падняць увязлую тачку, я адчуваў як штосьці халоднае і вострае рэжа мне грудзі.

— Гэй, дружа, а ну—памажы!—звярнуўся я да хахла-суседа, які рагатаў на ўсё горла, узяўшыся за жывот і пагойдваючыся з боку на бок.

— Ой, трасца тваёй мацеры!—Цю-цю-цю, дурню?.. Выдыбай на дошку! Карэту гні налева! Цю!.. А што-б тобі рапа засмактала!.. і ён зноў грукатаў з слязамі на вачах, хапаючыся за бокі і вохкаючы.

— Пашоў чорт па бярвеннях!..—спачувальна махнуў рукой, гледзячы на мяне, пярэдні сівы стары і, крактануўшы, павёз тачку!

Апошнія тачачнікі паехалі; тыя, што былі за мной, стаялі і даволі варожа глядзелі на мяне, спацелага ад намаганняў выцягнуць тачку і ўкрытага тоўстым пластом гразі, якая цякла з мяне. Памагчы ніхто не хацеў. А з кладкі чуўся голас кладчыка:

— Што захраслі, д'яблы! Сабакі!.. Свіння!.. Хіба далей з вока— большы дзень?! Лешыя!.. чэрці!.. Вязі анафемы!..

— Прэч з дарогі!—гаркнуў хахол ззаду за мной і рушыў тачку, траха не зачапіўшы мяне па галаве яе крылом.

Я астаўся адзін, сяк-так выцягнуў тачку і, з той прычыны, штосоль з яе высыпалася, і яна была ўся аблеплена гразёю, павёз яе, пустую, вон з квадрата, маючы намер выбраць сабе другую.

— Што, браце, ўпаў? Нічога, спершапачатку гэта з кожным бывае!

Азірнуўшыся ў бок, я ўбачыў за адной з кучак солі на пакладзенай у гразь дошцы, хлопца год дваццаці, які прысеў на пальчыкі і смактаў сабе далоню. Ён глядзеў на мяне з-за рукі добрымі з усмешкай вачыма і ківаў мне галавой.

— Нічога, браце! Гэта з непрывычкі бывае.

— Што ў цябе з рукой?—запытаў я.

— Вось разадраў, а рану раз'ядае; не высмакчаш, то кідай працу, балець будзе здорава! Валі, валі, едзь, а то кладчык лаяць будзе!

Я паехаў. З другой тачкай у мяне вышла добра: вывез і трэцюю, і чацвёртую, і яшчэ дзве. На мяне ніхто не накіроўваў увагі, і я быў вельмі рад гэтай, наогул вельмі сумнай для чалавека, акалічнасці.

— Шабаш! Абедаць!—пракрычаў хтосьці.

Усе, з палёгкай уздыхнуўшы, пашлі абедаць, але і тут ніхто не выявіў ні ажыўленасці, ні радасці адпачынку. Усё рабілася нейк паднявольна, з дрэнна схаванай агідай і злосцю.

Здавалася, ніхто не бачыў у адпачынку нічога прыемнага для сваіх наломаных працай касцей і размораных спёкай мускулаў. У мяне вельмі ныла спіна, ногі і рукі ў плячах, але стараючыся не даваць іншым заўважыць гэтага, я бадзёра пашоў да катла.

— Чакай!—спыніў мяне стары, пануры басяк-рабочы, у сіняй рванай блузе і з такім-жа, пад колер блузе, сінім запойным тварам, упрыгожаным хмурна ссунутымі густымі брывамі, з-пад якіх дзіка і насмешліва блішчэлі прыгожыя, запалёныя вочы.—Чакай! Цябе як завуць?

Я сказаў.

— Так, дурань быў твой бацька, калі даў табе такое імя. У нас да катла Максімаў не пускаюць у першы дзень працы. Максімы першы дзень на сваім харчы працуюць. Так, браце! От каб ты Іван быў, або яшчэ як, іншая справа. Мяне вось Мацвеем завуць, ну я і паабедаю, а Максім няхай паглядзіць. Пшоў ад катла.

Я здзіўлена паглядзеў на яго і, адышоўшыся ў бок, сеў на зямлю. Мяне збіла з толку такое дачыненне да мяне, дачыненне мной не выкліканае і дагэтуль не спрабаванае. Раней і пазней мне здаралася не адзін дзесятак разоў уваходзіць у арцель, і заўсёды я адразу станавіўся на простую таварыскую ногу. На гэты раз усё было нейк неверагодна дзіўна і, не гледзячы на цяжкасць і вастрату майго становішча, мая цікаўнасць была закранута вельмі глыбока. Я надумаўся пашукаць ключа да гэтай высока цікавай для мяне загадкі і, знадворна спакойна паглядаючы на занятых абедам, пачаў чакаць пачатку працы... Трэба дазнацца чаму да мяне так ставяцца.

2

Вось яны паабедалі, паікалі і сталі закурваць, разыходзячыся ад катла. Геркулес—хахол і хлапец з перавязанымі нагамі падышлі да мяне і селі так, што загарадзілі сабой ад мяне рад тачак, пакінутых на дошцы.

— Ну, што брацiку?—запытаў хахол.—Пакурыць хочаш?

— Давай,—сказаў я.

— А хіба ў цябе няма свайго тутуню?

— А каб быў, то я-б і не папрасіў.

— Гэта праўда!.. Ну, пакуры.—Ён падаў мне сваю люльку.—Што-ж ты будзеш вазіць?

— Буду, пакуль магу.

— Так. А ты адкуль сам?

Я сказаў.

— Эге! А што, гэта далёка?

— Тысячы тры вёрст.

— Ого, добра далёка. А чаго-ж ты сюды прышоў?

— Так як і ты ўсёроўна.

— Ага! значыцца цябе таксама за злaдзейства з тваёй вёскі выгналі?

— Як гэта?—запытаў я, адчуваючы што сеў у лужу.

— Так, я таму прышоў сюды, што мяне за зладзейства вёска вон выгнала, а ты кажаш, што прышоў як і я...—і ён зарагатаў, задаволены сваёй спрытнасцю.

Яго таварыш сядзеў моўчкі і падміргваў яму вокам, хітра ўсміхаючыся.

— Пачакай...—пачаў я.

— Няма калі чакаць, брацiку!—рабіць трэба. Хадзем, станавіся з-заду мяне на маю тачку; у мяне добрая, верная тачка. Хадзем!

Мы пашлі. Я хацеў быў узяць яго тачку, але ён шпарка сказаў:

— Пачакай, я сам завязу. Давай тваю, а маю ў яе пакладзём, яна праедзецца, адпачне крыху.

Гэтая дабрата здалася мне падазронай і, ідучы побач яго, я пільна разглядаў яго тачку, якая ляжала дагары колам. Я хацеў упэўніць сябе, што мне не падстроена якой-небудзь каверзы, але не заўважаў нічога, апроч таго, што я раптам зрабіўся аб'ектам агульнай увагі, якую чамусьці хавалі, але няўдала; я ясна заўважыў яе ў частых падміргваннях у мой бок, у кіўках галавой і ў падазронным перашэптванні. Я зразумеў, што трэба глядзець пільна і насцярожыўся ў чаканні чагосьці, што павінна быць, мяркуючы па пачатку, вельмі арыгінальна.

— Прыехалі!—сказаў хахол і, зняўшы тачку, паставіў яе мне.—Насыпай, брацe!

Я паглядзеў навокал. Усе шчыра працавалі і я пачаў насыпаць. Нічога не было чутно, апроч шоргату солі, якую кідалі з рыдлёвак і гэтая цішыня цяжка душыла грудзі. Я падумаў, што мне, напэўна, лепш пайсці адгэтуль.

— Ну, бярыся! Чаго заснулі! Вазі!—скамандваў сіні Мацвей.

Я ўзяў за ручкі тачку і, з натугай прыўзняўшы яе, рушыў уперад... Востры боль у далонях прымусіў мяне дзіка крыкнуць і, кінуўшы тачку, рвануць рукі да сябе. Боль зноў адчуўся, але ўдвойчы мацней; я сарваў з далоняй абедзвюх рук скуру, ушчэмленую ў ручках тачкі. Скрыпучы зубамі ад злосці і болю, я агледзеў ручкі і ўбачыў, што яны былі з бакоў расколаны сякерай і пераспіраны трэсачкамі. Гэта было зроблена вельмі непрыкметна і вельмі разумна. Разлічвалася, што калі я моцна сцісну ручкі, трэскі выскачаць з шчыліны, дрэва, сціснуўшыся, прышчэміць мне скуру. І гэты разлік апраўдаўся. Я падняў галаву і пагглядзеў навокал. Крыкі, рогат і свіст ляцелі мне ў твар з усіх бакоў, усюды бачыў я злыя, урачыстыя морды. З кладкі ішла цынічная лаянка кладчыка, але ніхто не браў яе на ўвагу,—усе былі занятыя мной. Я глядзеў навокал тупа і без сэнсу і адчуваў як ва мне ўсё мацней ускіпае крыўда, жаданне помсты і нянавісці да гэтых людзей. А яны сабраўшыся натоўпам супроць мяне, сыпалі насмешкі і лаянку. Мне горача, да болю горача захацелася зняважыць і прынізіць іх.

— Агіднікі!—закрычаў я, працягваючы да іх сціснутыя кулакі і так-жа цынічна, як лаялі яны мяне, пачаў лаяць іх, ідучы да іх насустрач.

Гэта іх быццам кранула і, збянтэжыўшыся, яны падаліся назад. Толькі геркулес-хахол і сіні Мацвей, астаючыся на месцы, спакойна пачалі закасваць рукавы рубашак.

— А ну, ідзі, ідзі!.. а ну, ну!..—ціха і радасна мармытаў хахол, не зводзячы з мяне вачэй.

— Дай яму цюцю, Гаўрыла!—раіў яму Мацвей.

— За што вы мяне пакрыўдзілі?!—крычаў я.—Што я вам зрабіў?! За што?! Хіба я не такі-ж, як вы—чалавек?!—я крычаў яшчэ нейкія мізэрныя, бязглуздыя, злыя, бяссэнсныя словы, і ўвесь дрыжэў ад бяссэнснага шаленства, у той-ж час пільна гледзячы, каб яны не ўчынілі нада мной яшчэ якога-небудзь спрытнага здзеку.

Але дурныя, бяссэнсныя фізіяноміі глядзелі на мяне ўжо не так бязудзельна і па некаторых з іх прайшла быццам свядомасць віны перада мной, за гэты злы жарт. Хахол і Мацвей таксама падаліся назад. Мацвей стаў абцягваць блузу, хахол палез у кішэню.

— Ну, за што-ж? За што?—пытаў я ў іх. Яны тупа маўчалі. Хахол круціў цыгарку і глядзеў сабе ў ногі. Мацвей раптам апынуўся ззаду за ўсімі; астатнія пашлі былі да сваіх тачак, панура пачухваючыся і не кажучы ні слова. Да групы ішоў кладчык, крычучы і пагражаючы кулакамі. Усё гэта адбылося так шпарка, што бабы, якія зграбалі соль за крокаў дваццаць ад нас і якія, як я заўважыў, кінуліся на мой крык, падышлі ўжо тады, калі хлопцы пачалі разыходзіцца да тачак. Я аставаўся адзін, з горкім пачуццём незаслужанай і неаплачанай крыўды. Гэта павялічвала крыўду і боль. Мне хацелася адказу на мае пытанні, хацелася адплаціць ім. Я крыкнуў ім.

— Чакайце, браткі.

Яны спыніліся, хмурна пазіраючы на мяне.

— Скажыце-ж мне, за што вы мяне мучылі? Павінна-ж быць у вас сумленне!

Яны маўчалі і гэтае маўчанне як-бы адказвала мне за іх. Тады, крыху паспакайнеўшы, я пачаў гаварыць ім. Я пачаў з таго, што я такі-ж чалавек як і яны, што мне так-жа хочацца есці, што для гэтага я так-жа павінен працаваць, што я прышоў да іх як да сваіх, родных мне сваім становішчам людзей, што я лічыў іх не ніжэй і не горш за сябе...

— Усе мы роўныя,—гаварыў я ім,—і павінны разумець адзін аднаго і, наколькі гэта кожны ўмее, памагаць адзін аднаму.

Яны ўважліва слухалі, тоўпячыся навокал мяне, але стараліся не сустракацца са мной вачамі. Я заўважыў, што мае словы дзейнічаюць на іх і гэта натхняла мяне. Зірнуўшы навокал, я яшчэ больш упэўніўся ў гэтым. Пачуццё радасці, вострай і яснай, ахапіла мяне і, кінуўшыся на кучу солі, я заплакаў. Заплачаш!..

Калі я падняў галаву, навокал не было нікога. Працаваць скончылі і вазакі, падзяліўшыся на групы па пяць, шэсць чалавек, сядзелі там, каля кладкі, вырысоўваючыся на ружаватым фоне солі, асвечанай промнямі нізкага сонца, вялікімі недалужнымі бруднымі лапінамі. Было ціха. З мора павявала халадком. Па небе плаўна ішла белая маленькая хмарка; ад яе адрываліся тонкія празрыстыя дымкі і знікалі, расплываючыся па блакітным фоне неба. Гэта было вельмі журботна...

Я ўстаў і пашоў туды, да кладкі, з цвёрдым намерам развітацца і пайсці ў рыбацкі курэнь. Калі я падышоў да групы з хахла, Мацвея, кладчыка і яшчэ траіх паважных, паджылых басякоў, яны падняліся мне насустрач і, раней чым я паспеў загаварыць з імі, Мацвей працягнуў мне руку і сказаў, не пазіраючы на мяне:

— Вось што, друг! Ты пайдзі ад нас сваёй дарогай, куды табе трэба. Так! А на дарогу мы вось сабралі табе крыху грошай. На, вазьмі!

У яго жмені ляжалі медзякі і рука яго дрыжэла, калі ён працягваў яе мне. Я збянтэжыўся і, нічога не разумеючы, пазіраў на іх. Яны стаялі, панура спусціўшы галовы і моўчкі, без патрэбы папраўлялі на сабе свае транты, пераступалі з нагі на нагу, пазіралі ў бакі, усім, кожным рухам, выяўляючы моцную збянтэжанасць і жаданне скончыць хутчэй са мной справу.

— Я не вазьму!—сказаў я, адпіхаючы Мацвееву руку.

— Не, ты ўжо вазьмі, не крыўдзі нас. Мы што-ж? Мы-ж, калі шчыра гаварыць, нічога такога.. Мы, браце, разумеем, што пакрыўдзілі цябе; але толькі хіба гэта так, калі раздумаць правільна? Зусім, браце, не так. Бо, галоўная прычына—жыццё! Якое наша жыццё? Катаржнае! Тачка—16 пудоў, рапа ногі рве, сонца паліць цябе як агнём, цэлы дзень, а дзень паўрубля! Хіба гэтага мала, каб азвярэць? Працуеш, працуеш, заработак прап'еш—зноў працуеш. Вось і ўсё. І калі гадоў з пяць пражывеш такім спосабам, дык і таго... аблічча чалавечае і страціш,—звярына і ўсё-па-ўсім! Мы, браце, самі сябе яшчэ больш крыўдзім як цябе, а мы ўсё-ж

адзін аднаго ведаем, ты-ж чужы чалавек... Чаго цябе шкадаваць? Дык вось як! Казаў ты там... роднае, ну то што-ж? Яно, вядома, гэта ты нам спрытна ўсё, правільна, мусіць... толькі не да часу... не ўстрой. Ты не крыўдуй... Жарты-ж... Усё такі ў нас сэрца... Так-так! Ну і ідзі сабе, куды хочаш, з тваёй праўдай, а мы астанёмся тут з сваёй. Вазьмі грошы! Бывай, браце! Мы перад табой не вінаваты, і ты перад намі таксама. Дрэнна выйшла ў нас, гэта праўда. Ну, але няхай!.. Добрае не пра нас. А аставацца табе тут не рука. Якая ты нам... пара? Мы, браце, адзін да аднаго прыфастрыгованы вось як, а ты так сабе, прыткнуўся, злёгку... Нічога ў нас не можа выйсці... Ну, значыцца, і адплывай! Валі ў сваю дарогу!.. Бывай.

Я паглядзеў навокал, упэўніўся, што ўсе згодны з Мацвеем і, ускінуўшы на плечы клунак, хацеў ісці.

— Пачакай, чалавечак! Дай і я скажу слова!—спыніў мяне за плячо хахол.

— Каб хто іншы, а не ты гэта быў, то я-б правёў яго куламом у бокі, чуеш? А ты вось ідзеш сабе вольна і яшчэ грошай на дарогу мы табе далі. Кажы дзякуй за гэта нам!—і ён, плюнуўшы ўбок, стаў круціць капшук навокал пальца, пераможна паглядаючы навокал, быццам хацеў сказаць: дзівіцеся які я разумны!

Прыгнечаны ўсім гэтым, я паспяшыў развітацца з імі і пашоў берагам мора назад у курэнь, у якім начаваў. Неба было чыстае і спякотнае, мора пустыннае і паважнае, да ног маіх, з шумам, каціліся зялёныя хвалі... І мне было нясцерпна балюча і сорамна за штосьці. Павольна і прыбіта крочыў я па гарачым пяску берагу. Мора спакойна бліщчэла на сонцы. Хвалі гутарылі аб нечым незразумелым і журботным...

Калі я падышоў да курэня, мне насустрач устаў знаёмы рыбак і ўрачыстым тонам чалавека, меркаванні якога спраўдзіліся, сказаў:

— Што, браце, хіба салёна прышлося?

Я прамоўчыў, зірнуўшы на яго.

— Бач ты! Перасолена крыху!—упэўнена сказаў ён, акінуўшы вокам мяне.—Есці хочаш? Ідзі, еш кашку! Там яе да чорта наварылі. Палавіна мусіць асталася. Ідзі дзьмі на лыжку! Добрая кашка... з камбалой, з сеўругай...

Хвілін праз дзве я сядзеў у цені за курэнем, увесь брудны, вельмі стомлены, вельмі галодны, і еў у смутку і з болем у сэрцы, кашку з сеўругай і камбалой.

*Пераклад К. ЧОРНАГА*

Апавяданне надрукавана ў „Самарской газете" № 197 і 199, ад 14 і 17 верасня 1895 г.

*М. Горкі*

# ЖАНЧЫНА З БЛАКІТНЫМІ ВАЧАМІ

Памочнік прыватнага прыстава Засім Кірылавіч Падшыбла сумны і меланхалічны хахол, сядзеў у сваёй канцылярыі, круціў вусы і сярдзіта пяліў вочы ў адчыненае акно на двор часці. У канцылярыі было цемнавата, душна і ціха, толькі маятнік вялікага насценнага гадзінніка, павіскваючы, адлічваў манатоннымі ўдарамі мінуты. А на дварэ было так прывабна, ярка... Тры бярозы сярод яго кідалі ад сябе сумны цень, і ў ім на кучы сена, нядаўна прывезенага для пажарных коняй, вольна раскінуўшыся, спаў унцэр-афіцэр Кухарын, які нядаўна змяніўся з дзяжурства. Засім Кірылавіч пазіраў на яго і злаваў. Падначалены спіць, а вось ён, яго няшчасны начальнік, павінен тырчаць у гэтай дзірцы і дыхаць сырымі выпарэннямі яе каменных сцен. І ўявіўшы сабе, з якім бы здавальненнем ён сам разлёгся адпачыць у цяньку на пахучым сене, калі-б час і службовы стан дазволілі яму гэта, Засім Кірылавіч пацёгся, пазяхнуў і яшчэ больш зазлаваў. Ён адчуў непераможнае жаданне разбудзіць Кухарына.

— Эй, ты!.. Эй... Скот! Кухарын!—зычна рыкнуў ён.

Адчыніліся дзверы, і ў канцылярыю нехта ўвайшоў. Падшыбла пазіраў у акно, не азіраючыся назад і не адчуваючы аніякай цікаўнасці да таго, хто увайшоў, стаіць ззаду ў яго каля дзвярэй і прымушае скрыпець памосніцы пад сваім цяжарам. Кухарын не павярнуўся ад яго крыку. Закінуўшы рукі пад галаву і задраўшы бараду ў неба, ён спаў, і Засіму Кірылавічу здавалася, што ён чуе як сакавіта храпе падначалены, гэтак насмешліва, смачна храпе, узбуджаючы яшчэ большае жаданне адпачынку і злосць на немагчымасць аддацца яму.

І Падшыблу захацелася сыйсці ўніз, каб добра тузануць нагой у выпучаны жывот падначаленага, а потым узяць яго за бараду і выцягнуць з ценю на сонцапёк.

— Эй ты... дрыхні там! Чуеш?!

— Ваша-скароддзе,—дзяжурны—гэта я!—прамовілі ззаду ў яго спакусліва-салодкім голасам.

Падшыбла павярнуўся, злосным позіркам змераў дзяжурнага, вылупіўшага на яго вялікія тупыя вочы і гатовага ў момант кінуцца, куды загадаюць.

— Я цябе клікаў?

— Ніяк не!



— Пытаў?—узвысіў голас Падшыбла, паварачваючыся на стуле.

— Ніяк не!

— Дык ідзі-ж ты к чорту, пакуль я табе ў башку не запусціў чым-небудзь!—і ён пачаў ужо сударгава намацваць левай рукой што-небудзь на стале, а правай з сілай учапіўся ў спінку стула, але дзяжурны хуценька юркнуў у дзверы і знік. Памочніку прыватнага прыстава гэта здалося праявай недастатковай павагі і яму ў ва што-б там ні стала хацелася спагнаць усё мацней ускіпаўшую злосць на гэтую духату, службу, на Кухарына, які спаў, на блізкасць ярмарачнай мітусні і яшчэ шмат на што непрыемнае і цяжкое, што чамусьці прыпомнілася яму сёння міжвольна, паміма яго жадання.

— Эй! Хадзі сюды...— крыкнуў ён у дзверы.

Дзяжурны ўвайшоў і выцягся ля дзвярэй з тварам напалоханым, чагосьці чакаючы.

— М-морда!—панура адрасаваўся да яго Падшыбла.—Ступай на двор, разбудзі Кухарына і скажы яму, каб ён, асёл, не разлягаўся дрыхнуць сярод двара. Парадку няма... Ну... ступай...

— Слухаю! Там дама да вас...

— Што?!

— Дама...

— Якая?

— Высокая...

— Дурань! Чаго ёй?

— Да вас...

— Запытай, ідзі...

— Я пытаў... Не гаворыць... Мне, кажа, самаго іх благароддзе.

— О, чорт іх! Пакліч... Маладая?

— Так точна...

— Ну, пакліч... Варочайся!—ужо мякчэй загадаў Падшыбла, аправіўся і зашамацеў паперамі на стале, напусціўшы на панурую фізіяномію строга начальніцкую міну.

Ззаду ў яго зашамацела плацце.

— Што вы хочаце?—напалавіну павярнуўшыся, запытаў Падшыбла, крытычным вокам змерыўшы наведвальніцу. Тая моўчкі пакланілася і павольна паплыла да стала, паглядаючы з-пад ілба на паліцэйскага сур'ёзнымі блакітнымі вачамі. Апранута яна была проста і бедна, па мяшчанску, у хустачцы, у шэрай, значна паднашанай накідцы, канцы якой яна камячыла даўгімі, смуглымі пальцамі маленькіх прыгожых рук. Высокая, поўная, з вельмі развітым бюстам, з вялікім нахмураным ілбом, яна была неяк асабліва не па жаночаму сур'ёзнай і сур'овай. З выгляду ёй можна было даць гадоў 27. Ішла яна так задумліва, павольна, нібы думала, ці не вярнуцца ёй назад.

„Бач, чорт які... Грэнадзёр,—падумаў Падшыбла следам за сваім пытаннем.— ляузіць пачне".

— Ці можна мне даведацца ў вас...—загаварыла яна густым кантральта і спынілася, нерашуча ўтаропіўшы свае блакітныя вочы ў вусаты твар паліцэйскага чыноўніка.

— Сядайце,—калі ласка...—Пра што, уласна, вам трэба даведацца?—афіцыйным тонам запытаў Падшыбла, а сам тым часам думаў: „Якая ядраная кабета! Хе!“

— Наконт кніжак...—прамовіла жанчына.

— Кватэрных?

— Не, не гэтых..

— А якіх?

— Вось тых, якія... па якіх... жанчыны гуляюць,—заблыталася жанчына і раптам пачырванела.

— Гэта значыць, як жа? Якія жанчыны гуляюць?—запытаў Засім Кірылавіч, узнімаючы бровы і гулліва ўсміхаючыся.

— Розныя жанчыны... якія гуляюць, начныя...

— Ге-ге-ге! Прастытуткі?—прыемна выскаліўся Засім Кірылавіч.

— Але. Вось яны.—І, глыбока ўздыхнуўшы, дама таксама ўсміхнулася, нібы ёй стала лягчэй, калі яна пачула гэтае слова.

— Ага! Ну-с? Н-так? Дык што-ж?—пачаў распытваць Засім Кірылавіч, адчуваючы штосьці вельмі цікавае і пікантнае наперадзе...

— Дык вось наконт гэтых кніжак я прышла,—праказала жанчына і апусцілася на стул, уздыхаючы і неяк дзіўна ўстрасянуўшы галавой, нібы яе ўдарылі.

— Ну-с... Завядзенейка адчыняеце? Так...

— Не, я для сябе...—І жанчына нізка схіліла галаву.

— Ага... А дзе-ж старая кніжка ў вас?..—запытаў Засім Кірылавіч і, падсунуўшы свой стул бліжэй да наведвальніцы, працягнуў сваю руку да яе таліі і азірнуўся на дзверы.

— Якая? у мяне не было...—ускінула тая на яго вачамі, але не зрабіла ніводнага руху, каб ухіліцца ад яго рукі...

— Патаемна прамышлялі, значыць? Незарэгістравана. Бывае! Жадаеце быць вядомай? Гэта добра... Менш небяспечна,—робячыся смялейшым у сваіх заляцаннях, падбадзёрыў яе Засім Кірылавіч.

— Ды я яшчэ ўпершыню...—уздыхнула дама і збянтэжана апусціла вочы ўніз...

— Гэта значыць як упершыню? Не разумею,—павёў плячыма Падшыбла.

— Толькі яшчэ хачу... Першы раз. На ярмарку прыехала,—тлумачыла дама ціхім голасам і не ўздымаючы вачэй.

— Вось яно што!—Засім Кірылавіч, прыняўшы руку з яе таліі, адсунуў свой стул і некалькі збянтэжана адкінуўся на яго спінку. Памаўчалі...

— Вось яно як... Так... гэта вы... што-ж? Нядобра-ж? Цяжка... Гэта значыць, вядома... Але ўсё-такі... дзіўна! Я, прызнацца, не разумею... як гэта вы рашаецеся. Калі, сапраўды, так...

Спрактыкаваны паліцэйскі, ён бачыў, што сапраўды так: яна была задужа свежай і прыстойнай для жанчыны вядомай прафесіі. У яе не было тых характэрных адзнак прадажнасці, якія з неабходнасцю адбіваюцца на жаночай фізіяноміі і жэстах нават пасля нікчэмнай практыкі.

— Далібог, праўда!—раптам даверліва схілілася яна да яго.—На такую паганую справу іду і стану я хлусіць. Чаго там... Проста трэба весці справу... Бачыце, што—удава я. Аўдавела, муж мой, лоцман, утапіўся ў красавіку ў часе ледаходу. Дзеці ў мяне, двое—сын дзевяці год ды дачка сямі. Дастаткаў-то нямашака. Родных таксама. Сірата я ўзята была. А ягоныя, нябожчыкавы, родныя далёка. Ды і нялюбая я ім... Як яны з дастаткам, а я нібы жабрачка перад імі. Патыкнуцца ото няма куды. Працаваць бы, вядома. Але багата грошай трэба мне, не выпрацуеш гэтулькі... у гімназіі сын от. Вядома, папрасіцца-б, каб без аплаты, але куды-ж мне—бабе? А сын от хлапчане... такое, ведаеце, разумнае. Шкада зрываць з вучэння. Таксама і дачка... і ёй што-небудзь трэба даць. А работай такой, скажам, сумленнай... ці багата яе? Ды і колькі здабудзеш? І што рабіць зноў-жа? Кухарка—скажам... дык, вядома... пяць рублёў у месяц. Нехопіць! Ніяк нехопіць!.. А на гэтай справе—калі каму шчасце—ураз можна акарміцца на год. Мінулую ярмарку наша-ж адна жанчына чатырыста з лішкам схапіла! Цяпер за лясніка вышла, з грашамі от, і паняй сабе жыве... А калі сорам... вядома, ганебна... Але толькі... і то-ж памяркуйце... Лёс, значыць... Заўжды ўжо лёс. Прышла вось мне на розум такая справа—так значыць і трэба. Паказанне гэта мне ад лёсу. І ўдасца яно—добра... не ўдасца, а толькі муку ды ганьбу прыму... таксама лёс. Але...

Падшыбла слухаў яе і разумеў усё да слова, бо ў яе гаварыў увесь твар. Было ў ім спачатку нешта спалоханае, а потым твар стаў простым, сухім і рашучым.

Засіму Кірылавічу зрабілася нядобра і чамусьці боязна.

„Пападзіся такой ведзьме ў рукі дурань... усю скуру яна з яго здзярэ і ўсё мяса да касці здыме“...—фармуляваў ён свой страх, і, калі яна скончыла, суха загаварыў:

— Я-с тут нічога не магу. Звярніцеся да паліцмейстра. Гэта паліцмейстарава справа і справа ўрачэбнай інспекцыі. А я нічога не магу.

І яму захацелася, каб яна пашла хутчэй. Яна ў той-жа час і паднялася са стула, пакланілася і павольна пашла да дзвярэй. Засім Кірылавіч, шчыльна сціснуўшы губы і прыжмурыўшы вочы, пазіраў ёй услед і яму хацелася плюнуць ёй у спіну...

— Значыць да паліцмейстра мне, кажаце?—дайшоўшы да дзвярэй, азірнулася яна... Яе блакітныя вочы пазіралі рашуча і спакойна. А поперак ілба лягла суровая, глыбокая складка.

— Так, так!—таропка адказаў Падшыбла.

— Бывайце! Дзякую вам!—І яна пашла.

Засім Кірылавіч аблакоціўся на стол і мінут дзесяць сядзеў, насвістваючы штосьці.

— Гэткая скаціна, а?—голасна праказаў ён, не узнімаючы галавы.—Таксама—дзеці! Якія тут дзеці! Х-ха! Гэтакая гадзіна!

І зноў доўга маўчаў.

— Але і жыццё таксама... калі ўсё гэта праўда. Выроўкі ўе з чалавека, можна сказаць... Т-так... Сярдзіта абыходзіцца.

І яшчэ памаўчаўшы, разюміраваў усю работу сваёй мыслі цяжкім уздыхам, рашучым пляўком і энергічным усклікам:

— Ай пагана-ж!

— Што загадаеце?—вярнуўся ў дзверы дзяжурны чын.

— А?

— Што загадаеце ваша-скароддзе?..

— Пашоў во-он!

— Слухаю-с!

— Асёл!—прамармытаў Падшыбла і зірнуў у акно.

Кухарын усё яшчэ спаў на сене, відаць, дзяжурны забыўся разбудзіць яго...

Але Засім Кірылавіч забыўся на свой гнеў і выгляд салдата, які так вольна разваліўся, і зусім не закрануў яго.

Ён адчуў сябе напалоханым нечым. Перад ім у паветры стаялі блакітныя спакойныя вочы жанчыны і рашуча пазіралі яму проста ў твар. Ён адчуваў ад іх упартага позірку і некаторую няёмкасць...

Зірнуўшы на гадзіннік, ён паправіў партупею і пашоў вон з канцылярыі, глуха праказаўшы:

— Відаць спаткаемся яшчэ... Напэўна ўжо.

## 2

І сапраўды, спатькаліся.

Неяк аднойчы ўвечары, стоячы ў нарадзе каля Галоўнага дому, Падшыбла заўважыў яе крокаў за пяць ад сябе. Яна ішла ў напрамку да скверу сваёй павольнай, плаўнай паходкай, упарта пазіраючы некуды наперад блакітнымі вачамі і ў ва ўсёй яе постаці, высокай і стройнай, у рухах бюста і бёдзер, у сур'ёзным, пакорлівым позірку было нешта, што адштурхвала ад яе: праз меру пакорлівая фатальная складка на ілбе, яшчэ больш рэзкая цяпер, чым у часе першай сустрэчы, псавала яе вялікі, поўны рускі твар, робячы яго рэзкім.

Засім Кірылавіч пакруціў вус, даў простору некаторай гуллівай думцы, што ўраз нарадзілася ў яго розуме, і парашыў не спускаць з вачэй гэтую жанчыну.

— Ах, ты, кракадзіл!.. Пачакай...— у думках шматабяцальна крыкнуў ён ёй услед.

І хвілін цераз пяць ужо сядзеў побач з ёй на адной з лавак скверу.

— Не пазнаеце?—усміхаючыся, запытаў ён.

Яна ўзняла на яго вочы і спакойна змерала яго імі.

— Не, памятаю. Дзень добры!—ціха, прыдушаным голасам сказала яна, але не падала яму рукі.

— Ну, што як? Выхлапаталі сабе кніжку?

— Вось!—І яна стала шарыць у кішэні ў плацці, усё з той-жа пакорлівай мінай.

Гэта некалькі збянтэжыла паліцэйскага.

— Ды, не, мне не трэба, не паказвайце, я веру. Ды я і не маю

права... гэта значыць. Вы лепш раскажыце, якія поспехі?—запытаў ён, і адразу-ж падумаў:

„А вельмі мне трэба гэта ведаць! Вот ужо? І чаго манернічаю? Ану-тка, Засім, валі проста“. Але не гледзячы на тое, што ён падбадзёрыў сябе гэтай думкай, ён усё-ж не адважыўся пайсці проста. Было ў ёй штосьці такое, што не падпускала стаць адразу блізка да яе ў пэўныя адносіны.

— Поспехі як? Нічога, слава...—і яна, не дагаварыўшы, абарвала гутарку і густа пачырванела.

— Ну, вось і добра. Ї віншую... Цяжка з непрывычкі? А?

Яна раптам усім корпусам рынулася да яго, твар яе пабляднеў, скрывіўся, рот неяк акругліўся, нібы яна хацела крыкнуць, і раптам зноў адкінулася ад яго, адкінулася і прыняла старую позу...

— Нічога... Прывыкну...—роўна і выразна сказала яна і, выняўшы хустачку, моцна высмаркалася.

Засім Кірылавіч адчуў, што ў яго шчэміць у грудзях ад усяго гэтага, ад яе руху, ад яе суседства і блакітных спакойных, нярухомых вачэй.

Ён раззлаваўся на сябе за нешта, падняўся і працягнуў ёй руку моўчкі і сярдзіта...

— Бывайце!—ласкава сказала яна.

Ён кіўнуў ёй галавой і шпарка пашоў прэч, злосна аблаяўшы сябе дурнем і блазнам.

— Пачакай, матухна! Я табе задам феферу! Ужо я табе пакажу сябе. Ты ў мяне перастанеш прыкідвацца, нібы і дакрануцца да цябе нельга,—пагражаў ён невядома за што. Ї ўсё-ж такі адчуваў, што ні ў чым яна не вінавата перад ім.

А гэта яшчэ больш уводзіла ў злосць.

3

Тыдні паўтары спагадзя Засім Кірылавіч ішоў ад „караван-сарая“ у напрамку да Сібірскай прыстані і быў спынены віскам жанчын, лаянкай і іншым скандальным шумам, які ліўся на вуліцу з акна нейкага шынка.

— Паліцэйскі! Ратуйце!—роў, аж задыхаўся, жаночы голас. Чуліся нейкія страшныя лязгатлівыя ўдары, стукала мэбля і нехта ў захапленні, басам, які пакрываў увесь шум, гудзеў:

— Так яе! Яшчэ раз! Проста ў морду. Э-эх!

Засім Кірылавіч хуценька узбег угору па лесвіцы, распіхнуў публіку, што скучылася ў дзвярах шынка, і яго вочы ўбачылі такую карціну.

Перагнуўшыся корпусам цераз стол, яго знаёмая жанчына з блакітнымі вачамі схапіла левай рукой за валасы другую жанчыну, прыцягнула яе да сябе і сваёй правай рукой няшчадна частымі ударамі біла яе па спалоханаму, ужо ўспухламу ад удараў твару.

Блакітныя вочы цяпер былі жорстка прыжмураны, губы шчыльна сціснуты, ад куткоў губ да падбародка ляглі рэзкія маршчыны і твар яго знаёмай, раней так дзіўна-спакойны, цяпер быў няшчадна—зло-

зверскі твар чалавека, гатовага бясконца доўга катаваць да сябе падобнага і катаваць з асалодай.

Жанчына, якую яна біла, ужо толькі мычэла, ірвалася і недарэчна махала ў паветры сваімі рукамі.

Засім Кірылавіч адчуў як у грудзі прыліло злога пачуцця—дзікага жадання помсціцца некаму і за нешта—кінуўся наперад і, схапіўшы ззаду за талію катаваўшую жанчыну, ірвануў яе да сябе.

Перакуліўся стол, загрымела разбітая пасуда, публіка дзіка завыла, загагатала.

Засім Кірылавіч у нейкім ап'яненні бачыў, як у паветры мільгалі разнастайныя дзікія, чырвоныя морды, трымаў буянку ў сваіх абдымках і злосна шаптаў ёй у вуха:

— Ах ты! Буяніць? Скандаліць? Ах ты!

Збітая жанчына валялася на падлозе ў асколках разбітай пасуды і, істэрычна павіскваючы, галасіла...

— Яна, значыць, вунь тая, кажа гэтай, ваша благароддзе, ах ты, кажа, бруд вулічны, паскудніца! А гэтая яе як дзербулызне... Тая ў яе шклянку з чаем і запусціла, а гэтая—ухапіла яе за косы, да і давай, і давай! Ну, і так, я вам скажу, біла, што з боку зайздрасць бярэ! Сілішча-с!—тлумачыў ход скандалу Засіму Кірылавічу нейкі вёрткі чалавек у чуйцы...

— Ага! Вось як?!—рычэў Засім Кірылавіч, усё з большай сілай сціскаючы жанчыну ў сваіх абдымках і адчуваючы, што яму самому хочацца біцца.

— Рамізнік! Давай, рамізнік!—роў нехта з чырвонай шыяй з акна на вуліцу, напружваючы шырокую спіну і дзіўна выгінаючы яе.

— Ну, ідзі. На гауптвахту! Марш! Абедзве! Ты! Падымайся... А ты дзе быў? Ты да чаго прыстаўлены? М-морда! Вязі на гауптвахту. Жыва! Абодвух... Ну!

Бравы паліцэйскі, падштурхоўваючы то адну, то другую жанчыну ў спіну, вывеў іх з залы.

— Дай-ка мне каньяку і зельцэрскай, жыва!—звярнуўся Засім Кірылавіч да палавога і грузна абсеў на крэсла каля акна, адчуваючы сябе стомленым і азлобленым за ўсіх і на ўсіх.

Раніцою яна стаяла перад ім такая-ж рашучая і спакойная, як і ў часе першай сустрэчы,—пазірала проста ў вочы яму сваімі блакітнымі вачамі і чакала, калі ён загаворыць з ёю.

А Засім Кірылавіч кідаў паперы па сталу, узлаваны, а да таго і не выспаўся і, не гледзячы на гэта, не ведаў з чаго пачынаць з ёю. Звычайна ў такіх выпадках шаблонныя словы лаянкі неяк не зрываліся з языка, хацелася знайсці ў сабе нешта больш злое і моцнае і кінуць ёй у твар.

— З чаго ў вас пачалося? Ну, гавары хутчэй!

— Яна мяне аблаяла,—важка прамовіла жанчына.

— Вялікая важнасць. Скажыце!—з'іранізаваў Падшыбла.

— Яна не мае права... я не раўня ёй.

— Ах, бацюхна! Хто-ж ты такая?

— Я з бяды... калі што... А яна...

— Т-так?! А яна ад здавальнення ці што?

— Яна?

— Аг-га,—яна. Так?

— Што-ж яна? У яе дзяцей няма...

— Ты вось што... ты маўчы, гадзіна! Ты мяне не маж па губах тваімі дзецьмі. Ты ідзі, але ведай, калі я цябе яшчэ раз сустрэну— у дваццаць чатыры гадзіны вон! З ярмаркі вон! Зразумела? Н-ну! Я вас ведаю! Я цябе ўзнагароджу! Скандаліць?! Я табе паскандалю... дрэнь!

І словы, адно крыўдней другога, паскакалі з яго языка ў твар ёй. Яна пабляднела і яе вочы звузіліся гэтак жа, як учора ў шынку.

— Вон!—грымеў Падшыбла, грукаючы кулаком па стале.

— Бог вам суддзя...—суха і з пагрозай прамовіла яна і шпарка выйшла з канцылярыі.

— Я табе пакажу, суддзя!—роў Засім Кірылавіч. Яму падабалася крыўдзіць яе. Яго выводзіў з сябе спакойны твар і просты позірк блакітных вачэй...—Чаго яна прыкідваецца і выдае з сябе нейкую фуфыру? Дзеці?! Лухта. Нахабства. Пры чым тут дзеці?

— Гуляшчая баба прыехала на ярмарку прадаваць сябе і фанабэрыцца нечага... Пакутніца, з бяды... дзеці. Каго яна хоча гэтым ашукаць? Няма сілы на адкрыты грэх, яна і хавае яго за бяду, ф-фі! Скажыце!..

4

А яны ўсё такі былі—хлопчык, беленькі і нясмелы, у старой, зацяганай форме гімназіста, з падвязанымі чорнай касынкай вушамі, і дзяўчынка, у клетчатым, не па росту вялікім, ватэрпруфе. Яны абодва размясціліся на дошках каля прыстані Кашына і, уздрыгваючы ад восеньскага ветру, вялі паміж сабой ціхую дзіцячую гаворку. Іхняя маці стаяла ззаду ў іх, прыхіліўшыся спіной да складзенага нейкага тавару, і зверху ўніз пазірала на іх блакітнымі, поўнымі пяшчот, вачамі. Хлопчык быў падобен на яе: вочы ў яго таксама былі блакітныя, ён часта паварачваў сваю галоўку ў картузе з нададраным казырком назад да маці і, усміхаючыся, нешта гаварыў ёй. Дзяўчынка была задужа рабой, востраносая, з вялікімі шэрымі вачамі, пабліскваўшымі жвава і разумна. Вакол іх на дошках былі раскладзены нейкія клункі і пакункі.

Быў канец верасня, з раніцы ішоў дождж, набярэжная была ўкрыта вадкай гразёю і дзьмуў вецер, халодны і вільготны.

Па Волзе хадзілі мутныя хвалі і шумна пляскаліся аб бераг. Скрозь стаяў шум, глух', цяжкі, моцны. Спявалі розныя людзі, заклапочаныя, імкнуліся кудысьці. І на агульным фоне жыцця бойкай набярэжнай вуліцы—група з двох дзяцей і іхняй маці, якія спакойна чакалі нечага, адразу кінулася ў вочы.

Засім Кірылавіч Падшыбла даўно заўважыў гэтую групу і хоць трымаўся ў баку ад яе, але ўважліва наглядаў за ёй. Ён бачыў кожны рух кожнага з трох, і яму было за нешта сорамна.

З Сібірскай прыстані ішоў Кашынскі параход, які цераз паўгадзіны адыходзіў уверх па Волзе.

Публіка пачала збівацца на дэбаркадзер.

І жанчына з блакітнымі вачамі нахілілася да дзяцей, выпрасталася, уся абвешачая пакункамі і клункамі, і пашла ўніз па лесвіцы ззаду ад сваіх дзяцей таксама нечым нагружаных, якія ішлі ўзяўшы адно аднаго за рукі...

Засім Кірылавіч павінен быў таксама ісці на дэбаркадзер. Яму не хацелася гэтага, але трэба было, і цераз некаторы час ён стаў непадалёк ад касы.

Яго знаёмая купляла білет. У руках яе быў тоўсты жоўты партманэт—адтуль выглядала пачка крэдытак.

— Мне-б,—сказала яна,—ці бачыце, так трэба. Іх вось, дзіцёнкаў, у другі клас, да Кастрамы нам, а я ў трэцім... Можна ім для абодвух адзін білет? Не? А то саступіце? Пакорна дзякую! Дай вам божа...

І яна адыйшла з задаволеным тварам. Дзеці круціліся каля яе, хапаючы яе за плацце, аб нечым прасілі. А яна слухала іх і ўсміхалася...

— Ах, бацюхны, ды куплю ўжо, сказала! Хіба шкада мне? Па два? Ну... Пастойце тут.

Потым яна пашла на масткі, дзе прадавалі розную галянтарэю і фрукты.

І цераз некалькі часу ужо зноў стаяла каля дзяцей, гаворачы ім:

— Вось табе, Варка, мыла. Пахучае! На т-ка, панюхай. А табе, Пецька, вось нож... Бач ты, памятаю, не бойся. А вось апельсіны—цэлы дзесятак. Ешце... не адразу толькі.

Параход падышоў да прыстані. Штуршок. Усе закалыхаліся. Жанчына з дзецьмі схапіла іх рукамі за плечы і прыціснула да сябе, трывожна зірнуўшы вакол сябе. Усе былі спакойныя і яна, супакоіўшыся, засмяялася. Дзеці ўторылі ёй. Паклалі трап, і публіка хлынула на параход.

— Стой! куды прэш! Асёл!—распараджаўся Засім Кірылавіч, прапускаючы міма сябе публіку і звяртаючыся да нейкага плотніка, які ўвесь быў абвешаны лубкай, пілой, тапаром ды іншымі інструментамі...

— Чорт! Прапусці даму і дзяцей... Гэтакі ты недалужны, браце мой!—дадаў ён ужо мякчэй, калі дама, яго знаёмая з блакітнымі вачамі, як праходзіла міма, усміхнулася і пакланілася яму.

Трэці свісток.

— Падбірай насавую!...—прагучэла каманда з мастка. Параход уздрыгануўся і павольна пашоў...

Засім Кірылавіч акінуў вачамі публіку на палубе і, знайшоўшы сваю знаёмую, з пашанай зняў шапку і пакланіўся ёй.

Яна адказала яму нізкім рускім паклонам і стала істава хрысціцца.

І паехала ў Кастраму са сваімі дзяцьмі.

А Засім Кірылавіч яшчэ нейкі час пазіраў услед ёй, потым глыбока ўздыхнуў і пашоў з дэбаркадзера на свой пост. Быў ён хмуры і падаўлены.

*Пераклаў з рускай* *ПЛАТОН ГАЛАВАЧ.*

Апавяданне надрукавана ў „Самарской газете“ № 197 і 199 ад 14 і 17 верасня 1895 г.

*М. Горкі*

# ГАДЗІНЫ АДПАЧЫНКУ НАСТАЎНІКА КОРЖЫКА

*Нарыс*

Калі стары насценны гадзіннік у пакоі Антона Пятровіча Коржыка з хрыплым шыпеннем адаб'е дзесяць вечара, ён павольна ўстае з-за свайго стала, пацягваецца і з усмешкай задавальнення і пагарды, акінуўшы позіркам груду вучнёўскіх сшыткаў, якія ён выправіў, бярэ ў руку лямпу і ідзе з ёй у кут пакою.

Там ён ставіць лямпу на другі стол, адчыняе замаскаваную шпалерамі маленькую шафу, у сцяне, здабывае з яе чвертную бутлю гарэлкі, талерку з лустачкамі чорнага хлеба, усё гэта таксама ставіць на стол і, старанна зачыніўшы дзверцы шафы, садзіцца ў вялікае крэсла, супроць стала, бокам да акна, у якое праз блакітны рысунак марозу, пазірае ў пакой месячная зімовая ноч.

На стале, апрача гарэлкі, закускі і лямпы, стаяць тры рамкі; адна з чорнага плюшу і ў ёй партрэт пажылай дароднай жанчыны з шырокім тварам і раздвоеным падбародкам—добры і мяккі твар маці; з другой бронзавай рамкі пазірае на настаўніка твар дзяўчыны, у кароне цёмных кучаравых валасоў, з міндалевіднымі вачамі і пульхнай, задорна прыўзнятай верхняй губкай; у трэцяй рамцы—гравюра, на ёй чалавек, апрануты ў тогу рымляніна; у яго круглая, гладка астрыжаная галава, востры твар і маленькія, глыбока запалыя вочкі. Хаця гэты твар і выгалены, як твар актора, але ён занадта глыбокадумны для чалавека гэтай прафесіі...

Настаўнік Коржык сядзіць некалькі секунд нерухома і глядзіць на гэтыя партрэты, але з неакрэсленым позіркам чалавека, якому цяжка злавіць сваю думку.

Потым ён налівае чарку гарэлкі, павольным гэстам падносіць яе да роту, выпівае і на секунду заплюшчвае вочы, адкідваючы галаву на спінку крэсла і як-бы смакуючы адчуванне пякучай вільгаці, што сцякае ў нутро...

Следам за гэтай чаркай ён налівае другую, а за ёю трэцюю і пасля гэтага ўжо бярэ з талеркі маленькі кавалачак хлеба, павольна жуе яго, прыплюшчваючы вочы і ўсё разглядаючы партрэты на стале.

І твар яго, незадоўга перад тым сухі і пануры, твар саракагадовага чыноўніка—халасцяка, жоўты, з вусамі і маленькай эспаньёлкай, з тонкімі шчыльна сціснутымі губамі, канцы якіх характэрна апушчаны ўніз,—яго твар успыхвае чырвонымі плямамі, вочы

звычайна нелюдзіма прыжмураныя і цмяныя, шырэюць і набываюць той нутраны бляск, які робіць далікатнай фізіяномію, надаючы ёй выраз жыцця і думкі...

— Пачынаю, мама...—напоўголаса, амаль шэптам гаворыць настаўнік, апіраючыся аднэй рукой на стол, а другой наліваючы яшчэ чарку.

І пры гэтым ён усміхаецца ўсмешкай крыху вінаватай і вельмі сумнай, усмешкай фаталіста, які бачыць дрэнныя вынікі свайго дзеяння, але не лічыць магчымым не рабіць яго...

Да чацвертай чаркі парадак адпачынку Коржыка ўстанавіўся раз назаўсёды—ён заўсёды такі, да апошняга жэсту такі; але з гэтага моманту настаўнік вар'іруе свой час усімі даступнымі яму спосабамі.

Іншым разам ён звяртаецца з прамовай да Аннея Сенекі—бо рымлянін з маленькімі вачамі гэта ён, славуты стоік,—і напоўголаса пачынае пахвальную прамову ў стылі „пісьмаў да Люцылія“.

— Ты добра сказаў, Сенека, што дваякі шлях мае свой канец і яшчэ больш мудрасці ў тваіх словах — „як байка, так і жыццё цэняцца не за даўжыню, але за змест“. Ты ўмеў навучаць цярплівасці і ты быў мудрым і пранікілвым, але ўсё-такі ты ў свой час не мог уявіць сабе, што праз восемнаццаць стагоддзяў пасля смерці тваёй людзі дойдуць да майстэрства жыць без якога-небудзь зместу і будуць больш роўнадушнымі да жыцця, чым ты хацеў гэтага, навучаючы цярпець. Таму што, хоць-бы ты і гаварыў Люцылію;—„памыляюцца, о Люцылій, тыя, якія думаюць, нібы лёс пасылае нам добрае і злое“,—але ты ў той-жа час сцвярджаў, што „душа наша дужэйшая за лёс“. Цяпер-жа людзі роўнадушныя да добрага і злога і сілы ў душы сваёй не маюць, падпарадкуючыся першым ударам лёсу і будучы пакорнымі яму ў рабстве без барацьбы, без сораму за сябе...

Такі, о Сенека, я, і такіх шмат...

Сярод прамовы настаўнік робіць паўзы, налівае гарэлку і п'е, ад кожнай чаркі ўсё больш чырванеючы.

Жэсты яго робяцца больш парывістымі, але яны яшчэ ўпэўненыя: і—ён акуратна да краёў налівае чаркі, і рука яго не дрыжыць, калі ён падносіць іх да роту. Іншым разам, выпіўшы чарку, ён шэптам, у якім ужо чуецца п'яная ахрыпласць, гаворыць:

— П'ю, мама..

І, вінавата ўсміхаючыся, ківае галавой партрэту дароднай жанчыны.

Потым ён глядзіць у акно.

Акно выходзіць у сад, і ён бачыць там нерухомыя, цёмныя ствалы ліп і клёнаў, вецце вішань і бэзу, прыбраныя ў іней, блакітна срабрысты снег, усё гэта нерухомае і ўсё гэта маўчыць...

Калі-ж за акном спявае завея, ствалы дрэў і вецце кустоў часта хаваюцца за воблакамі снегу, што мякка ўдарае ў шкло акна; схаваюцца і з'явяцца зноў, з'явяцца толькі на момант, ізноў зніконуць у мутных воблаках снегу. Здаецца, што яны не стаяць, а кі-

даюцца па садзе ў жаху. І завея так сумна спявае... А іншым разам яна спявае злосна, і смяецца, абрываючы сваю песню.

Настаўнік пазірае на ўсё гэта, потым адвернецца ад акна, вып'е чарку, і зноў пазірае. І зноў п'е.

У месячныя, ціхія ночы ён любіць сядзець без агню. Калі ён загасіць лямпу,—на момант увесь пакой як-бы ўздрыгвае і адразу напоўніцца цёмрай. Але ўжо ў наступны момант у акно ліецца хваля месячнага ззяння, яно падае на стол, цераз яго на падлогу і далей на шырокую канапу... На пасме гэтага святла ледзьве намечаны цені ад галінак клёнаў, там у садзе пад акном. Настаўнік пазірае на іх доўга і пільна, як бы жадаючы здагадацца, напошта яны тут, гэтыя вечныя цені, і што яны гавораць сваім рысункам. А калі ў садзе дрэвы хістае вецер, цені ў пакоі—на стале, на падлозе, на канапе,—рухаюцца...

Антон Пятровіч уздыхае і моцна пацірае лоб.

— Прабач, мама... Яшчэ вып'ю.

І выпівае яшчэ... Гадзіннік ужо даўно адбіў адзінаццаць, і вось зноў хрыпіць, задыхаецца і адлічвае дванаццаць марудных і гучных удараў, пасля чаго недзе ўнутры яго доўга яшчэ гучыць пружына сумным рэхам сыйшоўшых сутак...

— Жыццё ідзе няспыннаю хадою, аддаючы забыццю мінулае, разбураючы і зноў ствараючы...—дэкламіруе настаўнік ў такт ударам гадзінніка... і працягвае руку да бутэлькі.

Але ўжо рука яго няпэўная, і ён не адразу налівае чарку. Шкло чапляе за адну з рамак, і сумны гук разлягаецца ў пакоі...

— Прабачце, Жэня... Гэта я, здаецца, вас крануў?—яшчэ выразна шапнуў настаўнік, нахіляючыся да стала, і, апіраючыся на яго, усміхаецца партрэту, усміхаецца ўсмешкай добрай, нібы просіць прабачэння.

— Якая вы слаўная дзяўчына... І як шануе вас час... пакідаючы вас жыць у маёй памяці так доўга. Ужо дванаццаць год... І ўсё цудоўна памятаю... Вы мне спадабаліся адразу і адразу-ж вы ўбачылі гэта. Вам было прыемным маё пакланенне... Я разумею. Так... Вы—разумніца, трымалі мяне на вялікай адлегласці ад сябе і...

— Я вып'ю, мама... Прабач...

— І вы паехалі, зніклі, прапалі .. Я не паспеў вам у гэтыя два месяцы нічога сказаць. Але я шмат думаў аб вас... Вы зніклі... Так... засталася картачка ваша і я. Гэта добра. Было-б горш, напэўна, калі-б вы сталі маёй жонкай... Да жонкі не захоўваюць той павагі, якую маюць да каханай... Вось вас няма... дзе вы?.. А я жыву і памятаю вас такой, якой сустрэў. Вы, напэўна, забыліся пра мяне і... Я яшчэ вып'ю, мама! Твой сын співаецца... Нічога... Ён гэта разумее... ён яшчэ не зусім.. Ты не турбуйся, мама, ён не падзе ніжэй, чым ужо ёсць... Досыць!

— Можа вы, Жэня, нават зусім і не той чалавек, якім я вас ведаю... Напэўна так... Вы, зразумела і злыя і неахайныя, і злоязычныя, і пошлыя, і дробязныя... як усе жанчыны... Але я не паспеў убачыць у вас нічога гэтага... і да гэтага часу... дванаццаць год лічу вас дасканаласцю сярод жанчын... Паважаю вас і захоўваю

успаміны аб вас і сабе... хаваю яго, як адзіную прыстойную рэч, што некалі дадзена мне жыццём... Я не сквапны... і не хочу нічога... Хаця—вып'ю.

... Страшэнна п'ю, мама, гэта так. Я ведаю—мярзотна п'ю, па свінску напіваюся, потым сплю, потым прасынаюся, потым...

Тут Антон Пятровіч адкідваецца на спінку крэсла і хмурыць лоб, робячы страшныя вочы...

— Вялікая подласць... Я іду вучыць „малых гэтых"... Малыя яны—велізарнейшыя балваны, фенаменальна тупагаловыя. І навошта іх вучаць так рана? Яны зусім не здольны разумець, што вучыцца неабходна... для таго, каб чым небудзь... і што ведаць карысна... а пазнаваць—асалода... як гаварыў Сенека... Чорт з вамі,—іх ненавіжу... Яны напэўна, як і я, вось... гэта значыць большасць іх... гэта несумненна!.. У іх да гэтага ўсе задаткі... па сутнасці яны заслугоўваюць жалю... Так! Яны не толькі не ведаюць, не хочуць ведаць жыццё праз другіх... свой вопыт. Ён каштуе дорага і... чым яны будуць плаціць за яго, небаракі?.. Мне іх шкада, гэтых хлапчукоў...

— Але я ўжо досыць п'яны... Мама, я ведаю, што гэта вельмі мярзотна... але-ж мне сорак шэсць год і няма нікога на свеце, хто-б меў патрэбу у-ва мне: А, мама? Ні душы! Я непатрэбен нікому! Нікому! І мне, бадай што, ужо нікога не трэба. Таму што я... гм! Што я? Жэня? Я? П'яніца... але яшчэ што?.. Яшчэ... Я хутка скончу мой шлях... Досыць?.. Што такое?

Настаўнік азіраецца вакол сябе,—яму здаецца, што нехта перабіў яго п'янае мармытанне цяжкім уздыханнем... У пакоі поўцемра і цішыня. Узвіскваючы, маятнік гадзінніка адлічвае секунды. Адзінокі чалавек ужо вельмі п'яны.

Ён моцна паціраe лоб адною рукою, а другой, упіраючыся ў ручку крэсла, спрабуе ўзняцца і не можа.

— Напіўся, мама... як жывёла!

І ён сумна апушчае галаву на грудзі...

— Ты казаў, Сенека,—хай нават жыццё вялікае і несумненнае дабро... але я не куплю яго... за усведамленне ўласнай гнуснай слабасці... Ты не купіў... ты благародна памёр. А я купляю... і навошта мне п-патрэбна жыццё? Навошта? Мне і сотням тысяч надобных?.. Ты сказаў „жыццё дрэнна сцеражэ нас"... Так, але мы досыць... спрытна пазбягаем смерці... Хто гэта гаворыць?

І ён зноў азіраецца вакол расшыранымі і налітымі крывёй вачамі. Нікога няма.

— Так... Ніхто не гаворыць... а між тым я чуў голас. Я ведаю, што гэта.. я разумею... хаця я не п'яны... Навошта я п'ю... навошта? Мама, навошта? Я-ж так гіну, мам...

П'янае мармытанне абрываецца плаклівай нотай, нечым падобным да віску. І настаўнік, схіліўшы галаву на грудзі і ўпіраючыся рукамі ў ручкі крэсла, ціха плача сам аб сабе, бо адчувае страшэнны жаль да сябе, паступова гінучага чалавека, і жаль гэты тым больш горкі і цяжкі, што ў-ва ўсім свеце ёсць толькі адзін чалавек, якому, сапраўды і шчыра шкада яго. І як ён ні п'яны, як ні балюча яму,

усё такі ў ім жыве некаторае пачуццё, і яно скрозь слёзы прымушае яго гаварыць такія словы.

— Хіба гэта я сам? Хіба я загінуў-бы... калі-б хто-небудзь... хоць аднойчы... Толькі ты, мама.. умела... абласкаць твайго сына, толькі ты, дарагая мая... Галубка!

І пры ўспаміне аб маці слёзы яшчэ больш моцна ліюцца з яго п'яных, запаленых вачэй.

А ў пакоі цёмна і ціха, таму што месяц ужо высока і праменні яго больш не глядзяць у акно.

Вочы настаўніка накіраваны на стол. На бутэльцы з гарэлкай відаць цмяная пляма, як-бы нейчае вялікае вока з бяльмом.

— Спаць...

Ён спрабуе ўстаць на ногі, доўга стараецца і не можа ўстаць.

— Вось як напіўся!—гучна гаворыць ён, і галава яго панура апускаецца на грудзі.

— Кожны чалавек ёсць сусвет... пад кожным надмагільным каменем пахавана цэлая сусветная гісторыя... Парадокс работы рамантыка... Гейне... Чаму ўсе славутыя яўрэі—ідэалісты і рамантыкі?.. Так... што такое?..

... Магіла... і ў ёй я, сусветная гісторыя... Гэта смешна. Я п'яніца... а сусвет—чорт ведае, што такое... але я ў ім адзін...

Твар яго часта перакошваецца ад тых намаганняў, з якімі ён гаворыць, змагаючыся з рыданнямі, што падступаюць да горла. І яго шчокі мокрыя ад слёз... Канцы вусоў апушчаны ўніз, гальштук з'ехаў на бок, і кашуля, якая расшпілілася, агаляе няроўна дыхаючыя грудзі...

Бываюць моманты, калі ў пакоі чутны толькі віскі і ўдары маятніка, ды хрыплае дыханне п'янага.

Але яны кароткія, таму што настаўнік усё хоча сказаць нешта, і ўсё мармыча свае нязвязныя словы.

Ён просіць прабачэння ў мамы і скардзіцца ёй на жыццё і апраўдвае сябе перад ёй.

Потым звяртаецца да Жэні з паважнай прамовай, не без ноткі горкага скептыцызму і гаворыць са стоікам Сенекай у тоне павагі аб разуменні жыцця...

І раптам пачынае рагатаць дзікім і п'яным смехам. Ён нікога не пабудзіць сваёю гаворкаю: да яго прывыкла ўжо гаспадыня кватэры, а апрача яе, ніхто не можа пачуць яго.

І часта, не маючы сілы дабрацца да свайго ложка, ён так і засынае ў крэсле аж да раніцы.

*Пераклаў з рускай Э. САМУЙЛЁНАК.*

Апавяданне надрукавана ў „Самарской газете“ № 63 ад 17 сакавіка 1896 г.

---

*Васіль Матэвушаў*

# НЕЎМІРУЧЫ БУРАВЕСНІК

Памяці М. ГОРКАГА

Шчыльна вусны
Маўчанне скавала,
З твараў сум
І суровасць не сцерці.
Гора цяжкае,
Каменем пала,
У народнае, палкае
Сэрца.
Няўжо больш
Вачэй не адкрые
Наш баец, Буравеснік, сокал?
Каб падняцца
У сонечны вырай
Над радзімай, як мора,
Шырокай.
Не, не верыцца,—
Жыў Буравеснік,
Будзе рэяць
Ён гордай красою!
Хіба можа
Бясмертныя песні
Смерць забраць
У магілу з сабою?

*А. Бачыла*

## ПРАЗ ГОД

Мой позірк стыў
На ясных рысах твару...
Вялікі Горкі... Год
І толькі год,
Як наплывалі смерці
Ціхай хмары,
Як мы хавалі
Лепшага—яго.

... Было даўно. У Ніжнім
Золкім раннем,
Пад плёскат хваль
Шырокае ракі,
Ён слухаў песні
Суму на світанні—
Аб цяжкай долі
Пелі бурлакі.

І песні сэрца ранілі.
Надоўга
Ён іх, як дань
Юнацкую, збярог,
Збярог і памяць
Раннюю пра Волгу
І успаміны
Пройдзеных дарог.

І толькі год...
А Волга
Людскай сілай
Прымушана шумець
У сталіцы між садоў...
Яна свайго паэта
Не забыла—
Прышла к Крэмлю
Аддаць апошні доўг.

в. Сініло, 1937 г.

*А. С. Пушкін*

# МЕДНЫ КОННІК

*(Пецярбургская аповесць)*

ПРАДМОВА

Здарэнне, апісанае ў гэтай аповесці, мае за аснову сапраўднасць. Падрабязнасці паводкі запазычаны з тагочасных часопісаў. Хто цікавіцца, можа зверыцца ў паведамленнях, якія падае В. І. Берх.

## Уступ

На беразе пустынных вод
Стаяў Ён, буйных дум палёт
Лунаў у даль. Прад ім шырока
Плыла рака, па ёй—сярод—
Плыў бедны човен адзінока.
Па мшыстых топкіх берагах
Чарнелі хаты ў хмызняках,
Прытул убогага чухонца;
І лес, які не знаў ў вяках
Туманам схованага сонца,
Вакол шумеў.

І думаў ён:

Адсюль гразіць мы будзем шведу,
Тут стане горад з бегам дзён
На зло пыхліваму суседу.
Прыродай суджана даўно
У Еўропу высеч тут акно;[1])
Нагою цвёрдай стаць пры моры.
Сюды праз новыя шляхі
Усе ў госці прыплывуць сцягі.
І забалюем на прасторы.

І горад после сотні год,
Краін паўночных цуд і дзіва,
З гушчынь лясоў, з дрыгвы балот
Узнёсся пышна, гардаліва.

Дзе ўперад фінскі рыбалоў,
Няшчасны пасынак прыроды,
Адзін ля нізкіх берагоў
У нязведаныя кідаў воды
Стары свой невад, там цяпер
Па берагах на ўвесь бязмер
Паўсталі ўместа ўбогіх хатаў
Палацы, вежы. Караблі
Гурбой з усіх канцоў зямлі
Плывуць да прыстаняў багатых.
Граніт адзеў бакі Нявы,
Масты навіслі над вадамі,
Цёмназялёнымі садамі
Зазелянелі астравы.
І прад малодшаю сталіцай
Старая змеркнула Масква,
Як перад новаю царыцай
Парфіраносная ўдава.

Люблю цябе, Пятра тварэнне,[2])
Люблю твой строгі, стройны від,
Нявы дзяржаўнае цячэнне,
Берагавы яе граніт,
Узор тваіх чыгунных кратаў,
Начэй задумлівых тваіх
Празрысты змрок, бліск цемнаваты,
Калі ў пакоі сярод кніг
Пішу, чытаю без лампады,
Гляджу на сонныя грамады
Пустынных вуліц, як блішчыць
Адміралцейскі ў высях шпіц,
Як не пускаючы начную
Надоўга цьму на небе жыць,
Адна зара спяшыць другую
У час кароткі замяніць.
Люблю зімы тваёй суровай
Снягі, марозы, даляў глуш,
Бег санкаў ўздоўж Нявы лядовай,
Дзявочы твары ярчэй руж.
І блеск, і шум, і гоман балаў,
А ў вечар халастой гульні
Шыпенне пеністых бакалаў
І пунша сінія агні.
Люблю рухавасць ваяўнічу
Пацешных Марсавых палёў,
Пяхотных войскаў і канёў
Так аднастайнае вялічча,
У іх зыбкім, маршавым страі
Шматкі сцягоў, сцягоў пабедных,

Зіянне шапак гэтых медных,
Наскрозь прабітых у баі.
Люблю, ваенная сталіца,
Тваёй цвярдыні дым і гром,
Калі паўночная царыца
Падорыць сына ў царскі дом.
Ці перамогу над царом
Чужым святкуе зноў Расія,
Ці свой Нява, зламаўшы лёд,
Нясе яго да морскіх вод
І дні ўсхваляе веснавыя.

Красуй, Пятровы горад, стой
А непахісна, як Расія.
Хай супакоіцца з табой
І пакароная стыхія;
Варожасць, даўні палон свой
Хай хвалі фінскія забудуць
І марнай злобаю не будуць
Трывожыць вечны сон Пятра!

Была жахлівая пара...
Жыве аб ёй ўспамінанне...
Аб ёй, сябры мае, для вас
Пачну сваё апавяданне...
Журботны будзе мой расказ.

## Частка першая

Над спахмурнелым Петраградам
Стаяла восень лістападам.
Бурліва хвалямі б'ючы
У краі сваіх гранітаў стройных,
Нява стагнала, бы ў пачы
У пасцелі хворы неспакойна.
Было ўжо позна, змрок наплыў,
Сярдзіта ў шыбы дождж бубніў,
І вецер дзьмуў і выў з жальбою.
З гасцей у гэты час дамоў
Еўгеній малады прышоў...
Мы будзем нашага героя
Зваць гэтым іменем. Яно
Гучыць прыемна; з ім даўно
Маё здружылася пісанне.
Не трэба нам яго празвання,
Хоць быў час, і калісь, здаўна
Яно быць можа і грымела,
І пад пяром Карамзіна
У паданнях родных прагучэла.

Цяпер-жа свецкай чарадой
Яно забыта. Наш герой
Жыве ў Каломне, недзе служыць,
Дзічыцца знатных і не тужыць
Ні па сканаўшых сваяках,
Ні па даўно забытых днях.

І вось, вярнуўшыся, Еўгеній
Абтрос шынель, раздзеўся, лёг,
Заснуць-жа доўга ён не мог
У бегу розных лятуценняў.
І думаў ў час бязсонны той,
Што бедны ён і што цяжкой
Ён працай мусіў здабываці
Пашану, незалежны лёс,
Што мог-бы бог яму дадаці
І грошы й розуму. Бо ёсць
Такія лятуны шчасліўцы,
Слабыя розумам, лянтўцы,
Якім ідзе жыццё злягка.
Што служыць два ўсяго ён годы;
Ён думаў такжа, што пагода
Не заціхала; што рака
Усё прыбывала, што казалі—
З Нявы масты ўжо чуць не знялі,
І што з Парашай будзе ён
Разлучаны на пару дзён.

Так марыў ён. Было маркотна
Яму тэй ночы і ён жадаў,
Каб вецер выў не так нудотна,
І дождж каб у вакно сцябаў
Ня так сярдзіта...

Сонна вочы
Нарэшце сплюшчыў ён свае...
І вось мінае змора ночы,
І ўжо дзень бледны настае...
Жахлівы дзень!

Ўсю ноч Нява
Да мора рвалася проць буры,
Не змогшы моцы іх панурай...
І больш спрачацца не змагла...[3])
На раніцу над берагамі
Яе стаяў гурмой народ,
Каб любавацца і гарамі
І пенай азвярэлых вод.
Але моц ветра ад заліва

Спыняла хваль напор Нявы,
Назад ішла, ў гняву, бурліва,
Ї затапляла астравы,
Пагода яшчэ больш вар'яцела,
Нява ўздувалася, равела
Ў аковах берагоў сваіх,
Ї раптам азвярэўшы, ўміг
На горад рынула. Прад ёю
Усё пабегла. Усё, як стой,
Было пустым, вада ракой
Пашла ў падземныя падвалы,
Да кратаў хлынулі каналы,
Ї ўсплыў Петрапаль, як Трытон,
Ў вадзе завяз па пояс ён...

Аблога! наступ! Хвалі-змеі
У вокны лезуць, як зладзеі.
З разгону ў шыбы б'юць чаўны.
Латкі шквал гоніць вадзяны,
Абломкі хат, страха, бярвенне,
Тавар купцоў, хлам сутарэнняў,
Манаткі бледнай беднаты,
Паводкай змытыя масты,
З магіл размытых дамавіны
Плывуць па вуліцах!

Народ
Гнеў божы бача й шчасця звод.
Во! гіне ўсё: харчы, хаціна!
Дзе будзе ўзяць?

Ў той грозны год
Нябошчык цар яшчэ Расіяй
Са славай правіў. На балкон
Маркотны смутны вышаў ён
Ї мовіў: „З боскаю стыхіей
Царам не саўладаць". Ён сеў
Ї ў думках, сумнымі вачамі
На гора цяжкае глядзеў.
Стаялі плошчы азярамі,
Шырокімі ў іх ручаямі
Сплывалі вуліцы. Палац
Здаваўся выспай адзінокай.
Цар мовіў.—З плацу і на плац,
Па блізкіх вуліцах, далёкіх
У страшны пуць між бурных вод
Яго памкнулі генералы [4])
Збаўляць і страхам абуялы
Ї дома што тануў народ.

Тады на плошчы тэй Пятровай,
Дзе на рагу дом вырас новы,
Дзе панад ганкам угары,
З паднятай лапай, як жывыя,
Стаяць два львы старажавыя,—
Вярхом на мармурным звяры
Без шапкі, згорблен, бы стары,
Сядзеў нязрушна, страшна бледны
Еўгеній. Ён баяўся бедны
Не за сябе. Ен ані дбаў,
Як падымаўся хціўы вал
І падмываў яму падэшвы,
Як дождж яму у твар хвастаў,
Як вецер выў, бы ашалеўшы,
З яго і шапку ўміг сарваў.
Яго зрок роспачы з пакорай
Накіраваны ў пункт адзін
Быў нерухомы. Быццам горы
З глухіх раз'юшаных глыбін
Там злосныя ўставалі хвалі,
Там выла бура, там гулялі
Абломкі... Божа, божа! там
Ягоным бачыцца вачам
Каля затокі ўсхваляванай
Вярба і плот немаляваны,
Дамок старэнькі; там яны
Удава й дачка, яго Параша,
Яго каханне... Ці мо сны
Ён гэта сніць? Ці мо'ўсё наша
Жыццё нішто, сон нібы той,
Насмешка неба над зямлёй?

І ён як-бы зачараваны,
Бы да мармуру прыкаваны,
Зыйсці не можа. Навакруг
Вада, вада, хваль жудкі рух!
І звернуты к яму спіною
У непарушнай вышыні,
Над узбунтаванай Нявою,
Стаіць з працягнутай рукою
Кумір на бронзавым кані.

## Частка другая

І вось насычана знішчэннем,
Прыстаўшы з жудкага жніва,
Назад папхнулася Нява,
Са свайго радая ўзбурэння,
Кідаючы са зневажэннем

Сваю пажыву. Злодзей так,
З вірутнай хэўрай, забіяк
Ў сяло ўварвецца, гвалт, пагрозы;
Рабуе, крыша; енкі, слёзы,
Трывога, крык дзяцей, бацькоў!..
І згорблены парабаваным,
Пагоні баючыся, спраўна
Спяшаць разбойнікі дамоў,
Губляючы ў бягу здабытак.

Вада збыла, і брук размыты
Адкрыўся, і Еўгеній мой
Спяшыць хутчэй з надзеяй скрытай,
Змагаючы сум, страх глухі,
Да чуць прыціхшае ракі.
Але ў сваім пабедным шале
Яшчэ кіпелі злосна хвалі,
Як-бы пад імі тлеў агонь,
Яшчэ іх пена пакрывала,
І цяжка йшчэ Нява ўздыхала,
Як з бітвы прыскакаўшы конь.
Глядзіць Еўгеній: бача лодку;
Бяжыць туды, як па знаходку;
Ён перавозніка заве—
І перавознік бесклапотны
Яго за грыўню тут ахвотна
Праз хвалі страшныя вязе.

І доўга з хвалямі грудзямі
Змагаўся вопытны грабец,
І патануць між іх радамі
Што хвіля з дзёрзкімі плаўцамі
Гатоў быў човен—наканец
Дасяг ён берага.

Няшчасны
Знаёмай вуліцай бяжыць
У кут знаёмы. Стаў. Глядзіць,
Пазнаць няможа. Выгляд страшны!
Усё ў руінах, што было;
Што скінута, а што сплыло;
Тырчацца домікі крывыя,
Альбо зусім ляжаць, а тыя
Сапхнуты хвалямі прытым,
Як-бы на полі баявым,
Навокал мерцвякі. Еўгеній
Віхром, не помнячы сябе,
Знямажаны ўвесь ад мучэнняў,
Бяжыць туды, дзе яго жджэ
З няведамаю доля весцю,

Як з запячатаным пісьмом.
І вось бяжыць ён па прадмесці,
І вось затока, блізка дом...
Што-ж гэта?..
Ён астанавіўся.
Пайшоў, вярнуўся, супыніўся,
Глядзіць... ідзе... яшчэ глядзіць.
Вось месца, дзе іх дом стаіць;
Вярба вось, тут былі вароты,
Відаць знясло іх. А дзе-ж дом?
І поўны хмурае турботы,
Усё ходзіць, ходзіць ён кругом,
Гамоніць громка сам з сабою
І стукнуўшы ў свой лоб рукою,
Зарагатаў,

Начная мгла
На горад трэпетны зышла;
Ды доўга жыхары не спалі
І між сабою разважалі
Аб дні мінулым.

З па-за хмар
Прыстаўшы золак, поўны чар,
Бліснуў над ціхаю сталіцай,
І не знайшоў ужо слядоў
Бяды ўчарашняй; баграніцай
Ужо было пакрыта зло.
У лад ранейшы ўсё ўвайшло.
Ужо па вуліцах свабодных
З сваёй нячуласцю халоднай
Хадзіў народ. Чыноўны люд,
Пакінуўшы начны свой кут,
На службу йшоў. Гандляр адважны,
Не журачыся, адкрываў
Нявой аграблены падвал,
На мэце меўшы страту важну
Спагнаці з бліжняга. З двароў
Звазілі чоўны.

Граф Хвастоў,
Паэт нябёсамі любімы,
Ужо спяваў у вершах гімнах
Няшчасце неўскіх берагоў.

А бедны, бедны мой Еўгеній...
Яго здушыў няшчасцяў глум,
Супроць жахлівых патрасенняў
Неўстояў розум. Грозны шум
Нявы і ветраў раздаваўся

Ў яго вушах. Жахлівых дум
Маўчліва поўны, ён блукаўся.
Яго ўсё мучыў нейкі сон.
Мінуўся тыдзень, месяц—ён
Дамоў к сабе ўсё не вяртаўся.
Яго кут, поўны колісь мар,
Як выйшаў тэрмін, гаспадар
Здаў ў наймы беднаму паэту.
Еўгеній па набытак свой
Ужо не ішоў. Ён скора свету
Чужым стаў. Бродзіў пехатой,
На прыстані спаў; харчаваўся
У вакно пададзеным куском,
Старая вопратка на ём
Была ўся ў зрыўках. Злыя дзеці
Каменне кідалі ў яго.
Не раз фурман, калі прымеціў,
Яго сцябаў, дзеля таго,
Што ён не разбіраў дарогі
Ніколі ўжо; як быццам ён
Не заўважаў. Яго з тых дзён
Зглушыў шум нутраной трывогі.
І так ён свой няшчасны век
Валок, ні звер ні чалавек,
Ні то ні сё, ні жыхар свету
Ні прывід мёртвы...

Раз ён спаў
Ля неўскай прыстані. Дні лета
Да восені йшлі. Не сціхаў
Празяблы вецер. Вал пляскаў
На прыстань глуха з нецярпеннем
І біўся ў гладкія ступені,
Як чалабітнік ля дзвярэй
Нячулых да яго судзей.
Бядак прачнуўся. Было хмура:
Дождж капаў, вецер выў панура,
І воддаль з ім у змрок сівы
Пераклікаўся вартавы...
Еўгеній ўскочыў; ўспомніў жыва
Ён жах мінулы; паспяшліва
Устаў ён; пабрыў, напяўшы слух,
Астанавіўся, і вакруг
Ціхенька стаў вадзіць вачамі
З баязню дзікай, сам-не-сам,
Ён апынуўся пад слупамі,
Дзе новы дом. На ганку там
З паднятай лапай, як жывыя,
Стаялі два львы вартавыя,

І проста ў цёмнай вышыні
Над агароджанай скалою
Кумір з працягнутай рукою
Сядзеў на бронзавым кані.

Еўгеній ўздрыгнуў. Праяснелі
У ім страшна мыслі. Ён пазнаў
І месца, дзе патоп гуляў,
Дзе хвалі хцівыя бурлелі,
Бунтуючы вакол яго,
І львоў, і плошчу, і таго,
Хто нерухома ўзвышаўся
У мроку меднай галавой,
Таго, па волі тут чыёй,
Над морам горад заснаваўся...
Жахлівы ён у вакольнай мгле!
Якая дума на чале!
Якая сіла ў ім укрыта!
А во ў каня які агонь!
Куды ты скачаш, горды конь,
І дзе апусціш ты капыты?
О, валадар судзьбін людскіх.
Ці-ж ты не гэтак над бяздоннем
Вуздой жалезнай з беспрасоння
Падняў Расію на дыбкі? 5)

Вакол куміра ля штахетаў
Бядак шалёны абышоў
І вочы дзікія навёў
Ён на дзяржаўца палусвета
І грудзі зжаліся. Чало
Да крат халодных прылягло,
А вочы заплылі туманам.
Па сэрцу перабег агонь,
Зайграла кроў. Стаў хмурным ён
Прад гардалівым істуканам,
Зацісնуў зубы, пальцы сцяў,
Як спанаваны моцай чорнай,
„Ну што-ж, будоўнік цудатворны“.
Шапнуў са злобаю лютой,
„Папомніш ты!“... І ў міг стралой,
Пусціўся бегчы, бо здалося
Яму, што грознага цара
Твар гневам раптам загараў
І павяртаўся, як-бы ў злосці...
І вось па плошчы ён пустой
Бяжыць і чуе за сабой—
Як быццам грому грукатанне—
Цяжкое звонкае скаканне
Па бруку ў цішыні начной.

І месяцам асветлен бледным,
Руку прасцягшы ў вышыні,
За ім імчыцца Коннік медны
На звонка скачучым кані,
І ўсю так ноч, вар'ят мой медны,
Куды ён толькі не ўцякаў,
За ім усюды Коннік Медны
З грукотным топатам скакаў.

І з тэй пары, калі бывала
Ісці па плошчы мусіў тэй,
Баязнь яму твар засмучала,
Да змучаных сваіх грудзей
Ён прыціскаў паспешна рукі,
Як-бы збаўляўся гэтак мукі.
Картуз паношаны знімаў,
Мутныя вочы патупляў,
І ў бок сыходзіў.
На паўзмор'і
Ёсць астравок. Падчас туды
Прыстане з невадам худы
Рыбак у спозненую пору,
Каб падвячорак свой зварыць,
Або чыноўнік аглядзіць,
Гуляючы ў чаўне ў нядзелю,
Пустынны востраў. Не ўзрасло
Там ні былінкі. На прыселле
Туды паводкай занясло
Дамок старэнькі. Над вадою
Застаўся ён, як чорны куст.
Яго мінулаю вясною
Звязлі на лайбе. Быў ён пуст
І ўвесь разбуран. Ля парога
Знайшлі шалёнага майго,
І тут-жа сіні труп яго
Ў дол закапалі дзеля бога.

*Пераклаў ЯНКА КУПАЛА.*

## ЗАЎВАГІ

1) Альгаротті недзе сказаў: „Petersbourg est la fenêtre par laquelle la Russie regarde en Europe“ *).

2) Глядзі вершы кн. Вяземскага графіні Завадоўскай.

3) Міцкевіч прыгожымі вершамі апісаў дзень, папярэдні пецярбургскай паводцы, у адным з лепшых сваіх твораў Oleszkiewicz. Жаль толькі, што апісанне яго недакладна. Снегу не было—Нева не была пакрыта лёдам. Наша апісанне вярней, хоць у ім і няма яркіх фарбаў польскага паэта.

4) Граф Мілорадовіч і генерал—ад'ютант Бенкендорф.

5) Глядзі апісанне помніка ў Міцкевіча. Яно запазычана з Рубана—як заўважае сам Міцкевіч.

*) Пецярбург—гэта акно, цераз якое Расія глядзіць у Еўропу.

*Усевалад Краўчанка*

# ТОРНЫЯ ДАРОГІ

*П'еса ў трох дзеях, пяці карцінах*

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

ПАНАС МІРАНОС—малады хлапец, знатны брыгадзір калгаса „Торныя дарогі“.
ЛІДА ЛАБУДЗЕВА—даглядчыца свінафермы, маладая 19-ці год дзяўчына.
АРКАДЗЬ НОВАК—рахункавод гэтага-ж калгаса, малады хлапец.
РОМУСЬ ЛІНОЎСКІ—студэнт сельска-гаспадарчага інстытута.
ГРЫШКА—брыгадзір калгаса, малады шырокаплечы фізкультурнік.
ГАЛЯ—дзяўчына гадоў 19-ці, калгасніца.
ПЕЦЬКА—піонер, фотааматар.
ДЗЕД ПАНЦЯЛЕЙ.
МАЛАННЯ—маці Панаса.
ВОЛЯ—дзяўчына з суседняга калгаса.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

Сцэна ўяўляе сабой светлую палянку, праз якую ідзе прасёлачная дарога. З аднаго боку палянкі хвойнік, з другога— палеткі калгасных аўсоў. За сцэнай чуваць дзявочы смех, голас „лаві“. Потым на сцэну ляціць мяч, а за ім у паласатай майцы выбягае **Ліда**.

**Ліда**. Лаві! *(адбівае рукой мяч Панасу, які бяжыць услед за ёй)*.
**Панас**. На назад.
**Ліда**. Лаві!
**Панас**. Яшчэ.
**Ліда**. Лаві!
**Панас**. Не зловіш! *(стукае мяч нагой)*.
**Ліда**. Навошта ты так? Мы-ж умаўляліся толькі рукамі. (*Горача*). Ты думаеш я не магу нагой ударыць?
**Панас**. *(Маўчыць)*.
**Ліда**. Да таго-ж гэты мяч і нельга біць нагой. Гэта-ж валейбольны. Грышка колькі раз ужо гаварыў аб гэтым. Разаб'юць, кажа, па несвядомасці мяч. (*Пауза*). Ты чаго гэта маўчыш?
**Панас** (*ціха*). Ліда... Я хацеў табе сказаць аб другім... Гэта, Ліда, тая палянка, аб якой я табе расказваў. А вунь за дарогай гаёк.
**Ліда**. Тая палянка? Яна і дапраўды вельмі прыгожая. Мы тут і будзем чакаць нашых хлопцаў. Павінны прысці Аркадзь, Грышка, Галя. Добра?
**Панас**. Добра. Толькі Грышка сярдзіты на мяне, ён напэўна не прыдзе.

**Ліда**. За што сярдзіты?

**Панас**. Ты-ж ведаеш, яго брыгада спаборнічае з маёй. Але я бачу, што ён не справіцца з работай і, каб не затрымлівалася справа, учора прапанаваў яму падмогу. Гэта яго пакрыўдзіла (*Пауза. Пазірае на поле*). Ты паглядзі, Ліда, перад сабой, на авёс. Гэта ўсё як згледзець вокам, поле маёй брыгады. Мой авёс. Глянь, як прыгожа хвалюецца ён, калі ледзь-ледзь падзьме ветрык.

**Ліда**. Праўда, як прыгожа! Вялі-ікае поле.

**Панас**. Поле вялікае. Вунь, бачыш, ветракі крыламі махаюць, вунь—далёка, далёка,— то толькі там канчаецца гэты авёс. Я, Лідка, усё ў жыцці люблю. Люблю поле, лес, рэчку. Паплаваць, эх, як я люблю пасля работы. Толькі вось іншы раз сударага ў вадзе нагу сціснe, ну, але гэта нічога. Вось... хэ... нават сорам гаварыць. Скажам, бягуць па сялу авечкі, пыл уздымаюць, поскудзь усякую, а я і іх люблю. Альбо вот калі цвіце грэчка, цэлае поле грэчкі, мёдам пахне. Ах, як хораша!

**Ліда** (*раптам успомніўшы*). Чакай, Панас. Калі я не забылася... Так, ты памятаеш, абяцаў мне, што на гэтай палянцы скажаш нешта вельмі цікавае. А? Зараз-жа скажы.

**Панас**. Не, не... Хаця... Так... (*у замяшанні*). Я даўно збіраюся табе сказаць... Я не ведаю, як гэта выказаць. Калі я адзін, у мяне многа-многа ёсць чаго сказаць табе і я гавару, здаецца, табе ўсё, але калі мы сустрэнемся... у мяне не хапае слоў... Ты разумееш, Ліда... (*Змаўкае ў замяшанні. Пауза*).

**Ліда** (*ціха, сарамліва*). Ведаю... І я такая...

**Панас** (*усхвалёваны*). Лідачка! А што, калі я смела скажу табе— я цябе люблю.

**Ліда**. І я, Панасік, цябе люблю.

**Панас**. Што? Лідка... (*Панас абдымае Ліду і цалуе*).

(З'яўляецца **Панцялей**)

**Панцялей** (*пазірае ўбок, на поле, моцна кашляе*). Кхе-кхе! (*Панас і Ліда спалохана пакінулі цалавацца*). То-ж я вот і кажу. Чаму ім не расці, аўсам гэтым. Паддобрылі іх як след, засеялі ў час, пагодка дзякаваць... гм, значыць, добрая, зямелька—пушок мяккі, дожджычкі росяць у норму... Чаму ім і не расці! То, глянь, як іх пагнала...

**Ліда** (*ціха да Панаса*). Бачыў ці не бачыў?

**Панас** (*ціха*). Чакай. (*Панцялею*). Угу, авёс парос што трэба.

**Панцялей**. Гэта я сабе яшчэ зранку задумаў. Дай, думаю, вазьму кіёк у рукі, прайдуся па полі, на калгаснае вокам кіну... Аж яны, бач, якія аўсы гэтыя, мора проста, акіян, у чалавечы рост парасьлі. Ці відана гэта, а?

**Панас**. Ага!

**Ліда** (*ціха*). Бачыў ці не бачыў?

**Панцялей**. Не відана гэта, не. Мяне старога вараб'я не падвядзеш. Што не відана, то не відана. Я вот сёння ўсе палеткі абый-

шоў, ёсць на што паглядзець, няма чаго грашыць... гм... і пшанічка, як то кажуць, лес густы, і жытцо пад коласам гнецца. Ну, акіян, ды і ўсё, проста сядай у човен і плыві.

**Ліда**. Бачыў ці не бачыў?

**Панцялей** (*крута павярачваецца ў злосці*). Бачыў, галубка, усё бачыў. Можаце сабе цалавацца. Толькі пасеў глуміць не дазволена. Не дазволена. Куды свой мяч застукалі, а?

**Панас** (*азіраецца кругом*). Мяч...

**Ліда**. Мяч...

**Панас**. Можа ён там (*паглядае на дарогу*).

**Панцялей** (*паказвае кіёчкам*). Вунь, у аўсах, у баразне ляжыць... Топчуцца тут... Знайшлі месца для пацалункаў... Пасеў дарагі глумяць. (*Пайшоў*).

**Ліда**. Вот бачыш, і навошта табе было гэты мяч нагой біць. А цяпер толькі непрыемна.

**Панас**. Хіба я хацеў, я-ж незнарок у авёс. Але-ж і дасціпны гэты дзед. Заўсёды прыпрэцца туды, дзе яго не чакаюць. А ты, Лідка, ужо і засумавала. (*Абнімае*).

**Ліда**. Зусім не. Толькі ты дарэмна на Панцялея гаворыш. Ён якраз харошы дзед. Ён аднойчы і да мяне на ферму прыйшоў. Увесь хлеў абыйшоў. А там так чыста, хораша, падлога ўсюды з дошчак, вокны. То ён пахадзіў, пахадзіў, са сваім гэтым кіёчкам, зайшоў у пакой да кормніка „Ваські“, пагладзіў яго і задаволены такі пайшоў. Толькі хмыкае. Мне ён нічога не сказаў, але я бачыла, што ўсё добра і была рада, нібы дзед Панцялей нейкая камісія... Вось толькі шкада, што ён не бачыў маёй Радыёлы. Яна прывяла восемнаццаць парасят і ўсе жывенькія. Такія харошыя парасяткі. Ты-ж чуў пра Радыёлу?

**Панас**. Чуў...

**Ліда**. Ох, мая Радыёла! Мне здаецца, каб яна... (*Змаўкае*). Мы збіліся на свіней, а з табою я хачу гаварыць аб другім.

**Панас**. Мне з табой пра ўсё прыемна гаварыць, Лідка.

**Ліда**. Дзед Панцялей ужо далёка... Давай збегаем па мяч.

**Панас**. Бяжым (*выбягаюць*).

(Уваходзіць **Пецька** з фотаапаратам)

**Пецька** (*спявае*). Тара-ці-ра-та-ра-ці-ра-ра-рам. Вот тут-то я вас і падлавіў. Радыё-апарат, можна смела лічыць, ужо ў маіх руках. (*Устанаўлівае за дрэвам фотаапарат*). Гэта будзе сусветная сенсацыя. Сусветная! Брыгадзір паляводчай брыгады Панас Міранос цалуе прыгожую Елену—Лабудзеву Лідку. Калі Панас не аддасць мне дэтэктарны прыёмнічак, я, па-першае, гэты здымачак пакажу цётцы Гарпіне, Лідзінай матцы, каб яна ведала, хто будзе жаніхом яе дачкі. Гэта раз. І пакажу яе ўдаве Міраноса, каб яна ведала сваю нявестку. Гэта два. Толькі я ведаю, што Панас не захоча быць нашчэнт выкрытым. Тут я яму і выстаўлю ўмовы—давай дэтэктар і справа скрыта. А так, колькі не прасі, напэўна ведаю,

не дасць. А цяпер прымушу... Толькі каб яны мне як-небудзь не перашкодзілі. Наконт экспазіцыі, то я ўпэўнен—яна ў іх будзе зацяжною, але вот хаця-б яны не нацалаваліся ў аўсе. *(Пазірае)*. Бягуць сюды. Трэба хавацца...

(Прыбеглі **Панас** і **Ліда**).

**Панас**. Даганю-ю!
**Ліда**. Не зловіш! (*Уцякае ад яго*).
**Панас** (*бяжыць наперэймы*). Ага, злавіў. А цяпер... (*цалуе яе*).
**Педька** (*ціха высунуўшыся з-за дрэва*). Раз... два... тры... чатыры... Гатова, можаце варушыцца. (*Бярэ свой апарат, скідае шапку, развітваецца*). Усяго добрага. Да пабачэння. (*Адыходзіць*).

(Уваходзіць **Ромусь**, ставіць на зямлю чэмадан, закурвае).

**Ромусь**. Та-ак... Значыць, першае, што я ўбачыў, набліжаючыся да роднага сяла, гэта досыць лірычнае відовішча. Пацалункі, каханне. Гм...
**Панас**. Ромусь!
**Ліда**. Раманчык! (*Кінулася да яго, вітаюцца*).
**Ромусь**. Ён самы. Здарова былі.
**Панас**. Здароў, Раман.
**Ліда** Ух ты! Мы цябе і не чакалі зусім.
**Ромусь**. А я і сам не ведаў, што прыеду.
**Ліда**. Што ў цябе ў чэмадане: можа гасцінец які вязеш нам?
**Ромусь**. Кнігі, прабіркі, зубная шчотка, мыла і ручнік.
**Ліда**. І ўсё?
**Ромусь**. Усё. Ну, што новага ў сяле?
**Панас**. Пажывеш—убачыш. Усё новае.
**Ліда**. Усё, усё. І я новая, і Панас новы, і хлопцы нашы другія.
**Ромусь**. Ну, ты, Ліда, заўсёды новая.
**Ліда**. Ты толькі кінь смяяцца.
**Ромусь**. А як жыве Аркадзь?
**Панас**. Аркадзь? З ім дзеецца штосьці такое...
**Ліда**. Ты-ж ведаеш яго, тэорыі розныя выдумляе. А канцылярыя калгасная запушчана.
**Ромусь**. А як Грыша, Галя?
**Ліда**. Ты іх зараз убачыш. Грыша вар'яцее на фізкультуры. Мюллер у яго—бог. (*З гонарам*). Ён у нашым раёне чэмпіён усіх спаборніцтваў.
**Панас**. А ты чаго гэта раптам завітаў?
**Ромусь**. Па справах. Я-ж канчаю ўжо інстытут. То для дыпломнай работы... (*За сцяной чуваць голас Панцялея*: „*Аля, аля, куды цябе чорт нясе?*“). Для дыпломнай работы мне трэба правесці адзін дослед з махоркай. (*Голас узмацняецца*). Што там такое?
**Панцялей** (*з'яўляецца*). Не, гэтага я ўжо цярпець не магу. Свінні.. па бульбе ходзяць свінні. І хто гэта папускаў іх, каб яму дух... (*Раздумаў*). Каб яму юху пусціць!
**Ромусь**. Дзеду, ці нельга крыху спакайней.

**Панцялей**. Ромусь? Унучак ты мой дарагі, прыехаў? З чэмаданчыкам? Здароў-жа-ж быў... Які там ужо спакой. Пайшлі цяпер гэтыя калгасы, дык адзін неспакой мне на галаву... Праганю-ж я ўжо свіней. (*Пайшоў*). Аля! Аля, каб на вас чорт!

**Ліда**. У мяне прапанова. Ты, Ромусь, не змарыўся? Давайце пойдзем, пасядзім, пагаворым у тым гайку. Хутка прыдуць нашы хлопцы.

**Ромусь**. Чаму-ж не, давайце. (*Выходзяць*).

(Убягае **Пецька**, за ім ідзе **Аркадзь**).

**Пецька**. Яны стаялі вось тут. (*Перакрыўляе*). „Лідачка, Панасічак“. Цмок, цмок, цмок... А я тут. Толькі яны ў пацалунак, а я—чык, чык і гатова. Можаце варушыцца.

**Аркадзь** (*задуменны, заклапочаны*). Так. Добра, толькі...

**Пецька**. Што, толькі?

**Аркадзь**. А Панас вушэй табе за гэта не накруціць?

**Пецька**. Ну? Я аб гэтым не думаў... Але-ж дэтэктар цяпер ён напэўна аддасць мне.

**Аркадзь**. Можа і аддасць. А як твой планер новы гатоў, не?

**Пецька** (*абыякава*). Зрабіў, ды ён разбіўся. А больш рабіць не хачу.

**Аркадзь**. Чакай. Ды табе-ж за твае авіамадэлі і апарат падаравалі, а ты так лёгкадумна іх пакінуў.

**Пецька**. Пакінуў. Я цяпер фатаграфіяй займаюся. (*Выхваляючыся*). Два здымкі ў „Пионерскую Правду“ паслаў.

**Аркадзь**. А калі табе за здымкі падаруюць, прыкладна, стрэльбу, то ты паляўнічым зробішся?

**Пецька**. Зраблюся. Буду хадзіць на зайцоў, на мядзведзяў. Бах! Толькі дым...

**Аркадзь**. Дым... Табе добра, Пецька. (*Сядае на пянёк*). Ты малы яшчэ. Не ведаеш нічога. Табе ўсёроўна, чым захапляцца.

**Пецька**. Ну, малы. Я пуд ужо магу адной рукой падняць.

**Аркадзь**. Вось я загадаю табе загадку: скажам, ты стаіш на шырокім полі. І перад табою ляжыць сорак... сто... тысячу дарог, сцежак у розныя бакі. Паўз цябе людзі ідуць не разбіраючыся, пруць па любой дарозе. Ім што, абы ісці, яны нічога не хочуць, ні да чаго такога не імкнуцца. Ідуць і ідуць. А ты, скажам, ведаеш, што не ўсе дарогі вядуць туды, куды табе трэба, а толькі адна. Адна для цябе дарога ёсць. А ты хочаш, каб цябе гэтая дарога прывяла на вяршыню чалавечай славы. І вось стаіш ты на раздарожжы і не ведаеш, па якой табе рушыць. Скажы, што-б ты рабіў, Пецька?

**Пецька**. Што-б я рабіў? Я-б настаўніка спытаў. Ён у нас геаграфію лепш за ўсіх вучняў ведае.

**Аркадзь**. Ну, добра. А калі-б, напрыклад, настаўніка не было?

**Пецька**. То ў людзей спытаў-бы, тых, што паўз мяне...

**Аркадзь**. А калі і людзі не могуць адказаць.

**Пецька.** Не можа гэтага быць. Людзі ўсё ведаюць. Хто-ж тады пратаптаў гэтыя дарогі? Але калі-б і яны не ведалі, то я-б дадому вярнуўся.

**Аркадзь.** Да дому нельга вярнуцца, трэба наперад ісці. Жыццё не ідзе назад.

**Пецька.** То я-б... Ай, па праўдзе сказаць, што гэта за загадка. Вось лепш ты адгадай такую загадку: два канцы, два кальцы, па сярэдзіне цвік.

**Аркадзь.** Нажніцы, Пецька.

**Пецька.** І як гэта ты так хутка ўгадаў?

**Аркадзь.** Гэта я магу. Толькі вот... пра поле з дарогамі не магу..

**Пецька.** Цяжка? Гэта бывае. Адзін раз настаўнік як даў мне задачу, то тры дні не мог рашыць, пакуль не спісаў у Сонькі. А як спісаў, то адразу вышла... і без астатку. (*За сцэнай чуваць песня*).

**Аркадзь.** Ты малайчына... Хто гэта? А-а, нашы хлапцы.

**Пецька.** І Панас?

**Аркадзь.** І Панас.

**Пецька.** Ну, то я ходу... (*Выбягае*).

**Аркадзь** (*песня чуваць бліжэй*). Харошыя хлопцы. Іх зусім не хвалюе тое, што не дае спакою мне. (*Прыслухоўваецца*). Спяваюць... Я нейкі дзівак. Заблытаўся ў сетцы, якую сам сплёў. І чаго ты захацеў, Аркадзь? Што за пустыя мары ў тваёй галаве? Ты хочаш быць вядомым, акружаным славай, каб аб табе ведала ўся краіна, каб дзяўчаты спявалі аб табе песні. Дзёрзкі юнак. Хіба такія як ты становяцца героямі? Ха... Ты ганяй на лічыльніках костачкі, распраўляйся з шарэнгамі лічбаў, з паперкамі. Гэта шлях накананованы табе. А ты шукаеш дарогу героя ў жыцці. Яе не тут трэба шукаць, ты блудзіш, Аркадзь. Не тут? Дык дзе-ж яна, гэтая дарога. (*Песня ўзмацняецца*). Пакажыце мне яе і я пайду па ёй. Пакажыце...

(З песняй уваходзяць **Ромусь, Панас, Ліда**).

**Ромусь.** Во, ды тут і Аркадзь!

**Аркадзь.** Раман? Вось добра, што ты прыехаў.

**Ромусь.** Здарова, дружа. (*Вітаюцца*). Ты чаго гэта нейкі задуманы. Можа закахаўся?

**Аркадзь.** Ды не... Проста ведаеш... Я нічога. Я рад, што ты прыехаў. Надоўга?

**Ромусь.** Надоўга.

**Ліда.** Аркадзік, хутка там нашы прыдуць? Грышка, Галя...

**Аркадзь.** Хутка. Абяцалі што зараз.

**Ліда.** Вось добра. Весялей будзе ісці. Заспяваем такую песню...

**Аркадзь.** Заспяваем. Толькі, Ліда...

**Ліда** (*перабівае*). Хлопцы, хлопцы, глядзіце. Вунь, бяжыць. Грышка бяжыць.

**Панас.** Гэта ён свой традыцыйны крос на тры кілометры.

**Ромусь**. Як ён здорава, а?
**Ліда**. Брава, Грышка, брава. Тут фініш. Ты—пераможца.

(Убягае **Грышка**, высокі, шырокаплечы, спакойны)

**Грышка**. Чалавек павінен быць абсалютна здаровы целам. Здаровы чалавек паўней адчувае прыгожасць жыцця. Слухайце мой пульс. (*Выстаўляе Лідзе левую руку, на якой гадзіннік*). Роўны, спакойны... Здарова, Ромусь (*падае яму вольную руку*).
**Ромусь**. Ну, Грышкі проста не пазнаць. Здарова, здарова.
**Грышка**. Хутка і Галя прыбяжыць. Колькі?
**Ліда**. Восемдзесят.
**Грышка**. Цудоўна. Чатыры тысячы метраў бегу. Хочаце, я павярнуся і прабягу яшчэ чатыры тысячы назад да вёскі?
**Ромусь**. Ну, ну, не трэба.
**Ліда**. Мы і так верым.
**Грышка**. Некаторыя не вераць. (*Глядзіць на Панаса*). Некаторыя думаюць, што мы маем патрэбу ў іх дапамозе. Яны глыбока памыляюцца.
**Ромусь**. Што гэта за „некаторыя"?
**Ліда**. А кіньце вы, хлопцы, спрачацца. Ніхто нічога не думае.
**Грышка**. А вось і Галя прыбегла.

(Убягае **Галя**).

**Ліда**. Галечка! (*Падтрымлівае*).
**Галя**. Ох, замарылася. Мядзведзь пакінуў мяне і пабег. Як быццам ён не ведае, што жанчына слабейшы пол. Сараматнік. Выбачайце, Раман Пятровіч, што я не адразу павіталася з вамі. (*Падае руку*). У сяле, тут, ведаеце, ніякіх этыкетаў не прытрымліваюцца, асабліва вось такія штукары. (*Паказвае на Грышку*).
**Грышка**. Галечка, я-ж хацеў, каб лепш. Мюллер кажа, што кожнадзённая трэніроўка...
**Галя**. Ах, пакіньце вы свайго Мюллера пры сабе.
**Панас** Ну, знайшлі аб чым спрачацца. Кіньце.
**Ліда**. Нас цяпер багата. Вось заспяваем.
**Аркадзь**. Заспяваем. Толькі, Ліда, ты мяне перабіла, я скажу табе адну невялічкую непрыемнасць. Я толькі што з вёскі. Захварэла твая Радыёла.
**Ліда**. Што? І ты дагэтуль маўчаў? Радыёла! (*бяжыць*).
**Аркадзь**. Ліда, стой, не бяжы. На ферму пайшоў ветэрынар, Ліда.
**Ромусь**. У чым справа, што за Радыёла?
**Панас**. Гэта імя свінні... (*Крычыць*). Лідка, не бяжы так моцна. Хто са мною ў сяло?
**Аркадзь**. Раман, ты астанься, я хачу пагаварыць з табою.
**Грышка**. Галя, пройдземся ў гаёчак.
**Ромусь**. Навошта такая спешка, пагаворым у другі раз.
**Аркадзь**. Зрабі ласку, я хачу зараз.
**Панас**. Ніхто? Ну то я пайшоў...

**Грышка.** Пройдземся, Галя.
**Галя.** Ах, не думайце, што калі вы шырокі ў плячах, то з вамі там прыемна праводзіць час (*какетнічае*). Ці не праўда, Раман Пятровіч?
**Ромусь** (*збянтэжана*). Н-няведаю.
**Галя.** Каму-ж больш ведаць, як не вам, гарадскім?
**Ромусь.** Н-няведаю.
**Грышка.** Пройдземся, Галя.
**Галя.** Толькі прашу не ўспамінаць мне пра Мюллера. Праш...

(Выходзяць).

**Аркадзь** (*пауза*). У мяне сур'ёзная ґутарка, Раман.
**Ромусь.** Выкладвай.
**Аркадзь.** Сядзьма. (*Сядаюць*). Ты на каго вучышся?
**Ромусь.** Буду аграхімікам. Цяпер працую над дыпломам.
**Аркадзь.** І гэта твая цвёрдая жыццёвая дарога?
**Ромусь.** Ну пэўна.
**Аркадзь.** Так. Ты магчыма, і можаш стаць вядомым. Ты можаш раптам адкрыць што-небудзь такое, ад чаго людзям будзе вельмі лёгкім жыццё. Яны не забудуць цябе. Табе я зайздрошчу. Раман, не здзіўляйся, выслухай мяне. Але-ж ты, скажам, не такі як усе.
**Ромусь.** Ну, што ты. Я такі, як усе. Я не хочу быць не такім, як усе.
**Аркадзь.** Я кажу ў тым сэнсе, што ў цябе можа ёсць прызванне. У цябе ўжо ёсць дарога і ты ўжо крочыш па ёй, шырокай і роўнай. Ты ідзеш і ад цябе залежыць—дойдзеш ты да мэты, ці не. А вот я, разумееш, Раман, я сярэдні чалавек, калгасны рахункавод, чалавек без пэўнага прызвання, стаю на раздарожжы.
**Ромусь.** Чаму так, Аркаша? Ты што, вучыцца хочаш?
**Аркадзь.** Не, ты выслухай. Ты-ж не скажаш, што ганяць на лічыльніку костачкі можа чалавек толькі прызваны. І ты не назавеш мне маяка, да якога я мог-бы плыць... А ў мяне таксама ёсць жаданне стаць героем, калі не героем, то хаця-б вядомым. Ты скажаш, дзёрзкае жаданне, але чаму я не магу жадаць... І вось я параўноўваю сябе з чалавекам, які стаіць сярод шырокага поля. А перад ім ляжыць сорак... сто... тысячу дарог. Паўз яго людзі ідуць не цікавячыся куды, не разбіраючыся, пруць. А чалавек стаіць у раздум'і і не ведае, што яму рабіць.

(Уваходзіць **Панцялей**, хлапцоў не прыкмячае).

**Панцялей** (*ціханька, сам сабе*). Ай, аўсы, гй, аўсы якія...
**Аркадзь.** Вось я цябе хачу спытаць, Ромусь (*Панцялей прыслухоўваецца*). Дзе такая дарога, дзе той шлях, які вядзе да геройства, да славы? А, скажы?
**Панцялей** (*нечакана*). Справа... Сваю справу любіць і шанаваць трэба.

**Ромусь.** Дзед? Ты зноў тут?
**Панцялей.** Тут. Свая справа, кажу...
**Аркадзь.** Што? Глупства! Тут трэба... тут... Я знайду гэтую дарогу.

*Заслона.*

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

З боку хата Рамана. Сцэну перагароджвае плот. Бліжэй да рампы вуліца, за плотам гародчык, дзе расце Раманаў табак. На сцэне ў гародчыку Раман і Пецька. Раман палівае табак. Пецька сядзіць на плоце.

**Пецька.** А навошта гэта ў цябе махорка такімі градкамі пасеяна?
**Ромусь.** На ўчасткі разбіта. На кожным участку другое ўгнаенне. Тут вось пад махорку калій падложаны, тут фосфар, тут азот. А вось тут я гэтыя ўгнаенні папарна даваў, кожны з кожным. А на гэтай градзе пакладзены ўсе тры ўгнаенні. Я хачу даведацца, на якім угнаенні ў махорцы больш процант лімоннай кіслаты. Гм... (*прыглядаецца на адзін корч*). Збегай, Пецька, у хату, прынясі нажніцы.
**Пецька.** Два кальцы, два канцы, пасярэдзіне цвік? Ёсць. (*Бярэ пад казырок, бяжыць*).
**Ромусь** (*азіраецца*). Гм... Усё гэта так, але што робіцца са мной. Саромся, Раман. Замест таго, каб сур'ёзна заняцца вучобай, ты закахаўся як апошні малакасос. І, галоўнае, у каго? У каго? У пустую дзяўчынку, у якой няма нічога ў галаве. (*Перакрыўляе*) „Каму-ж больш ведаць, як не вам, гарадскім". Не, гэта зусім збівае мяне. Трэба пакінуць думаць аб ёй. Ды да таго-ж яе кахае Грышка. Я не павінен перашкаджаць яму.
**Пецька** (*убягае*). Вось нажнічкі.
**Ромусь.** Што? Якія нажнічкі.. Ах, так. Ты дзе так доўга быў?
**Пецька.** Матка не магла іх ніяк знайсці. (*Таямніча*). Раман, я сфатаграфаваў Панаса, калі ён цалаваўся з Лідкай. Учора здымкі праяўляў—выйшлі, як жывыя.
**Ромусь.** А для чаго гэта ты?
**Пецька.** Як для чаго? Дэтэктар у яго стаіць у камодзе без справы? Без справы. Каб я ў яго прасіў—не дасць. А цяпер прымушу яго аддаць.
**Ромусь.** Як-жа ты яго прымусіш?
**Пецька.** А вот, скажу, дасі прыёмнік, не пакажу нікому здымак, а не дасі—у трыццаці экземплярах па ўсяму сялу пушчу...

(Уваходзіць **Ліда** і **Аркадзь**. Ліда наперадзе, Аркадзь ззаду).

**Аркадзь.** Ты вось, Ліда, гаворыш: „Кінь дурыць мне галаву, я не хачу слухаць цябе". А ты ведаеш, што думкі аб гэтым не даюць мне спакою.
**Ліда.** Калі ласка, я магу паўтарыць. Кінь дурыць мне галаву.
**Аркадзь.** А ты ведаеш, Ліда...

**Ліда** *(перабівае)*. Раман, ты не бачыў ветэрынара?
**Ромусь**. Не, не бачыў. А што, зноў Радыёла?
**Ліда**. Ды не, Радыёла ўжо ачуняла. Ты, Раман, несправядлівы. Ты прымушаеш усіх захапляцца тваёй няшчаснай махоркай, а да мяне на ферму ніколі не прыдзеш. А я цябе як прасіла. Ну, чаму ты не прышоў паглядзець на маю Радыёлу. Гэта свінства.
**Ромусь**. Ты-ж ведаеш, я цяпер усё заняты сваёй работай, але я прызнаю сваю віну. Прашу выбачэння.
**Ліда**. Прызнаеш? Ну, тота-ж... Дык прыдзі на ферму абавязкова.
**Ромусь**. Даю абяцанне: прыду.
**Аркадзь**... ведаеш, што гэта задача майго жыцця.
**Ліда**. У маіх вачах ты ніколі не будзеш героем, Аркадзь. Вось і ўсё.
**Аркадзь**. Але-ж я не згодзен з табой. Ты несправядлівая.
**Ліда**. Ну, то я не вучоная якая-небудзь, каб уступаць з табой у спрэчкі... І дзе той ветэрынар дзеўся, ніколі яго не знойдзеш, калі трэба. Гэта-ж сёння мы дамовіліся скласці спецыяльны рацыён для свінаматак, а яго няма, хоць ты што хочаш рабі.
**Пецька** *(нясмела)*. Ён можа дзе-небудзь на сяле.
**Ліда**. Дзякуй, Пецька, за такі дакладны адрас. Я ведаю і сама, што ён „дзе-небудзь на сяле“. Пайду. Калі знайду ну і задам я яму...
**Аркадзь**. Але-ж, Ліда...
**Ліда**. А ты сляпец. *(Выходзіць)*.
**Аркадзь**. Сляпец? Не хочаш выслухаць мяне? Ідзі. Табе даражэй твае рацыёны, чым вырашэнне важных жыццёвых праблем. Ты не бачыш жыцця далей сваёй Радыёлы і таму яно цябе не хвалюе. Сляпец. Я не сляпец. Я бачу вельмі многа. Я бачу перад сабой вялізнае поле...
**Пецька** *(падхоплівае)*. З дарогамі?
**Аркадзь**. Вялізнае поле, а на ім сорак... сто... тысячу дарог. Толькі я не ведаю, дзе тая дарога.
**Ромусь**. Слаўны Дыоген. У вас што, сёння выходны?
**Аркадзь** *(абарачваецца)*. Гэта ты, Раман? Вось добра. Я хацеў з табою пагутарыць.
**Пецька** *(да Рамана)*. Ён табе задачу задасць. З дарогамі...
**Аркадзь**. Ты мне дапамажы развязаць такую задачу. Скажам, стаіш ты адзін на шырокім полі...
**Ромусь**. У цябе кароткая памяць. Ты мне ўжо задаваў гэтую задачу.
**Аркадзь**. Ах, так! Ты мне расказваў пра стройнасць. Але-ж я не бачу ў жыцці ніякай стройнасці, аб якой ты казаў.
**Ромусь**. У цябе сёння выходны?
**Аркадзь**. Ты задаеш мне другарадныя пытанні, як-бы ты хочаш абыйсці тое галоўнае, што хвалюе мяне.
**Ромусь**. Так ты не станеш героем, Аркадзь, і прозвішча сваё прачытаеш мусіць толькі дзе-небудзь на чорнай дошцы.

**Аркадзь**. Глупства. Я ўпэўнен у сабе. Я знайду гэтую дарогу. Я шукаю, можа блукаю, але пройдзе час і я знайду. Хто шукае, той знойдзе.

**Ромусь**. Дык вось ты, Аркадзь? Ну, мне трэба ісці па ваду. (*Раман выходзіць*).

**Аркадзь**. Куды-ж ты, Раман, куды? Я хачу з табой пагаварыць... Пецька, сядзь сюды. Ты яшчэ малы, не ведаеш нічога.

**Пецька**. Зноў малы. Які я малы.

**Аркадзь**. Ты лепш слухай. Сядзь...

**Пецька**. Э, не, мне няма часу. Мне яшчэ сёння трэба пабыць у чатырох месцах. Я—фют. (*Выбягае*).

**Аркадзь**. Бяжы. Я застануся адзін на адзін з сваімі думкамі. Можа нават так лепш. Я ведаю, тая дарога не такая, як усе. Скажам, гарыць сяло. У палаючай хаце крычаць дзеці. Я ўрываюся ў хату, на мне ўспыхвае адзенне, але я выратоўваю дзяцей. Гэта ўчынак героя. Слава герою. Будуць пытаць, хто гэта выратаваў з агню дзяцей? Іх выратаваў Аркадзь Новак, ён герой. Так... Або: рака, ледаход. І пасярэдзіне ракі на крызе чалавек. Крыга ломіцца і чалавек у вадзе. „Ратуйце",— крычыць ён. З крыгі на крыгу пераскакваю я, пада мною шуміць рака, я кідаюся ў ваду і выратоўваю беспрытомнага чалавека. Я—герой... А Раман кажа: „Ідзі па любой дарозе". Няпраўда! Няпраўда! Любая дарога цябе не прывядзе да мэты. (*Садзіцца, апускае галаву*).

(Уваходзіць **Панцялей**)

**Панцялей**. Га? дык гэта ты тут, а? Галоўку апусціў,—думаеш. Ах, ты, герой ты, а? А мне, старому, хадзі за табой па ўсяму сялу, шукай цябе, а? У канцылярыі народ сядзіць, чакае яго, справы розныя, час гарачы, а ён думае. Ну, што тут сказаць? Адно слова—самадур. Марш за мною.

**Аркадзь**. Чакаюць мяне? Даўно? Хаця, гэта ўсёроўна... Я іду, дзеду, іду.

**(Панцялей і Аркадзь** выходзяць, праз некаторы час уваходзяць **Грышка з Галяй**).

**Грышка**. І чаму вам так не падабаюцца мае шырокія плечы, Галя. Што яны вам дрэннага зрабілі? Возьмем да прыкладу, ну, хаця-б антычнае грамадства, Рым. Людзі там усе былі здаровыя, буйныя такія, прыгожа складзеныя, так што аж чытаць завідна, якія яны былі. Прыгожае ў іх было жыццё: Узлуецца, скажам, такі чалавек, то па крайняй меры быка можа кулаком забіць. Палюбіць, то ўжо так моцна...

**Галя**. Ах, навошта вы мне гэта гаворыце?

**Грышка**. Гэта я так сабе. Не крыўдуйце на мяне, Галя. Вы ўсё Мюллера ганьбіце. Дарэмна вы гэта. Добра, калі чалавек моцны. Хаця проста так і то добра, калі чалавек моцны. І настрой у яго заўсёды вясёлы і штукі ён усякія можа. Вось, хо-

чаце, Галя? Я зараз стану на рукі і прабягу па вуліцы так, што ні адзін сабака не дагоніць...

**Галя.** Ах, не рабіце гэтага пры мне. У мяне слабыя нервы.

**Грышка.** Нервы залежаць ад вас саміх. Калі-б займаліся фізкультурай, спалі пры адчыненай фортцы, кожнай раніцы ўмываліся да пояса халоднай...

**Галя.** Як вам не сорам. Грыша? Гэта проста немагчыма.

**Грышка.** Выбачайце, калі я што не так. Але-ж, ведаеце, закаханы чалавек чаго не нагаворыць.

**Галя.** Вам час ісці ўжо на луг, Грыша.

**Грышка** (*уздыхае*). Час. Ды я толькі правяду вас крышачку. (*Бярэ яе пад руку*).

**Галя.** Ах, гэта нават непрыгожа. З касою на плячы і пад руку. Фі...

**Грышка.** І дапраўды. Ну, што-ж, бывайце, Галячка... Да пабачэння.

**Галя.** Усяго найлепшага. (*Выходзіць*).

**Грышка** (*у задуме паглядае ёй услед*). Якая яна, а? Якая харошая! І неразумная разам. А?..

(Уваходзіць **Панас**).

**Панас.** Грыша, з метэралагічнай станцыі перадалі, што добрая пагода будзе стаяць не больш пяці дзён. Калгасу няйначай трэба прыбраць увесь луг. Я яшчэ раз прапаную табе касароў з маёй брыгады ў Замасточча. Зазер'е мы скосім лёгка.

**Грышка.** А я яшчэ раз паўтараю, што адмаўляюся ад тваёй вялікадушнасці. Не маем патрэбы.

**Панас.** Але-ж вы не зможаце прыбраць Замасточча самі, а забяспечыць калгас сенам мы абавязаны. Трэба ведаць, што гэта не жарты. І наогул такое спаборніцтва прыносіць не карысць, а толькі шкоду.

**Грышка.** Мы прыбярэм Замасточча сваёй брыгадай. Я ўночы буду касіць, а скашу. Зубамі згрызем.

**Панас.** Але-ж у гэтым няма патрэбы. Мы можам падзяліць сілы так...

**Грышка.** Я не хочу тваёй дапамогі. У нас хопіць сіл у саміх.

**Панас.** Ты згубіў роўнавагу, Грышка. Адумайся. Мы-ж працуем для агульнай карысці. І такія выбрыкі не да твару, асабліва комсамольцу.

**Грышка.** Ты можаш не ўгаварваць мяне. Я ўжо аб усім падумаў.

**Панас.** Гэта глупства. Пры ўсім тваім жаданні ты не справішся з работай. А пагода цяпер няўстойлівая...

**Грышка.** Як сабе хочаш.

**Панас** (*павышае голас*). Дык ты не прымеш маіх людзей?

**Грышка.** Не трэба мне яны.

**Панас.** Свой гонар ставіш вышэй агульнай справы?

**Грышка.** Мы Замасточча прыбярэм самі.

**Панас.** Калі так, дык у парадку комсамольскай дысцыпліны я загадваю табе падпарадкавацца. Я прышлю табе людзей без тваёй згоды.

**Грышка** (*не чакаў, адступае на крок*). Што? Загадваеш?

**Панас**. Ты прымушаеш мяне рабіць гэта.

**Грышка** (*ашаломлены*). Загадваеш. Ну, што-ж, я падпарадкваюся табе. Я вазьму ў цябе дапамогу. Але, Панас, ты мне больш не друг. Я цябе ненавіжу. (*Выходзіць*).

**Панас**. Дарэмна.

(*Канец карціне*)

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

Луг. Збоку рэчка. На сцэне курэнь, каля курэня на ражках над агнём вялікі кацёл. Дзед Панцялей палачкай мяшае ў катле. Збоку Пецька.

**Панцялей**. А ты куды, а ты куды, падла! Ментузяка чортава, бока вываліў. Гэта-ж табе не ў рэчцы пад карчом, а ў гаршку ды над агнём.

**Пецька** (*заглядае ў кацёл*). Можа ён жывы?

**Панцялей**. Дзе там жывы. Здох, гэта каб шчупак, дык той от за жыццё чапляецца. І падскочыць і хвастом шамець, і так, і сяк, а мо', думае, як-небудзь выкручуся. І бывае, нашто ўжо здаецца ў катле сядзіць—уцячэ. У мяне аднойчы было. Варыў я юху над рэчкаю. З шчупакоў. Ваду, дравец падкідаю. Аж раптам скок, скок з катла шчупакі адзін за адным. Я да іх кінуўся, а яны боўць у воду. Толькі ваду каля берагу ўскаламуцілі. Адны слабейшыя ў катле засталіся... А мянтузяка—ты яе ў кацёл, яна сюды тыц, туды тыц, пастукалася мордай у сцены, ды і здалася.

**Пецька**. А юха з якой рыбы смачнейшая?

**Панцялей**. Юха? Юха то можа і аднолькавая. Толькі шчупак рыба больш важная. (*Пауза. Бярэ ў рукі комлю*). Што хвацкую я комлю сплёў, а?

**Пецька**. Можа і хвацкую, я не разбіраюся.

**Панцялей** (*бурклівa*). Не разбіраешся. Раз я гавару, значыць, хвацкую. Ракітнік. Ні адна п'яўка не пралезе. За такую комлю можна ўсё аддаць. Я брат, умею іх рабіць. Калісь, так пасля тройцы, упраўляючы заказаў мне, каб я аж пяць штук сплёў такіх. Для пана, значыць, рыбку лавіць. Сплёў я іх. Прынёс упраўляючаму, а ён паглядзеў, паглядзеў і кажа: „Ну, Панцялей, не чакаў я, за такія комлі кажа, цябе азалаціць трэба“. Ну, думаю, колькі-ж ты мне заплаціш? А ўпраўляючы зачапіў у кішэні грошы, выняў, пабразкаў, пабразкаў. „Атрымлівай, гаворыць, цэлых пяць злотых табе даю“.

**Пецька**. А колькі гэта—пяць злотых?

**Панцялей**. Семдзесят пяць капеяк. Во колькі.

**Пецька**. Усяго? Ды я-б яму так даў, што ён...

**Панцялей**. Ух, кіш-міш, які давака знайшоўся. Соплі вунь падатры, ёрш.

**Пецька**. Дзе тыя соплі? (*Пауза*). Ці паспее толькі наша юха зварыцца пакуль грабцы прыдуць?

**Панцялей**. Яна ўжо амаль гатова. Вот я пайду ламачча дзе-небудзь знайду, каб агонь больш.

**Пецька**. І я з вамі.

**Панцялей**. Не, ты будзь тут. Даглядай юху. Ды глядзі-ж, супастат, каб жаба ў кацёл не ўскочыла, а то на мяне тады напасць будзе.

(**Панцялей** выходзіць)

**Пецька**. (*Азіраецца вакол, потым падбягае да катла, мачае палец у юху, аблізвае, мачае яшчэ раз*). Ну і смачная. Каб толькі хаця хто не ўбачыў. (Азіраецца). Панцялей паблізу, не буду чапаць юхі. (*Выцірае рукі, выцягвае з-за пазухі фотакартку*). От лоўка! Ды гэта-ж прамое выкрыццё. Цалуюцца... Трэба прыступаць да справы. Як-жа гэта мне пачаць? (*Думае*). Ага! Так. Панас стаіць... ну, вось тут няхай стаіць. Я падыходжу да яго. Толькі каб смела. І пачну. „Панас, у цябе ў камодзе дэтэктарны прыёмнік стаіць?“ „Стаіць“. „То аддай яго мне“. „Чаму гэта я павінен аддаць яго табе?— адкажа ён. „А так, аддай, а за гэта я не раскажу і не пакажу нікому нічога“. То ён мне пачне круціць, скажа... ну, няхай ён скажа мне так: „Не дам я табе прыёмніка“. Тады я ў адказ:—„Ну, то глядзі-ж, каб не каяўся“ і пакажу яму здалёк. „А гэта што?—Прамое выкрыццё“. Тут ён і здаўся. Хаця, ён можа зрабіць спробу накруціць мне вушы. Тады ўся надзея на ногі. Але-ж... затое калі ён дасць мне апарат... Маскву хочаш? На Маскву. Ленінград? Бяры Ленінград. А-ах... (*Зноў падыходзіць да катла, мачае і аблізвае пальцы*).

(Уваходзіць **Панцялей**).

**Пецька** (*адскаквае ад катла*).

**Панцялей** (*падазрона*). Што гэта ты ля катла круціўся?

**Пецька**. Гэта... гэта я, дзеду, мяшаў... мяшаў...

**Панцялей**. Мяшаў. То чаго-ж адскочыў?

**Пецька**. Гэта... гэта я, дзеду, укалоўся.

**Панцялей**. Укалоўся. (*Падкладае дровы*). Ты думаеш я не бачыў. Я-ж бачыў. А спытаў, каб ведаць, ці можаш ты выкруціцца. Я, брат, усё бачу. Мне каб і вочы адняў, то больш за другога відзюшчага бачыў-бы. Па голасу-б бачыў. А ты хочаш Панцялея абдурыць.

**Пецька**. Калі-ж вельмі смачная. (*Збянтэжыўся*).

**Панцялей**. Ну, то так і скажы. (*Здалёку чуваць песня*). О, ужо мусіць ідуць.

**Пецька** (*усхапіўся, глядзіць*). Гэта яны, яны...

**Панцялей**. А то хто-ж яшчэ. Вядома, яны. Не паспелі копку зграбці, ужо замары-ліся, да кураня ідуць.

**Пецька**. Дзеду, яны-ж сёння ад цёмна працуюць, а ўжо як позна. Сонца вунь пад поўдзень падышло.

**Панцялей.** Пад поўдзень. *(Песня мацнее).* Розум у цябе. Табе-б толькі пальцы ў юху мачаць. Вучыць ён тут мяне. *(Старанна мяшае юху).* Можа яшчэ і юха сырая. *(Падкладвае ламачча, дзьме ў агонь).*

**Пецька.** З граблямі ідуць, нібы ваякі якія.

**Панцялей.** Ваякі... *(За сцэнай смех, галасы, песня).*

(Уваходзяць **Ліда, Панас, Грышка, Галя, Аркадзь, Ромусь**).

**Ліда** *(тонам загаду).* Зброю ў козлы! Прывал! *(Ажыўленая таўхатня на сцэне).*

**Панас.** Дзед Панцялей, наш слаўны кок, як ваша юха?

**Галя.** Ах, чым-жа мы будзем есці?

**Панцялей.** Юха. Вот канечна каб ім юхі. А каб паражнячком, паражнячком.

**Ліда.** Дзеду, не мучце. Я канаю ад голаду.

**Панцялей.** Ну, ну, даю вось, даю. *(Пачынае мітусіцца, палез у курэнь па лыжкі).*

**Пецька.** Трэба будзе ўлавіць хвілінку і асмеліцца. Што будзе, тое будзе...

**Ромусь.** Есці на ўлонні прыроды—гэта так здорава. *(Адчувае сябе нялоўка. Ён кахае Галю, але не паказвае гэтага, каб не абразіць Грышку).*

**Аркадзь** *(Грышка ў поўголаса).* Кінь злавацца. Я вось таксама і злавацца спрабаваў, а ўсёроўна.

**Галя** *(заігрывае з Ромусем).* Ага, гэта вельмі прыемна. Толькі вось чым мы будзем есці?

**Грышка.** Што ты разумееш у гэтым? Тут галоўнае гонар. Гэта раз. А па-другое, хто табе даў права станавіцца ў позу спачуваючага? Я не маю патрэбы ў спачуванні. Мне толькі крыўдна, шпо яна мяне адхіліла. „Няма, кажа, у мяне да вас пачуццяў“.

**Панцялей.** Лыжкамі есці будзеце, лыжкамі *(нясе бярэма лыжак з курэня).* Пецька яры за той канец. *(Знімаюць кацёл з агню).* Ну, то ўжо рассаджвайцеся. Адведайце юхі.

**Ліда.** Да бою рыхтуйся! *(Бярэ лыжку, падае другую Панасу і сядае побач з ім).*

(Падыходзяць **Аркадзь, Грышка, Галя, Ромусь**).

**Галя.** Ах, я не прывыкла есці юху. А вы, Раман?

**Ромусь.** Я... я таксама не прывык. Грышка, хадзі сядай сюды.

**Грышка.** Добра, добра, нічога.

**Ліда.** Першай зачаплю я. Падымаю на штык мянтуза.

**Панцялей.** Ну, як юха? Вам, чэрцям, не дагодзіш. Пецька, хадзі і ты бяры лыжку.

**Аркадзь.** Добрая, дзед, юха, смачная.

**Пецька** *(дастае з-за пазухі фотакартку).* Кончаць есці і я прыступлю. Што будзе, тое будзе.

**Панас.** Засталося нам, хлопцы, яшчэ на дзве гадзіны работы і мы скончым грэбці сена. А тады хай пагода, хай непагода...

**Аркадзь** (*задуманы, сам сабе*). А ўсё-ж такі мне многае незразумела.
**Ліда.** Што гэта ты бурчыш сам сабе?
**Аркадзь.** Я кажу, што мне ўсё-ж многае незразумела.
**Панцялей.** Пажывеш—раскусіш. У твае гады я яшчэ менш за цябе знаў.
**Аркадзь.** Пажывеш—раскусіш...
**Панцялей.** А цяпер, брат, не зявай, ды лыжкай юху хлябай, а то можа так стацца, што па дну лыжка будзе драцца.
**Ліда.** Усё. Я першая скончыла.
**Галя.** Я таксама ўжо не хачу.
**Ромусь.** І я... (*Усе пакідаюць есці*).
**Панцялей.** Не хочуць. Сказалі-б лепш, што ўжо няма чаго. А то— не хачу.
**Ліда.** Панас, хто хутчэй дабяжыць да таго дуба?
**Панас.** Ну і не ты-ж?
**Ліда.** А ну... (*Бягуць навыперадкі*).
**Пецька.** Вот табе і на. На гэты раз мусіць таксама не ўдасца. Ды і наогул яны нешта пачынаюць нікога не саромецца.
**Галя.** Ромусь, давайце пройдземся з вамі да ракі...
**Ромусь.** Да ракі? Гм... (*Хістаецца, паглядае на Грышку*).
**Грышка.** Моцны чалавек можа вытрымаць любы ўдар.
**Ромусь.** Давайце пройдземся... (*Ён і Галя ідуць*).
**Панцялей** (*да Пецькі*). Бяжы лыжкі памый.
**Пецька.** Ёсць. (*Бярэ пад казырок, бяжыць*).
**Аркадзь.** Вось, ты кажаш, вытрымаць удар. Вытрымаць не штука. А ты скажы... Вось мы працуем з табой, ніхто нас не ведае, ніхто аб нас не гаворыць.
**Грышка** (*злосна*). Чаму гэта не ведае? Мяне ўсе ведаюць. Я скора ў рэспубліцы ўсіх перамагу. Ты што, не верыш?
**Аркадзь.** Веру. Ну, няхай так. Дык ты здаровы як вол. А вот, скажам, я на лічыльніку сяджу. Якая аба мне гаворка?
**Грышка.** Да чаго гэта ты?
**Аркадзь.** А ўсё да таго. Вось скажы, дзе тыя дарогі ляжаць, каб чалавек па іх, як па кладках, ішоў да славы, да геройства.
**Грышка.** Не ведаю. Я аб гэтым не думаў. Памойму кожны сам пракладае сабе дарогу.
**Аркадзь.** Але-ж я не на той дарозе.

(**Панцялей** смяецца).

**Аркадзь.** Ты чаго, дзед, смяешся? (*Чуецца гром, бліскае маланка*).
**Панцялей.** Бо смешна. Ты зноў пра дарогі пачаў. Але-ж ты ісці не ўмееш. Хіба ты ідзеш? Ты-ж топчашся, як у ступе, а ўсё на адным месцы стаіш.

(Убягае **Пецька**).

**Пецька.** Хмара, хмара, на небе. Дождж скора!
**Грышка.** Дачакаліся, прападзе сухое сена. (*Падбягае да калёс*). Хлопцы, сюды-ы!

**Аркадзь**. А ўсё-ж мне многае не зразумела. (*Бярэ граблі, выходзіць*).

**Панцялей** (*бярэ граблі*). Гультаі, адпачынак ім трэба. Сена паглумяць.

(Убягаюць **Ліда** і **Панас**).

**Панас**. Ну, хлопцы, возьмемся з усіх сіл.
**Ліда**. Хутчэй, хутчэй!.. (*Хватаюць граблі, выходзяць*).

(Уваходзіць **Ромусь** з **Галяй**).

**Галя**. Ах, як я не люблю гэтага дажджу.
**Ромусь**. Нічога, нічога, зграбем па ўдарнаму. (*Хапае граблі, бяжыць*).

**Галя**. Так і трэба. (*Нагінаецца па граблі, а іх няма. Ромусь пабег*). А... дзе-ж мае граблі? Граблі дзе мае? Няма грабель... (*Гром, маланка*).

(*Канец карціны.*)

## КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ.

Бераг ракі. **Лазняк**. За сцэнай чуваць галасы. На сцэне нікога няма.

**Ліда**. Стырнавы, прыплаўляй паром.
**Панцялей**. Ведаем і без цябе, што трэба прыплаўляць.
**Галя**. Во, Панас ужо плыве.
**Ромусь**. Засякаю час.
**Ліда**. Дапраўды плыве... Панасік!
**Панас**. Го-го!
**Панцялей**. Ну, злазьце, пасажыры, прыехалі, а то вы тут і заначаваць гатовы.
**Галя**. Ах, хаця каб не ўпасці ў ваду.

(Уваходзіць **Ліда, Галя, Ромусь**).

**Ліда**. Сябры, пачакайма тут Панаса, пабачым, ці хутка ён рэчку пераплыве.
**Панцялей** (*за сцэнаю*). А я тымчасам люльку закуру.
**Ліда**. Па-на-ас!
**Панас**. Го-го...
**Ліда**. Не замарыўся?
**Панас**. Не-е...

(Уваходзяць **Аркадзь** і **Грышка**).

**Грышка**. У моцных, здаровых людзей і дружба моцная.
**Аркадзь**. Я не супроць гэтага тэзіса. Але, калі так, то па закону роўнавагі моцны чалавек павінен і ненавідзець, калі гэта яму давядзецца, мацней чым звычайны чалавек.
**Грышка**. Так, моцны чалавек, калі і мае злосць, то большую.

**Ліда**. Па-а-на-сік!
**Панас**. Го-го...
**Ліда**. Не стаміўся?
**Панас**. Не-е...
**Аркадзь** (*да Грышкі*). Ты сябе безумоўна адносіш да моцных людзей?
**Грышка**. Я імкнуся стаць такім і я буду ім.
**Аркадзь**. Тады... Вось у мяне будзе да цябе пытанне. Ты кажаш у моцных людзей пачуцці любові і нянавісці большыя, чым у слабых. А вот... Выбачай, я задам табе адно недарэчнае пытанне... Мы размаўляем адзін на адзін. Я ведаю аб тваёй спрэчцы з Панасам. Ён балюча закрануў твой гонар, парушыў усякую таварыскую этыку. Ты ўзненавідзеў яго як толькі можа ўзненавідзець моцны чалавек. А калі-б, скажам, гэты самы Панас... унь, бачыш ён плыве... калі-б ён раптам стаміўся і пачаў тапіцца... Ты толькі адкажы—кінуўся-б ці не ты яго ратаваць? А?
**Грышка**. Што? Ты па дзіўнаму правяраеш мяне.
**Аркадзь**. Будзем гаварыць адцягнена.
**Голас Панаса**. Су...
**Ліда**. Панас, што з табой? (*Спалохалася*).
**Грышка** (*уздрыгнуў*). Што там такое?
**Панас**. Сударга нагу... Таплю...
**Грышка**. Панасу дрэнна... (*Адразу кідаецца да берагу, на хаду скідаючы сарочку*).
**Аркадзь**. Што гэта? Навошта я гаварыў так? Я выратую Панаса?.. (*Выбягае*).
**Ліда**. Панасік, трымайся... Па-анасік.
**Галя**. Хутчэй, хутчэй ратуйце яго.
**Панцялей**. Божа, каб які хаця човен! Блазан, куды ты ў адзежы кідаешся.
**Аркадзь**. Я выратую яго. (*Чуцен пляск цела*).
**Грышка**. Пана-ас!
**Панцялей**. Грышка, на цябе надзея. (*Чуцен пляск цела*).
**Ліда**. Вой, яго ўжо няма.
**Галя**. Ліда, супакойся, супакойся, яго выратуюць.
**Ромусь**. Мы яго выратуем (*кідаецца ў ваду*).
**Ліда**. І навошта было яму плысці. Ён мне даўно казаў, што ў яго бываюць сударагі.
**Галя**. Супакойся. Усё скончыцца добра. Панас любіць паплаваць пасля работы.
**Панцялей** (*крычыць*). Жвавей, жвавей, чэрці. Па цячэнню больш бярыце!
**Галя**. Не хвалюйся. Во, глядзі, Грышка ўжо набліжаецца да яго.
**Панцялей**. За косы, за косы хапай.
**Галя**. Яны плывуць да берагу!
**Ліда**. Пана-асік!
**Панас**. Го-о...

**Галя.** Ён нават прытомны.
**Ліда.** Яны плывуць ніжэй гэтага месца. Бяжым туды.
**Галя.** Бяжым...

(Некаторы час на сцэне нікога няма, за сцэнай чувань галасы. Потым уваходзіць Панас, яго падтрымліваюць Галя, Ромусь, Ліда, ззаду Грышка, Панцялей).

**Панас.** Я так змарыўся. Дзякую вам, хлопцы.
**Аркадзь.** Цябе выратаваў Грышка. Будзь ўдзячны яму аднаму.
**Панас.** Ты не праў, Аркадзь, табе я ўдзячны столькі-ж, колькі і яму. Вы ўсе з аднолькавай гатоўнасцю прышлі мне на дапамогу. Хіба што я павінен прасіць у Грышкі прабачэння за свой ранейшы паступак у адносінах да яго. Ён дапраўды быў грубы і неэтычны, але...
**Грышка.** Прабачай, я цябе пераб'ю, Панас. Перш за ўсё я хочу дакончыць гутарку з Аркадзем. Ты мне задаў пытанне і сам выпадак задаў яго. Ты бачыш, што я так, як і ты, працёг руку дапамогі Панасу. Але ты не думай, што гэтым самым я або апровергнуў свой тэзіс аб моцных людзях, або выявілася, што я не моцны. Гэта не так. Я забыўся табе дабавіць, што ў моцных сапраўдных людзей заўсёды моцнае пачуццё справядлівасці. А я адчуваў і адчуваю сваю віну перад Панасам. Я прашу прабачэння ў цябе, Панас, за сваю ганарлівасць і ўпартасць. Сена мы дапраўды не прыбралі-б, калі-б не злучылі сваіх брыгад. І таму...

(Прыбег **Пецька**).

**Пецька.** Грышка! Дзе тут Грышка?
**Грышка.** Я тут. У чым справа?
**Пецька.** Табе тэлефанаграма. Толькі што перадалі. Ты павінен зараз-жа ісці на станцыю, каб паспець на шасцігадзінны поезд. Там цябе ўжо будуць чакаць. Ты паедзеш на ўсебеларускае фізкультурнае спаборніцтва.
**Грышка.** Што? Дзе тэлефанаграма?
**Пецька.** Вось. (*Падае яму паперку*).
**Грышка** (*чытае, паўза*). Хлопцы! Дзяўчаты! Якая радасць. Я зараз-жа еду.
**Панцялей.** Хаця-б штаны на табе прасохлі.
**Грышка.** Я еду. Пойдзем, сябры.
**Ліда.** Пойдзем.
**Галя** (*грэбліва*). Фізкультура... (*Усе ідуць*).
**Грышка.** Што гэта я меўся некаму сказаць? (*Успамінае*). Ага! Ромусь, ідзі сюды.
**Ромусь** (*падыходзіць*). Я слухаю цябе.
**Грышка.** Я еду... Ромусь... Я бачу, ты кахаеш Галю і яна кахае цябе, але ты, ведаючы аб маей любові да яе, стрымліваеш сябе. Ты не хочаш абразіць мяне. Дык вот... ты гэта дарэмна. Праўда, мне балюча, але нічога, абыйдзецца. Тым больш, што

яна ва мне не любіць маіх шырокіх плячэй, якімі я ганаруся. Вось што я хацеў табе сказаць...

**Ромусь.** Дай я пацісну табе руку... мой друг. *(Паціскаюць рукі).*

**Грышка.** Пайшлі... *(Выходзяць. Ад ракі ўваходзіць мокры ўвесь Аркадзь).*

**Аркадзь** (*у задуме стаіць*). Дарогі... Дарогі... Я стаю на шырокім полі. І перада мною...

*Заслона.*

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ.

Вяселле ў хаце Панаса. Сцэна ўяўляе сабою светлую прасторную хату, пасярод хаты стаіць стол, устаўлены пачастункамі. За сталом сядзяць на ганаровым месцы **дзед Панцялей, Панас з Лідай,** потым **Ромусь з Галяй, Грышка, Аркадзь, дзяўчаты, хлапцы.** Ходзіць каля гасцей **маці Панаса.**

**Усе** (*пяюць*)

Як весела жыць на свеце,
Жыць, любіць, спяваць,
Травы калыша вецер,
Песні спявае трава.

**Панцялей.** Малання, ты не паднось мне гэтага агню. У тваёй пярцоўцы мусіць сто градусаў моцы.

**Ромусь.** Вып'ем за дзеда Панцялея!

**Малання.** Не бойся, стары, пі. Ты яшчэ дуб, якога зваліць цяжка.

**Ліда.** За Панцялея! *(Усе падымаюць чаркі).*

**Панас.** За нашага ўсезнаючага дзеда Панцялея.

**Панцялей.** Піце за мяне. А я п'ю за маладых... За маладых і за слаўную вашу маладосць... Цаны ёй няма. *(Усе выпіваюць).*

**Грышка** *(Аркадзю)*. Да... Дык я бягу па дарожцы, а перада мною яшчэ адзін. Доўгі такі. І да фініша яшчэ дзвесце метраў засталося.

**Малання.** Ежце, піце, госцейкі дарагія.

**Галя.** Ах, я не магу піць такую моцную гарэлку. У мяне слабое сэрца.

**Грышка.** Сэрца?

**Панас.** Гэта табе так здаецца, Галя. Пі.

**Грышка.** Да... Метраў дзвесце. Ну, то я націснуў... Кругі ў вачах пайшлі. Вытрымка, думаю сабе, вытрымка па Мюлеру галоўнае.

**Ромусь.** Мы скора паедзем з табою, Галя.

**Галя.** Я так рада.

**Ромусь.** Я скажу прафесару. Вось вам, Людвіг Пятровіч, крысталік лімоннай кіслаты, здабытай з махоркі. У маёй махорцы яе ёсць 12 процантаў. Гэта раз.

**Панас** *(да Ліды)*. Я хачу, каб хто-небудзь з іх крыкнуў „горка“.

**Ромусь.** А па-другое, дазвольце прадставіць вам маю спадарожніцу жыцця.

**Галя.** Я так рада.

**Панцялей** *(моўчкі паглядае на моладзь).*

**Ліда.** Я таксама не супраць.

**Грышка.** І мы з ім плячо ў плячо прыбеглі і ленту фініша разам абарвалі.

**Панас** *(да Ромуся).* Ромусь, крыкні „горка“.

**Ромусь.** Няхай нашы маладыя пацалуюцца. Горка!

**Усе.** Горка, горка! *(Маўчыць адзін Аркадзь).*

**Панас.** Прыходзіцца падпарадкавацца масе *(цалуецца з Лідай).*

**Панцялей.** От гляджу я на вас, на моладзь.. А яшчэ чарчына галаву ўскружыла... то проста жаль мне грудзі сціскае, калі сваю маладосць успомню. Цалуй, Панасік, дзяўчыну. Слаўная яна. Цалуй на віду ва ўсіх. Няма чаго саромецца. Пачакай, Малання, не налівай. Я цяпер сама ў норме. От я хочу ім, блазанам, сказаць слова пра нашу маладосць. Ты чаго гэта, Аркадзь, апусціў галаву, падымі яе, пазірай мне, старому, у вочы. Ты вот усё бядуеш: стаю я на шырокім полі і перада мною тысяча дарог Ха-ха... На светлым полі стаіш і дарогі перад табой, а ты скардзішся, лянуешся ісці. Вот таму я і сваю маладосць успомніў і горка мне стала. Перада мною ў твае гады не вілася ні адна сцежка і стаяў я, як і другія, сярод балота ў глухарэчы, а над галавой была цёмная ноч. Таўкліся людзі ў пацёмках. Гінуў народ у твані. Рэдкі чалавек трапляў на сцежку. Вот чаго мне горка. Шкада мне маёй пражытай маладосці. А цяпер от гляджу я на вас...

**Аркадзь.** Дзед. То я-ж шукаю не звычайнай сцежкі, я шукаю дарогі да славы.

**Панцялей** *(горача).* Славы? Вось яна слава... Вось... *(паказвае рукой на Ромуся, Грышку, Галю, Ліду).* Гэта яны і ёсць наша слава. Усе дарогі да яе вядуць. А ты шукаеш таго, што ў руках сваіх трымаеш. Вот.

**Малання.** Ежце, піце, дарагія закусвайце.

**Галя.** Ах, якія смачныя вашы варэнічкі!

**Панцялей.** А ты кажаш славы. *(Пауза).* Ну, хто ўцяміў, хто не ўцяміў, давайце яшчэ па чарчыне хопім!

**Ромусь.** П'ем яшчэ раз за дзеда Панцялея!

**Панцялей.** Хопім, каб дома не журыліся.

**Панас.** Падымаем другі тост за дзеда Панцялея!

**Панцялей.** От вы можаце сабе смяяцца, а я адно скажу: з маладымі я і сам як-бы малады раблюся.

**Ліда.** Другая маладосць, дзеду, а?

**Панцялей** Можа і другая.

**Панас.** Я прапаную гэты тост падняць за другую маладосць нашага Панцялея.

(Усе падымаюць чаркі. Уваходзіць **дзяўчына з суседняга калгаса!**

**Дзяўчына з суседняга калгаса.** Добры дзень... Ох, выбачайце, я здаецца не ў час трапіла

**Панас.** Добры дзень. Не, чаму-ж не ў час.

**Дзяўчына.** Я рахункавод з суседняга калгаса. Райза накіравала мяне навесці парадак у вашай канцылярыі. У вас, гавораць, сядзіць там нейкая шляпа, Аркадзь Новак, здаецца. То я прышла.

(Аркадзь прыніжана сагнуўся).

**Грышка.** Вольга! Ты гэта, ці не ты! Я гляджу на цябе і не веру сваім вачам. (*Вылазіць з-за стала*).

**Воля.** І ты тут, Грышка?

**Грышка.** Як я рад бачыць цябе. Хадзі сюды, Волечка! Таварышы, магу прадставіць вам гэту дзяўчыну. Я пазнаёміўся з ёю на усебеларускім стадыёне. Рэкардсменка на бегу Вольга Даўгунец. (*Да яе*). А аб тым, што ты рахункавод калгаса, я даведаўся толькі цяпер.

**Панас.** Вельмі рады, просім сядаць.

**Воля.** Не, не, ведаеце, я па справе.

**Панцялей.** Ну, галубка, трапіла на вяселле да нашага брыгадзіра, то сядай.

**Ромусь.** Тым больш, што Аркадзь, здаецца, не ў форме.

**Галя** (*ціха*). Падумаеш, рэкардсменка, што за цікавасць...

**Воля** (*да Панаса*). А дазвольце спытаць, як ваша прозвішча?

**Панас.** Міранос.

**Воля.** Міранос? Дык гэта пра вас сёння цэлы артыкул у газеце змясцілі? І з партрэтам нават. Во! (*Вымае газету*). Пра вас і пра адну дзяўчыну, даглядчыцу свіней, што тону на апарос дала, пра Ліду Лабудзеву.

**Панас.** Артыкул? Дзе?

**Ромусь.** І пра Ліду?

**Воля.** Вось, на самым відным месцы. Знатныя людзі.

**Панцялей.** Пра жаніха, значыць, і пра нявесту?

**Грышка** (*да Волі*). Ну, то бяры ў рукі чарку.

**Ліда.** Якая радасць! Панасік, як я рада!

**Грышка.** Падымем жа тост за другую маладосць дзеда Панцялея і за знатных жаніха і нявесту!..

**Воля** (*да Ліды*). Дык гэта вы Лабудзева Ліда?

**Ліда.** Я... Я так рада!

(Усе падымаюць чаркі, чокаюцца).

**Панцялей.** За тваё здароўе, унуча!

(Усе выпіваюць).

**Маланння.** Закусвайце, закусвайце, галубочкі, не саромцеся.

**Пецька** (*выглядае ў адчыненае акно з вуліцы*). Усё прапала. Яны жэняцца. Вось табе і прамое выкрыццё. І чаму я яго раней не ўзяў за зябры. Эх... А як зроблена картка, а? Эх...

**Панас.** Пецька... Гэта ты? Ідзі сюды, Пецька...

**Пецька** (*схаваўся за вушак*).

**Панас.** Стой! (*Вылазіць з-за стала*). У мяне да цябе справа ёсць.

**Пецька**. Прапала маё прамое выкрыццё.

**Панас** *(падышоў)*. Слухай Пецька, Ромусь расказваў мне, што ў цябе ёсць здымак, на якім мы з Лідай цалуемся. Дай яго мне, а?

**Пецька**. Здымак?.. (*Думае*). На! (*Падае картку*). Усёроўна ўсё прапала.

**Панас**. Як добра мы тут выйшлі. Дзякуй табе, Пецька, вялікае дзякуй. *(Ідзе да стала)*.

**Пецька**. Эх-хе-хе... Вось табе і Масква і Кіеў...

**Апанас** *(каля стала ўспомніў)*. Ага, Пецька, стой. Я ўспомніў. Ты здаецца хацеў вымусіць мяне аддаць табе радыёапарат. То ты дзівак. Ён мне і не патрэбен. Сказаў-бы прама, я-б табе і аддаў. Прыбяжыш заўтра, забярэш яго сабе.

**Пецька** *(радасна ўсхватваецца)*. Што? Аддасі апарат? *(Ускаквае ў акно, перакульваецца цераз галаву і знікае ў дзвярах.*

**Аркадзь** (*устае з чаркаю ў руцэ*). Таварышы... Сябры... Я здаецца дапраўды памыляўся. *(Хвалюецца)*. Мне хочацца... Дазвольце мне агаласіць трэці тост у гонар мудрага дзеда Панцялея.

(Усе ўстаюць з чаркамі ў руках).

*Заслона*

в. Міхалкі, 1937 г.

*П. Панчанка*

## НА ПАШЫ

На пашы рыжыя шмялі
Загаспадарылі між кветак.
З маленькіх гладышоў пілі
Пахучы мёд—ласунак лета.

Раздвоен сонца жоўты круг—
У небе вадкім ён і ў рэчцы
Ператварае ў рыб ікру
І запрашае ў хвалях грэцца.

Лянную плынь блакітных вод
Нагрэла сонца да астатку...
Дзе вольхі сталі ў карагод,
Лёг адпачыць калгасны статак.

Прыкрыў цянёк сваім крылом
Кароў паважных, цёлак тлустых.
— Вось прыпякло, дык прыпякло!—
Сказаў пастух і сеў пад кустам.

Амаль што дзед. Сняжок віска
Ад спёкі летняй не растане,
А вочы хітра апляла
Тканіна зморшчынаў густая.

Ён дудку выразаў з лазы,
Запеў пра знойдзенае шчасце:
„Як вечар зерняты расы
Пасее, звернемся мы з пасты.

Даярка будзе сустракаць
Нас ля варот з вядром бляшаным...
За цёплы водар малака—
Павага мне і вам пашана".

*Андрэй Ушакоў*

## ПРЫСЯГА

Мы гэтыя кветкі збіралі ворагу наперакор
Перад яго акопамі, на схіле высокіх гор.

На нас кулямёты шчэрылі зеў агнявых зубоў,
Мацнейшай за смерць і раны была да цябе любоў.

Вялікая, непаўторная, вогненная Доларэс!
Перад табой нікнуць травы, голаў схіляе лес.

Вада спыняецца ў рэках, у сонечным небе гром,
Агонь пакрываецца лёдам і камень гарыць агнём.

Як волат праходзіш па франту і заклік твой агнявы
Настрой байцоў уздымае, мёртвае робіць жывым.

Кожнае слова прамовы, кожны ўзмах рукі
Мы назаўсёды запомнім, як генія помняць вякі.

Ты многа перацярпела, працуючы на паноў,
Ты знаеш цану свабоды і ў жылах тваіх не кроў,—

А дынамітная сіла, нянавісці ураган!
Нам вобраз твой гераічны—збавенне ад цяжкіх ран.

Яго мы ў палаючых сэрцах носім, як ідэал
І прысягаем на зброі—быць непрыступней скал,

Змагацца за сцяг рэспублікі да апошняй кроплі крыві,
І ты нас на добрую справу, як маці благаславі.

Галовы буйныя зложым, ці зажывём людзьмі.
Як сымбаль бесстрашша і веры наш просты букет прымі.

Мы гэтыя кветкі збіралі ворагу наперакор
Перад яго акопамі на схіле высокіх гор.

На нас кулямёты шчэрылі зеў агнявых зубоў,—
Мацнейшай за смерць і раны была да цябе любоў.

Масква. 1936 г.

*Алесь Жаўрук*

## ЛІВЕНЬ

За хмары сонца ўраз зайшло,
І пад вакном крывыя сосны
Прыціхлі, марачы аб роснай
Начы.
        І мухі білі ў шкло.
Піхнуў вакно—
                        усёроўна млосна,
І нечым дыхаць больш было.
І неабсяжныя палі
Ад смагі ў мораку плылі.

І вось ў наступную хвіліну—
Віхор—
        адкуль ён незнарок?—
Страшэнны пыл ляціць ў даліну,
Маланка асляпіла зрок,
Вясёлы перун грымнуў,
                        лінуў
Пявучы лівень малады,
Як мора залатой вады
На дах,
        на хвоі,
                на галіны.

Ён ў тры хвіліны існавання
Шпакоўні, дуплы—
                усё дазвання
Дамы птушыныя заліў,
Ён шчодра блёклы дол паіў,
Ён чараду абдаў на стане,
Ён людзям моцна ў дзверы біў.
Я зразумеў: ён клікаў нас,
І ты сказала: „ў добры час!"

Навотлю затхлую фіранку,
Усе вокны насцеж, чалавек!..
Мы вышлі з дому.
Скрозь ад ганка
Па раўчаках, бы стромах рэк,
Ішлі мы славячы маланку
І дождж,
Што гоніць сон з павек,
Што жывіць дол,
лагі і травы...

А ён усё рос,
Усё прыбываў,
Ён, як жывы, булькочыў жвава,
Смяяўся,
фыркаў
і спяваў,
У тры ручаіны бег па твару,
Імкнуўся спрытна за каўнер...
І мы ішлі пад шчодрай хмарай
У неабсяжныя абшары,
Прывольна дышучы цяпер,
Працягшы сквапныя далоні
Насустрач залатой вадзе.
... У палёх мы стрэлі двух людзей
На вараных гарачых конях:
То старшыня быў, наш Арцём,
І з ім калгасны аграном—
Абодвы у плашчах набракшых.
Брат закрычаў:
„Падсохнуць дзе-б?
Ай, малайчына, дождджык!
як-жа—
Цяпер на славу будзе хлеб!“

Як дождж тым часам змоўк,
праз хмары
Прабіўся сонечны прамень,
І над зямлёю звонкі дзень
Ізноў спяваў і гаспадарыў.

Размыўшы ў момант каляіны,
Ператвараючы двары
У акіяны і мары,
Яшчэ шумелі ручаіны
К Дняпру з высокае гары.
А на калу, каля паркана,
Прамокшы верабей стары

Ужо абтрэсваўся старанна
Ї чысціў дзюбаю крыло,
Ї клікаў маладых ды ранніх
З-пад стрэх
на сонца,
на святло.
Здаецца, кожны з нас выростаў
У гэты звонкі час,
калі
Раслі лісты,
аўсы раслі...
Ї нам здалася праўда простай,
Што ў свеце
нашага сяброўства
Ніякім ліўням не разліць.

Рагачоў, 1937 г.

# КАЗКА АБ ДРЫВАСЕКУ

Жыў быў дрывасек.

Хадзіў ён у лес, сек дрэвы або збіраў ламачча і галлё, насіў на базар, прадаваў і гэтым самым утрымліваў сваю старую матку. Неяк раз, пайшоўшы ў лес па ламачча, ён знайшоў падсвечнік. Узяў ён яго і пайшоў дадому.

— Што-ж ты, сынок, не прынёс сёння ламачча?—пытаецца ў яго матка.—Як-жа мы сёння пражывем? Гэты-ж падсвечнік не пракорміць нас?

— Ах, матуля!—адказвае сын.—Мусіць так ужо было вызначана нам лёсам, каб я прынёс гэты падсвечнік. Няма аб чым больш і гаварыць.

Пашоў ён, купіў свечку і кажа:

— Дай паспрабую, што гэта за падсвечнік такі?

Узяў і прыляпіў свечку да падсвечніка.

Толькі ён зрабіў гэта, як адкуль ні вазьміся—у хаце з'явілася цэлая арда чарнамазых эфіопаў. З'явіліся яны і крычаць:

— Ну, што прапануеш нам рабіць? Зруйнаваць свет ці пабудаваць?

— Ні тое, ні гэта,—адказаў ім дрывасек і хутка адарваў свечку. Як адарваў ён свечку, эфіопы адным махам і зніклі.

Потым ён прыляпіў свечку ў іншым месцы да падсвечніка. І толькі ён гэта зрабіў, як пакой напоўнілі гурыі і пэры, ударылі ў бубны, і пусціліся ў скокі.

Зноў адарваў дрывасек свечку,—гурыі і пэры разам зніклі.

На гэты раз ён прыляпіў свечку трохі падалей—і раптам такі раскрыўся перад ім багаты стол, што ў яго аж вочы разбегліся.

Зноў адарваў ён свечку,—абрус знік.

Цяпер ён ужо ведаў усе сакрэты гэтага падсвечніка. На другі дзень ён зноў прыляпіў свечку і ў хаце з'явіліся чорнамазыя эфіопы. Крычаць:

— Ну, што прапануеш нам рабіць? Зруйнаваць свет ці пабудаваць?

— Ні тое, ні гэта,—адказаў дрывасек.—Я хачу, каб вы, пачынаючы ад маёй хаціны і канчаючы сценамі царскага палаца, пабудавалі для мяне такія палацы, каб цень ад іх клаўся на царскі палац.

Ну, тым, вядома, нічога не каштавала зрабіць гэта. Папрацавалі яны сорак начэй і адбудавалі дрывасеку цудоўныя палацы.

Устаў на другі дзень цар. Глядзіць—што-ж гэта? Няма ўжо хацінкі дрывасека, усё месца занята палацамі, ды такімі высокімі, што яны кідаюць цень на яго царскі палац.

— Як-жа гэта так?—закрычаў цар.—Дрывасек-жа амаль жабрак, адкуль-жа ў яго знайшліся сродкі, каб адбудаваць такія палацы?

А дрывасек зноў прыляпіў свечку, паклікаў эфіопаў. З'явіліся яны, крычаць:

— Ну, што нам рабіць—руйнаваць ці будаваць?

— Ні тое, ні гэта,—кажа дрывасек,—а паклікаў я вас для таго, каб вы размалявалі гэтыя палацы і абсталявалі ўсім, чым належыць.

Прапрацавалі эфіопы яшчэ адну ноч, размалявалі і абсталявалі, як належыць быць, і пашлі.

На другі дзень увечары дрывасек прыляпіў свечку, выклікаў гурый і пэры. Уляцелі яны, бачаць—кругом усё блішчыць і зіхаціць.

Тады дрывасек зноў прыляпіў свечку, паклікаў эфіопаў.

З'явіліся яны, крычаць:

— Ну, што рабіць? Руйнаваць ці будаваць?

— Ні тое, ні гэта,—кажа ім дрывасек.—Я хачу, каб вы пайшлі ў царскі палац і спячую царэўну, як яна ёсць, з яе ложкам, перанеслі сюды.

Ну, эфіопам, вядома, нецяжка гэта. Пайшлі яны, падхапілі ложак з спячай царэўнай і так вынеслі з палаца, што ніхто нават не заўважыў.

Калі царэўну прынеслі ў палацы дрывасека, ён прыляпіў свечку. З'явіўся багаты стол, застаўлены ўсякай ежай. Тады гурыі і пэры пачалі біць у бубны, скакаць і весяліцца. Гэты шум разбудзіў царэўну.

Прачнулася яна, азіраецца, нічога не разумее. Праціраe вочы, думае—сон гэта ці ява?

Падбеглі да яе гурыі і пэры, дапамаглі ёй апрануцца і пасадзілі за стол.

Сядзіць яна за сталом і ніяк не можа апамятацца.

— Божухна,—думае яна,—што гэта са мной будзе?..

Удосталь наеўшыся, напіўшыся і павесяліўшыся, гурыі і пэры зніклі. Засталіся дрывасек і царэўна адны. Збянтэжаная дзяўчына паднялася, пашла і лягла на свой ложак.

Дрывасек таксама пашоў і лёг з ёй разам.

Што было рабіць гаротнай дзяўчыне? Не было каля яе паблізу ні бацькоў, ні друга, хто-б яе мог абараніць.

Урэшце яна гаворыць дрывасеку:

— Малю цябе, што было, тое прайшло, зараз дай загад даставіць мяне зноў да сваіх бацькоў, а то калі даведаецца цар,—не здабраваць табе.

Устаў дрывасек, прыляпіў свечку, паклікаў эфіопаў.

Прыбеглі, крычаць:

— Ну, што загадаеш рабіць—руйнаваць свет ці будаваць?

— Ні тое, ні гэта,—кажа дрывасек.—А хачу я. каб вы, як прынеслі царэўну сюды, так і даставілі яе назад да яе бацькоў.

Тыя падхапілі ложак з царэўнай і перанеслі яго ў царскі палац.

Так паўтарылася на працягу некалькіх начэй. І вось аднаго разу цар, зірнуўшы на сваю дачку, ахнуў: нібы гэта і не яго дачка—пабялелая такая, ну, як быццам яна цяжарная!

Паклікаў цар сваю жонку, кажа:

— Паслухай, жонка, што-ж гэта такое?

А тая:

— І я,—кажа,—не магу ўзяць у толк!

— Ідзі-ж да яе,—кажа цар,—распытай, выведай, што гэта за напасць такая?

Устала царыца, пашла да дачкі і кажа:

— Што-ж гэта такое, дачушка? Ці ты сорам усякі страціла? Ці бацькі з маткай баяцца перастала? Ці забылася, што ты царская дачка?

— Ах, матуля,—адказвае царэўна,—таго, што са мной здарылася, словамі не перадаць. Прыходзь сёння ўначы ў мой пакой, кладзіся замест мяне ў маю пасцель, тады ўсё ўбачыш сваімі вачамі і паверыш.

Так і зрабіла матка. Пашла ўначы ў пакой дачкі, лягла замест яе ў пасцель, а дачка пайшла спаць у пакой маткі.

Упоўначы прышлі эфіопы нічога не падазраючы, паднялі ложак з спячай царыцай і перанеслі ў палацы дрывасека.

Прынеслі, паставілі ложак, самі пашлі.

Прыляпіў дрывасек свечку, паклікаў гурый і пэры. Прыбеглі яны з шумам, спевамі, скокамі. Раскрыўся стол з усякай ежай, і пачаўся шумны пір.

Шум і крык прабудзілі царыцу.

Прачнулася яна, азіраецца, вачам сваім не верыць.

— Гора мне!—сказала яна сама сабе.—Відаць і дачку маю так вось пераносілі сюды, што здарылася з ёю такая бяда.

Села яна і пачала глядзець.

Паеўшы, папіўшы і павесяліўшыся ўдосталь, гурыі і пэры пашлі. Засталіся дрывасек і царыца адны.

— Паслухай,—кажа царыца,—гэта ты такім спосабам дастаўляў сюды па начах маю дачку?

— Так, мілая матуля,—адказвае той.—Я гэта рабіў, прабач мне.

— Чаму-ж ты не прышоў да нас і не пасватаўся за яе чэсць чэсцю, як гэта робіцца ў людзей?

— Мілая матуля,—кажа дрывасек,—калі-б я прышоў свата́цца,—не аддаў-бы цар сваю дачку за мяне—за звычайнага дрывасека. А зараз, пасля таго, што здарылася, ён з радасцю выдасць яе за мяне.

— Я з свайго боку згодна,—кажа царыца.—Хай бог пашле вам шчасця. Застаецца спытаць згоды ў цара. А зараз загадай даставіць мяне назад у палац.

Паклікаў дрывасек эфіопаў. Падхапілі яны ложак з царыцай, перанеслі.

Раніцай паклікаў цар сваю жонку і пытае:

— Ну, як, даведалася ты, што гэта з нашай дачкой?

— Ах,—адказвае жонка,—каб ворагу майму не бачыць таго, што мне давялося бачыць! Але гэтага словамі не перадасі, ды і не паверыш ты. Трэба, каб ты сваімі вачамі ўбачыў усё гэта.

— Як-жа гэта зрабіць?—пытаецца цар.

— А вось як,—адказвае жонка.—Прыходзь уначы у спальню нашай дачкі і ляж замест яе ў ложак. Тады ўсё і будзеш ведаць.

Так цар і зрабіў: прышоў уначы ў пакой дачкі, лёг замест яе ў пасцель, заснуў. У поўнач з'явіліся эфіопы, падхапілі ложак, перанеслі ў палацы дрывасека.

З'явіліся і гурыі са сваімі бубнамі. Раскрыўся стол, застаўлены ўсякай ежай, пачаўся шумны пір.

Прачнуўся цар, азіраецца, вачам сваім не верыць. Сеў ён, пачаў глядзець.

Паеўшы, папіўшы і павесяліўшыся ўдосталь, гурыі і пэры зніклі.

Дрывасек і цар засталіся адны.

Цар і кажа:

— Паслухай, гэта ты выкрадаў маю дачку кожную ноч?

І з гэтымі словамі схапіў меч і кінуўся на дрывасека.

Той паспеў прыляпіць свечку і паклікаць эфіопаў. З'явіліся эфіопы, размахваючы голымі шаблямі, крычаць:

— Ну, што загадаеш?

— Абараняйце мяне!—кажа дрывасек.

Абступілі эфіопы цара, крычаць:

— Ну, аддаеш дачку за яго ці хочаш, каб мы адсеклі табе галаву?

Бачыць цар—рабіць нечага.

— Эх,—сказаў ён,—аддаю, аддаю. Што-ж мне яшчэ застаецца. Толькі дастаўце мяне назад у мой палац.

Падхапілі эфіопы ложак, аднеслі цара ў палац. А царыца не вытрымала, прыбегла да цара ледзь пачало развідневацца, на досвітку, пытаецца:

— Ну раскажы, што ты бачыў у гэту ноч?

— Ох, жонка,—кажа цар,—лепш і не пытайся! Што было, таго не паправіць. Прышлося згадзіцца аддаць нашу дачку за таго дрывасека.

— Ну, і добра,—заўважыла жонка,—не трэба бедаваць.

Запрасілі яны дрывасека да сябе ў палац, запрасілі таксама сваякоў яго і знаёмых, засваталі царэўну за дрывасека.

Сем дзён, сем начэй вяселле гулялі.

Перавёз дрывасек царэўну да сябе і зажылі яны.

Праз некалькі дзён пашла царэўна наведаць сваіх бацькоў.

Цар і кажа ёй:

— Ці не даведалася ты, дачка, якім чынам так разбагацеў твой муж? Ён-жа быў амаль што жабрак.

— Даведалася, бацька. Усё багацце майго мужа ад падсвечніка, якім ён уладае.

— А ці можаш ты,—кажа цар,—даставіць мне гэты падсвечнік?
— Магу,—адказвае дачка.
Пашла, узяла падсвечнік і прынесла бацьку.
Узяў цар падсвечнік і кажа дачцы:
— Не ідзі больш да яго, аставайся тут. Вось, цяпер, дык я яму пакажу!
Узяў ён свечку і прыляпіў да падсвечніка.
І раптам з'явіліся гуры, усе з мечамі і шаблямі накінуліся на цара, крычаць:
— Ну, цар, развітайся з жыццём! Мы па тваю душу з'явіліся.
— Добра,—сказаў цар,—толькі дайце трохі пачакаць, а там рабіце, як ведаеце.
І хуценька прыляпіў яшчэ раз свечку.
Толькі прыляпіў ён, як з шумам з'явіліся эфіопы, размахваюць мечамі і шаблямі, страшныя такія, што і ворагу лепш не бачыць іх. Абступілі цара, крычаць:
— Ну, цар, зараз мы цябе пасячэм на кускі!
— Добра,—сказаў цар—дайце толькі пачакаць, хочу бачыць перад смерцю аднаго чалавека.
І ён хуценька паслаў слуг па дрывасека.
Як толькі ўвайшоў дрывасек, усе абступілі яго, крычаць:
— О, гаспадар, скажы, што нам рабіць? Зруйнаваць свет ці пабудаваць?
— Ні тое, ні гэта,—сказаў дрывасек і сарваў свечку з падсвечніка. Тут усе—эфіопы і гуры зніклі.
Тады цар папрасіў дрывасека, каб той сваёй рукой прыляпіў свечку: хацеў ён убачыць, што цяпер будзе.
Дрывасек прыляпіў свечку—зараз-жа з'явіліся гуры і пэры з бубнамі і скокамі.
Зноў прыляпіў ён—раскрыўся стол з усякай ежай. Яшчэ раз прыляпіў—з'явіліся эфіопы без зброі і пасталі, чакаючы загаду.
— Эх,—сказаў тады цар,—я даў маху! Зараз ужо ты мне зяць, навекі і непарушна, мой пераемнік і наследнік.
Устаў ён з трона і пасадзіў на сваё месца дрывасека.
Яны дасягнулі сваёй мэты, дасягніце і вы сваёй!
З неба зваліліся тры яблыкі: адзін для расказчыка, другі для слухача, трэці для разумеючага.

---

## ГАСПАДАР І РАБОТНІК

(*Казка*)

Жыў-быў адзін багач і быў у яго ў работніках бядняк. Аднаго разу гаспадар паклікаў работніка і кажа:
— Паслухай, асядлай двух коняй, аднаго для сябе, другога для мяне, мы паедзем у вялікую дарогу.
Асядлаў работнік коняй, прывязалі яны да сёдлаў харчоў, загатоўленых на дарогу, і паехалі.

Доўга ехалі яны. Днём былі ў дарозе, нанач спыняліся ў каравансараях або ў сёлах і, пераначаваўшы, ехалі далей.

А аднаго разу здарылася так, што ноч застала іх у полі. Ні табе горада паблізу, ні каравансарая, ні вёскі. Рабіць нечага, прыдзецца начаваць у полі.

— Паслухай,—кажа гаспадар работніку,— ідзі назбірай ламачча і распалі касцёр. Будзем начаваць тут.

Работнік назбіраў ламачча, распаліў касцёр. Яны адагрэліся, паелі, пагутарылі аб тым-сім. А ноч усё не праходзіць.

— Вось што,—кажа гаспадар,—месца тут глухое, калі не будзем па чарзе пільнаваць, абавязкова падкрадуцца злодзеі, украдуць коняй. Ты папільнуй некаторы час, а я пасплю трохі. А потым я папільную, а ты паспіш. І так будзем чаргавацца, пакуль не развіднее.

І ён улёгся і зараз-жа заснуў.

Застаўся работнік не спаць адзін. Няма з кім словам перакінуцца, пагутарыць, сон разагнаць. Стаіць, глядзіць на сплючага барына, чакае не дачакаецца, калі той прачнецца, каб самому легчы і хоць гадзінку-б паспаць.

Доўга спаў гаспадар, урэшце прачнуўся, кліча работніка:

— Эй, не спіш?

— Не гаспадар, не сплю,—адказвае работнік.

— А чым ты заняты?

— А вось думаю ўсё.

— Аб чым-жа ты думаеш?

— Думаю, хто зрабіў вось гэтыя калючкі такімі? Які павінен быць інструмант у таго, хто іх рабіў, каб абстругаць гэтыя шыпы такімі вострымі. Іншыя простыя, як стрэлы, а іншыя сагнутыя. Вось наконт гэтых калючак і таго, хто іх рабіў, я і думаю.

— Так, так,—заўважыў гаспадар,—добра робіш. Думай, браце, думай, каб не заснуць, а я яшчэ трохі пасплю.

І, павярнуўшыся на другі бок, захроп.

А работнік, бачучы, што рабіць нечага, замаўчаў і каб разагнаць сон, устаў і пачаў хадзіць узад і ўперад, напяваць песеньку, пагладжваць коняй.

Так прайшло яшчэ дзве гадзіны. Урэшце гаспадар прачнуўся.

— Ну, што,—кажа,— думаеш усё.

— Думаю,—адказвае работнік.

— Аб чым-жа ты думаеш?

— Ды вось, наконт гарбуза думаю. Хто яго зрабіў і як? Паглядзіш звонку—ніводнай дзірачкі, і не зразумець—як жа ўклалі ў яго столькі зерняў? Думаеш, думаеш і ніяк не зразумець.

— Так, дарагі, так, думай, думай добра, каб не заснуць, а я пасплю вось, потым устану, змяню цябе, ты паспіш.

І гаспадар зноў заснуў.

Не сцярпеў больш работнік. Проста сілы больш не стала змагацца з сном. Як убачыў ён, што пан заснуў,—зараз-жа лёг і сам захроп.

Сонца было ўжо высока, калі ён прачнуўся. Ускочыў, працёр вочы, аглядаецца, бачыць няма коняй: адвязалі іх і павялі. А гаспадар яшчэ спіць. Што рабіць? Задумаўся работнік, сеў на сядло, падпёр твар рукамі, зажурыўся. Хутка прачнуўся і гаспадар.

— Ну што,—пытае ён, пацягваючыся,—чым ты заняты?

— Ды вось думаю ўсё,—адказвае работнік.

— Аб чым-жа ты думаеш?—кажа гаспадар, не заўважаючы, што коняй няма.

— Гаспадар,—адказвае работнік,—коняй укралі, а сёдлы пакінулі. Вось я і думаю, каму з нас прыдзецца цягнуць іх на сабе—мне ці вам?

Запісана ў 1934 г. з слоў Сімонэ Авецісяна 65 год, непісьменны, Катайскага раёна, с. Туціна.

---

## КАЗКА ПРА ХІТРАГА ПАСТУХА ЧЫЛО

Жыў у адным сяле багач. І была ў яго адна адзіная дачка, надзвычайная красуня.

Калі яна вырасла і настаў час выдаць яе замуж, багач загадаў паведаміць па ўсёй акрузе, што, так і так, дачка ў мяне на выданні і хачу я выдаць яе замуж. Толькі выдам я яе за таго, хто выдумае такую небыліцу, што я скажу: „гэта хлусня!“

Як даведаліся пра гэта, рушылі ўсе ў дом гэтага багача спрабаваць шчасця: авось прыпадзе каму-небудзь яго красуня—дачка.

Але колькі ні прыходзіла іх і як яны ні стараліся наманіць, багач заўсёды гаварыў: „Гэта праўда“.

І ўсе ішлі ні з чым.

У суседнім сяле жыў сын аднаго вельмі беднага селяніна. Звалі яго Чыло і быў ён сельскім пастухом.

Толькі пачуў Чыло пра гэту выдумку багача, як зараз-жа з'явіўся да яго і кажа:

— Хочу зманіць табе і на тваёй дачцы жаніцца.

— Ну, кажы, пабачым, што ты зманіш,—адказаў багач.

— У тыя гады,—пачаў пастух,—калі бацька мой быў яшчэ жыў, у нас, на беразе Аракса быў кавалак зямлі пад агародам. І вось вырас на тым агародзе агурок адзін такі, што выцягваўся ён, выцягваўся, таўсцеў ён, таўсцеў і так вырас, што лёг цераз Аракс, і канец яго дасягнуў другога берага ракі. А як у тыя часы маста цераз Аракс не было, то і пачаў народ пераходзіць раку па нашаму агурку, як па масту.

Людзі, жывёла, падводы—усё рушылася па агурку, а яму хоць-бы што!

— Так, гэта праўда, і нічога тут дзіўнага няма,—перапыніў багач пастуха,—і выправадзіў яго ні з чым.

Вярнуўся Чыло назад. Праз некалькі дзён выдумаў новую небыліцу і зноў прышоў да багача.

— Так і так, прышоў зманіць табе і на дачцы тваёй жавіцца.
— Ну, кажы. Пабачым, што ты зманіш,—адказаў багач.
— Некалі бацька мой быў вельмі багаты,—пачаў пастух.—Была ў яго цьма цьмушчая баранты і буйнай жывёлы.
І быў у нас сенавал такі вялікі, што і за чатыры дні не пройдзеш яго з канца ў канец.
Гэта сена мы не чапалі, берaглі на чорны дзень.
Адзін раз прапалі ў нас казлёнак і козачка.
Мы ўжо шукалі іх, шукалі, аднак, не знайшлі.
Прайшло многа год. І вось адзін раз зіма выдалася такая доўгая, што ўсё сена, якім мы запасліся для жывёлы, кончылася. Прышлося нам браць сена з запаветнага сенавала.
Праз некалькі дзён пашлі мы зноў на сенавал і бачым: у сене праход зроблен шырокі, у канцы прахода ў сене пустата, а адтуль сунецца стада коз велізарнае,—ну проста не пералічыць. „Адкуль,—думаем,—гэта?“
Аж выявілася, што казлёнак і каза, якія прапалі ў нас многа год таму назад, забраліся ў гэтае сена, засталіся там і давай з году ў год прыплод прыносіць. Прыплод дае яшчэ прыплод, вось і атрымалася цэлае стада. І жыло яно ў гэтым сене і карміласяім.
— Што-ж тут няпраўдзівага?—перапыніў багач пастуха.—Гэта вельмі нават магчымая справа.
І зноў выправадзіў Чыло ні з чым.
Прайшоў некаторы час. І зноў з'явіўся Чыло да багача. На гэты раз ён нёс камень вагой у два пуды.
— Што гэта за камень?—пытае багач.
Чыло апусціў камень да долу, выцер пот з ілба і кажа:
— А як-жа! Бацька мой перад смерцю завяшчаў мне, што ты застаўся яму вінен золата вагой у гэты камень. Вось я і прышоў атрымаць.
— Гэта хлусня!—зароў багач.—Я нічога не вінен твайму бацьку і ведаць яго не ведаю!
— Ну, а калі гэта хлусня,—сказаў Чыло,—дык аддай за мяне сваю дачку.
Убачыў багач, што папаўся, аднак рабіць нечага, давялося яму аддаць сваю дачку за пастуха Чыло.

Запісана ў 1934 г. у с. Азатаван, Камарлінскага раёна, з слоў Аршака Кіракосяна, жыхара с. Халфалу, Суромлінскага павету, 65 год, непісьменны.

---

# КАЗКА ПРА ПАСТУХА, ЯКІ СТАЎ ВЕЗІРАМ

У даўнейшыя часы жыў у сталічным горадзе чалавек, які даў абяцанне ніколі не маніць і не крывіць душой.
І ўсім здавалася вельмі дзіўным, што гэты чалавек не маніць, і шмат непрыемнасцей здаралася з ім праз гэта.

Больш таго, пакольki такіх паводзін ніхто не мог зразумець ні апраўдаць, то шмат хто лічыў яго проста вар'ятам, юрадзівым.

Пакінем пакуль яго і пагаворым пра цара яго краіны.

Аднаго разу, за многа год да гэтага, іх цар, робячы прагулку, сустрэўся з пастухом і павітаўся з ім.

— Добры дзень, добры дзень, таварыш цар,—адказаў пастух.

Смеласць пастуха здзівіла цара і яго світу.

— Паслухай, пастух,—кажа цар,—я ўладар цэлай краіны, ты-ж вясковы пастух. Які-ж ты мне таварыш?

— О, цар!—адказаў пастух.—Я і ты народжаны ў адзін і той-жа год, у адзін і той-жа дзень, у адну і тую-ж гадзіну. Толькі пры тваім нараджэнні баран пачасаў свой курдзюк, а пры маім—рогі. Вось таму ты зрабіўся царом людзей, а я царом жывёл. Але з прычыны таго, што мы абодвы кіраўнікі і пастыры, дык і выходзіць, што мы—таварышы.

Словы пастуха вельмі спадабаліся цару і пасля таго, як пастух і на астатнія яго пытанні даў такія-ж разумныя адказы, цар узяў яго да сябе ў палац і зрабіў сваім везірам.

Стаўшы везірам, учарашні бедняк-пастух заганарыўся.

Ён кінуў сваю жонку, адвярнуўся ад усіх сваіх ранейшых знаёмых, сваякоў, суседзяў і беднякоў і, жаніўшыся на дачцы знатнага чалавека, завёў сабе знаёмства сярод знатных і багатых людзей.

Пачуў ён, што ў гэтым горадзе жыве нейкі праведнік і мудрэц, якога народ лічыць вар'ятам праз тое, што той ніколі не хлусіць.

Аднаго разу, гуляючы ў гарадскім саду, везір убачыў таго мудраца, які лічыўся юрадзівым.

Седзячы на самай дарозе, ён быў заняты тым, што зграбаў пясок у тры кучы.

— Што гэта такое?—спытаў яго везір.

— Гэтыя пясчаныя кучкі маюць сваё значэнне. Вось, дарагі везір, паглядзі: хай гэта першая кучка пакрые галаву таго чалавека, які давярае сваю тайну другому, хаця-б ён і быў самы заўзяты яго друг, хаця-б гэта была яго і жонка. Другая кучка хай ляжа на галаву таго, што будзе спадзявацца на свайго гаспадара, князя і правіцеля. А трэцяя кучка хай пакрые галаву таго, хто адвернецца ад старых сяброў і знаёмых, завядзе новых і будзе мець на іх надзею...

„Усё гэта тычыцца мяне, — падумаў везір, — але няўжо ён гаворыць праўду?“

І ён рашыў на справе праверыць словы мудраца.

І раней за ўсё першае—што чалавек не павінен нікому адкрываць сваіх сакрэтаў.

„Самы блізкі друг чалавека,—падумаў ён,—гэта яго жонка! Дай праверу—ці зможа мая жонка захаваць давераную ёй тайну“.

Узяўшы служку, ён паехаў на рынак і загадаў падрыхтаваць скрыню ў выглядзе труны. Потым купіў цэлую авечку, загадаў зварыць яе, загарнуць у матэрыю і пакласці ў тую труну.

Калі сцямнела, ён і служка прынеслі скрыню дахаты і таемна ад жонкі паклалі ў склеп.

На другі дзень везір сказаў сваёй жонцы:

— Учора, калі ты была ў лазні, я вярнуўся дужа растрывожаны. Да мяне прышоў чалавек з скаргай. Ён адважыўся пярэчыць мне і я шабляй знёс яму галаву. Труп я паклаў у скрыню і схаваў у склеп.

А жонка.

— Не бяда,—кажа.—Калі не бачыў ніхто, дык не бяда. Пойдзем закапаем труп і справе канец!

Пашлі, закапалі.

Праз два дні везір знарок распачаў сварку з жонкай і, нібы моцна разгневаўшыся, адлупцаваў яе.

Жонка, не памятаючы сябе, пачала енчыць, выбегла на балкон і давай крычаць ва ўсё гарла:

— Ратуйце, муж хоча забіць мяне таксама, як два дні таму назад забіў аднаго чалавека, які прыходзіў з скаргай і труп якога закапаў у склепе!..

Вядома, што ў людзей маючых уладу, шмат ворагаў. Знайшліся ворагі і ў везіра і зараз-жа зрабілі данос цару пра тое, што пачулі.

Цар не доўга думаючы, загадаў схапіць везіра, кінуць у турму і павесіць без суда і следства на другі-ж дзень.

Сядзіць везір і думае: „Праўду казаў той юрадзівы мудрэц. Два з яго прадраканняў збыліся. Я даверыў сваю тайну жонцы, яна-ж выдала мяне. А цар, якому я служыў верай і праўдай, паслаў мяне на шыбеніцу, нават не пажадаўшы выслухаць мяне. Застаецца трэцяе прадраканне“.

Па ўсёй краіне пайшла чутка, што вось, бачыце, везір забіў чалавека і яго чакае пакаранне праз павешанне.

На другі дзень вялікі натоўп народу запоўніў пляц. Кожнаму хацелася паглядзець, як будуць вешаць везіра.

Вось прывялі яго з звязанымі рукамі з турмы і паставілі на памост.

Акінуў везір поглядам натоўп—бачыць: яго жонка і ранейшыя сябры—беднякі-сяляне, даведаўшыся аб яго пакаранні, з‘явіліся сюды. Яны стаялі ў баку і так горка плакалі, так бедавалі, што проста шкада было глядзець на іх.

Новыя-ж яго сябры—з багачоў і князёў, не толькі не былі засмучаны, але, наадварот, здаваліся вельмі ўзрадаванымі.

— Гора!—крыкнуў везір.—Збылося і апошняе прадраканне мудраца!.. Ганьба на галаву таго, хто адвернецца ад ранейшых сваіх сяброў і завядзе новых! Вось мае старыя сябры плачуць, бядуюць, а новыя—смяюцца і радуюцца...

І, звярнуўшыся да цара, сказаў:

— О цар! Столькі год я служыў табе верай і праўдай. Як-жа ты без суда паслаў мяне на кару? Магло-ж здарыцца, што на мяне напаклёпнічалі! Прашу цябе паслаць людзей ка мне дадому, хай раскапаюць падлогу ў маім склепу і, выняўшы адтуль скрыню з трупам, прынясуць яе сюды.

І цар загадаў.

Зараз-жа пайшлі, дасталі скрыню, прынеслі на пляц.

— Хай адчыняць яе,—сказаў везір,—каб усе бачылі, хто-ж той, забіты мною чалавек.

Калі адчынілі скрыню і вынялі тушу зваранай авечкі ўсе ахнулі. Цар-жа моцна каючыся ў сваім учынку, стаў прасіць везіра растлумачыць, што ўсё гэта значыць.

І везір расказаў тое, што ўсе мы ўжо ведаем.

Потым, вярнуўшыся дадому, выняў захаваныя ім ад часоў свайго пастухоўства—лапці, чоху і посах і, пакланіўшыся цару, адмовіўся ад звання везіра і багатага, сытнага жыцця. Не паслухаўшы ўгавораў цара, ён далучыўся да сваіх аднасельчан беднякоў, з радаснай душой вярнуўся ў роднае сяло, да сваёй сям'і і сваёй працы.

Запісана ў 1923 г. з слоў Тарыверда Шахцельдана, 65 год, непісьменны, земляроб, с. Рахванбад, Урмійскага раёна.

---

# КАЗКА ПРА МУЛЯРА

Жыў-быў стары муляр і быў у яго дарослы сын.

Вось ажаніў муляр сына, прывёў нявестку ў хату. Праз некалькі дзён прышоў ад галоўнага меліка загад, каб той муляр з'явіўся ў горад, дзе жыў мелік, і пабудаваў для яго вежу. А да горада, дзе жыў мелік, трэба было ісці цэлы дзень.

Узяў муляр сына і выправіўся ў дарогу. Калі прайшлі вялікую адлегласць, муляр кажа сыну:

— Паслухай, сынок, стаміўся я вельмі. Ты павінен або каня мне знайсці, або дарогу скараціць.

— Даруй, тата,—адказвае здзіўлены сын,—дзе я знайду табе тут каня—кругом пустэча, ніводнай жывой душы. А скараціць дарогу—гэта ўжо зусім ніяк немагчымая справа.

— У такім выпадку вернемся назад, бо я вельмі стаміўся і ісці далей не магу,—сказаў бацька.

І яны вярнуліся дадому.

На другі дзень муляр адвёў сына ў бок і пытаецца:

— Што сказала твая жонка, калі ўбачыла, што мы вярнуліся?

— Яна сказала, што стары не іначай, як з глузду з'ехаў.

Муляр зараз-жа паклікаў нявестку, адаслаў яе зноў да бацькі дамоў, а сына ажаніў на другой дзяўчыне.

Праз некалькі дзён зноў сабраліся бацька і сын ехаць у горад будаваць меліку вежу.

Па дарозе стары зноў пачаў скардзіцца, што ён стаміўся і патрабаваў, каб сын або здабыў яму каня, або скараціў дарогу.

З тае прычыны, што сын не змог зрабіць ні таго не гэтага, дык яны зноў вярнуліся дахаты.

На другі дзень муляр зноў адвёў сына ў бок і спытаў пра тое, што сказала яго жонка, убачыўшы, што яны вярнуліся з дарогі.

— Яна сказала, што я не зразумеў цябе: калі бацька патрабаваў у цябе каня, трэба было падаць яму посах, які для старых усёроўна, што конь. А калі ён патрабаваў, каб ты скараціў дарогу,

трэба было-б пачаць з ім гутарку, развесяліць яго ёй, таму што ў гутарцы дарога здаецца не такой цяжкой. Вось што сказала мая жонка,—сказаў сын.

— Э, вача!—крыкнуў бацька.—Разумная мая нявестка, разумная, няма чаго казаць. Зараз мы можам з спакойнай душой пайсці ў горад меліка.

І на другі дзень, даручыўшы дом нявестцы, муляр узяў з сабою сына і рушыў у дарогу.

Ішлі яны, ішлі, урэшце, дайшлі да месца.

З'явіліся да меліка, пагутарылі, умовіліся аб цане і ўзяліся за работу.

Папрацавалі яны некаторы час, адбудавалі вежу напалову.

Аднаго разу адзін з служак меліка, узяўшы з іх слова, што яны яго не выдадуць, сказаў ім, што мелік вырашыў, па скончэнні работы, забіць муляра і сына, каб не плаціць ім нічога.

Як пачуў гэта сын, пачаў ён угаварваць бацьку кінуць работу і ўначы патаемна ўцячы з гэтага горада.

А бацька:

— Працуй,—кажа,—працуй спакойна. Не бойся нічога.

І з гэтага дня пачаў ён рабіць кладку сцяны крыва.

Заўважыўшы гэта, мелік паказаў муляру, што сцяна ідзе крыва.

— Што-ж рабіць?—адказаў муляр.—Я забыўся грунтвагу дома. Дазволь нам пайсці па яе.

А мелік, ведаўшы, што яны назад не вернуцца, сказаў:

— Няма патрэбы ісці вам самім. Я свайго сына пашлю.

— Добра,—сказаў муляр, потым, звярнуўшыся да сына меліка, сказаў:—Перадай маёй нявестцы, што наш сусед—курд, якому мы далі на захаванне авечку і ягня, робіць намер, як я чуў, зарэзаць авечку і ягня. Таму хай мая нявестка не вяртае гэтаму суседу яго жарабя, які знаходзіцца ў нас, датуль покі сусед не верне нашага дабра.

Паехаў сын меліка і, прыехаўшы да нявесткі муляра, перадаў ёй усё, што яму было даручана.

Дагадалася нявестка, што азначалі ўмоўныя словы муляра і, зазваўшы хітрасцю сына меліка ў цёмны склеп, запёрла яго там, а сама праз аднаго спадарожніка паслала ліст меліку, што сын твой запёрты ў мяне ў склепе, і калі ты, атрымаўшы гэты ліст не адпусціш зараз-жа майго свёкра і мужа дахаты, дык я заб'ю твайго сына.

Атрымаўшы ліст, перапалоханы мелік зараз-жа адпусціў муляра яго сына.

І толькі, калі яны вярнуліся дахаты, нявестка вызваліла сына меліка.

Запісана ў 1934 г. у с. Азатаван, Камарлінскага раёна з слоў Аршака Кіракосяна, жых. с. Халфалу, Камарлінскага павету, 65 год, непісьменны.

*Казкі сабраў Т. АГАСАЎ*

*Ованес Туманян*

# НЕПЕРАМОЖНЫ ПЕВЕНЬ

Жыў-быў певень.

Неяк раз, капаючыся ў кучы гною, ён знайшоў залатую манету.

Узляцеў на дах і крычыць:

— Кукарэку! Я знайшоў залатую манету!

Пачуў гэта цар, паклікаў сваіх прыдворных, загадвае пайсці адабраць у пеўня тую манету і яму прынесці.

Тыя так і зрабілі. Прынеслі цару манету.

А певень узляцеў на дах і крычыць:

— Кукарэку. Цар на мае грошы жыве!

Пачуў цар, паклікаў сваіх прыдворных і кажа:

— Занясіце яму назад гэтую манету, інакш ён, машэннік, на ўвесь свет мяне асароміць.

Тыя так і зрабілі. Аднеслі пеўню манету.

А певень узляцеў на дах і крычыць:

— Кукарэку! Цар мяне спужаўся!

Пачуўшы гэта цар, зазлаваў. Паклікаў сваіх прыдворных і кажа:

— Ідзіце, злавіце гэтага нягодніка, зарэжце, зварыце і мне падайце!

Тыя так і зрабілі. Пашлі, схапілі, нясуць, каб зарэзаць. А певень крычыць:

— Кукарэку! Цар мяне ў госці запрасіў!

Зарэзалі яго, паклалі ў кацёл, а ён з катла крычыць:

— Кукарэку! Цар для мяне гарачую лазню натапіў!

Зварылі яго, падалі цару. А певень з блюда крычыць:

— Я з царом сяджу за адным сталом! Кукарэку!

Схапіў яго цар, праглынуў.

А певень з глоткі цара крычыць:

— Іду па вузенькіх вулачках, кукарэку!

Праглынуў яго цар, а певень усё не ўнімаецца. Тады загадаў цар двум прыдворным вынуць шаблі, стаць па баках і па яго загаду ўткнуць яму ў жывот шаблі.

Тыя так і зрабілі. Вынялі шаблі, сталі па баках цара. А певень з жывата цара ўсё крычыць:

— Жыў я на белым свеце, а цяпер папаў у цёмныя месцы, кукарэку!

— Сячыце!—сказаў цар.

Прыдворныя размахнуліся, уткнулі цару ў жывот шаблі, распаролі яму жывот.

А певень як выскачыць! Уцёк, ускочыў на дах і давай крычаць:

— Кукарэку-у-у!

---

# ГАСПАДАР І РАБОТНІК

Жылі-былі два браты-беднякі.

Думалі яны думалі, як ім быць, за што ўзяцца, каб пракарміць свае сем'і. Вырашылі: малодшы застанецца дома, а старэйшы пойдзе наймацца служыць да каго-небудзь з багачоў і будзе свой заробак пасылаць дадому.

Так і зрабілі. Пашоў старэйшы брат, наняўся на работу да аднаго багача. Умовіліся, што ён будзе служыць у яго да вясны, да таго дня, калі закукуюць зязюлі.

І паставіў гэты багач нечуваныя ўмовы.

— Калі,—кажа, да гэтага часу ты хоць раз раззлуешся, дык заплоціш мне тысячу рублёў штрафу, а калі я раззлуюся,—то заплачу я.

— Як-жа я заплачу, калі ў мяне няма тысячы рублёў?—паспрабаваў пярэчыць бядняк.

— Нічога! Замест гэтага ты праслужыш у мяне задарма дзесяць год.

Спужаўся хлапец гэтага дзівоснага ўгавору, але зараз-жа падумаў: „А што можа здарыцца? Хай кажа сабе што хоча, а я не стану злаваць. Вось і ўсё! А калі ён раззлуецца, дык хай сам паплаціцца за свой угавор“.

І кажа:

— Добра, я згодзен.

Ну, угаварыліся, заключылі ўмову і пачаў бедняк служыць.

На другі дзень гаспадар раненька падняў работніка і паслаў у поле жаць хлеб.

— Ідзі,—кажа,—і працуй пакуль светла, а як сцямнее—вярніся дахаты.

Пашоў работнік у поле, прапрацаваў цэлы дзень, а як настаў вечар, вярнуўся стомлены дахаты.

— Гэта чаму-ж ты вярнуўся?—пытаецца гаспадар.

— А як-жа? Сонца зайшло, я і прышоў.

— Не, няправільна гэта. Я табе што сказаў? Жні пакуль светла. Сонца, праўда, зайшло, але зірні—вышаў яго брацец месяц. Чым ён горш свеціць?

— Гэта як-жа так?!—здзівіўся работнік.

— Гм, ты, мусіць злуеш?—кажа гаспадар.

— Ды не, не злую я. Хочу толькі сказаць, што стаміўся я. Вось адпачну толькі крыху,—прабурчэў спалохана работнік і зноў пашоў у поле.

Працаваў ён, працаваў, пакуль не зайшоў месяц. Але толькі зайшоў месяц, як зноў паказалася сонейка. Зусім выбіўся з сіл работнік, паваліўся на зямлю, пачаў у роспачы лаяцца.

— Ах каб табе пуста было з тваім полем! Тфу на твой кавалак хлеба і на тваю плату!

— Ага! Ты злуеш?—пачуўся раптоўны голас гаспадара, які нібы з зямлі вырас.—Давядзецца табе выканаць нашу ўмову. І не скардзіся, што я абышоўся з табой не па закону.

І на падставе ўмовы стаў вымагаць, каб работнік або заплаціў тысячу рублёў штрафу або праслужыў у яго задарма дзесяць год.

Што было рабіць беднаму работніку? Не было ў яго тысячы рублёў, каб заплаціць і пазбавіцца ад гаспадара.

Служыць-жа дзесяць год у такога чалавека было зусім немагчымай справай.

Думаў ён, думаў, урэшце, выдаў ён гаспадару пазычальную распіску на тысячу рублёў і так ні з чым вярнуўся дадому.

— Ну, як—ці шмат нарабіў?—пытаецца малодшы брат.

Сеў старэйшы, апусціў галаву і расказаў усё, што з ім здарылася.

— Не бядуй!—кажа малодшы.—Зараз дома застанешся ты, а я пайду.

Устаў ён і пайшоў наймацца ў работнікі да таго самага багача.

Той зноў вызначыў тэрмін да вясны, пакуль пракукуе зязюля і выставіў умовы, што, калі раззлуецца работнік, дык павінен будзе заплаціць яму тысячу рублёў штрафу або прарабіць у яго задарма дзесяць год, а калі раззлуецца ён сам, то заплоціць работніку тысячу рублёў, і работнік з таго дня будзе вольным.

— Не, гэтага мала,—кажа хлопец.—Калі раззлуешся ты, то заплоціш мне дзве тысячы рублёў. Калі-ж я раззлуюся, я заплачу табе дзве тысячы рублёў або буду працаваць у цябе без платы дваццаць год.

— Добра,—сказаў узрадаваны багач.

Заключылі ўмову і пачаў малодшы брат служыць у яго.

Настала раніца, а работнік і не думае ўставаць. Гаспадар часцяком заглядаў да яго, беспакойна уваходзіў, выходзіў, але работнік усё спаў.

— Паслухай,—не вытрымаў гаспадар,—уставай-жа! Гадзіна ўжо за поўдзень.

— Гм! Ты здаецца злуеш?—сказаў работнік, падняўшы галаву.

— Не, не злую,—адказаў спалоханы гаспадар,—я толькі кажу, што пара нам быць у полі.

— Гэта іншая справа. Толькі чаго спяшаешся? Паспеем!

Урэшце ўстаў і пачаў абувацца ў лапці. Гаспадар зноў нецярпліва ўваходзіць, выходзіць, а ён памалу сабе калупаецца з лапцямі.

— Паслухай, паспяшайся-ж крыху, апранайся хутчэй!

— Эге, ці не злуеш ты ўжо?

— Ды не-ж, ніхто не злуе, я толькі з прычыны таго кажу, што спазняемся мы...

— Ну, гэта іншая справа. А то ведаеш-жа сам—умова наша!?

Пакуль ён абуў, урэшце, свае лапці, пакуль яны дайшлі да поля, быў поўдзень ужо.

— Ну, хіба пара зараз жаць?—кажа работнік.—Зірні,—усе ўжо абедаюць. Паабедаем і мы, а потым можна і за справу.

Селі, паабедалі.

А пасля абеда работнік і кажа:

— Людзі мы рабочыя, трэба задрамаць крыху, сілы набрацца, праўда?

І разваліўся ў цяньку на траўцы і праспаў да вечара.

— Паслухай, уставай-жа! Ужо сцямнела. Усе ўбралі сваё поле, а наша так і стаіць неўбранае. Ах, каб пуста было таму, хто паслаў цябе да мяне! Каб ты падавіўся тым, што еў! Тфу на такую работу! Вось яшчэ няшчасце звалілася на маю галаву.

— Хм, ты мусіць злуеш?—сказаў работнік, узняўшы галаву.

— Ды не, ніхто не злуе! Я толькі кажу, што ўжо сцямнела, пара вяртацца дахаты.

— Ну, гэта іншая справа, а то—памятаеш-жа—нашу умову!? Гора таму, хто зазлуе! Хадзем-жа.

Вярнуліся дахаты, бачыць—госці ў іх.

Паслаў гаспадар работніка зарэзаць авечку.

— Якую?

— Ды якая пападзецца.

Работнік пашоў. Праз некаторы час прыбеглі да гаспадара суседзі, крычаць:

— Паслухай, бяжы хутчэй, твой работнік увесь статак перарэзаў!

Пабег багач, бачыць—і сапраўды работнік перарэзаў усіх авечак, колькі іх у яго было.

Схапіўся ён за галаву, крычыць:

— Што ты нарабіў, ці ёсць у цябе сорам? Каб так загінуў твой дом, як ты загубіў мой!

— Ты-ж казаў: „рэж, якая пападзецца“. Мне папаўся ўвесь статак, я ўсіх і перарэзаў. Што-ж я зрабіў такога, чаго ты не загадваў?—адказаў спакойна работнік.—Але ты, здаецца, злуеш?

— Не злую я, а толькі шкода мне, што загінула столькі дабра.

— Добра, калі не злуеш, я буду працягваць служыць.

Задумаўся багаты,—як быць? Што зрабіць, каб пазбавіцца ад такога работніка.

Наняў ён яго да вясны, да таго дня, калі пракукуе зязюля, а быў толькі пачатак зімы—колькі яшчэ чакаць да вясны і зязюлькі!

Думаў ён, думаў і вось якое знайшоў выйсце.

Завёў ён сваю жонку ў лес, пасадзіў на дрэва і загадаў кукаваць. Потым вярнуўся да работніка і кажа:

— Пойдзем у лес на паляванне.

Толькі ўвайшлі яны ў лес, як жанчына пачала з дрэва кукаваць:

— Ку-ку! Ку-ку!

— А-а-а! Віншую,—кажа гаспадар работніку.—Зязюлька пракукавала, а тэрмін тваёй службы скончыўся.

Дагадаўся хлопец, што гаспадар хітрыць.

— Ды не,—кажа ён,—дзе гэта было, каб у гэты час года, пасярод зімы, кукавала зязюля? Я павінен застрэліць гэтую птушку—якая-ж яна зязюлька?

І з гэтымі словамі ён ускінуў да пляча стрэльбу.

Кінуўся да яго гаспадар, крычыць:

— Стой, стой, не страляй, калі ласка! Хай будзе праклятым той дзень, калі ты прышоў да мяне! Што гэта за няшчасце звалілася на мяне!

— Што, мусіць, злуеш ты?

— Так, так! Хопіць з мяне! Атрымлівай, які належыць штраф, і каб твайго духу тут не было! Я прапанаваў умову, я і павінен расплачвацца за яе. Толькі цяпер я зразумеў старую пагаворку: „Што пасееш, тое і пажнеш!“

Так расплаціўся багач, а малодшы брат узяў пазычальную распіску, выданую старэйшым братам, парваў яе, атрымаў апрача гэтага яшчэ тысячу рублёў і вярнуўся дахаты.

---

## ХРАБРЫ НАЗАР

### 1

Жыў-быў на свеце Назар. Быў ён несусветны расцяпа і гультай, да таго-ж яшчэ такі баязлівец, такі баязлівец, што проста кроку ступіць не адважваўся адзін. Увесь дзень, як прышыты да жончынай спадніцы,—куды яна, туды і ён.

Таму і празвалі яго „Палахлівы Назар“.

Аднойчы ўначы Назар і яго жонка сядзелі на ганку ля хаты. А ноч была месячная, светлая-светлая. Зірнуў Назар на неба і кажа:

— Ах, жонка, вось-жа зручная ноч, каб ісці рабаваць караван. Так і цягне мяне пайсці, напасці на шахскі караван, што ідзе з Індыі, абрабаваць яго, навалакчы ўсякага дабра поўную хату!

— Маўчы, дурань, і сядзі на месцы!—ўзлавалася жонка.—Бач ты, знайшоўся храбрэц караваны рабаваць!

— Ах ты, паскудная жанчына!—кажа Назар.—Чаму ты не пускаеш мяне пайсці, напасці на караван, навалакчы ўсякага дабра поўную хату?.. Які-ж я пасля гэтага мужчына, калі ты адважваешся мне пярэчыць!

І пайшоў, і пайшоў лаяцца.

Апрыкрала жонцы слухаць яго. Паднялася яна, увайшла ў хату і зашчапіла за сабой дзверы.

— Каб табе, гультаю, праваліцца!—крычыць яна з-за дзвярэй.—Ідзі цяпер, рабуй караваны.

Як убачыў Назар, што адзін на двары застаўся,—жах яго ахапіў. Не адчыніла яму жонка,—так і пратрымцеў ён усю ноч да

самай зары, прыкархнуўшы ў кутку двара, ля сцяны. Сонца ўжо высока ўзнялося, а жонка ўсё не адчыняла дзверы.

Сядзіць Назар на сонцапёку, сядзіць надзьмуўшыся, чакае, калі жонка пусціць яго ў хату.

Горача. Наўкруг лётаюць мухі, гудуць, садзяцца на твар Назару. А ён,—такі ж гультаюга,—лень яму нават мух прагнаць. Абляпілі яны яму ўвесь твар, балюча кусаюць яго. Калі яму стала няўстрым, узняў ён руку і—хлоп!—сябе па шчацэ. Забітыя мухі пападалі перад ім.

Здзівіўся Назар, хацеў палічыць—не здалеў. Парашыў, што, мусібыць, не менш тысячы.

— Эге-ж,—думае ён,—вось які я, аказваецца, малайчына: адным паварушэннем палажыў тысячу жывых стварэнняў. Чаго-ж я сяджу тут, каля гэтай праклятай жанчыны!

Падняўся ён, пайшоў да вясковага папа, расказаў яму ўсё і абвясціў, што парашыў ісці шукаць шчасця па свеце.

— А каб,—кажа,—маё геройства не прапала ў памяці людзей, запішы яго куды-небудзь.

Поп, каб пажартаваць з яго, узяў ласкуток палатна і напісаў на ім:

„Непераможны, Храбры Назар,
Тысячу губіць адзін твой удар".

Узяў Назар гэты ласкуток, прыладзіў да палкі, прычапіў сабе з боку абломак саржаўленай саблі, сеў верхам на суседскага осліка і паехаў.

## 2

Выехаў за сяло, едзе, сам не ведае—куды.

Ехаў ён, ехаў, раптам азірнуўся, глядзіць—не відаць яго сяла. Спалохаўся да смерці,—ніколі-ж ён не выязджаў так далёка, ды яшчэ адзін.

Каб сябе падбадзёрыць, пачаў ён мурлыкаць песеньку, размаўляць сам з сабою, пакрыкваць на осліка. Чым далей ад'язджаў ён ад сяла, тым мацнейшым рабіўся яго страх. І чым мацнейшым рабіўся страх, тым гучней ён спяваў. Пад канец стаў ён гарланіць, гагатаць, рыкаць. А тут і ослік ягоны зароў, і такі зачалі яны шум, што паўзганялі птушак з дрэваў, паразганялі зайцоў у кусты і прымусілі ўсіх люгашак паскакваць у ваду. Пад канец і самому Назару стала страшна ад уласнага крыку. Пад'ехаў ён да лесу, і стала яму здавацца, што з-за кожнага кусціка, з-за кожнага дрэўца, з-за кожнага каменя вось-вось выскачыць звер ці разбойнік і кінецца на яго. Не памятаючы сябе ад жаху, стаў ён гарланіць так, што на ўвесь лес было чутна.

Па лесе ішоў тым часам селянін, ведучы на повадзе асядланага каня.

Пачуўшы гэтыя крыкі, ён спыніўся.

— Авохці мне,—думае ён,—няйначай разбойнікі гэта!

І, кінуўшы каня, пабег.

А храбры Назар з рыканнем і гогатам пад'ехаў да лесу, бачыць—на дарозе конь стаіць асядланы, яго чакае. Не доўга думаючы, злез ён з осліка, сеў на таго каня і паехаў далей.

## 3

Доўга ці каротка ён ехаў,—нарэшце прыехаў у незнаёмае сяло. Чуе—у адной хаце іграюць і скачуць. Пад'ехаў—аж вяселле іграюць.

— Дзеньдобры!—кажа.

— А-а-а, просім, просім,—крычаць яму ўсе,—калі ласка, дарагі госць!

Запрасілі, пасадзілі на самае ганаровае месца, пачалі частаваць яго.

Цікава гасцям—хто гэты незнаёмы? І пайшоў па сталу шэпт, ад суседа да суседа: „Ці не ведаеце, кажа, хто гэта?“ Дакаціўся шэпт да канца стала, дзе сядзеў поп.

Поп паглядзеў на ласкуток, прымайстраваны да казаравай палкі як палотнішча сцяга, і так-сяк прачытаў:

„Непераможны, Храбры Назар,
Тысячу губіць адзін твой удар“.

Прачытаў, здзівіўся, зашаптаў на вуха суседу; той свайму—і так абышла стол чутка, што прыехаў, кажуць, да нас—

„Непераможны, Храбры Назар,
Тысячу губіць адзін твой удар“.

— Дапраўды, гэта-ж Храбры Назар!—кажа адзін хвалько.— Як гэта я не пазнаў яго адразу! А здорава ён змяніўся.

Знайшліся і другія, што выдалі сябе за прыяцеляў Назара і пачалі расказваць пра ягоныя ўчынкі.

— Ды як-жа так,—заўважыў адзін недаверліва,—такі важны чалавек, а пры ім ні аднаго слугі.

— Такі ўжо ў яго нораў,—адказаў другі,—не любіць ён ездзіць са слугамі. Неяк спытаўся, чаму гэта, а ён: „Нашто,—кажа,—мне вазіць з сабой прыслугу—увесь свет мне слуга...“ Вось!

— А як-жа,—не сунімаўся той,—у яго і саблі, бач, людскае няма, нейкі саржаўлены абломак?

— У тым-жа і зухвальства, каб гэткім вось абломкам раз махнуць і палажыць тысячу. А з добрай сабляй—што за невідальшчына,—кожны можа героем стаць.

Усе, уражаныя, падняліся і стоячы выпілі за ягонае здароўе.

Позна разышліся госці з вяселля, ішлі яны і паўсюды разносілі вестку, што едзе, —

„Непераможны, Храбры Назар,
Тысячу губіць адзін твой удар“.

Расказвалі пра ягоныя ўчынкі, апісвалі яго страшное аблічча.

4

Развітаўшыся з гасцiннымі гаспадарамі, Храбры Назар паехаў далей. Ехаў, ехаў, бачыць—зялёны поплаў. Злез з каня, пусціў яго пасвіцца, утыркнуў палку з ласкутом у зямлю, сам лёг побач і заснуў.

А мясцовасць гэтая, аказваецца, належала сямі братам-волатам разбойнікам. Тут-жа непадалёк знаходзіўся іхны замак.

Глядзяць гэтыя волаты з вышыні свайго замка, бачаць, нехта прыехаў і размясціўся на іхным лузе.

Дзівяцца волаты, думаюць: „Які гэта, мусі быць, храбрэц ды багатыр, што гэтак спакойненька ўз'ехаў на нашы ўладанні, размясціўся, як у сябе дома, ды яшчэ каня пусціў пасвіць?“

У кожнага з братоў была дубіна ў сорак пудоў. Узялі яны свае дубіны, выправіліся паглядзець, што гэта за чалавек.

Падышлі—і што-ж яны бачаць! Конь пасвіцца на лузе, нехта ляжыць на зямлі і спіць, а над ім сцяг матляецца, і на тым сцягу напісана:

„Непераможны, Храбры Назар,
Тысячу губіць адзін твой удар“.

— А-а-а! Дык гэта Храбры Назар!—ахнулі волаты і застылі на месцы. Аказваецца, госці, што былі на вяселлі, нават сюды вестку данеслі аб Храбрым Назары.

Стаяць волаты ні жывыя, ні мёртвыя, чакаюць, каб Назар прачнуўся.

Прачнуўся Назар, расплюшчыў вочы, бачыць: проста над ім стаяць сем волатаў і ў кожнага—дубіна ў сорак пудоў. Як зірнуў—самлеў ад жаху. Скорчыўся пад сваім сцягам, трымціць, як асінавы ліст.

А волаты, угледзеўшы, што Назар пабляднеў і закалаціўся, парашылі, што ён няйначай дужа гневаецца і, таго і глядзі, размахнецца, лупяне ды разам семярых і паложыць.

Кінуліся яны перад ім на калены, моляць-просяць:

—„Непераможны, Храбры Назар,
Тысячу губіць адзін твой удар“...

дайшло тваё імя і да нас. Карцела нам пабачыць цябе, і вось дачакаліся мы радаснага дня, калі ты злітасціўся да нас завітаць. Мы, семера братоў—твае пакорныя слугі, вунь і замак наш на той горцы, а ў тым замку наша красуня-сястра.

Молім цябе—уваж гонару, пакаштуй наш хлеб-соль...“

Пачуўшы гэта, Назар апрытомнеў, падчыпурыўся, сеў на каня; браты ўзялі ягоны сцяг, панеслі ўперад і ўсе рушылі ў напрамку да замка. Прывялі яго ў замак, прынялі з вялікай пашанай. І стаў Храбры Назар жыць у волатаў у славе ды ў гонары.

5

Раптам, адкуль ні вазьміся, паявіўся ў тым краі тыгра. Жах увесь край ахапіў. Думалі, гадалі, каму пад сілу таго тыгра забіць. І парашылі: „Гэта пад сілу аднаму толькі Храбраму Назару“.

Як пачуў Назар пра тыгра, закалаціўся ўвесь і, не памятаючы сябе ад страху, выскачыў з замка, хацеў бегчы, уцякаць у роднае сяло. А народ парашыў, што ён бяжыць, каб забіць тыгра. Спынілі яго, крычаць:

— Куды-ж ты без зброі? Ці табе жыццё не дарага?

Прынеслі яму зброю, надзелі на яго. Накіраваўся Назар на тыгра адзін адзінюткі. Пайшоў у лес, забраўся на дрэва і стаіўся, каб ні яму тыгра не бачыць, ні тыгру яго; сядзіць на суку ні жывы, ні мёртвы. А гэты валацуга-тыгра, як на зло, прышоў і лёг якраз пад тым дрэвам.

Як убачыў Назар тыгра, душа ў яго зашылася ў пяткі, увесь ён аслабеў, выпусціў сук і—бух!—упаў проста на тыгра. Тыгра ад жаху падскочыў і пусціўся бегчы. Бяжыць ён, а Назар, седзячы на ім верхам, чапляецца рукамі за карак, каб не зваліцца.

Прэцца ашалелы тыгра праз горы, праз лагчыны.

Глядзіць народ, дзівіцца: Храбры Назар асядлаў тыгра,—і падганяе яго:

— Ату, ату яго! Гэй, сюды, сюды, рэбяты. Ату яго, ату!

І зачалі страшэнны шум, пусціліся напярэймы—хто з даўбешкай, хто з сабляй, хто са стрэльбай, з каменнямі—і давай біць, страляць у тыгра.

Забілі тыгра.

А Назар, калі крыху апрытомнеў і адсопся, паківаў галавой і кажа:

— Шкада,—кажа,—што вы яго забілі. Насілу асядлаў я яго замест каня. Я гнаў-бы ўжо яго, я гнаў-бы!..

Дайшла гэтая вестка да сямі волатаў. Насустрач народ увесь высыпаў, каб належна прыняць Назара.

Ажанілі яго на красуні-сястры волатаў, сем дзён і сем начэй вяселле ігралі.

6

Але аказалася, што да сястры волатаў яшчэ раней сватаўся суседні цар. Як даведаўся ён, што ягоную нявесту за другога выдалі, сабраў ён войска вялікае і рушыў вайной на семярых братоў.

Прышлі семера братоў да Назара.

— Так, кажуць, і так, ідзе на нас вайной суседні цар; на цябе, кажуць, уся наша надзея.

Толькі пачуў Назар слова „вайна“, выскачыў ён у страху з замка, каб бегчы ў роднае сяло. А народ думаў, што ён хоча напасці на варожае войска. Кінуліся да яго, трымаюць, угаварваюць:

— Вазьмі зброю! Ці табе жыццё надакучыла?..

Прынеслі зброю, надзелі на яго.

Пайшла да непрыяцельскага войска чутка, што, кажуць, хацеў Храбры Назар адзін, без зброі, накіравацца на поле бойкі і што ледзьве яго ўтрымалі.

Падвялі Назару вялізнага каня, пасадзілі на яго Назара.

Паехаў ён, а за ім рушыла яго войска з крыкамі:

— Няхай жыве Храбры Назар!.. Смерць ворагам!

Конь пад Назарам адчуў, які на ім сядзіць расцяпа, заіржаў, матнуў галавой і паімчаў уперад, проста на непрыяцельскі лагер. А назаравы воіны парашылі, што Храбры Назар у атаку пусціўся. Крыкнулі „ура“ і паімчалі за ім.

Бачыць Назар,—не ўтрымацца яму на кані, схапіўся ён за сустрэчнае дрэва, каб не ўпасці, а дрэва аказалася гнілое, і ў назаравай руцэ застаўся таўшчэнны сук.

Непрыяцельскае-ж войска, і так ужо багата што чуўшае пра ягоную бясстрашнасць, убачыўшы, што Назар з карэннямі дрэвы вырывае,—пусцілася наўцёкі,—ратуйся хто можа!

Шмат іх загінула, а тыя, хто ўратаваўся, пасталі перад Назарам на калены, пачалі прасіць літасці.

З поля бойкі Назар вярнуўся ў замак да волатаў.

Народ упрыгожыў горад сцягамі і выйшаў яму насустрач—з лікаваннем, спевамі, музыкай і радаснымі воклічамі.

Прывялі яго з вялікімі ўшанаваннямі і выбралі на царства.

Так стаў Храбры Назар царом і кожнаму з сямі братоў даў пасаду пры сваім царскім двары.

---

*М. Цэлеш*

# ПЕРАМОГА НАШАЙ КУХАРКІ

Нашу кухарку Зосю я ведаў даўно. Яна працавала адкатчыцай на нашай шахце. Была яна тады яшчэ зусім маладая, тонкая і дужа худая. Твар яе быў плоскі. Тонкі нос здаваўся доўгім. Карыя ласкавыя вочы глыбока запалі ў ямкі пад бровамі. Але ад усяго яе аблічча навявала нейкай прыемнасцю, цяплынёй...

Калі я зноў сустрэўся з ёю ў палку, яе цяжка было пазнаць. Гэта было праз тры гады пасля таго, як я кінуў шахту і праз год пасля пачатку грамадзянскай вайны. І... дзяўчына заквітнела! Яна стала румянай, поўнай. Твар яе пакруглеў. Нос, здавалася, пакарацеў. А вочы,—гэтыя шэра-жоўтыя вугалькі з залатымі вяночкамі кругом зрэнкаў,—сталі яшчэ больш ласкавымі, нейкімі нібы заклікаючымі. На шчоках яе лёг бліскучы глянец. Што з дзяўчынай стала?

— Ці не кухаркай ты тут?—спытаў я.

— Кухаркай.

І яна засмяялася ціхай, шчырай усмешкай.

— У якой роце?

Яна назвала роту.

— О-о-о! Дык мы значыць, будзем у адной роце! От малайчына! Будзем разам!?

Я толькі што прыбыў у часць і рад быў, што буду з сваімі людзьмі.

— Разам,—адказала Зоська спакойна і потым, засмяяўшыся, дадала:—Эх, ты Марцін—сухая балалайка...

Я пачырванеў, а яна зарагатала на ўсю глотку. Не ведаю, што азначала гэта мянюшка! Магчыма я сапраўды быў падобен на гэты інструмент, ці голас у мяне быў падобны на гукі, якія ўласцівы яму, але мяне, чамусьці, толькі так звалі на шахце. Зараз, дык мне смешна, а тады... тады мне балюча было! Я пачырванеў, як рак, якога ўпусцілі ў гарачую ваду, і адказаў:

— Хай сабе і сухая балалайка!

І мы змоўклі, нібы пасварыўшыся разышліся. Але увечары, сустрэўшыся, Зося паклала мне на плячо руку і сказала:

— Ты не бядуй! Я бяру цябе пад сваю абарону. Разумееш! Пакрыўдзіць не дапушчу.

Яна трошкі памаўчала.

— Гэта наконт балалайкі...

І потым, седзячы на дышле кухоннай двуколкі, пачала мне расказваць:

... Я вось зараз ані не палохаюся бою. Наадварот, нават нібы прыемна. Часамі я і сама ўдзельнічаю. Далі бог! Абоназіраю, калі няма часу, у бінокль. І калі нашы перамагаюць, тады і сама крычу, дапамагаю хоць гэтым. „О так! О дай, дай ім! Так, так! Ого, цэлую роту знарад раскінуў!“ Цікава! Далі бог, гляджу ў бінокль і крычу... Ты таксама прывыкнеш!

— Але і патаўсцела-ж ты?—нечакана сказаў я, пазіраючы на пакруглеўшую фігуру дзяўчыны.

Зося ўзялася за бакі так, што яе талія рэзка вызначалася і, аглядаючы сябе, спытала:

— Што, зайздросна?

— Трохі зайздросна...

— Цяпер усякі хлопец мне пазайздросціць, але не пра вас пісана...

І яна зарагатала, потым зірнула на мяне, падміргнула і штурхнула плячом. І не паспеў я што-небудзь адказаць, як яна скочыла да мяне, абвіла сваімі рукамі мяне за шыю і пацалавала.

— Гэта за тое, за мінулае,—сказала яна.—За сухую балалайку... А цяпер будзем жыць па-таварыску! Хочаш быць маім другам?

Я кіўнуў галавой.

— І памятай!—дадала яна.—Калі ты будзеш другам, добрым хлопцам, дык я ўжо для цябе буду... не ведаю чым!

—Чым?—спытаў я ціха.

— Не ведаю чым!

Зося глядзела на мяне сваімі карымі вачмі і ўсміхалася. Я глядзеў на яе.

— Пакахаю!—сказала яна ледзь чутна і, скочыўшы ад двуколкі, пабегла ў штаб палка.

Сваю дружбу Зося пацвердзіла хутка на справе.

Наш полк на працягу некалькіх дзён не мог прасунуцца ўперад ні на адзін крок. Для таго, каб растлумачыць прычыну гэтага, неабходна пазнаёміцца з мясцовасцю. Нашы акопы знаходзіліся на ўзгорку, адкуль адкрывалася панарама направа і налева. Уперадзе-ж перад нашымі акопамі ляжала адкрытае балота, сярод якога працякала хаця і нявельмі шырокая, але даволі глыбокая рэчка. Гэта балота з рэчкай цягнулася перад намі дзесяткі кілометраў у абодвы бакі. За балотам з другога боку былі акопы белых, з замаскаванымі батарэямі і кулямётнымі гнёздамі на ўзгорках. Тут-жа, у ляску, як відаць, недзе быў назіральнік, які перадаваў звесткі аб нас па тэлефону.

Даволі нам было пасунуцца ўперад на дзесяць-дваццаць крокаў, як нас абсыпалі знарадамі з цяжкіх гармат і рэзалі з кулямётаў. Балота было вязкае і гэта яшчэ больш звязвала нашы манеўры. Не было магчымасці заняць другія пазіцыі. Заставалася толькі чакаць. Але чаго чакаць? І тым больш, што ў штаб палка ішлі загады—выцясніць ворага!

Рашылі ўзяць хітрасцю.

Памятаю, увечары сабраў нас, усю роту, палітком і сказаў:

— Ну, таварышы, на нашу роту ўскладзена адказнейшая задача: зайсці белым у тыл, схавацца ў лесе і, як толькі заўтра раніцой полк пачне наступленне, ударыць ворагу па „патыліцы" (ён быў украінец). Пераход будзе цяжкі. Абыходзіць гэтыя балоты хопіць на ўсю ноч. Глядзіце-ж, дысцыпліна, парадак павінны быць узорнымі!

— Дысцыпліна, парадак,—згадзілася Зося.—А падхарчаваць чырвонаармейцаў трэба-ж?

Яна баялася, што ёй не прыдзецца ўдзельнічаць у гэтай справе.

— Трэба,—адказаў палітком.—А для гэтай мэты вы атрымаеце на суткі ўвесь правіант, таварыш Зося, і пойдзеце ў паход з сваёй кухняй.

— Даўно-б так!—сказала Зося.

Рота пачала паход, калі зусім сцямнела. Ноч была ціхая, летняя. Зямля пад нагамі мяккая і не было чуваць, як мы пасоўваліся. Паход цягнуўся гадзіны чатыры. Дабраліся на месца перад світаннем. Як толькі заспяваў першы жаваранак, мы пачалі рыхтавацца к бою. Былі разданы патроны і ручныя гранаты. У кулямёты закладзены ленты. Кожны чырвонаармеец падбадзёрыўся, падцягнуўся. Зося-ж,—наша кухарка Зося!—паклала ў кацёл па добрай порцыі на кожнага чырвонаармейца. Зося жартавала:

— Каго мне толькі прыдзецца сёння карміць?!

Тэлеграфіст, які ўвесь час трымаў сувязь з палком, раптам перадаў, што наступленне пачынаецца. І сапраўды, праз некалькі мінут—моцная страляніна з абодвух бакоў.

— Ну, хлопцы, трымайся!

— А ты, Грыша, як захочаш есці, хутчэй бяжы да мяне,—сказала Зося мне на вуха, але так, каб усе чулі.

Хлопцы зарагаталі.

— А я буду адсюль назіраць... за боем...

— Напалеон, баба! Адным словам—Напалеон!

— Ого, яна, брат, у нас..

Фраза засталася не скончанай. Пачуўся грамавы выбух на батарэі ворага і знарад наляцеў на нашых чырвонаармейцаў.

— Ну пара пачынаць!

Быў дан загад спачатку вывесці з строю батарэю белых. Нам яна была відаць, як на далоні. Вышаўшы з лесу, мы пайшлі нізінамі, па-за ўзгоркамі і падабраліся да батарэі, як мага бліжэй. Прыслуга капашылася каля гармат. Мы зрабілі залп. На батарэі ашалела замітусіліся, не разумеючы, у чым справа. Ім, мусіць, здалося, што „свае сваіх не пазнаша". Былі, мусіць, і забітыя, бо каля гармат людзей стала значна менш.

Мы зрабілі яшчэ залп і зараз-жа авалодалі батарэяй. Спыненне абстрэлу з гармат і страляніна ў тылу адразу-ж дала зразумець ворагу, што ў яго тылу не ўсё добра. І гэта думка, як я зараз разумею, пракацілася па радах белых з хуткасцю маланкі. Утварылася страшэнная паніка. У беспарадку, страляючы куды папала, кідаючы кулямёты і іншую зброю войска рассыпалася па полю.

І ў гэтым імкненні,—выратаваць сваю шкуру,—нас адціснулі зноў к лесу. На левым флангу завязалася рукапашная з групай бягучых белых салдат. Мы кінуліся на дапамогу. Потым, неяк усё закруцілася калясом. Нейкім чынам я апынуўся адзін сярод двух салдат. Я ўцякаў к лесу, а яны беглі за мной. Але не стралялі. Зразумела, у іх не было патронаў. На вінтоўках блішчэлі штыкі. Наперадзе нейкія кусты. Паспею я дабегчы да гэтых кустоў ці не?! Я аглянуўся назад. Яшчэ два-тры крокі і штык у спіну! Ён можа кінуць вінтоўкай. Я забег за першы куст і агляйнуўся. І ў гэты момант здарылася нешта такое, чаго я ніяк не чакаў. Адзін з бегшых за мной раптам закруціўся на месцы і, выпусціўшы з рук вінтоўку, паваліўся на зямлю. Над галавой другога быў занесен кухонны чарпак. Не паспеў белячок завярнуць за куст, як гэты чарпак, неспяшаючыся, але ўпэўнена, апусціўся на яго галаву. І ў той-жа момант я пачуў Зосін голас.

Я спыніўся. Зося вырвала вінтоўку з рук белячка.

— Эх ты, Марцін—сухая балалайка...

Яна была так заахвочана барацьбой, што зараз-жа схапіла вінтоўку і стала ў ваяўнічую постаць.

— А ну, падымайся!

Палонныя падняліся. Гэта былі яшчэ зусім маладыя хлопцы. Яны бажыліся і кляліся, што іх узялі на вайну насільна і пад канвоем пагналі на фронт. Яны прасілі іх адпусціць. Мы не верылі. Зося ўзяла адну вінтоўку, на плячо ўскінула сваю „страшэнную“ зброю—чарпак і мы павялі іх да чырвонаармейцаў, якія к гэтаму часу злучыўшыся з палком стаялі каля лесу і падлічвалі трафеі. Цікавае відовішча мы мусіць уяўлялі сабой!? Бо калі падышлі да сваіх, пасыпаліся жарты:

— Ого, вядуць палонных!

— Іш кавалераў сабе якіх дастала!

— Ды з зброяй якой!

— Напалеон, баба! Адным словам—Напалеон.

Пасля мне стала вядома, што за ходам боя сапраўды сачыла Зося ўвесь час. Тут яна ўбачыла, як я папаў у цяжкае становішча. Схапіўшы чарпак,—бо другой зброі ў яе не было,—яна кінулася нам наперарэз. Забегшы наперад, Зося схавалася за кустамі. Як толькі першы, які гнаўся за мной, дабег да яе, яна аглушыла яго па галаве цяжкім чарпаком. А потым—і другога.

. . . Умацаваныя пазіцыі белых былі ўзяты...

1937 г.

*Г. Няхай*

## ЗЯЛЁНЫЯ МАТЫВЫ

Калі ноч прабіраецца ціха
Па халодных, густых паплавах,
Я тады, ўстрывожаны крыху,
Бачу хаты паломаны дах.

Як жывыя вас, дні мае, бачу:
Снег, туман, пад страхой капяжы.
За вакном гусі шэрыя плачуць,
Адлятаючы ў вырай чужы.

Адлятайце і вы ўспаміны—
Страшны помнік дзяцінству майму.
Ускрыляй салаўём над краінай,
Мая песня пра нашу вясну.

Абыйдзі ўсе дарогі ў краіне,
У чаркескую саклю заглянь,
У кішлак, што ўзрос між пустыні,—
Самай простай і радаснай стань.

Абдымі мяне, вечар любімы,
Атулі, цяплынёй апаві.
Я сягоння складу табе гімны,
Нашы гімны гарачай крыві.

Ўсё маё: і заводы, і шахты,
Ўсе палі, ўсе лясы, руднікі,
І басейны найлепшае нафты,
І магутныя воды ракі.

Даспяваюць чарэшні, маліны,
Летні звон салаўіных гаёў.
Ўсе багатыя песні краіны—
Гэта наша і гэта маё.

Хат старых пагнілых і пахілых,
Не спазнаеш, краіна мая.
Хоць з якою варожаю сілай
За цябе паспрачаюся я.

Лёгка жыць, і тварыць, і смяяцца,
Калі роднае сонца табе
Свеціць ярка за вольнаю працай,
У адпачынку, у сне, ў барацьбе.

Над зямлёй падымаецца песня—
Як магутны бетховенскі спеў.
І гарачыя ветры панеслі
Да крынічнага неба напеў.

---

*Я. Шарахоўскі*

# А. М. ГОРКІ ПРА РУСКІХ КЛАСІКАЎ

Прайшоў год з таго часу, як вялікая Совецкая краіна страціла найвялікшага пісьменніка сучаснасці, мужнейшага і адданейшага барацьбіта за соцыялістычнае чалавецтва—А. М. Горкага. Гэты глыбока любімы масамі пісьменнік належыць да тых велізарнейшых з'яў культуры, значэнне якіх з цягам часу не змяншаецца, а ў значнай ступені ўзрастае. Усе мы ведаем Горкага—буравесніка першай рускай рэволюцыі, вялікага пісьменніка рабочага класа, непрымірымейшага змагара супроць фашызма і вайны. Горкага нельга не ведаць, але на свой поўны рост ён паўстане перад намі, калі будзе сабрана ўсё напісанае ім, калі будуць распрацаваны ўсе важнейшыя праблемы яго літаратурнай спадчыны.

А. М. Горкі шмат пісаў пра літаратуру і пісьменнікаў. Асабліва вялікую вартасць і вялікую цікавасць становяць для нас яго выказванні пра класікаў рускай літаратуры. Думкі, выказаныя ім шмат гадоў таму назад, задоўга да стварэння Совецкай дзяржавы, тым не менш маюць самае непасрэднае дачыненне да пытанняў, што стаяць перад нашай літаратурнай сучаснасцю. Ва ўсіх у памяці незабыўнае ўражанне, якое атрымалі мы ад апублікаванай яго лекцыі „Пра Пушкіна", лекцыі з курса гісторыі рускай літаратуры, чытанага ім у 1907 годзе у капрыйскай партыйнай школе. Стваралася ўражанне, што гэты артыкул напісаны вось цяпер, у нашы сталінскія дні—настолькі глыбока і вычарпальна пастаўлены ў ім праблемы літаратурнай спадчыны. Наступныя апублікаваныя яго лекцыі пра М. Ю. Лермантава, А. І. Герцэна яшчэ больш падмацавалі гэта ўражанне. Але выказванні Горкага пра рускіх класікаў не вычэрпваюцца апублікаванымі лекцыямі. Горкі пісаў пра Л. Н. Талстога, А. М. Чэхава, В. Г. Караленку і г. д. і яго выказванні пра гэтых вялікіх рускіх пісьменнікаў для нас тым больш каштоўны, што ён быў іхным сучаснікам. Гэты артыкул і мае на ўвазе, не задаючыся мэтаю поўнага ахопу матэрыялу, спыніцца на галоўнейшых выказваннях А. М. Горкага пра рускіх класікаў і пытаннях, якія паўстаюць у сувязі з гэтымі выказваннямі і якія маюць самае напасрэднае дачыненне да нашай літаратурнай сучаснасці.

Апублікаваныя лекцыі па гісторыі рускай літаратуры цікавяць нас у першую чаргу з пункту гледжання таго, як Горкі падыходзіў

да ацэнкі вялікай літаратурнай спадчыны і якія метадалагічныя прынцыпы ён пакладаў у аснову сваіх ацэнак. Перш за ўсё звачае на сябе ўвагу пастаноўка пытання пра самы прадмет гісторыі літаратуры. У гэтым дачыненні Горкі прад'яўляе патрабаванне строгай гістарычнасці, якую ён разумее як гістарычнасць сугуба канкрэтную. Гісторыя літаратуры павінна гаварыць пра пісьменнікаў, гэта гісторыя з імёнамі, а не абязлічаная соцыялагічная схема, яна павінна высвятліць значэнне творчасці пісьменніка для свайго часу і для нашай сучаснасці. Наколькі канкрэтнай павінна быць гісторыя літаратуры ва ўяўленні Горкага, відаць з наступнага:

„Па неабходнасці я расказваю вам пра літаратуру ў тым-жа парадку, у якім напісаны нашымі гісторыкамі літаратуры кнігі пра яе, г. зн. спыняючыся на буйных імёнах. Прыём гэты мы не павінны лічыць правільным,—ён малюе справу так, быццам-бы ўсе гэтыя Фон-Візіны, Жукоўскія, Пушкіны і іншыя велічыні рускай літаратуры выраслі раптоўна, з'яўляючыся нейкімі ўзгоркамі на гладкай роўнядзі".

Да гэтых выдатных пісьменнікаў прайшоў цэлы рад людзей, часткова адзначаных літаратурай, часткова-ж забытых ёю. Гэтыя другарадныя пісьменнікі адыгрывалі пэўную ролю ў станаўленні літаратурнага працэса, у станаўленні грамадска-палітычнай думкі, сваёю працаю і сваёю дзейнасцю яны падрыхтоўвалі магчымасць з'яўлення вялікіх пісьменнікаў. Яны рабілі як-бы чарнавую работу гісторыі, забяспечвалі той неабходны ўзровень грамадска-палітычнага і культурнага развіцця, на аснове якога, скарыстоўваючы вопыт, назапашаны папярэднікамі, маглі з'явіцца выдатныя, высокаталенавітыя пісьменнікі. Гэтыя высокаталенавітыя пісьменнікі абагульнялі і творча перапрацоўвалі дадзенае папярэднікамі, тым самым узнімаючы культуру літаратурнай справы на новую, вышэйшую ступень.

Такім чынам гісторыя літаратуры па А. М. Горкаму гэта не толькі рад буйных імён, ён заклікае „ведаць і помніць", што апрача іх былі пісьменнікі другарадныя, гэта патрэбна для таго, каб найлепшым чынам зразумець эпоху, зразумець ва ўсёй яе гістарычнай канкрэтнасці. І наша ўяўленне пра творчасць вялікага пісьменніка будзе тым багацейшым, змястоўнейшым, правільнейшым,чым выразней будзе наша ўяўленне пра прамежныя звенні вялікага ланцуга, чым выразней будзе наша ўяўленне пра літаратурны працэс, узяты ў цэлым. Выказванні Горкага аб прадмеце літаратуры становяць для нас надзвычайную каштоўнасць. Яны з'яўляюцца адным з каштоўнейшых указанняў тых шляхоў, таго кірунку, у якім павінна ісці савецкая літаратуразнаўчая думка ў справе распрацоўкі пытанняў гісторыі літаратуры.

Адным з важнейшых пытанняў гісторыі літаратуры, як і гісторыі наогул з'яўляецца пытанне аб ролі асобы ў гісторыі. Агульнавядома, што ад таго ці іншага вырашэння гэтага пытання і гісторыя набывае той або іншы выгляд. Напрыклад, гістарычная школа Пакроўскага ігнаравала ролю асобы ў гісторыі і ператварыла апошнюю ў гісторыю соцыяльна-эканамічных фармацый. Горкі

надаючы вялікую ролю асобе разглядае гісторыю літаратуры не як суму дзейнасці асоб з адпаведнымі здольнасцямі (гэта было-б нічым не апраўданым суб'ектывізмам), а як заканамерны грамадска-палітычны працэс, у якім кожнае істотнае для гісторыі літаратуры звяно ўзнікае па ўнутранай неабходнасці грамадска-палітычнага развіцця. Тым самым гісторыя літаратуры ставіцца на навуковую глебу, робіцца навукай.

Горкі падкрэслівае, што такі погляд на гісторыю літаратуры не адмаўляе значэння асабістай адаронасці, таленавітасці. „Асабістыя асаблівасці, псіхікі кожнага буйнага паэта і пісьменніка,—гаворыць ён,—гэтым указаннем не адмаўляюцца: яны ў наяўнасці перад намі ў кожным дадзеным выпадку: Пушкін шырэйшы, разумнейшы, таленавіцейшы за Жукоўскага,—ён таленавіцейшы іменна таму, што шырэйшы, ён разумнейшы і таленавіцейшы іменна таму, што насычаны большай колькасцю ведаў, ён майстар вершаў, які перавысіў тэхніку сваіх папярэднікаў, ён такі іменна таму, што ў яго былі папярэднікі, адпрацаваўшыя тэхніку кожны на свой лад, а Пушкін мог і здолеў аб'яднаць у сабе ўсю яе навізну і гнуткасць". Але ён ставіць пытанне пра грамадска-палітычныя ўмовы, пра ўзровень культуры літаратурнай справы, пра фактары, якія ствараюць магчымасць з'яўлення вялікіх пісьменнікаў. З'яўленне адаронай асобы выклікаецца, абумоўліваецца гістарычнай неабходнасцю. І сапраўды, скажам мы, Пушкін з'явіўся ў рускай літаратуры па гістарычнай неабходнасці. Ён з'явіўся родавачынальнікам новай рускай літаратуры, творцай, на аснове жывой народнай мовы, новай рускай літаратурнай мовы, ён зламаў каставую абмежаванасць дваранскай ідэалогіі і пайшоў у напрамку да рэвалюцыйнай дэмакратыі, ён, як гаворыць Горкі, „першы адчуў, што літаратура—нацыянальная справа першаступеннай важнасці." І тое, што Пушкін з'явіўся выражэннем гістарычнай неабходнасці, ніколькі не зневажае яго як геніяльнага мастака, а наадварот, узвышае ў невымернай ступені, бо ў пераводзе на палітычную мову гэта азначае, што Пушкін з'явіўся выражэннем патрабаванняў, якія паспявалі ў рускім народзе. Такім чынам Горкі ў сваім разглядзе творчасці Пушкіна намячае зусім правільнае вырашэнне праблемы гістарычнай неабходнасці і ролі асобы ў гісторыі, ролі асабістай адаронасці пісьменніка.

Наступным момантам гісторыка-літаратурнага разгляду творчасці можна лічыць устанаўленне пункту гледжання, з якога трэба падыходзіць да ацэнкі фактаў гісторыі літаратуры, устанаўлення крытэрыяў ацэнкі. Гэта пытанне цесна звязана з папярэднім, і іменна таму А. М. Горкі разглядае яго ўслед за пытаннем пра асабістую адаронасць. Горкі гаворыць пра тое, што пролетарыят, будуючы сваю ідэалогію, павінен быць строгім рэалістам, ён павінен будаваць свае абагульненні на фактах рэчаіснасці. Ён указвае на тое, што „стоячы на глебе сваёй ідэалогіі, ён з вышыні яе бачыць усю сусветную гісторыю, як рад памылак і заблуджэнняў чалавецтва, якія вынікаюць з своекарыслівага імкнення таго класа, які, захапіўшы ў свае

рукі ўладу эканамічную, неабходна павінен быў увесь вопыт чалавецтва, усе веды свету траціць на збудаванне палітычных і рэлігійных сістэм, што маюць мэтай не арганізацыю вопыту ў інтарэсах усяго чалавецтва, але толькі стварэнне ідэалогіі, якая апраўдвала-б эканамічную ўладу, карыслівую палітыку класа ўласнікаў". Задачу-ж даследвання Горкі бачыць у тым, каб адлучыць у Пушкіна „тое, што ў ім выпадкова, тое, што тлумачыцца ўмовамі часу, і асабістымі, атрыманымі ў спадчыну якасцямі—усё дваранскае, усё часовае—гэта не наша, гэта чужое і непатрэбна нам". З гэтага пункту гледжання ён і аналізуе творчасць Пушкіна.

Цікава параўнаць горкаўскія фармуліроўкі з адпаведнымі фармуліроўкамі ў артыкулах В. І. Леніна пра Талстога. У артыкуле „Л. Н. Талстой" Ленін піша: „Супярэчнасці ў поглядах Талстога—не супярэчнасці яго толькі асабістай думкі, а адлюстраванне тых у вышэйшай ступені супярэчлівых умоў, соцыяльных уплываў, гістарычных традыцый, якія акрэслівалі псіхалогію розных класаў і розных пластоў рускага грамадства ў па-рэформенную, але дарэволюцыйную эпоху.

І таму правільная ацэнка Талстога магчыма толькі з пункту гледжання таго класа, які сваёй палітычнай роляй і сваёй барацьбой у часе першай развязкі гэтых супярэчнасцей, у часе рэволюцыі, даказаў сваё прызванне быць правадыром у барацьбе за свабоду народу і за вызваленне мас ад эксплаатацыі,—даказаў сваю беззаветную адданасць справе дэмакратыі і сваю здольнасць барацьбы з абмежаванасцю і непаслядоўнасцю буржуазнай (у тым ліку і сялянскай) дэмакратыі,—магчыма толькі з пункту гледжання соцыяльна-дэмакратычнага *) пролетарыята"**). Ленін і Горкі гавораць пра тое, што творчасць пісьменніка трэба ацэньваць з пункту гледжання перадавога светапогляду нашага часу, **светапогляду** пролетарыята. Але гэтым пытанне не вычэрпваецца. Мы павінны дакладна ведаць, як ацэньваць, на што ў першую чаргу трэба звяртаць увагу, што ў першую чаргу трэба высвятліць у творчасці пісьменніка. Адносна гэтага Горкі, як мы ўжо бачылі, трымаецца такога погляду, што ў Пушкіна трэба адкінуць усё часовае, „тады перад намі і паўстане вялікі рускі народны паэт, творца чаруючых хараством і розумам казак, аўтар першага рэалістычнага раману „Еўгені Онегін", аўтар лепшай нашай гістарычнай драмы „Барыс Гадуноў", паэт, да гэтага дня нікім не пераўзойдзены ні ў хараства вершу, ні ў сіле выяўлення пачуцця і думкі, паэт—родапачынальнік вялікай рускай літаратуры".

В. І. Ленін у артыкуле „Леў Талстой, як люстра рускай рэволюцыі" таксама дае па гэтаму пытанню зусім акрэсленыя ўказанні: „Супярэчнасці ў поглядах Талстога трэба ацэньваць не з пункту гледжання сучаснага рабочага руху і сучаснага соцыялізма (такая ацэнка, разумеецца, неабходна, але яна недастаткова), а з пункту гледжання таго пратэсту супроць капіталізма, які васоўваецца, раз-

*) Артыкул напісаны у 1910 г.—Я. Ш.
**) Зборнік „Ленин и искусство", Тэа-кіно-друк, 1929 г., стар. 58.

бурэння і абеззямелення мас, які павінен быў быць пароджаным патрыярхальнай рускай вёскай"*).

На думку В. І. Леніна недастаткова суадносіць творчасць пісьменніка мінулага з патрабаваннямі соцыялістычнага светапогляду, павінна быць высветлена канкрэтна-гістарычная роля пісьменніка, значэнне, якое мела яго творчасць для свайго часу, чые грамадска-палітычныя ідэалы і спадзяванні яна выражала. Горкі адкідвае часовае, з тым, каб высветліць значэнне творчасці пісьменніка для нашага часу, для будучыні. Ленін бярэ творчасць пісьменніка ў цэлым, разам з часовым, тлумачыць яе гістарычна, з тым, каб высвятліць у ёй тыя каштоўныя элементы, якія належаць будучыні, належаць народу. Ленін піша: „Памёр Талстой і адыйшла ў мінулае дарэволюцыйная Расія, слабасць і бяссілле якой выразілася ў філасофіі і абрысаваны ў творах геніяльнага мастака. Але ў яго спадчыне ёсць тое, што не адыйшло ў мінулае, што належыць будучыні. Гэту спадчыну бярэ і над гэтай спадчынай працуе расійскі пролетарыят"**). Такім чынам Ленін і Горкі ставяць перад сабой аднолькавую задачу, але прыходзяць да яе не зусім аднолькавымі шляхамі. У асноўным іх пункты гледжання супадаюць, але метад Леніна больш паслядоўны. У ацэнцы Горкім „часовага" хутчэй за ўсё сказаліся водгукі тэорыі калектыўнага вопыта, якія ёсць у яго артыкуле „Пра Пушкіна".

Прасочым ход думкі А. М. Горкага ў разглядзе творчасці Пушкіна. Горкі зазначае на тое, што Пушкін быў не пазбаўлены забабонаў арыстакрата, што ён ганарыўся старажытнасцю свайго імя. Але ў самой гэтай арыстакратычнай ганарлівасці ёсць моманты зусім новыя для таго часу. Так, напрыклад, у творы „Мая радаслоўная або рускі мешчанін"—гучыць упэўненасць чалавека ў яго праве „шанаваць самога сябе" не толькі па заслугах продкаў, але за свае заслугі перад грамадствам. Горкі тлумачыць частыя спасылкі Пушкіна на сваё шматгадовае дваранства па-першае, нацыянальным момантам, тады Александр І ставіў на адказныя пасты немцаў і гэта трывожыла дваран і па-другое, тым, што пэўна Пушкін у разуменне дваранства ўкладаў „пачуццё уласнага гонару, усведамленне сваёй чалавечай вартасці і ўнутраной свабоды".

Пушкін сябраваў з дзекабрыстамі і ў выніку гэтага сяброўства з'явіліся вершы, падобныя да вострай сатыры на Александра І „Казкі", ён абнадзейваў сасланых дзекабрыстаў у вершы „у Сібір", ён спрабаваў у „Стансах" штурхнуць Нікалая І на шлях рэформ, ён высмейваў „халопаў знатных" накшталт Варанцова („Сказалі раз цару"), высмейваў гісторыю Карамзіна і г. д. Другімі словамі, як гэта хоча сказаць Горкі, Пушкін быў перадавым, рэволюцыйным паэтам свайго часу, ён усё жыццё змагаўся з самадзяржаўем і ў гэтай барацьбе загінуў.

Пушкін першы зразумеў усё значэнне літаратуры ў справе грамадска-палітычнага разняволення Расіі. „Да Пушкіна літаратура—

*) Зборнік „Ленин и искусство", Тэа-Кіно-друк, 1929 г, стар. 53.
**) Там-жа, стар. 60.

свецкая забава,—гаворыць Горкі,—літаратар—у лепшым выпадку—прыдворны, як Дмітрыеў, Дзержавін, Жукоўскі, ці добры чыноўнік—як Фан-Візін, Пнін, Рылееў. Калі ён прыдворны,—з ім лічацца, але пакуль ён чыноўнік, яго трэтыруюць як забаўніка, як блазна".

Пушкін узняў літаратурную справу на недасяжную вышыню, на вышыню нацыянальнай справы надзвычайнай важнасці, першы зразумеў, што яна заклікана выражаць народныя запатрабаванні і імкненні. Тым самым, прарваўшы кола дваранскай абмежаванасці, Пушкін паказаў сябе як вялікага паэта рускага народу.

„Пушкін—першы адчуў,—гаворыць Горкі,—што літаратура нацыянальная справа першаступеннай важнасці, што яна вышэй за работу ў канцылярыях і службу ў паліцыі, ён першы падняў годнасць літаратара на вышыню, да яго недасягальную: у яго вачах паэт—выразнік усіх пачуццяў і дум народу, ён заклікны зразумець і паказаць усе з'явы жыцця".

Паказаўшы на адмоўныя адносіны Пушкіна да самадзяржаўя і да асяроддзя, з якога ён сам выйшаў—дваранства, паказаўшы, што Пушкін разумеў літаратурную справу, як справу шырока-народную, Горкі пераходзіць да аналіза адносін Пушкіна да „чэрні". Агульнавядома, што рэакцыянеры спрабавалі залічаць Пушкіна ў свае рады на падставе яго адносін да „чэрні", а радыкалы падобныя да Пісарэва, „адмаўлялі за паэтам усякае значэнне". Горкі паказвае перш за ўсё на літаратурныя вытокі пагарджальных адносін да „чэрні". Такія погляды былі „ўласцівы ўсім рамантыкам, пачынаючы з Байрана,—гэта быў адзін з лозунгаў літаратурнай школы". Паэт разглядаўся як істота зусім вольная ў сваёй творчай дзейнасці, якой ніхто, ні народ ні дзяржава не маглі прад'яўляць ніякіх патрабаванняў. Гэты погляд быў уласцівы і рускім пісьменнікам дапушкінскага часу, Дзержавіну, Дмітрыеву, Жукоўскаму, але Горкі сумняваецца, што ў іх выкрыкі на адрас „чэрні" тычацца народу, бо яны не ведалі яго, не цікавіліся яго жыццём і яго лёсам, селяніна паказвалі непраўдзіва, як пакорлівага, паслухмянага пану і г. д.

У Пушкіна пагарджальныя адносіны да „чэрні" таксама ідуць ад рамантызма. „Але хто гэтая чэрнь?—пытаецца Горкі.—„Ці разумеў пад гэтай назвай Пушкін іменна народ?" Горкі зазначае на тое, што Пушкін быў першым паэтам, які аддаў вялікую ўвагу народнай творчасці, які сабіраў яе—пачынаючы ад казак і канчаючы песнямі пра паўстанне Сценькі Разіна, які ўводзіў у сваю творчасць сапраўдную народную мову, які скарыстоўваў у сваёй творчасці фальклор, не скажаючы яго ва ўгоду розным староннім меркаванням. Ён збіраў песні і ў Одэсе, і ў Кішынёве, і ў Пскоўскай губ.—для чаго пераапранаўся ў вопратку мешчаніна і, вывучаючы народнае жыццё, народную мову, лае сваё выхаванне „паганым, праклятым". Пакуль Пушкін ішоў па пратаптаных сцежках рамантызма, тагочаснае грамадства хваліла паэта.

„Але як толькі ён стаў на свае ногі і загаварыў чыстай рускай народнай мовай, пачаў уводзіць у літаратуру народныя матывы, абыдзённае жыццё, стаў адлюстроўваць жыццё рэальна,

проста і верна,—грамадства стала адносіцца да яго кпліва і варожа, адчуваючы ў ім суровага суддзю, бесстаронняга сведку рускай пошласці, невуцтва і рабства, жорсткасці і халопства перад сілай улады". Яго праследвалі ўсё жыццё, пакуль не застрэлілі. З усяго гэтага Горкі з поўнаю падставай робіць вывад, што „пад імем чэрні ён (Пушкін—*Я. Ш.*) разумеў тое свецкае, сталічнае грамадства, у якім жыў".

Што Горкі тут зусім праў, мы, у асаблівасці цяпер, пасля сотні гадоў з дня гібелі Пушкіна, бачым з поўнай відавочнасцю. „Чэрнь", натоўп—гэта тая свецкая чэлядзь, якая цкавала, праследвала паэта, пляла розныя інтрыгі вакол яго імя. Тут будзе да рэчы падаць адзін з фактаў, які ілюструе, што ціснула на свядомасць паэта, калі ён замест адкрытых выпадаў супроць свецкага грамадства, вымушан быў выказваць пагарджальныя адносіны да „чэрні": у чарнавіку верша „Паэт" замест радкоў „К ногам народного кумира не клонит гордой головы" было: „К подножью светского кумира не клонит гордой головы". Пушкін адчуў небяспечнасць першага варыянта—трэба памятаць, што верш пісаўся ў умовах нікалаеўскай рэакцыі—і надаў радкам зашыфраваную форму.

Горкі надзвычай высока ацэньвае творчасць Пушкіна. Пушкін, вялікі рускі народны паэт, родапачынальнік новай рускай літаратуры. Будучы дваранінам, „ужо ў юнацтве сваім ён адчуў цеснату і духату дваранскіх традыцый, зразумеў інтэлектуальнае жабрацтва свайго класа, яго культурную слабасць і адлюстраваў усё гэта, усё жыццё дваранства, усе яго парокі і слабасці з надзвычайнай вернасцю". Пушкін „адчуваў, што для яго інтарэсы ўсёй нацыі вышэй за інтарэсы аднаго дваранства, а гаварыў ён так таму, што яго асабісты вопыт быў шырэйшы і глыбейшы за вопыт дваранскага класа". Як вялікі рускі паэт, які змагаўся з коснасцю дваранскага грамадства, які ўзняў на агульнанацыянальную вышыню літаратурную справу—у тым сэнсе, што імкнуўся зрабіць яе выражэннем запатрабаванняў народных мас, Пушкін дарагі чытачу-пралетарыю, гэтымі рысамі сваёй творчасці ён належыць будучыні г. зн. нашай сучаснасці. Высокай ацэнкай Пушкіна і іншых вялікіх рускіх пісьменнікаў, як мы гэта ўбачым ніжэй, Горкі вучыць нас беражліва ставіцца да вялікай культурнай спадчыны, бо гэта спадчына савецкіх людзей, яны яе сапраўдныя наследнікі. Гэтаму-ж нас вучыў і найвялікшы правадыр народаў В. І. Ленін. „Пралетарская культура,—гаворыць ён,—павінна з'явіцца заканамерным развіццём тых запасаў ведаў, якія чалавецтва выпрацавала пад прыгнётам капіталістычнага грамадства, памешчыцкага грамадства, чыноўніцкага грамадства" *). Вось чаму мы павінны асабліва бязлітасна выкарчоўваць трацкісцка-авербахаўскі нігілізм у пытаннях адносін да культурнай спадчыны, нігілізм бандытаў, якія імкнуліся пазбавіць сацыялістычны народ яго гераічных, рэвалюцыйных традыцый.

Ацэнку творчасці Ю. М. Лермантава ў нататках з таго-ж курса

*) З прамовы на 3-м з'ездзе РКСМ (4 кастрычніка 1920 г.).

лекцый Горкі ставіць у сувязь з разгортваннем дваранскай самакрытыкі, са з'яўленнем тыпа „каючагася двараніна“.

„Мы дастаткова гаварылі аб агульным ходзе рускага жыцця ў 40-х гадах, аб цяжкім становішчы культурнага рускага двараніна пад прыгнётам Нікалая I, цяпер паглядзім, як ён адносіўся да самога сябе, наколькі глыбокай была дваранская самакрытыка і якім чынам дзеці прыгоннікаў дайшлі да пакланення нявольнікам бацькоў сваіх і сваім, адным словам, паглядзім, як пан паказваў сам сябе ў літаратуры“.

Зусім зразумела, што гэты працэс не мог разгортвацца без нарастання цікавасці да соцыяльных пытанняў з боку пісьменнікаў. Аналізуючы вобразы Печорына і Онегіна Горкі гаворыць пра тое, што ім чужыя былі соцыяльныя пытанні, яны жылі вузка асабістымі інтарэсамі, але былі моцнымі і пакутавалі, што не знаходзілі месца, дзе-б маглі выкарыстаць свае вялікія сілы. Сам Лермантаў быў шырэйшы і глыбейшы за свайго героя: „... У вершах Лермантава пачынаюць выразна гучэць ноты, амаль непрыкметныя ў Пушкіна—гэта прагнае жаданне справы, актыўнага ўмяшання ў жыццё. Прага да справы, сум моцнага чалавека, які не знаходзіць глебы для прыкладання сваіх сіл,—былі наогул уласцівы людзям тых гадоў, здавальнялася гэта імкненне паездкамі на Каўказ, удзелам у бойках з чэркесамі, куцяжамі і скандаламі, за якія часам людзі плацілі ўсё жыццё“. Лермантаў пісаў, што „пасмурна жизнь наша“, што нічна вошта не патрэбны „глубокие познания, жажда славы, талант и пылкая любовь свободы, когда мы их употребить не можем“. Ён бачыў, што вінавата ва ўсім гэтым царскае самадзяржаўе і таму пісаў:

> Настанет год, России черный год,
> Когда царей корона упадет,
> Забудет чернь к ним прежнюю любовь,
> И пища многих будет смерть и кровь...

Ён нападаў на Пушкіна за прысвечаны Нікалаю I верш „Друзьям“ (1830 г.), заклікаў яго памятаць пра той час, калі ён сам „пел о вольности, когда тиран гремел, грозили казни“. Ён-жа, будучы паслядоўным у сваёй нянавісці да самадзяржаўя, у якім ён бачыў вінаваўцу смерці Пушкіна, заклікаў да помсты ў вершы „На смерць паэта“. Горкі зусім правільна растлумачвае сум, песімізм у Лермантаве—сапраўднае пачуццё, у гэтым песімізме ясна гучыць нянавісць да сучаснасці, адмаўленне яе, прага барацьбы, і сум, і адчай ад усведамлення адзіноцтва, ад усведамлення бяссілля. Яго песімізм увесь накіраваны на свецкае грамадства. Сум Лермантава гэта сум чалавека, якому было цесна і душна ва ўмовах нікалаеўскай Расіі, ва ўмовах нечуванага заціску думкі і мастацкага слова. Яго боль і бязвер'е ад таго, што ён не бачыў рэальнай сілы, на якую ён мог-бы абаперціся, якая давала-б надзеі на нейкае прасвятленне ў будучым. Але трэба цалкам згадзіцца з А. М. Горкім, калі ён гаворыць, што „Песнь пра купца Калашнікава“ дае нам права думаць, што Лермантаў—жыві ён далей—знайшоў-бы свой шлях, што ён, варты наследвальнік Пушкіна, які

валодаў велізарным талентам, мог-бы з цягам часу, развіццаа ў першакласнага народнага паэта". У гэтым творы з асаблівай сілай дала сябе знаць народна-рэалістычная аснова яго таленту.

Як і ў разглядзе творчасці Пушкіна, Горкі бярэ ў Лермантава тое асноўнае, што становіць сутнасць яго творчасці. Сапраўды Пушкін аптыміст, ён вельмі жыццёрадасны, творчасць яго зіхаціць, пераліваецца ўсімі колерамі жыцця; Лермантаў сумны, песімістычна настроены. Але творчы лёс вёў іх па аднаму шляху, шляху пратэсту і барацьбы з самадзяржаўем. Яны абодва ад дваранскай абмежаванасці ішлі да народу і ім абодвым не далі дайсці, не далі разгарнуцца на поўную сілу, іх застрэлілі. Горкі і паказвае ў сваім курсе лекцый гэты цяжкі шлях вялікіх рускіх пісьменнікаў.

Праца Горкага пра А. І. Герцэна з таго-ж курса лекцый непасрэдна прымыкае да працы пра Лермантава. У ёй атрымліваюць далейшае развіццё думкі, выказаныя ў працы пра Лермантава. Там Горкі гаварыў, што Пячорыну і Онегіну чужыя соцыяльныя пытанні, што яны жывуць вузка асабістым жыццём. Значная частка гэтага жыцця, як гаворыць Горкі ў працы пра Герцэна, занята пытаннямі пра жанчыну, як палюбоўніцу. Тады пытанне адносін да жанчыны звычайна і трактавалася толькі ў гэтым плане. У рамане Герцэна „Хто вінават" з'яўляецца нешта зусім новае. Герцэн узнімаецца да разумення таго, што жанчына роўнапраўны таварыш, і гэта разуменне ён прапагандуе ў сваім рамане.

„Бельтавы глядзяць на жанчыну ўжо не як толькі на сродак асалоды, яны шукаюць у ёй таварыша на шляхох жыцця. Патрабуюць ад яе сілы, розуму, дапамогі. Гэта натуральна—Бельтавы адзінокія, яны бяссільныя ў балоце жыцця, варожага ім, ім неабходны разумныя, стойкія жонкі, сёстры, маткі, якія ўмелі-б выхоўваць разумных, моцных, сумленных дзяцей".

Але Бельтавы адрозніваюцца ад Онегіных і Пячорыных не толькі сваімі поглядамі на ролю жанчыны. Яны імкнуцца да дзейнасці, імкнуцца ўмяшацца ў жыццё. Бельтаў, як гаворыць Горкі, „хоча працаваць, служыць па выбарах, у яго ёсць некаторыя культурныя планы". Але ва ўмовах нікалаеўскай Расіі, у глухую пару рэакцыі яны не знаходзяць глебы для сваіх пачынанняў, яны не маюць магчымасці скарыстаць свае здольнасці ў карыснай дзейнасці, яны аказваюцца такімі-ж „лішнімі людзьмі", як Онегін або Пячорын. У Бельтавых быў толькі адзін шлях скарыстання сваіх здольнасцей. Як гаворыць Горкі: „Бельтаў павінен быў або ўвайсці ў гурток петрашэўцаў, або стаць у рады эмігрантаў, якія толькі што пачалі тады паход на Еўропу..."

Горкі зусім у правах так гаварыць, бо мы ведаем, што сам Герцэн быў адным з удзельнікаў гэтага паходу.

Немагчымасць заняцца практычнай дзейнасцю рабіла іх лятуценнікамі, накшталт тургенеўскага Рудзіна. Але і як лятуценнікі яны прынеслі вялікую карысць. „Лятуценнік,—гаворыць Горкі,— ён з'яўляўся прапагандыстам ідэй рэволюцыйных, ён быў крытыкам рэчаіснасці, ён так сказаць, араў цаліну, а што па таму часу мог зрабіць практык? Не, Рудзін асоба не жалкая, як прынята да

яго ставіцца, гэта няшчасны чалавек, але—гэта і Бакунін і Герцэн, і часткова сам Тургенеў, гэтыя людзі, вы ведаеце, не дарма пражылі сваё жыццё і пакінулі для нас выдатную спадчыну".

Горкі надзвычай высока ацэньвае дзейнасць Герцэна, яго ролю ў развіцці рускай грамадска-палітычнай думкі. Герцэн таксама як і Пушкін і Лермантаў—дваранін, але гэта дваране, якія ірвалі сувязі з сваім класам і яго ідэалогіяй. Людзі падобныя ім „па ідэях сваіх з'явіліся ўжо нечым іншым, нейкімі зраднікамі тэндэнцыям свайго класа". Горкі тлумачыць гэта тым, што яны прышлі ў час найбольшай спеласці дваранскага класа, які разам з тым быў пачаткам яго распаду. Яны любілі народ, ішлі да яго, адсюль іхны дэмакратызм і найбольш паслядоўным дэмакратам сярод іх быў Герцэн.

„Словы „любілі народ",—гаворыць Горкі,—мы павінны перавесці на больш простую мову, тады яны будуць гучэць так: цмяна адчувалі, што без дапамогі з боку дэмакратыі ім, арыстакратам, не вырвацца з жалезных кіпцюроў двуглавага арла, не выдрапацца з-пад цяжару нікалаевага рэжыма. У той-жа час яны ясна бачылі, што народ, сялянства, варожыя ім, што яно не можа забыць бізуноў і розгаў, і, марачы пра волю, марыць аб знішчэнні дваранства, класа, які ўжо стварыў цэлую культуру і працягваў ствараць яе. Адсюль, з гэтай супярэчнасці і развівалася драма рускага інтэлігента, на гэтай глебе вырас славуты тып каючагася двараніна"...

Горкі гаворыць гэта пра членаў герцэнаўскага гуртка, але на нашу думку гэта мае поўную сілу і ў дачыненні да Пушкіна і Лермантава. Мы, напрыклад, ведаем, што Пушкін—гэты вялікі рускі паэт—усё сваё жыццё прагна імкнуўся зблізіцца з народам, шукаў сувязей з ім, збіраў яго творчасць, выяўляў вялікую цікавасць да сялянскіх паўстанняў Разіна і Пугачова, але разам з тым ён і пабойваўся „мужыка з сякерай". Але што датычыцца Герцэна, то ён прайшоў значную эвалюцыю ў сваіх грамадска-палітычных поглядах. Праілюструем гэта выказваннем Леніна пра розныя этапы ў дзейнасці Герцэна.

„Не віна Герцэна, а бяда яго, што ён не мог бачыць рэволюцыйнага народу ў самой Расіі ў 40-х гадах. Калі ён убачыў яго *ў 60-х*,—ён без боязні стаў на бок рэволюцыйнай дэмакратыі супроць лібералізма. Ён змагаўся за перамогу народу над царызмам, а не за здзелку ліберальнай буржуазіі з памешчыцкім царом. Ён узняў сцяг рэволюцыі" *).

Горкі бачыць вялікую заслугу Герцэна ў тым, што ён першы ў 40-х гадах рашуча выступіў супроць прыгоннага права, што ён разбіў хлуслівую ідылію пагоджанасці пана і селяніна, якая найбольш ярка выявілася ў „Запісках Паляўнічага" Тургенева і якая была створана дваранскім лібералізмам. Герцэн зрабіў гэта, расказаўшы „патрасаючую гісторыю прыгоннай актрысы, зацкаванай, замучанай барынам, а праз год у сваім творы „Запіскі доктара Крупава" так едка абрысаваў прыгоннае права". Герцэн на цэлыя

*) Ленін, зб. твораў, т. V стар. 468.

дзесяцігоддзі акрэсліў развіццё рускай грамадска-палітычнай думкі, у ім заключаецца ўвесь Міхайлоўскі, ён даў асноўныя пасылкі народніцтва, „на працягу цэлых пяцідзесяці гадоў рускае грамадства не выдумала ніводнай думкі, незнаёмай гэтаму чалавеку“. Вялікую заслугу Герцэна Горкі бачыць і ў тым, што ён і яго гурток з'явіліся першымі прапагандыстамі соцыялізма ў Расіі, што ў краіне рабоў ён высока ўзняў годнасць чалавечай асобы. „Герцэн—першы рускі мысліцель, да яго ніхто не глядзеў так шматбакова і глыбока на рускае жыццё. Яго розум—розум, выключны па сіле, як яго мова выключная па прыгожасці і блеску“.

В. І. Ленін таксама высока ацэньвае дзейнасць Герцэна ў справе падрыхтоўкі і развязвання сіл рускай рэволюцыі, пры чым дакладна ўказвае месца Герцэна ў гістарычным кантэксце.

„Ушаноўваючы Герцэна, мы бачым ясна тры пакаленні, тры класы, што дзейнічалі ў рускай рэволюцыі. Спачатку дваране і памешчыкі, дзекабрысты і Герцэн. Вузкі круг гэтых рэволюцыянераў. Страшэнна далёкія яны ад народу. Але іхная справа не прапала. Дзекабрысты абудзілі Герцэна. Герцэн разгарнуў рэволюцыйную агітацыю.

Яе падхапілі, пашырылі, умацавалі, загартавалі рэволюцыянеры разначынцы, пачынаючы ад Чэрнышэўскага і канчаючы героямі „Народнай волі“. Шырэй стаў круг змагароў, бліжэй іх сувязь з народам. „Маладыя штурманы будучай буры“,—назваў іх Герцэн. Але гэта не была яшчэ сама бура.

Бура, гэта—рух саміх мас. Пролетарыят, адзіны да канца рэволюцыйны клас, узняўся на чале іх і ўпершыню ўзняў да адкрытай рэволюцыйнай барацьбы мільёны сялян. Першы націск буры быў у 1905 г. Наступны пачынае расці на нашых вачах“ (т. XV, стар. 468—9).

Прачытаўшы адзін артыкул пра „Мёртвыя душы“ Гогаля, Герцэн пісаў: „Перачытванне радкоў задушыла мяне нейкай безвыходнай тугой: Русь так жыва ўявілася мне, сучаснае пытанне так хваравіта паўтаралася, што я гатовы быў рыдаць. Доўгі сон, цяжкі **За што мы прачнуліся**,—спаць бы сабе, спаць, **як усё навокал!**“ У гэтым выказванні выражана светаадчуванне чалавека, які адчувае сябе страшэнна адзінокім сярод усеагульнага цяжкага сну, адчувае сябе лішнім. Але Герцэн перамог гэта адчуванне. Уся яго дзейнасць была накіравана на тое, каб абудзіць народ. У прыватнасці, Герцэнам для гэтай мэты была створана руская вольная прэса за мяжой. Ленін гаворыць пра гэта так: „Герцэн стварыў вольную рускую прэсу за мяжой—у гэтым яго вялікая заслуга. „Палярная звезда“ ўзняла традыцыю дзекабрыстаў. „Колокол“ (1857—1867) паўстаў гарой за вызваленне сялян. Рабскае маўчанне было парушана (Ленін т. XV, стар. 466). У 1859 г. „Колокол“ (ліст. 44) прызваніў: „... Час Онегіных і Пячорыных прайшоў. Цяпер у Расіі няма лішніх людзей, цяпер наадварот, на нашае вялізнае ворыва не хапае рук. Хто цяпер не знойдзе справы, таму наракаць няма на каго, той на самай справе пусты чалавек, свішч або гультай“. Дыстанцыя ў светаадчуванні надзвычай вялікая. Тут мы бачым Гер-

цэна, прапагандыста актыўнага ўмешвання ў жыццё, бачым Герцэна прадстаўніка лепшых рэвалюцыйных імкненняў рускага народу. Іменна гэтага Герцэна так высока і так станоўча ацэньваюць Ленін і Горкі.

Але гэта ацэнка ўжо сама па сабе прадвызначае ацэнку Горкім такога тытана рускай літаратуры, як Л. Н. Талстой. Вось што піша пра яго А. М. Горкі: „Пісьменнік нацыянальны ў самым сапраўдным і ўсёабыймаючым значэнні гэтага паняцця, ён увасобіў у агромністай душы сваёй усе недахопы нацыі, усе нявечтвы, нанесеныя нам пыткамі гісторыі нашай, яго туманная пропаведзь „нерабленне“, „непрацiўленне злу“—пропаведзь пасівізма, гэта ўсё—нездаровае бражэнне старай рускай крыві, атручанай мангольскім фаталізмам і, так сказаць, хімічна варожай Захаду з яго няспыннай творчай работай, няўхільным, дзейсным супраціўленнем злу жыцця“ *). Горкі глыбока адмоўна ставіцца да талстоўскай пропаведзі „непраціўлення злу“, пропаведзі пасівізма. З філасофскімі і этычнымі поглядамі Талстога Горкі не мог згадзіцца, ніколі не згаджаўся і ў часе сустрэч не раз спрачаўся з ім па гэтаму пытанню. Ён гаварыў яму, што любіць людзей актыўных, якія хочуць праціўіцца злу жыцця ўсімі спосабамі, нават і сілаю. Погляды Талстога ён лічыў нацыянальнымі, але акрэсленымі недахопамі нацыі, а не яе здаровай жыццёвай сутнасцю. Гэтым сваім пераконаннем А. М. Горкі ўскосна б'е па тэорыях падобных „тэорыі“ ворага народа Бухарына, які спрабаваў узвесці паклёп на вялікі рускі народ, абвясціць яго „нацыяй Обломавых“. Вялікі рускі народ прайшоў вялікі шлях у пошуках правільнай рэвалюцыйнай тэорыі, кіруючыся гэтай тэорыяй прарабіў вялікую соцыялістычную рэволюцыю і паспяхова стварае сваё шчасце—соцыялістычнае грамадства. Пра пошукі рэволюцыйнай тэорыі Ленін пісаў:

„Марксізм, як адзіна правільную рэволюцыйную тэорыю, Расія сапраўды выпакутвала паўвяковай гісторыяй нечуваных мук і ахвяр, нябачанага рэволюцыйнага гераізма, неверагоднай энергіі і беззаветнасці шуканняў, навучання, выпрабавання на практыкі, расчараванняў, праверкі, супастаўлення вопыта Еўропы“ (т. XXV, стар. 175). Па шляху гэтых пошукаў рускі народ вялі яго лепшыя сыны, гэты шлях пачаўся з „багатыроў каваных з чыстай сталі з галавы да ног“ **)—дзекабрыстаў і праз Герцэна, рэволюцыйных дэмакратаў, герояў „Народнай волі“ праходзіць вялікай гістарычнай магістраллю да жалезнай партыі большэвікоў. Гэтых лепшых людзей мае на ўвазе Горкі калі піша:

„Але з'явіліся людзі, якія адчулі, што святло нам не з Усходу, а з Захаду, і вось ён, завяршальнік старой гісторыі нашай, жадае—свядома і бессвядома—легчы высокай гарою на шляху нацыі да Еўропы, да жыцця актыўнага, строга патрабуючага ад чалавека найвялікшага напружання ўсіх духоўных сіл. Яго адносіны да вопытных ведаў таксама, вядома, глыбока нацыянальныя, у ім надзвычайна

*) „Партрэты“, Жургаз, Масква, 1936 г., стар. 76.
**) Выраз Герцэна.

адлюстроўваецца вясковы стараpускі скептыцызм невуцтва. У ім— усё нацыянальна і ўся пропаведзь яго—рэакцыя мінулага, атавізм, які мы пачалі былі ўжо зжываць, адольваць"*).

Горкі выяўляе надзвычайную глыбіню думкі ў ацэнцы талстоўскіх тэорый і іх паходжання. Гэтыя тэорыі належаць не будучыні рускага народу, а яго мінуламу, гэтае змрочнае мінулае і выклікала іх да жыцця. Выступленні Талстога супроць навукі, увесь яго пасіўны анархізм—вынік беспленнасці намаганняў старарускага чалавека пабудаваць жыццё сваё больш чалавечна. За ім хаваецца роспач чалавека, які не верыць, які зняверыўся ў тым, што жыццё можна арганізаваць на разумных падставах.

Талстой быў надзвычай супярэчлівы. Наўпярок розным сваім теорыям у яго быў вялікі чалавечы боль за цяперашняе рускага народу, за яго будучыню—ён жадаў шчасця свайму народу. Талстога вельмі страшыла, што ўсё астанецца „як было", пра гэта ён гаварыў у адной з сваіх размоў з Горкім..

— „Вось і вы,—пражывеце жыццё, а ўсё астанецца, як было,— тады і вы заплачаце, ды яшчэ горш за мяне,—„руч'ісцей", кажуць бабы"... І як пісьменнік ён патрабаваў усёй праўды ў паказе таго, „як было" і „як ёсць", бо маладое, наступнае лепшае пакаленне пакрыўдзіцца, калі яму будзе сказана не ўся праўда.

— „А пісаць усё трэба, пра ўсё, інакш светленькі хлопчык пакрыўдзіцца, упікне,—няпраўда, не ўся праўда, скажа. Ён строгі да праўды",—гаварыў Талстой у той-жа размове з Горкім. У патрабаванні вось гэтай найстражэйшай праўдзівасці, у сваіх геніяльных глыбока рэалістычных творах ён, па выразу Горкага,—„вар'яцкі і пакутліва прыгожы чалавек, чалавек усяго чалавецтва". Гэтымі бакамі сваёй дзейнасці, сваёй творчасці ён належыць будучыні. І зусім у правах Горкі, калі ён гаворыць пра яго як пісьменніка: „Пушкін і ён—няма нічога больш велічнага, даражэйшага для нас"...

Не меншую глыбіню выяўляе Горкі і ў ацэнцы таленту другога свайго сучасніка, з якім ён досыць часта сустракаўся—А. П. Чэхава. Рысуючы вобраз гэтага пісьменніка, ён знаходзіць самыя праўдзівыя фарбы, ён паказвае ў ім тое, за што мы яго так высока цэнім. Ён гаворыць пра Чэхава: „Ён валодаў майстэрствам усюды знаходзіць і адцяняць пошласць,—майстэрствам, якое даступна толькі чалавеку высокіх патрабаванняў да жыцця, якое стварaецца толькі палкім жаданнем бачыць людзей простымі, прыгожымі, гарманічнымі. Пошласць заўсёды знаходзіць у ім жорсткага і строгага суддзю". (Там-жа, стар. 187).

З велізарнейшай мастацкай сілай Чэхаў выкрываў тупое васьмідзесятніцкае існаванне, выкрываў гэтых дробных, шэранькіх людзей з іх нікчэмнымі думкамі, пачуццямі, перажываннямі, усё іхнае сутоннае жыццё. Але пісаў ён пра ўсё гэта па-чэхаўску, з толькі аднаму яму ўласцівай манерай. Пра гэта Горкі гаворыць наступнае:

„Ненавідзячы ўсё пошлае і бруднае, ён апісваў мярзотнасці жыцця благароднай мовай паэта, з мяккай усмешкай юмарыста, і за

*) „Партрэты", стар. 77.

прыгожай знешнасцю яго апавяданняў мала заметны поўны горкага папроку іхны ўнутраны сэнс“ (Там-жа, стар. 140—1).

Як сведчыць Горкі, Чэхаў жыва адчуваў неабходнасць для Расіі шырокай народнай асветы, бо „без шырокай адукацыі народу дзяржава разваліцца, як дом, складзены з дрэнна абпаленай цэглы! „Ен марыў пра тое, каб даць рускай вёсцы добрага, разумнага, адукаванага настаўніка. Але ён ведаў цану марам ва ўмовах васмідзесятніцкай рэакцыі, ён ведаў, што няма ніякай надзеі на тое, каб у тагочасных умовах яны маглі быць ажыццёўлены і ён часта з тонкім скептыцызмам, з сумнай ухмылкай пасмейваўся над сваімі марамі. А гэта былі мары, падобныя да тых, каб даць рускай вёсцы добрага настаўніка!

Горкі сведчыць, што Чэхаў вельмі любіў працу, як творчы пачатак жыцця. „Я не бачыў чалавека,—гаворыць ён,—які адчуваў-бы значэнне працы, як асновы культуры, так глыбока і ўсебакова, як А. П. (там-жа, стар. 145). Інакш кажучы ў Чэхаве недзе ў глыбіні яго істоты жыло цвёрдае пераконанне, што каб перайначаць жыццё, трэба працаваць, трэба ўмешвацца ў жыццё, трэба актыўна да яго адносіцца. Але гэта любоў да працы часам набывала ў яго ў практычнай дзейнасці цяплічныя формы і гэта абумоўлена эпохай, бо лепшым сілам рускага народу не давалі расці, душылі іх. Адсюль сама любоў Чэхава да працы знаходзіла выйсце ў формах падобных на мару. „Ён любіў,—піша Горкі,—будаваць, насаджваць сады, упрыгожваць зямлю, ён адчуваў паэзію працы“. (Там-жа, стар. 145). Але для нас важна, што за ўсім гэтым хавалася зусім выразнае адчуванне, што пастаўленая на службу чалавеку, у адпаведных грамадска-палітычных умовах праца дасць надзвычай плённыя вынікі, што яна перайначыць твар зямлі і самога чалавека. Чэхаў любіў чалавека і бічаваў умовы, якія яго калечалі, якія рабілі яго дробным, уродлівым, нікчэмным. Ён марыў, што праз дзвесце год жыццё стане лепшым, інакшым.

Бадай, ці не яшчэ больш выразна выступае любоў да чалавека ў творчасці рыцара гуманнасці В. Г. Караленкі. Ідэя гуманізма і рэвалюцыі—гэта тая цэнтральная праблема, якая ўсё жыццё мучыла гэтага выдатнага пісьменніка. І Горкі ў творчай яго асобе перш за ўсё падкрэслівае яго гуманнасць. Горкі піша:

„Ён разумеў, што чалавек перш за ўсё павінен быць гуманным чалавекам. Неабходна—справядлівасць. Калі яна, накапляючыся пакрыху, маленькімі іскаркамі, ператвараецца ў вялікі агонь, ён спаліць усю ману і бруд зямлі, і толькі тады жыццё зменіць свае цяжкія, сумныя формы. Упарта, не шкадуючы сябе, нікога і нічога не шкадуючы, уносьце ў жыццё справядлівасць,—вось як я думаю“. (Там-жа, стар. 191).

Але гуманнасць, якая спалучаецца з палкай нянавісцю да „маны і бруду зямлі“—гэта дзейсная актыўная гуманнасць, гуманнасць, накіраваная на пераўтварэнне жыцця і самога чалавека. Караленка разумеў гэта і таму ён з такой страснасцю шукаў зліцця ў адно цэлае ідэі гуманізма і ідэі рэвалюцыі. Але скажам словамі Горкага:

„Суровыя формы рэвалюцыйнай думкі, рэвалюцыйнай справы

трывожылі і мучылі яго сэрца, сэрца чалавека, які страсна любіў хараство, справядлівасць, шукаў зліцця іх у адзінае цэлае. Але ён моцна верыў у блізкі росквіт творчых сіл краіны і прадчуваў, што цуд уваскрашэння народу з мёртвых будзе страшным цудам.

У 1908 годзе ён пісаў:

„Усё, што робяць цяпер, праз некалькі год адгукнецца вулканічным узрывам,—страшныя гэта будуць дні. Але ён будзе, калі жывая душа народу, а душа яго жывая“. (Там-жа, стар. 214—215).

Гэта прарочыя словы. Караленка верыў у творчыя здольнасці рускага народу, як верылі і іншыя лепшыя яго пісьменнікі—Белінскі, Герцэн і інш. і г. д. Мы з'яўляемся сведкамі таго, як гэта вера ператварылася ў жыццё. І таму з асаблівай нянавісцю савецкі народ будзе адкідваць усе тэорыі, якія, падобна да „тэорыі“ ренегата і ворага Бухарына пра „нацыю Обломавых“, будуць спрабаваць ашальмаваць яго вялікія, рэволюцыйныя традыцыі і вялікую творчую работу ў сучасным. Работа гэта цалкам для чалавека, для яго адзінага. Гэта наша вялікая радасць, радасць аб чалавеку,—а гэта-ж,—гаворыць Горкі,—найвялікшая радасць на зямлі“. (Там-жа, стар. 205).

---

*Ю. Дворкіна*

# ГЕЙНЕ І СУЧАСНАСЦЬ

## I

Сярод выдатных нямецкіх пісьменнікаў XIX стагоддзя не знойдзецца, бадай, ніводнага, чыя творчасць была-б так ненавісна фашыстам, як творчасць Генрыха Гейне. І сапраўды, ні ў каго няма такой сілы нянавісці, такой вострай сатыры па адрасу „германскіх патрыётаў, тупых прыхільнікаў вузкага нацыяналізма“— продкаў сучасных фашыстаў,—якія гучаць у кожным радку палітычнай лірыкі Гейне.

Абарона рэвалюцыйна-дэмакратычных ідэй, разуменне няўхільнасці перамогі комунізма і ролі пролетарыята (хоць і з аглядкаю), страсная нянавісць да старога феадальнага свету і яго нацыяналістычных, шавіністычных тэндэнцый, разумная і вострая, едкая сатыра на труслівую, угодніцкую рэакцыйную нямецкую буржуазію, глыбокая жальба аб лёсе вялікага нямецкага народу, які стогне пад пятой агідных дэспатаў, страсныя заклікі да вызвалення—усё гэта робіць творчасць Гейне жывой і ў наш час, сатыру яго дзейснай і да гэтага дня, калі фашысты, „вартыя“ патомкі варвараў продкаў, выступаюць у якасці падпальшчыкаў вайны, сейбітаў агіднага нацыяналізма, ярасных ворагаў і руйнавальнікаў культуры і прагрэсу.

Сучасныя нямецкія антыфашысцкія паэты, скарыстоўваючы ў сваёй творчасці класічную спадчыну мінулага, больш за ўсё звяртаюцца іменна да творчасці Генрыха Гейне, вучачыся прыёмам яго сатыры, скарыстоўваючы форму яго паэм (напр. паэма „Германія“ І. Бехера), робячы сучаснымі яго тэмы і сюжэты.

* * *

Генрых Гейне нарадзіўся ў 1797 годзе ў горадзе Дзюсельдорфе Рэйнскай вобласці. Рэйнская вобласць была найбольш развітай у прамысловым, а значыць і ў культурным дачыненні. Буржуазія Рэйнскай вобласці была найбольш апазіцыйна настроенай супроць феадальнай раздробненасці Германіі. Апрача таго, яна адчувала найбольш моцны ўплыў вызваленчых ідэй французскай рэволюцыі, пакольні Рэйнская вобласць мяжуе з Францыяй. У пачатку XIX ст. напалеонаўскія войскі ўступілі ў Рэйнскую вобласць і на працягу раду гадоў кіравалі ёю па кодэксу Напалеона. Ацечаственыя войны 1812—1814 гг., знішчыўшы панаванне французаў

задушылі і рэволюцыю, рэстаўравалі Бурбонаў, аднавілі ў Германіі і ў прыватнасці ў Рэйнскай вобласці ўсе старыя парадкі. Глыбокая рэакцыя ахапіла Еўропу. І ў гэты глухі час рэакцыі фармуецца светапогляд маладога Генрыха Гейне, які выхоўваецца на ідэях французскай рэволюцыі і на нянавісці да старога, наскрозь прагніўшага, але пакуль што часова перамогшага феадальнага дэспатычнага ладу.

Ужо ў такой палітычнай сітуацыі можна знайсці элементы аналагічныя сучаснаму становішчу Германіі. І нянавісць Гейне да дэспатызму і старога свету пераклікаецца з той нянавісцю, якая наспявае ў сэрцах нямецкага народу, да новай формы варварскага дэспатызма, да фашызма, які адчувае гніласць і друзласць свайго грамадства, але імкнецца цаной якіх заўгодна народных пакут і катаванняў утрымаць сваю крывавую ўладу. Але Гейне з едкім смехам крычаў сучасным яму тыранам, што нічога ім не дапаможа, што ўлада іх часова і ўсе іхныя падпоркі падгнілі. Пра гэта пішуць цяпер сучасныя антыфашысцкія нямецкія паэты, выкрываючы няўстойлівасць, гніласць базы фашыстаў, паказваючы на ўзрастаючы народны гнеў.

Гейне ўступіў у нямецкую літаратуру зборнікам сваіх вершаў, які ўвайшоў у яго славутую „Кнігу песень". „Кніга песень", што змяшчае ў сабе вершы 1816—1827 гг., вельмі хутка заваявала вядомасць, прыцягнула ўвагу чытачоў. Гэты шэдэўр сусветнай лірыкі з'явіўся геніяльным мастацкім выяўленнем думак, пачуццяў, настрояў і лятуценняў лепшай часткі разначыннай нямецкай моладзі ў эпоху ліхалецця і разгула чорнай рэакцыі.

У той час у Германіі ды і па ўсёй Еўропе асабліва пышным цветам расцвітае рамантызм. Рамантызм, як літаратурная плынь эпохі рэакцыі, быў выяўленнем глыбокага нездавальнення рэчаіснасцю з аднаго боку, але разам з тым і сведчаннем бяссільнасці, няўстойлівасці, няздольнасці змагацца з гэтай рэчаіснасцю. Нямецкія дробна-буржуазныя рамантыкі заклікалі да ўцякацтва ад рэальнасці ў свет фантастыкі, казкі, мары. Рамантызм у нямецкай літаратуры пачатку XIX ст. з'яўляўся пануючай плынню і ўплыў яго быў няўхільным для ўсіх пачынаўшых у той час паэтаў і пісьменнікаў. У творчасці Гейне рамантычныя матывы надзвычай моцныя ў першы перыяд, у „Кнізе песень", але на ўсім працягу яго творчага шляху няма-няма ды і загучыць, часам глуха, затоена, а часам прарвецца з вялікай сілай і страсцю „звук романтики забытой", як піша ён у „Ата-Троле".

Гейне называў сябе „апошнім адрокшымся каралём рамантыкі, які разбіў яе тысячагадовае панаванне". Побач з фантастычнымі тэмамі, з высока мастацкай перадачай сюжэтаў народных легенд і паданняў у „Кнізе песень" асноўнай тэмай гучыць тэма пакут кахання, тэма непадзеленага кахання. Гэтыя глыбока-інтымныя перажыванні Гейне здолеў перадаць у надзвычай лаканічных і глыбока выразлівых вершах, прымусіў гэтую шаблонную тэму загучаць па-новаму глыбока-лірычна, з жальбаю, прымусіў чытачоў успрыняць яго жальбу як сваю. Бо тэма пакут кахання ў Гейне разра-

стаецца да глыбокага абагульнення. Гейне гаворыць пра адзіноту, пра тое, што ў жыцці шчаслівыя толькі тупыя мяшчане; ён супроцьставіць сябе, які ўмее адчуваць, кахаць і пакутаваць—сытым, самазадаволеным, абмежаваным бюргерам. Тут ужо заключаецца пачатак яго сатырычнага асмейвання рэчаіснасці, тут ужо ад імя лепшай часткі нямецкай рэволюцыйнай інтэлігенцыі ён кідае выклік старому свету. Але такіх людзей у той час яшчэ мала было ў Германіі. І Гейне часта кідаецца ў індывідуалізм, сумуючы пра сваю адзіноту.

На северной голой вершине
Дуб одинокий стоит;
Он дремлет—и льдом и снегами,
Как саваном белым, покрыт.
И беднаму грезится пальма,
Что в дальней восточной земле
Нема, одинока горюет
На солнцем сожженной скале.

Два малюнкі, намаляваныя скупымі, лаканічнымі мазкамі і ўся глыбіня незадаволенасці, горыч адзіноты па-майстэрску перададзены паэтам. Такі яго стыль, такія яго прыёмы ў „Кнізе песень“. Але каштоўнасць лірыкі Гейне ў яе арыгінальнасці. Гейне і тэму пакут кахання, рамантычных лятуценняў чым далей, тым усё больш пранізвае іроніяй, усё больш пачынае зло здзеквацца над сваімі бескарыснымі пакутамі. І як вынік—у вершах Гейне з'яўляецца славутая іранічная „канцоўка“, разбураючая ўвесь той лірычна-сумны настрой, які паэт выяўляе ў першых строфах. Так, напр., у вядомым вершы „з табою мне пабыць хацелася“:

Я говорил, что я страдаю,
Что без тебя мне счастья нет.
Ты низко, чопорно присела
И засмеялась мне в ответ.
Чтоб грудь мне мукой переполнить
Ты до конца осталась зла.
Как ни молил я, поцелуя
Мне на прощанье не дала.
Но ради бога, не подумай,
Чтоб застрелился с горя я,
Все это не раз уж было
Со мной, красавица моя!

Іронія для Гейне перыяду „Кнігі песень“—сродак барацьбы з феадальным светам. Але не толькі тэмы кахання займаюць Гейне ў гэты час. У лірыцы ўжо гучаць палітычныя матывы, якія знаёмяць чытача з светам ідэй Гейне. Ненавідзячы стары феадальны свет, Гейне з вялікай любоўю ставіўся да Напалеона. Напалеонаўскія войскі ўнеслі ў феадальную Германію буржуазна-дэмакратычныя законы, знішчылі прыгнятаючую саслоўную няроўнасць—усё гэта з'яўляецца прычынай таго пакланення Напалеону і яго ідэалізацыі, якія сустракаюцца ў Гейне. Так, памяці Напалеона прысвячае ён вядомы верш „Два грэнадзёры“ і інш.

Яшчэ больш выяўляецца страсны палітычны тэмперамент Гейне ў яго празаічных „Дарожных карцінах“, у якіх стыль яго дасягае

выразлівай дасканаласці, а палітычныя погляды фармулююцца яшчэ больш дакладна і ясна.

У „Дарожных карцінах" надзвычай ярка адлюстраваліся супярэчнасці свядомасці Гейне. У іх нездаволенасць рачаіснасцю, непрыхільнасць да дваранства, феадальнага ладу, апяванне свабоды і насмешка над вернападданасцю нямецкіх бюргераў пераплятаюцца ў дзівотлівым спалучэнні ўзрываў іроніі з фантастычнымі лятуценнямі, з рамантычным уцякацтвам у экзотыку, з інтымналірычнымі нотамі суму, тугі і ліхаманкавага імкнення забыцца. Але ад тома да тома ўсё змяняецца і змяншаецца рамантызм, паглыбляецца крытычны струмень. Крытыка робіцца ўсё больш рэзкай, рэальнай і ўедлівай.

Першая кніга „Падарожжа на Гарц"—гэта нататкі падарожжа пешшу з горада Гетынгена на вядомую гару Гарц. Тут іронія яшчэ не такая ўедлівая, сарказм нейтралізуецца вясёлым юнацкім задорам. Тут сустракаюцца задорныя жарты, вясёлыя насмешкі.

Тут рамантычны элемент праяўляецца ў адухаўленні лагоднай, прыгожай прыроды, якая так ласкава прымае на сваё ўлонне нездаволенага чалавечым грамадствам паэта. Ласкавай рукой змякчае яна яго нягоды. Кветкі глядзяць на яго „тысячаю дзявоцкіх вачэй", дрэвы шэпчуцца „тысячаю дзявоцкіх галасоў", „павабна пабліскваюць вясёлыя промні сонца. Разумныя траўкі апавядаюць адна адной зялёныя казкі". Псіхалагізуючы прыроду, Гейне ўкладвае ў яе свае настроі, пачуцці, імкненне да зліцця з ёй. Прырода—гэта той апаэтызаваны куток рэчаіснасці, куды добра ўцячы ад пошлага асяроддзя, і хаця ў Гетынгене „вельмі маленькія вучоныя і вялікія сабакі", і хаця рад сустрэчных людзей выклікаюць абурэнне Гейне, але ўсё-ткі прыгожая прырода робіць на яго супакойваючы ўплыў. У вершаваным пралогу да „Падарожжа на Гарц" ён піша:

Мир вам, гладкие паркеты,
Люди з гладкими сердцами.
Я хочу подняться в горы,
Чтоб смеяться там над вами.

І ўсё-ж для паэта—гэта не выйсце. Роля байранічнага героя, які ўцякае ад грамадства—не для яго. У яго творчасці адлюстравалася актывізацыя свядомасці нямецкай разначыннай інтэлігенцыі, якая з зайздрасцю пазірала на Францыю і затыхалася пад прыгнётам феадальнага ладу. Думка аб тым, што так не можа і не павінна доўга цягнуцца, што вельмі ўжо ўдушлівай стала грамадская атмасфера Германіі, што надыходзіць новы час у жыцці чалавецтва, гэта думка з'яўляецца асноўнай. І таму побач з рамантычнымі пейзажамі Гейне не можа абыйсці тыя з'явы рэчаіснасці, якія выклікаюць у ім прыліў абурэння. У „Падарожжы на Гарц" асабліва востра ставіць Гейне пытанне аб нямецкім бюргерстве. У той час нямецкае бюргерства далёка яшчэ не паспела для рэволюцыі, ды і па сутнасці нямецкая буржуазія, нямецкія філістэры заўсёды і ўсюды хутчэй былі на баку рэакцыі. Супроць гэтай якасці нямецкай буржуазіі асабліва рэзка і востра выступае пісьменнік, які не бачыў у 30-я гады яшчэ сапраўдных рухаючых

сіл рэволюцыі. Труслівыя, абмежаваныя, самазадаволена-тупыя нямецкія філістэры не мала крыві папсавалі паэту, аднаму з лепшых і перадавых людзей свайго часу. Ён здзекуецца над спадарожнікам філістэрам, які лічыць, што свет надзвычайны, бо бог у сваёй мудрасці ўсё стварыў на карысць чалавеку. Вернападданасць герцагам і князям-дэспатам, рабская замілаванасць пры адным упамінанні аб іх, адсутнасць усякага адчування прыгожага, пошласць, сухасць, чэрствасць—усё гэта якасці, якія абураюць Гейне да глыбіні яго душы.

І наступныя кнігі гэтага цыкла „Ідэі або Le grand“ і „Паўночнае мора“ ўжо гучаць выразна выяўленымі палітычнымі матывамі. Тут ужо раскрываецца новая старонка ў развіцці сатыры Гейне ў сувязі з развіццём і ўдакладненнем яго поглядаў. Якія-ж станоўчыя ідэалы Гейне ў 30-я гады? У гэты перыяд ён страсны прыхільнік буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі, аб'яднання Германіі, барацьбіт за свабоду, „сонца якой сагрэе зямлю больш плённа, чым уся арыстакратыя звёзд“. Ён паказвае, што дваранства ўжо страціла сваю ранейшую магутнасць, што „ўнук не можа ўжо ўтрымаць у сваіх руках меч свайго дзеда“ і ўся справа заключаецца ў тым, каб бюргер усвядоміў недасканаласць дадзенага свету. Гейне ніколі матэрыялістычна не падыходзіў да пытання гісторыі, лічачы, што гісторыю рушыць барацьба ідэй. Тым не менш яго страстная барацьба ў абарону буржуазна-дэмакратычных ідэалаў ставіць яго ў рад лепшых, найбольш перадавых палітычных і літаратурных дзеячоў XIX ст. Яго балюча закранае адсталасць і раздробненасць сваёй краіны, прыгнечанае становішча нямецкага народу. Ён любіць нямецкі народ, але страсна ненавідзіць яго прыгнятальнікаў. Яго імкненні—гэта імкненні лепшых прадстаўнікоў Германіі таго часу.

Малютка, поэт я немецкий,
Известный в немецкой стране,
Там, лучших людей вспоминая,
Всегда вспомянут обо мне.

А нужно, дитя, мне того-же,
Что многим в немецком краю.
Назвавши тягчайшие скорби,
Тебе назовут и мою—

піша ён у адным з вершаў „Кнігі песень“. Гейне абвяшчае сябе рыцарам новага часу, барацьбітом за ажыццяўленне новай вялікай задачы дадзенай эпохі. У чым-жа гэта задача? „Гэта эмансіпацыя, эмансіпацыя не толькі ірландцаў, грэкаў, франкфуртскіх яўрэяў, вест-індскіх неграў і т. п. прыгнечаных народаў, але эмансіпацыя ўсяго свету, асабліва Еўропы, якая зрабілася паўналетняй і цяпер вызваляецца ад жалезных путаў прывілегіраванага саслоўя арыстакратыі“. Ён бязлітасна крытыкуе з вялікім едкім сарказмам арыстакратыю, „дваранчыкаў“, ускрывае іхную нікчэмнасць, іхную ганарыстасць і нянавісць да ўсяго прагрэсіўнага, перадавога. Сіла гейнеўскай іроніі акрэсліваецца тым, што ён свае ўдары накіроўвае метка, у самую аснову феадальнага ладу, крытыкуючы і

здзекуючыся над феадальнай раздробненасцю Германіі, над самавольствам дробных герцагаў і князей, якія лічаць сябе соллю зямлі, над той гнілой патрыярхальна-дэспатычнай абстаноўкай дробных „сталіц", якая стварыла агіднейшую соцыяльную з'яву—філістэрства. „У Германіі мяшчанства з'яўляецца плодам рэволюцыі, якая не ўдалася, перарванага і затрыманага развіцця; яно атрымала свой своеасаблівы і рэзка выяўлены характар трусасці, абмежаванасці, бездапаможнасці і няздольнасці да якой-бы там ні было ініцыятывы дзякуючы трыццацігадовай вайне і наступнай за ёй эпосе, калі ўсе астатнія буйныя народы перажывалі буйны рост" *), піша Энгельс у пісьме да Паўла Эрнста.

Гейне ненавідзіць гэтае застойнае балота, гэтае шэрае абывательскае жыццё мяшчанства. Ён здзекуецца над „мірнай" ідыліяй пагоджанасці народу і курфюрста і рысуе яго ў кнізе „Ідэі" ў плане ядавітага гратэска.

„У той час у ўладароў не было столькі пакутлівых клопатаў, колькі ў цяперашні час, і карона шчыльна сядзела на галаве іхняй, а ўначы яны яшчэ нацягвалі на яе спальны каппак і каля ног іхных спакойна спалі народы; і калі апошнія раніцою прачыналіся, то казалі: „добрай раніцы, бацька!" і атрымлівалі ў адказ: „добрай раніцы, любыя дзеці!"

Страсны паклоннік Напалеона і ідэй французскай рэволюцыі, Гейне ў вышэйшай ступені адмоўна ацэньвае „ацечаственую" вайну. З гневам і пагардай ён дае водзыў пра нямецкіх шавіністаў і нацыяналістаў, якія распальвалі нянавісць да французаў, „народу славы", як ён кажа. Яго гнеўная водпаведзь нацыяналізму, нямецкім шавіністам і патрыётам не траціць сваёй значнасці і ў нашы дні. Гейне добра ведае, што нацыяналісты, шавіністы ніколі не дзейнічаюць у інтарэсах народу. Наадварот, вялікі нямецкі народ быў ашуканы гэтымі здраднікамі, якія пад маскаю абароны бацькаўшчыны аднавілі феадальны прыгнёт. І Гейне зрывае з іх маску, Гейне пратэстуе супроць такой рэакцыйнай вайны, бо ён бачыць, што яна прынесла толькі ўзмацненне дваранска-феадальнай рэакцыі ролі іезуітаў, што яна ўмацавала троны 36 дробных нямецкіх дэспатаў, якія былі захісталіся. „Дзе раней гаварылі па-французску, цяпер чуваць была пруская мова. Паспеў нават асталявацца тут маленькі прускі дварок, і людзі насілі прыдворныя тытулы; ранейшая цырульніца маёй маткі зрабілася гоф-цырульніцай і былі тут гоф-краўцы, гоф-шаўцы, гоф-карчмары, гоф-знішчальнікі клапоў і ўвесь горад здаваўся гоф-лазарэтам для гоф-вар'ятаў". Не менш рэзка гаворыць Гейне і пра клерыкалаў і каталіцкую рэакцыю, пра духавенства, якое стагоддзямі трымала ў кайданах забабонаў і рэлігіі чалавечыя розумы. „Як гіганцкі павук усеўся Рым у цэнтры лацінскага свету і заткаў яго сваім бясконцым павуціннем. Пакаленні народаў жылі пад ім, прымаючы за блізкае неба тое, што было на справе толькі рымскім павуціннем; толькі дух, які імкнуўся ўгару, праглядваючы скрозь гэта павуціннне, адчуваў

*) Маркс і Энгельс пра літаратуру. Масква, 1933 г., стар. 193.

сябе сцяснёным і жалкім, і калі ён спрабаваў прарвацца, хітры ткач лавіў яго і высмоктваў кроў з яго адважнага сэрца".

Прыхільнік буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі, сваім касмапалітычным розумам і душой ненавідзячы нацыяналістаў, ура-патрыётаў, Гейне супроцьставіць прывілегіраваным класам і іхняй ганарыстасці адзінага сапраўднага ўладара—народ. Вобразна гаворыць пісьменнік пра сваю місію ў гады прыгнечання народу, параўноўваючы сябе з легендарным шутом Кунцам фон-дэр Розенам, які прабраўся ў турму палоннага караля з весткаю пра свабоду.

„О, нямецкая айчызна! Дарагі нямецкі народ! Я твой Кунц фон-дэр Розен! Чалавек, пасада якога ўласна заключаецца ў тым, каб весяліць, і які абавязан быў толькі весяліць цябе ў шчаслівыя дні—ён прабіраецца ў тваю турму ў дні жальбы і нягод; пад гэтым плашчом прыношу я табе твой магутны скіпетр і надзвычайную карону... Бо ты, мой народ, сапраўдны валадар і кіраўнік нашай краіны... Калі ты і ляжыш цяпер у кайданах, то урэшце тваё законнае права ўсё-ткі пераможа... Ужо блізкі дзень вызвалення, пачынаецца новы час!" І ў цяперашні час дзейсныя гэтыя словы Гейне. Яго вера ў вызваленне нямецкага народу ад яго прыгнятальнікаў—гэта вера лепшых людзей нашага часу. Гэтымі словамі лепшыя пісьменнікі XIX стагоддзя, якія змагаліся супроць нацыяналістаў і варвараў феадальнага ладу, пераклікаюцца з лепшымі прадстаўнікамі нямецкага народу, які стогне пад пятою фашысцкіх варвараў-нацыяналістаў, шавіністаў XX ст.

Энергічна крытыкуючы стары свет, Гейне змагаўся і з светапоглядам рамантыкаў, якія перакінуліся ў перыяд ацечаственай вайны ў лагер рэакцыі. Разбурэнне рамантычнага элемента ўжо адчуваецца ў „Кнізе песень", дзе побач з рамантычнымі сказаннямі, легендамі, рамантычным выяўленнем тэмы пакут кахання паэт уводзіць іранічную канцоўку, якая адыгрывае ролю руйнуючага пачатку. У „Дарожных карцінах" яшчэ своеасаблівей выступае дзівотлівае пераплячэнне рамантычных настрояў з едкай, ядавітай сатырай, з цвярозым, насмешлівым раскрыццем адмоўных бакоў нямецкага жыцця. У гэтай барацьбе рамачтычнага пачатка з цвярозым, праўда, гратэскавым рэалізмам—супярэчнасць гейнеўскага светапогляду і стыля. Кніга „Ідэі" напісана ў форме інтымных пісем. У іх аўтар, звяртаючыся да невядомай, дзеліцца сваімі, нібы дзіцячымі, успамінамі і цяперашнімі настроямі. Жанр інтымнага пісьма, або дзеннік дапамагае перадаць палемічна завостраны і разам з тым лірычны характар прозы Гейне.

У „Ідэях" побач з ярка выяўленым палемічна-задорным тонам яшчэ значнае месца займаюць рамантычныя адступленні. Супярэчлівы светапогляд Гейне асабліва моцна адчуваецца тут. Рэзкая крытыка, уедлівая насмешка па адрасу дваран, курфюрстаў, „тоўстых" міліянераў і бюргераў чаргуюцца з малюнкамі індыйскай экзотыкі; жорстка ўдарыўшы бізуном сваёй іроніі, амаль адразу пераскаквае пісьменнік да рамантычных сцэн. У лірычна-урачыстым тоне гаворыць ён пра маленькую памершую Вераніку, плача пра свае неза-

даволенае каханне. Але ўсё-ж асноўнае гучанне належыць тут сатыры. Гэта крытыка—рэальна. Яна б'е па канкрэтных з'явах і фактах. Рамантычныя ўстаўкі ствараюць ўражанне надрыва, ліхаманкавага імкнення забыцца. І тым не менш месца гэтых эпізодаў ва ўсёй тканіне твору сведчыць пра негрунтоўнасць рамантычнага ўцякацтва ад рэчаіснасці. Гейне сам гэта адцяняе шляхам раскрыцця раду рамантычных прыёмаў. Так, напр., ён расказвае пра прыгожую дэлійскую султаншу, якая лютуе ў сваім гарэме. Ён захапляецца гэтай усходняй экзотыкай, але... дэлійская султанша памерла 6 тысяч год таму назад. У другім месцы аўтар просіць, каб яму даравалі тое, што ён раней схлусіў; ён зусім не граф Гангскі, ён ніколі не быў у Індыі, ніколі не ўпіваўся чаруючым пахам яе экзатычных кветак. Усе гэтыя моманты нясуць функцыю распада рамантызма, сумнага прызнання, што не марамі можна змяніць жыццё. Рамантыкі аддавалі перавагу вымыслу перад рэальнасцю. Гейне аддае пяршынства рэальнаму жыццю. Ён ужо інакш чым рамантыкі разумее і фармулюе задачы мастацтва, падкрэсліваючы яго функцыю ў працэсе развіцця грамадства.

„Квітнеючае здароўем цела на карцінах Тыцыяна—усё гэта пратэстантызм. Бёдры яго Венер—гэта тэзісы, куды больш асляпляючыя чым тыя, якія прыбіў манах да дзвярэй Вітэнбергскай царквы".

Калі выйшлі ў свет адна за адной часткі „Дарожных карцін", аўтару іх прышлося адчуць на сабе, што значыць выступаць з крытыкай дэспатычнага, самадзяржаўнага феадальнага ладу. Яму прышлося, каб пазбегнуць непаразуменняў, выехаць з Германіі і пачатак 1830 г. ён жыве на востраве Гельгаландзе. Там атрымлівае Гейне паведамленне пра ліпеньскую рэвалюцыю ва Францыі, пра нізрынуцце дынастыі Бурбонаў, пра перамогу над рэакцыяй эпохі рэстаўрацыі. Гэтыя весткі—„гэта дзікія, закручаныя ў паперу сонечныя промні"—з захапленнем піша ён; уся навакольная прырода змяняе свой выгляд, здаецца яму. Мора смяецца ласкава і золатам пабліскваюць яго хвалі. Гейне перажывае вялікі эмацыянальны ўздым, свой настрой, сваю радасць, бачыць ён адлюстраванымі ў навакольнай прыродзе.

„Я—сын рэвалюцыі і зноў бяруся за зброю, над якой мая маці выказала сваё поўнае чар благаславенне. Кветак! Кветак! Я ўвянчаю імі сваю галаву для смяротнай бойкі. Ліру, дайце мне ліру, каб я праспяваў баявую песню! Я ўвесь—радасць і спеў, увесь—меч і агонь".

Яму здаецца, што зноў пачынаецца вялікая эпоха, што ва Францыі ажыццявіліся яго мары, што ідэалы свабоды ўвасобіліся ў падзеях ліпеньскай рэвалюцыі. Але, апынуўшыся ў Парыжы ў канцы 1831 года, каб навочна пераканацца ў перамозе народу, Гейне ўбачыў, што ўсё гэта прыгожа толькі здалёку, але зблізку ўяўляецца зусім іншым. Рэвалюцыю рабіў народ, народная кроў блузнікаў сталіцы крывавай ракою лілася на барыкадах, але вынікі перамогі дасталіся толькі банкірам, фінансістам, спекулянтам. І Гейне быў адным з тых нямногіх людзей, якія цвяроза ацанілі

вынікі рэвалюцыі 1830 года, зразумелі і ўскрылі яе класавую сутнасць.

„Гэта ўжо старая гісторыя,—піша Гейне ў сваёй кнізе „Людвіг Берне“—не для сябе з старажытных часоў сцякаў крывёю і пакутваў гэты народ, а для іншых. У ліпені 1830 г. ён перамог для той буржуазіі, якая таксама нягодная, як і арыстакратыя, чыё месца яна заняла і ў якой такі-ж эгаізм... Народ ад сваёй перамогі не набыў сабе нічога, апрача раскаяння і ўзмацнення цяжкага становішча. Але будзьце ўпэўнены—калі зноў ударацьу набат і народ возьмецца за зброю, ён на гэты раз будзе біцца ўжо для самаго сябе і запатрабуе заслужаную ўзнагароду“.

Больш таго, Гейне ўжо бачыць рабочых, якія чытаюць прамову Робесп‘ера і памфлеты Марата і гэтыя кнігі, паводле яго выразу, пахнуць крывёю.

30-я гады для Гейне—гэта „гады навучання“. У гэты перыяд знаёміцца ён з вучэннем Сэн-Сімона, завёўшы досыць блізкае знаёмства з яго вучнямі Анфантэнам і Базарам. Утапічны соцыялізм Сэн-Сімона дапамог пісьменніку больш выразна ўявіць сабе класавае распластаванне грамадства. Для Сэн-Сімона грамадства дзялілася на клас паразітаў, непрадукцыйны клас, як напр., дваранства і духавенства, і на вытворцаў, куды ён адносіў рабочых і капіталістаў. Але Гейне пайшоў значна далей, апярэдзіўшы свайго настаўніка. Гады пасля ліпеньскай рэвалюцыі былі гадамі буйных паўстанняў рабочых ва Францыі. 1830 год быў годам барацьбы з рэжымам рэстаўрацыі. 1832 і 1834 гг. былі адзначаны паўстаннямі ліонскіх рабочых. Пачатак рабочага руху выявіўся ў стварэнні рада рабочых саюзаў. Тым, хто хацеў бачыць і разумець гістарычныя працэсы, рабілася відавочным, што ўзнімаецца новы клас, што ўсё больш расце і паглыбляецца асноўная супярэчнасць паміж рабочым вытворцай, пазбаўленым сродкаў вытворчасці і валодаючымі гэтымі сродкамі капіталістамі—прысвойвальнікамі працы рабочых. У 1831 годзе Гейне асталёўваецца ў Парыжы. Ненавідзячы ўсякія праявы шавінізма, Гейне ставіць перад сабою вялікую задачу: садзейнічаць збліжэнню двух вялікіх народаў—нямецкага і французскага. Усёй душой і целам лічачы сябе адданым сынам нямецкага народу, Гейне з болем параўноўваў яго адсталасць і прыдушанасць з развітым і свабодалюбным, смелым характарам французскага народу. Гейне паставіў сабе мэту: азнаёміць нямецкую грамадскасць з справамі і жыццём ва Францыі, а французаў—з нямецкім філасофскім, літаратурным жыццём. Ён выступіў у ролі пасрэдніка паміж гэтымі двума вялікімі народамі наўпярок усім крыкам чорнай зграі нямецкіх нацыяналістаў, абвясціўшых вайну ўсяму французскаму і лічыўшых Францыю сваім прадвечным ворагам. Як бачым, прайшло больш за сто год, а сімпатыі і ўхваткі нямецкіх нацыяналістаў асталіся амаль тымі-ж, змяніўшыся толькі ў бок яшчэ большага развіцця нахабства, нецярпімасці да другіх народаў, у бок узмацнення прыгнёту свайго народу і росту жадання навязаць гэты прыгнёт і іншым. Вынікам такой дзейнасці Гейне з‘явіўся цэлы рад твораў, прысвечаных французскім справам і нямецкаму філа-

софска-літаратурнаму жыццю. З пасыланых пісьменнікам карэспандэнцый у Германію, у „Аўгсбургскую ўсеагульную газету“, узніклі кнігі: „Французскія справы“ і „Лютэцыя“. А імкненне азнаёміць французскую публіку з нямецкай літаратурай і філасофіяй выклікала да жыцця надзвычайна па мастацку зробленыя працы „Да гісторыі рэлігіі і філасофіі Германіі“ і „Рамантычная школа“. Гейне першы зразумеў рэволюцыйную сутнасць дыялектыкі Гегеля і заявіў пра гэта, каб усе чулі. Пра гэта піша Энгельс, паказваючы, што толькі адзін чалавек у Германіі гэта зразумеў—„Праўда, гэты чалавек быў Генрых Гейне“.

Асабліва палітычна завостраным з'яўляецца яго артыкул „Рамантычная школа“. Тут ён выступіў супроць кансерватызма позніх рамантыкаў, бязлітасна раскрытыкаваў соцыяльную сутнасць іхнай творчасці, агаліў іх рэакцыйную ролю.

Не гледзячы на тое, што чары рамантыкі ўвесь час жылі ў яго душы і часта ўладарна прарываліся ў творчасці, Гейне знайшоў у сабе сілу абрушыцца на рамантызм з усёй магутнасцю сваёй сатыры. Едкай насмешкай ён моцна ўдарыў па рамантычнай школе. Гэты ўдар быў тым больш адчувальным, што рабіў яго чалавек, які сам доўгі час спачуваў рамантызму і тым не менш бязлітасна яго асудзіў. Пісьменнік паказвае, што рамантычная школа ўваскрашае сярэдневяковую паэзію, што Кальдэрон—паэт інквізіцыі — у рамантыкаў стаіць вышэй, чым Шэкспір. Гейне страсна выступае супроць шавінізма рамантыкаў, супроць іхнай варожасці да ўсяго французскага, супроць іхнага тупога, вузкага нацыяналізма і ура-патрыятызма. Гейне як-быццам адчуваў, чым пагражае Германіі гэтая подлая зграя „чыстых арыйцаў“ з іх звярынай нянавісцю да ўсяго прагрэсіўнага. Гейне бічуе і каталіцкую рэакцыю, якая ўзмацнілася ў перыяд рэстаўрацыі. Рамантыкі перакінуліся да ворагаў нямецкага народу, далучыліся да дваранска-юнкерскага лагера і пачалі апяваць сярэднявечча, рыцарства, каталіцтва.

Так піша Гейне ў „Рамантычнай школе“: „Калі такім чынам убачылі, што гэтыя маладыя людзі рабілі, так сказаць, хвост перад рымска-каталіцкай царквою і зноў спяшаліся ўскласці на сябе старыя кайданы, якія скоўвалі дух, ад якіх з такімі намаганнямі вызваліліся бацькі іхныя, тады шмат хто ў Германіі трывожна ківалі галовамі. Калі-ж адкрылі, што тут арудавала прапаганда клерыкалаў і дваранчыкаў, якія ўвайшлі ў змову супроць палітычнай і рэлігійнай свабоды Еўропы, калі адкрылі, што тут дзейнічаў уласна іезуітызм, які заманьваў нямецкае юнацтва салодкімі гукамі рамантыкі, тады глыбокае абурэнне і палкі гнеў ахапілі сяброў свабоды духу і пратэстантызма“.

У „Рамантычнай школе“ Гейне публічна адсцябаў свайго былога настаўніка, тэарэтыка рамантызма Аўгуста Шлегеля, вобразна, едка і трапна „разбіў тысячагадовае панаванне рамантыкі“. Лёгка і вольна крытыкуючы, ён не пакінуў каменя на камені ад усіх аўтарытэтаў рамантызма, не пашкадаваўшы нікога і ўскрыўшы

самую аснову рамантычнай школы. Гэта было вельмі цяжкою справай і толькі пісьменніку, які валодаў дасканала зброяй сатыры, насмешкі, іроніі, які ведаў дэталёва ўсе дробязі, усе асаблівасці і ўласцівасці дадзенай школы, Генрыху Гейне такая справа аказалася па плячы.

Творчасць Гейне надзвычай ярка і востра выявіла супярэчнасць свядомасці перадавой нямецкай розначыннай інтэлігенцыі. Яна шукала выйсця з душыўшых умоў феадальна-дваранскай рэакцыі. Але знайсці выйсце было вельмі цяжка. Пролетарыят яшчэ толькі ўступаў на гістарычную арэну, дваранства і труслівая буржуазія, якая кінулася ў абнімкі дваранскай рэакцыі—былі аднолькава ненавісны лепшым людзям краіны, людзям, перад вачамі якіх стаяў прыклад французскай рэволюцыі. Але самі яны не маглі нічога прадпрыняць. Энгельс у „Рэволюцыі і контррэволюцыі ў Германіі“ вельмі дакладна зазначыў, што дробная буржуазія самастойна дзейнічаць не можа, што няўстойлівасць яе становішча заключаецца ў тым, што яна займае прамежнае месца паміж двумя класамі—антаганістамі. Адсюль двуістасць, няўстойлівасць і супярэчлівасць светапогляду.

Трагедыя Гейне была ў тым, што ён жыў у эпоху, калі буржуазія ўжо раскрыла свой сапраўдны драпежны твар і сваю звярыную сутнасць. Пролетарыят-жа яшчэ толькі ўступаў на сцэну, яшчэ пачынаў накапляць сілу і энергію для будучых сваіх боек. 30-я гады, з‘явіўшыся „гадамі навучання“ і фармавання свядомасці Гейне (ён пазнаёміўся з вучэннем Сэн-Сімона, Фур‘е, Гегеля і іншых прадстаўнікоў французскай грамадска-соцыяльнай і нямецкай філасофскай думкі), разам з тым з‘явіліся і гадамі глыбокага крызіса ў свядомасці, а значыць і творчасці паэта.

У яго свядомасці ішла барацьба паміж страснасцю барацьбіта за лепшае будучае чалавецтва і індывідуалізмам песіміста, які сцвярджае, што ўсё дрэнна ў гэтым горшым з светаў. Дробнабуржуазны рэволюцыянер падкрэсліваў свой індывідуалізм, сваё адрозненне ад масы, а хварэў нягодамі ўсяго народу, страсна бічаваў яго прыгнятальнікаў, страсна ненавідзеў стары свет і шукаў саюзнікаў для сучаснай барацьбы. Гэта супярэчнасць нараджала няўстойлівасць; яркім выяўленнем такой няўстойлівасці з‘явілася паэма „Ата-Троль“, дзе самы бесшабашны ўзлёт фантазіі аўтара пераплятаецца з астраумнейшымі і ўедлівымі выпадамі супроць рэчаіснасці. Яго сатыра накіравана супроць 36 князёў, якіх паэт, што змок на дажджы, ахвотна прамяняў-бы на парасон; ён не забывае сваіх ворагаў, швабскую школу рамантыкаў, якія ўз‘еліся на яго за „Рамантычную школу“; закранае, парадыруючы, рад сучасных яму паэтаў, як Фрэйліграта, Пфіцэра і інш., але асноўнае сатырычнае гучанне паэмы заключана ў геніяльна пададзеным вобразе тэндэнц-медзведзя Ата-Троля. Ата-Троль — гэта парадыйны вобраз. Тут Гейне хацеў высмеяць сучасных яму нязграбных, тупаватых радыкалаў, якія не здолелі ацаніць сапраўднае значэнне творчасці Гейне і ўпікалі яго ў легкадумнасці і беспрынцыпнасці. Маркс часта пасля скарыстоўваў вобраз Ата-Троля для таго, каб высмеяць сваіх супрацоўнікаў.

Для Гейне, гэтага геніяльнага мастака-сатырыка, аставаўся толькі адзін шлях,—гэта шукаць сабе саюзніка ў пролетарыяце. Гейне настолькі перарос узровень сваіх саацечаственікаў, перад яго разумовым поглядам адкрываўся ўжо настолькі шырокі даляглял, што на гэтым даляглядзе ён убачыў сапраўды грозную сілу, пагражаючую буржуазнаму грамадству—пролетарыят. Гейне здолеў зразумець, што пролетарыят створыць новае грамадства роўнасці, што будучыня за комунізмам. Але ён не здолеў ніколі рашуча парваць з сваім індывідуалізмам, сваім тонкім эстэцтвам, не здолеў прыйсці да пролетарыята. Затое ў барацьбе супроць чорнай рэакцыі, супроць дэспатызма феадальна-дваранскага ладу і гнуснасці буржуазнага грамадства, супроць трусасці і рэакцыйнасці нямецкай буржуазіі, супроць шавіністаў і нацыяналістаў усякіх колераў—у гэтай барацьбе Гейне заўсёды быў і астанецца буйнейшым і таленавіцейшым саюзнікам пролетарыята. У сувязі з гэтым у вышэйшай ступені цікава асвятліць адносіны Гейне да комунізма. Ён ведаў, што комунізму, як ідэалогіі пролетарыята, належыць будучае. Ён піша, што не гледзячы на выццё і крыкі рэакцыянераў, яму прышлося зрабіць такое прызнанне ў сваіх карэспандэнцыях.

Але Гейне, вядома, не мог яшчэ стварыць сабе ў той час сапраўднага ўяўлення пра сутнасць комунізма. Яму комунізм уяўляўся ў выглядзе фаланстэраў Фур'е, у духу утапістаў-соцыялістаў, стварыўшых такі ідэал роўнасці, які па сутнасці з'яўляўся дробнабуржуазнай ураўнілаўкай. Супроць такой ураўнілаўкі пратэставала ўся істота паэта. Ён баяўся апрача таго, што пры комунізме будзе панаваць толькі шэры прынцып карыснасці, утылітарнасці і не астанецца месца для хараства. А душа паэта мае патрэбу ў эстэтыцы, у прыгожых статуях, музыцы, кветках, каханні і г. д. Гейне не здолеў зразумець, што пры комунізме не адны толькі паэты будуць мець права на эстэтычную асалоду, і што прынцып роўнасці выявіцца не ў знішчэнні хараства для нямногіх, а ў стварэнні такіх умоў, калі лепшыя творы мастацтва, прыгожая прырода, радасць інтэлектуальнага жыцця будуць даступны для ўсяго чалавецтва. Паўтараю, Гейне гэтага не разумеў і Гейне баяўся комунізма. Але баючыся комунізма, ён тым не менш яго прывітаў, як сапраўды справядлівы грамадскі лад.

У прадмове да „Лютэцыі“ вось што піша ён пра комунізм: „Гэта прызнанне, што будучае належыць комуністам, я зрабіў з бясконцым страхам і тугой, і ўвы! Гэта зусім не было прыкідваннем“. Паэту здаецца, што: „грубымі рукамі бязлітасна зруйнуюць яны ўсе мрамарныя статуі хараства, гэткія дарагія майму сэрцу; яны разаб'юць усе тыя фантастычныя цацкі і бяздзелкі мастацтва, якія так любіў паэт; яны знішчаць мае лаўровыя гаі і будуць саджаць там бульбу; ... ружы, гэтыя гулёвыя нявесты салаўёў спаткаюць той-жа лёс; салаўі, гэтыя бескарысныя спявакі будуць прагнаны і ўвы! З маёй „кнігі песень“ бакалейны гандляр будзе рабіць фунцікі, у якія будзе сыпаць кофе, або нюхальны тутун для бабуль будучага. Увы! Усё гэта я прадбачу і невыказная

жальба авалодвае мною пры думцы, што пераможны пролетарыят пагражае пагібеллю маім вершам".

Прароцтва Гейне ў гэтым дачыненні не апраўдалася. Іменна ў краіне перамогшага пролетарыята як нідзе любяць творчасць вялікага паэта і зачытваюцца ім. Толькі ў нашай краіне магчымы такія з'явы, як масавыя тыражы яго твораў, тыражы, якія разыходзяцца з маланкавай хуткасцю. Але... даўшы волю свайму эстэцтву, Гейне тым не менш адкрыта прызнаецца, што ўсё-ж комунізм трымае яго душу ва ўладзе сваіх чар, што ў яго карысць кажуць два галасы, супроцьстаяць якім ён не ў сілах. „Бо першы голас— логікі. Страшны сілагізм зачараваў мяне, і калі я не магу абвергнуць пасылку, што „ўсе людзі маюць права есці", я вымушан падпарадкавацца ўсім вывадам, якія вынікаюць з яе... Яно асуджана гэта старое грамадства! Няхай адбудзецца правасуддзе! Няхай будзе ён зруйнаваны, гэты стары свет, дзе нявіннасць гінула, дзе добра сябе адчуваў эгаізм, дзе чалавека эксплаатаваў чалавек! Няхай будуць зруйнаваны да рэшты ўсе друзлыя маўзалеі, дзе панавалі мана і несправядлівасць! І няхай будзе благаславенны той бакалейны гандляр, які будзе калісьці рабіць пакетыкі з маіх вершаў і ўсыпаць у іх кофе і тутун для бедных бабулек, якім у нашым неправедным свеце, быць можа, даводзілася адмаўляць сабе ў падобных задавальненнях". Але асабліва трэба адцяніць другі довад на карысць комунізма. Тут Гейне сам паказвае, у чым ён блізкі да нашай сучаснасці, тут Гейне вызначае агульнага ворага, змагацца супроць якога варта плячо ў плячо з комуністамі.

„Другі з гэтых загадвальных галасоў, якімі я зачараваны, яшчэ магутней і яшчэ дэманічней, бо гэта голас нянавісці, якую выклікае ва мне партыя, страшнейшым супраціўнікам якой з'яўляецца комунізм і якая таму ёсць таксама наш агульны вораг. Я кажу пра партыю так званых прадстаўнікоў нацыянальнасці ў Германіі, пра гэтых няшчырых патрыётаў, патрыятызм якіх заключаецца ў агідзе да ўсяго іншаземнага і да суседніх народаў і якія кожны дзень зрыгаюць сваю жоўць перш за ўсё на Францыю. Так, да гэтых абломкаў або патомкаў тэўтоманаў 1815 года, якія толькі паднавілі свой стары гарнітур ультрагерманскіх шутоў і крыху пакарацілі сабе вушы, я заўсёды адчуваў нянавісць і заўсёды змагаўся з імі, і цяпер, калі меч падае з маіх рук,—рук паміраючага, я суцешаны ўсведамленнем, што комунізм, якому яны першыя трапяцца на дарозе, нанясе ім апошні ўдар; і вядома не ўдарам паліцы знішчыць іх гігант, не, ён проста раздушыць іх нагой, як раздушваюць жабу. З нянавісці да прыхільнікаў нацыяналізма я мог бы амаль улюбіцца ў комуністаў".

Літаральна не верыцца, што гэтыя радкі пісаны амаль сто гадоў назад. Хіба нянавісць, дыхаючая ў кожным слове, кожным сказе, не з'яўляецца той нянавісцю, якую лепшыя сыны нямецкага народу адчуваюць да нямецкіх фашыстаў, кажучы словамі Гейне, „германскіх патрыётаў тупых прыхільнікаў вузкага нацыяналізма". Хіба шлях набліжэння Гейне да пролетарыята не з'яўляецца тым шляхам, якім прыйшлі да нас і сталі ў рады антыфашысцкага

фронта лепшыя пісьменнікі, як Ліон Фейхтвангер, Генрых Ман і інш.? Хіба, урэшце, не ясна тая надзея на перамогу комунізма над фашызмам? Фашызм будзе раздушаны як жаба. Гэта надзея натхняла Гейне сто год таму назад, яна жыве і мацнее ў сэрцах нямецкага народу, прыгнятаемага фашыстамі, але ведаючага пра вялікія перамогі краіны Советаў. Болем гучыць прызнанне Гейне пра сваё паражэнне, пра тое, што меч выпадае з яго рук. Але ў тую эпоху, калі шостая частка свету будуе бяскласавае грамадства, калі на шостай частцы свету ў краіне перамогшага пролетарыята знік усякі намёк на эксплаатацыю, калі комунізм з далёкай мары зрабіўся рэальным, асязальным—у гэтую эпоху сумненні, якія мучылі Гейне, адпадаюць у лепшай часткі нямецкай інтэлігенцыі, бо яна бачыць, што толькі ў СССР мастацтва, выстаўкі, музеі, музыка, тэатры, кнігі, надзвычайныя курорты даступны ўсяму народу і толькі тут дасягае чалавечая культура свайго поўнага ўсебаковага развіцця.

## II

Але асабліва ярка выявілася сутнасць Гейне, як буйнейшага сатырыка, у эпоху 40-х год у Германіі. 40-я годы—годы росквіту палітычнай лірыкі, якая была выражэннем росту апазіцыйных настрояў бюргерства. Да таго часу нямецкая буржуазія набыла пэўную эканамічную сілу і пачала імкнуцца змякчыць прыгнёт самадзяржаўя. Мары нямецкай буржуазіі ніколі не ішлі далей патрабавання канстытуцыі. Але ёй (буржуазіі) у сваёй апазіцыі да новага караля Фрыдрыха Вільгельма IV прышлося абаперціся на рэволюцыйна-дэмакратычныя элементы ў нямецкім грамадстве, хоць гэта не заўсёды прыходзілася ёй па густу. Ва ўсякім выпадку, пачынаючы з 40 і па 48 год—гэтыя гады былі поўныя ідэалагічнага бражэння, былі падрыхтоўкай рэволюцыі. Усё больш хуткімі тэмпамі расце нездавальненне феадальна-юнкерскім ладам. Гэта нездавальненне праяўляецца ў тэматыцы палітычнай лірыкі. Асноўны ўдар яе накіраваны супроць самадзяржаўя князей, герцагаў і г. п. дробных дэспатаў, супроць палітычнай бяспраўнасці народу, супроць розных устаноў феадальнага ладу. У палітычнай лірыцы 40-х гг. гучаць заклікі да нізрынуцця манархіі, да барацьбы за аб'яднанне Германіі. У 1842 г. узнікае першая газета, якая выражае адкрытае нездавальненне, гэта „Рэйнская газета". Спачатку яна выяўляла толькі ліберальную апазіцыю да старога рэжыма, але калі з кастрычніка 1842 г. месца галоўнага рэдактара заняў Карл Маркс, „Рэйнская газета" набыла яшчэ нябачаны ў Германіі рэволюцыйна-дэмакратычны характар. Маркс заўсёды надаваў вялікае значэнне мастацтву, лічачы яго дзейснай зброяй у палітычнай барацьбе. Ён згуртаваў вакол сваёй газеты лепшых прадстаўнікоў палітычнай паэзіі, лепшых паэтаў свайго часу. Нямецкая палітычная паэзія вядома не была аднароднай. У ёй было шмат адценняў, у залежнасці ад таго, куды належаў паэт. Побач з ліберальна-буржуазным паэтам і публіцыстам Робертам Прутцам, які

не хацеў рэволюцыі, а спадзяваўся на мірную рэформу зверху з Дзінгельштэдтам, аўтарам „Песень начнога вартаўніка“, які бачыў соцыяльныя супярэчнасці, кляйміў манархію, але не бачыў выйсця. Побач з Гофманам фон Фалерслебенам, аўтарам „Непалітычных песень“, гучаць імёны вядомейшых папутнікаў ранняга пролетарскага руху, рэволюцыйных дэмакратаў, Гервега і Фрэйліграта. Але самым буйным, самым выдатным паэтам-сатырыкам з‘яўляецца безумоўна Генрых Гейне. Гэта геніяльны мастак, які сабраў у фокусе сваёй творчасці рэволюцыйна-дэмакратычныя тэндэнцыі лепшай і найбольш прагрэсіўнай часткі нямецкага народу. Сваёй сатырай, сілай свайго геніяльнага сарказма, ён бязлітасна зрываў маскі з усіх адмоўных з‘яў соцыяльнага жыцця, з едкай насмешкай агаляў язвы феадальнага рэжыма.

Перыяд да 40-х гг. быў у яго творчасці перыядам вялікага і сур'ёзнага крызісу. Яго індывідуалізм, баязнь комунізма і ўпэўненасць у яго няўхільнасці, страх перад ім і разам з тым урачыстыя гімны ў яго гонар—усе гэтыя супярэчнасці вызначылі гэты крызіс. Выйсці з яго паэту дапамог Маркс. Гейне вельмі цікавіўся рэволюцыйна-дэмакратычным рухам у Германіі, развіццём філасофіі, асабліва рухам младагегельянцаў; ён сачыў за „Рэйнскай газетай“ і калі Маркс, пасля таго як была закрыта „Рэйнская газета“, прыехаў у Парыж, паміж ім і Гейне завязалася вельмі блізкае знаёмства. Яны яшчэ больш зблізіліся тады, калі ў палеміцы паміж Гейне і Берне Маркс стаяў за першага. Прыехаўшы ў Парыж, Маркс вырашыў працягваць выданне часопіса „Нямецкія летапісы“, але ўжо ў выглядзе „Нямецка-французскіх летапісаў“.

У адзіным нумары іх, які выйшаў (далейшае выданне было забаронена цэнзурай), Гейне змяшчае некаторыя свае сатыры. У „Усхваляючых песнях у гонар Людвіга Баварскага“, у „Кітайскім багдыхане“ і г. д. вельмі тонка высмейвае ён нямецкіх каралёў, самадураў-дэспатаў. Так насміхаецца ён над Людвігам Баварскім, пошлым мецэнатам, які пісаў высокапарныя вершы і жорстка прыгнятаў народ.

Надзвычайная сатыра—„Кітайскі багдыхан“. Зноў-такі варта зазначыць, што напісаная амаль сто год назад, сатыра застаецца дзейснай і цяпер. Пад кітайскім багдыханам Гейне мае на ўвазе Фрыдрыха IV, славутага сваёй рэакцыйнасцю, жорсткасцю і побач з гэтым алкагалізмам. Іранічна рысуе Гейне, як „добра жывуць падданыя караля, калі... ён бывае п‘яны“. Тады яму ўсё здаецца ў ружовым святле, тады рызманы жабракоў уяўляюцца яму шоўкам і аксамітам, тады ў краіне ўсе сытыя, задаволеныя і, адмаўляючыся ад канстытуцыі, просяць палак. Сучасныя фашысты таксама імкнуцца стварыць такую дзяржаву, дзе панавала-б палачная дысцыпліна і казарменная муштра. Яны мараць стварыць такую „ідэальную“ Германію, у якой народ-бы маўкліва пераносіў усе нягоды і голад у імя Крупа, Тысена, Гітлера і К-о і маўкліва-бы паміраў для іх кішэні. Гейне дае на гэта іранічны адказ. Такую „ідэальную дзяржаву“ можна стварыць ва ўяўленні ды і то пад уплывам алкаголя. У сапраўднасці гэта не ўдасца.

Маркс вельмі цярпліва і тактоўна аказваў свой ідэйны уплыў на Гейне. У перыяд падрыхтоўкі буржуазна - дэмакратычнай рэволюцыі ў Германіі Маркс і Энгельс імкнуліся прыцягнуць на бок пролетарыята ўсіх лепшых прадстаўнікоў нямецкай апазіцыйнай інтэлігенцыі. Перыяд блізкасці з Марксам—найбольш бліскучы і пленны перыяд у творчасці Гейне. Гэта—час найбольшага набліжэння Гейне да пролетарыята. Гэтыя гады (1843—1845 г.) адзначаны з'яўленнем цыкла „Сучасных вершаў“ і надзвычайнейшай палітычнай паэмы „Германія—зімняя казка“ (1844 г.). Паэма „Германія“ і да нашых дзён астаецца лепшым творам сусветнай рэволюцыйнай паэзіі.

А з цыкла „Сучасных вершаў“ асабліва вылучаюцца не менш славутыя „Сілезскія ткачы“. У 1844 г. у сілезскіх вёсках Лангебілау і Петэрвальдау ўспыхваюць стыхійныя паўстанні ткачоў, даведзеных да жудаснага, жабрацкага стану эксплаататцыяй фабрыкантаў. Гэта было першае паўстанне рабочых у Германіі. Не гледзячы на неарганізаванасць сілезскіх ткачоў, адсутнасць палітычных патрабаванняў, Маркс бачыў у гэтым факце зерне будучага рабочага руху. Ён і ацаніў гэта паўстанне, як пачатак рабочага руху ў Германіі.

Рад палітычных паэтаў адгукнуліся на паўстанне сілезскіх ткачоў. Але ўсіх іх прыцягнуў толькі адзін бок з'явы. І Фрэйліграт і іншыя падышлі да яе толькі з філантрапічнага пункту гледжання і асвятлілі яе статычна. Гейне-ж пад уплывам Маркса ўзняўся да разумення таго, што толькі пролетарыят сатчэ саван старой Германіі. Падаём цалкам гэты верш:

Без слез их взор, печальный и грубый,
Сидят у станка и скалят зубы:
„Германия, ткем мы саван твой,
Проклятье тройное ведем каймой,—
Мы ткем, мы ткем!

Проклятье богу, кому сквозь голод
Молились мы, сквозь голод и холод!
Напрасно мы ждали за часом час:
Он обманул, одурачил нас,—
Мы ткем, мы ткем!

Проклятье королю, злому владыке,
Кого не тронули наши крики,
Кто выжал из нас последний грош
И дал нас, как скот, повести под нож,—
Мы ткем, мы ткем!

Проклятье отечеству, родине лживой,
Где лишь позор и низость счастливы,
Где рано растоптан каждый цветок,
Где плесень точит любой росток,—
Мы ткем, мы ткем!

Станок скрипит, челноку не лень,
Мы ткем неустанно ночь и день
Германия старая, ткем саван твой,
Тройное проклятье ведем каймой,—
Мы ткем, мы ткем!

Ад імя ткачоў праклінае Гейне і караля „злога ўладара“ і буржуа, які забірае апошні грош у ткача бедняка. Але праклянці пасылаюцца і „бацькаўшчыне, радзіме зманлівай“. Гейне тут падкрэслівае, што для пролетарыя капіталістычная краіна не з'яўляецца і не можа з'яўляцца бацькаўшчынай, як-бы не ўбівалі гэтага яму ў галаву шавіністы ўсіх колераў мінулага і цяперашняга. „Сілезскія ткачы“ б'юць па нацыяналізму, значыць і па фашызму. Гейне верыць у сілу пролетарыята, у яго місію і, вядома, думка пра тое, што толькі пролетарская рэволюцыя сатчэ саван фашысцкай Германіі—цесна звязана з тканінай гэтага верша.

Гейне ў сваім зборніку фармулюе задачы палітычнага паэта, ён заклікае паэтаў:

Ударь, как колокол набатный,
Пой про кинжал, про меч булатный
И не давай дремать отчизне.
Не будь ты флейтой, мягкой, нежной
И идиллической душой.

Но будь трубой и барабаном,
Осадной пушкою, тараном,
Труби, греми, как вихр мятежный,
Труби, греми, не унимайся,
Пока есть хоть один тиран.

З нянавісцю малюе ён аблічча сучасных яму нацыяналістаў. Вобраз такога самадзяржаўнага нацыяналізма дае ён у вершы „Падкідыш“. У гэтым вершы паэт паказаў самыя агідныя, гнусныя рысы дадзенай групы; паэт падкрэслівае, што шавінізм—гэта падкідыш, а не дзіця нямецкага народу. Гейне настолькі ненавідзіць гэтую гнусную шайку, што змяняе сваёй звычайнай іранічнай стрыманасці, раскрывае сваё негадаванне, агіду і нянавісць.

Ребенок с тыквенной громадной головой,
С усами русыми, с седеющей косой,
С паукодлинными, но сильными руками,
С огромным животом, но узкими кишками—
Подкидыш; в колыбель его один капрал
Подкинул к нам, а сам у нас украл
Младенца в пеленах; урод, плод преступленья,
Рожденный может быть, от гнусного сближенья
Охотни ьего пса с развратным стариком;
Нет нужды называть теперь того, о ком
Я говорю, но вы, для своего покоя,
Должны убить иль сжечь чудовище такое.

Безумоўна, дадзеная парада астаецца ў сіле і цяпер. І нямецкі народ бессумненна ўрэшце яе скарыстае.

У радзе сатыр бічуе Гейне не толькі дваранства, феадалізм, самадзяржаўных дробных дэспатаў-самадураў. Гейне сваімі сатырамі імкнецца разварушыць нямецкае бюргерства, гэтага соннага „Міхеля“, які яшчэ такі бяздзейны, інертны і лянівы. То з горыччу, то са злой насмешкай, то з жальбай, то з надзеяй гучаць тыя сатыры Генрыха Гейне, у якіх завастраецца тэма нямецкага Міхеля. Так

паэт спадзяецца, што Міхель ужо прачынаецца, варушыцца і з трывогай азіраецца навакол.

Міхель! Что-ж, повязка упадает
С глаз твоих? Теперь ты видишь, брат,
Наконец, что лакомые блюда
У тебя из-под носа тащат?

Але ад надзеі ён кідаецца да едкай насмешкі, да астраумнага, поўнага скрытага сарказма высмейвання пакорлівасці, сціпласці і вернападанасці Міхеля. Міхелю даражэй за ўсё „сасіскі з капустай", іранічна гаворыць ён у вершы „Да супакоення". Ён параўноўвае Германію з Рымам, дзе былі моцныя людзі, як Брут і інш., гэта параўнанне не на карысць немцаў:

Не римляне мы, нет; мы курим лишь табак.
У каждой нации свой вкус есть и свой смак,
Одни идут на все, другие вялы, слабы...
Суп с клецками варят всех лучше швабы.

Энергічна здзекваецца Гейне над „нямецкай адданасцю" сваім князям:

Как наш могучий дуб, как липа, мы верны
И этой верностью немецкою должны
Всегда гордиться мы пред всеми. Потому то
В стране дубов и лип вы не найдете Брута.

Часта Гейне любіць скарыстоўваць прыём паказу з'яў або падзей навыварат. Гэтым прыёмам карыстаецца ён у „Кітайскім багдыхане", у „Свеце навыварат" і інш., для таго, каб яшчэ ярчэй даць адчуць недасканальнасць сапраўдных з'яў. Такі прыём скарыстаў паміж іншым вядомы рэволюцыйны паэт Іоганес Бехер, жадаючы паказаць у сваёй паэме „Германія" рэзкую супярэчнасць паміж дэмагагічнымі абяцаннямі фашыстаў да прыходу іх да ўлады і тым жудасным жыццём у фашысцкім „раю", якое яны стварылі ў сапраўднасці.

Тэму пра нямецкую пакорлівасць і адданасць сваім тыранам Гейне звязвае з тэмай пра рэлігійныя забабоны і вераванні. Па сваіх поглядах Гейне быў ярым сенсуалістам, паслядоўнікам гуманізма эпохі адраджэння. Ён стаяў за земныя радасці, за здаровае жыццё, за правы чалавека на гэта земнае жыццё, урэшце, за правы чалавечага цела і пачуццяў. Але гэта не насіла эпікурэйскага характару. Гэтыя погляды ў вуснах Гейне набывалі ярка-выяўлены ваяўнічы характар. Гейне супроцьставіць правa чалавека на шчасце на зямлі вучэнню царквы пра блажэнства на тым свеце, пра ўзнагароду на небе. Едка і зло гаворыць пра тое, як царква абяцае ўсе блажэнствы „на небе, дзе ўсевышні без костачак есць вішні", абы толькі не прэтэндавалі на земнае шчасце. Гэта вучэнне царквы было ў інтарэсах пануючых класаў, якія не жадалі дзяліцца з народам сваёй маёмасцю.

Праведзеная ў радзе вершаў, асабліва выразна загучыць гэтая тэма ў паэме „Германія—зімняя казка". У супрацьвагу другім па

лiтычным паэтам Германіі, Гейне быў ярым супрацiўнікам агульных месц і туманных сказаў. У сваіх вершах, як „Тэндэнцыя“, „Георгу Гервергу“ і інш. ён высмейвае захапленне паэтаў пышнай рыторыкай. Яго сатыры заўсёды б'юць па канкрэтных з'явах, зрываюць маскі з агідных бакоў рэчаіснасці. Паэтычнае майстэрства яго сатыр, выразлівасць, уменне двума-трыма словамі выказаць найглыбейшыя думкі і даць ярка акрэсленыя вобразы—ва ўсім гэтым Гейне бадай яшчэ не мае сабе роўных. Паўтараю, Гейне не любіць доўгіх разважанняў. Ён толькі малюе гратэскныя малюнкі рэчаіснасці. Але іх пластычнасць надзвычай выразлівая, а ўжо само супастаўленне іх выяўляе асноўны намер паэта. У пісьме да міс Гаркнес Энгельс паказвае, што „чым больш скрыты погляды аўтара, тым гэта лепш для твораў мастацтва“. Такое вызначэнне зусім падыходзіць да сатыр Гейне. Ён не даводзіць сваіх поглядаў, а здзекуючыся паказвае тыя або іншыя з'явы, так-што адразу зразумелым робіцца замысел аўтара і яго сімпатыі і антыпатыі. Але цікава зазначыць, што кожны вобраз, кожная замалёўка Гейне нясе на сабе падвойную або нават патройную нагрузку, выконвае складаную функцыю. Прыкладам спецыфічнасці сатыры Гейне можна ўзяць хоць-бы такую надзвычайную сатыру, як „1649—1793—???“

Першая страфа малюе падзеі 1649 года ў Англіі, у часе рэвалюцыі. Гейне малюе пабудову эшафота, іранічна зазначаючы, што англічане пры казні караля Карла I Сцюарта абсалютна не захоўвалі прыдворнага этыкета. Тое-ж самае здарылася і з Людовікам Капетам і яго жонкай Марыяй Антуанетай. Кожная з строф, ім прысвечаных, дае замалёўку казні. Англічане і французы ў абыходжанні з манархамі выявілі сваю невыхаванасць і зневажанне этыкета. За тое, калі ўжо немцы ў ???-годзе вырашаць казніць караля, то зробяць гэта ў вышэйшай ступені далікатна і па вернападданаму:

Карета в шесть упряжек, в коронках,
Кони в черных султанах, в попонках.
Высоко на козлах, с кнутом, в креп-де-шине
Плачущий кучер—так будет в Берлине
На место казни король привезен
И верноподданнейше казнен.

З супастаўлення гэтых строф робіцца відавочным, з якім майстэрствам і мастацкай смелай прастатой паэт укладвае ў сатыру і насмешкі над „адданым, ручным Міхелем“,—нямецкім філістэрам з яго сантыментальнымі нравамі, і заклік да нізрынуцця манархіі, да казні караля.

„Сучасныя вершы“ выйшлі ў свет амаль адначасова з паэмай „Германія—зімняя казка“. Увосень 1843 г. Гейне паехаў у Германію для таго, каб пабачыцца з сваёй маці. Дазволу на ўезд ён не атрымаў і таму яму не ўдалося доўга пабыць у Германіі. Але і гэтага кароткага прабывання на радзіме паэта, пасля 13 год адсутнасці, было дастаткова, каб атрымаць уяўленне пра жыццё Германіі да рэволюцыі 1848 г.

Сама паэма напісана ў форме дзенніка, або нататак падарожніка. Паэт праязджае граніцу, выказвае свой погляд пра мытныя парадкі, свой настрой, выкліканы тым, што ён убачыў радзіму, і далей, праязджаючы розныя гарады, запісвае свае ўражанні і думкі, якія ўзнікаюць пры гэтым. Такая форма рабіла больш лёгкай для паэта задачу крытыкі сучаснай яму Германіі. Спалучэнне апісальнага элемента з элементам суб'ектыўнай ацэнкі робіць паэму надзвычай дзейснай, надзвычай крытычнай. Праязджаючы праз розныя гарады Германіі і ў іх спыняючыся, паэт канстатуе незвычайна вялы пульс жыцця дасакавіковай Германіі. Сабакам на вуліцы і то сумна.

Асноўную сілу сваёй сатыры Гейне, як звычайна, накіроўвае супроць прадстаўнікоў старога свету, супроць дваранства, супроць чорнай клікі духавенства. У мастацкай форме выказвае Гейне тыя-ж думкі, пра якія пісаў у „Рамантычнай школе". Паэт атоесамлівае рамантызм з дваранска-феадальнай рэакцыяй. Іранізуючы над новай формай пруской ваеншчыны, апоры рэакцыі, якая пачала насіць шышакі „с верхушкой стальной заостренной", Гейне бачыць у іх сувязь з рамантычным апяваннем сярэдневякоўя. Гэта форма нагадвае яму:

Прелести средних веков,  
С ландскнехтами и пажами,  
Что верность носили в своих сердцах,  
А зад расшивали гербами.

І Гейне ад імя новай дэмакратычнай сілы краіны пагражае рэакцыі.

Я только боюсь, коль случится гроза,  
В ваш мир романтики старой,  
Пожалуй, притянутся тем острием  
Новейших молний удары.

Праязджаючы праз Кёльн паэт напамінае пра былое гэтага горада. Ядавітым сарказмам гучаць яго радкі, прысвечаныя разгулу фанатызма, нецярпімасці і рэлігійных забабонаў, якімі славіліся сярэднія вякі.

Да, здесь когда-то черный клир  
Обряд свой набожный правил,  
Темные мужи, которых навек  
Ульрих фон-Гуттен ославил.  
. . . . . . . . . . . . . . . .  
Здесь днем и ночью на кострах  
Дымились люди и книги.  
. . . . . . . . . . . . . . . .  
И злоба и глупость буянили здесь  
На площадях, как звери;  
Их выводок даже сейчас узнаеш  
По озлоблению в вере.

А кнігі гарэлі зусім не так даўно на кастрах фашысцкай Германіі. Ці мог прадбачыць Гейне, што яго ўласныя кнігі будуць гарэць на пляцах разам з кнігамі Маркса і Энгельса, разам з

кнігамі перадавых розумаў чалавецтва? Нешта ў гэтым духу ён прадбачыў. Хіба не на адрас фашыстаў гучаць прарочыя словы Гейне пра будучае Германії? Багіня паказвае яму гэта будучае і паэт пераконваецца, што наперадзе найвялікшая задача ачышчэння Германіі ад нацыяналістычнай гнілі, ад дэспатаў, феадалаў і т. п. рэакцыянераў. Багіня Гамонія дае яму чараўнічы кацёл, у якім можна пазнаць будучае. Асабліва жахнуў паэта жудасны смурод з гэтага катла:

Я с отвращением помню о том,
Как пахло там, гнусно и пусто,
Прелюдию запаха, эту смесь
Юфти и тухлой капусты.

Но уж затем поднялся дух
Воистину прямо адов,
Как будто чистили за раз
Тридцать шесць ретирадов.

Та падаль, которая сгнила давно,
Исторически воняя,
Она испускала последний яд,
Смесь мертвого и негодяя.

И даже этот воскресший труп,
Само привиденье святое,
Которое кровь государств и людей
Сосало без сна и покоя,
Опять замучить захотело мир
Своим дыханьем тленья,
И отвратительно черви ползли
Из живота привиденья.

Так, Гейне адчуваў і разумеў, што ўся падаль старога света не захоча лёгка саступіць свайго месца ў жыцці, яшчэ неаднаразова будзе старацца сваёй атрутаю атруціць лепшыя расткі новага часу. Паэт падкрэслівае:

Этот германский, грядущий дух
Все превзошел вероятья,
Все, что мог представить мой нос,—
И больше не мог дышать я.

У гэтай паэме паэт ад імя новага пакалення, якое не жадае мірыцца з прыгнётам і самавольствам, з пакорлівасцю бацькоў, абвяшчае бязлітасную барацьбу ўсім марам пра Германію, як адзіную манархію. Яго патрабаванні — гэта аб'яднанне Германіі ў дэмакратычную рэспубліку, што на тым этапе з'яўляецца найбольш прагрэсіўным патрабаваннем. І карыстаючыся старажытнай легендай пра спячага імператара Фрыдрыха Барбаросу, будучага аб'яднальніка Германіі, паэт вельмі астраумным прыёмам развенчвае гэту казачную здань. Ен прымушае Барбаросу прачнуцца, ён гаворыць з ім у сваім сне і, расказваючы пра зямныя навіны, паведамляе пра лёс Людовіка XVI, Марыі Антуанеты і інш. асоб каралеўскага

двара, якія скончылі жыццё на гільятыне. І ў адказ на абурэнне Барбаросы паэт ускліквае:

Господин Барбаросса,—я громко сказал.—
Ты—образ старой поэмы,
Ступай себе спать, и без тебя
Освободимся все мы.
. . . . . . . . . . . . . . . . .
Лучше всего тебе дома сидеть,
В Кифгейзере, старой яме,—
А в сущности нам совсем не нужны
Императоры с королями.

Гейне дае ў паэме бліскучыя замалёўкі грамадскага і літаратурнага нямецкага жыцця, іранізуе над здольнасцю нямецкага бюргерства толькі марыць на мяккіх пярынах і ў ідэальных снах выказваць сваю „рэволюцыйнасць". На гэтыя мары бясплённыя і бескарысныя абрушваецца паэт з усёй сілай сваего сарказма. Ён завастрае тут тэму пра карыстанне земнымі багаццямі, пра тое, што гэтых багаццяў на зямлі можа хапіць усім. Гейне выкрывае прапаведнікаў аскетызма і тэорыі шчасця на небе, якія закалыхваюць народ песняй адмаўлення:

Старая песнь, отречения песнь,
Небесное баюшки-баю;
Ее напевают, чтоб рев унять,
Народу, большому лентяю.
Мы слышали музыку, знаем и текст,
И авторов знавали;
Публично славили воду они;
А дома вино попивали.

Зноў малюнак, які надзвычай нагадвае сучасную сітуацыю ў Германіі. І фашысты, дагаджаючы сваім апетытам, у мэтах падрыхтоўкі захватніцкай вайны, імкнуцца задушыць галодны крык дзяцей нездавальненне і абурэнне працоўных Германіі. Публічна славяць „ваду яны", галоднае меню, адмаўленне ад тлушчу, мяса і г. п. неабходных прадуктаў, а „дома віно папіваюць", імкнучыся на крыві і пакутах народу нажыць велізарнейшыя прыбыткі. Не, не страціла свайго значэння сатыра Гейне і на сёнешні дзень. Наадварот, яна вытрымала іспыт сваёй жыццездольнасці на працягу цэлага стагоддзя і ў цяперашні час сведчыць пра шчыльную сувязь фашыстаў з іх продкамі—буржуазнымі і юнкерскімі рэакцыянерамі-нацыяналістамі.

Станоўчае значэнне паэмы надзвычай вялікае. І велічнасць „Германіі" не толькі ў яе сатырычнай, крытычнай ролі. Сатыра Гейне, крытыка ім дасакавіковай Германіі надзвычай дзейсная, актуальная і ваяўнічая. Але гэта паэма, у адрозненне ад іншых твораў Гейне, нясе ў сабе шмат аптымістычнай веры ў лепшае будучае, у тое, што месца старога хлама зойме „жыццё, поўнае ўлады і сілы". Гейне бачыць новае пакаленне, якое расце з свабоднай воляй і свабоднай думкаю.

Цветет уже юность; оценит она
И гордость и нежность поэта
И будет приветливо сердцем его
Горячим, как солнце, согрета.

Поўныя цяплыні радкі, апяваючыя новых людзей іншага, свабоднага смелага пакалення, былі напісаны пад уплывам блізкасці з Марксам, былі данінай паэта светлай асобе Карла Маркса, як прадстаўніка класа, якому належыць будучае. І песня Гейне кідае выклік песням адмаўлення ад земных радасцей. Не, паэт верыць у будучае шчасце чалавецтва, у тое, што ўсім людзям будзе жыцца шчасліва на зямлі:

Новую песнь, лучшую песнь
Спою вам, о, други, сегодня!
Мы на земле, на этой, здесь
Устроим царство господне.
Хотим мы счастливыми быть на земле,
Довольно в бедности жили;
Пусть не глотает лентяйская пасть,
Что руки трудом добыли.
Достаточно хлеба растет на земле,
Хватит на всех понемножку
И роз, и миртов, и красоты,
И сахарного горошку.
Да, и горошек для каждого есть,
Уже наливается соком!
А небеса оставляем мы
Ангелам и сорокам.

Калі выйшла ў свет „Германія—зімняя казка“, Гейне было канчаткова забаронена з'яўляцца ў Германіі. Загад пра арышт Гейне, як толькі ён ступіць на нямецкую зямлю, быў выданы 16 красавіка 1844 г. Ён быў паўтораны 21 снежня таго-ж года. Відавочна было, што сатыра папала не ў броў, а ў вока.

* * *

З 1846 г. пачынаецца цяжкая хвароба Генрыха Гейне. Ён канчаткова злёг у 1848 г. і да самай смерці ў 1856 г. не падымаўся з сваёй „матрацнай магілы“, як жартуючы называў ён сваю пасцель з сямі матрацаў. З кожным днём хвароба яго ўсё прагрэсіравала, адымаліся члены, слеплі вочы. Але тым не менш паэт не пакідае сваёй творчасці.

Гэтыя гады пасля сакавіковай рэволюцыі выклікалі цяжкае расчараванне Гейне ў магчымасці цэльнай буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў Германіі. Да яго даходзяць весткі пра вулічныя баі ў Берліне, Вене і інш., пра барыкады, на якіх гінулі лепшыя сыны нямецкага народу. Але скора даходзіць і цяжкая вестка пра паражэнне, пра здрадніцтва франкфурцкага нацыянальнага схода, пра ганебную ролю буржуазіі ў гэтай рэволюцыі, і, ўрэшце, пра тое, што „Новая Рэйнская газета“ забаронена, Маркс і Энгельс вымушаны эміграваць, прычым супроць рада членаў „Саюза комуністаў“ пачаты працэс.

Усе гэтыя падзеі вельмі хваравіта ўплывалі на Гейне. У яго творчасці паглыбляецца песімізм, туга. Усё больш гучаць матывы расчаравання ў жыцці, матывы богаборніцтва і г. д.

Сатыра Гейне робіцца больш жэлчнай. З горыччу гаворыць ён пра цяперашняе Германіі.

А мы—мы под ярмо теперь
Попали псам и свиньям у корыта.
(У кастрычніку 1849 г.)

Яго злыя, саркастычныя насмешкі накіроўваюцца супроць узраданых пераможцаў. Так, у „Аслах—выбаршчыках“, „Ваяводзе віславухім“ і г. д. усюды высмейвае ён палітычны твар перамогшай рэакцыі, тупога чванлівага нацыяналізма, які ўсталяваўся. Ён з страсцю аддаецца і рэзкай крытыцы тупога, самазадаволенага, сытага буржуа, у якім зусім справядліва бачыць носьбіта жорсткасці, ханжаства, двудушнасці. Яго абурае „рахункаводная мараль“ тупых крамнікаў, якая прывяла іх да здрады рэволюцыі. Соцыяльныя тэмы загучалі ў такіх сатырах, як „Філантроп“, „Юдоль жальбы“, „Нявольніцкі карабель“ і інш.

З горыччу заўважае паэт перамогу рэакцыі, Міхель, які быў прачнуўся, зноў кладзецца салодка марыць ва сне („Міхель пасля сакавіка“, „Да палітычнага паэта“ і інш.).

Паглыбленне песімізма прыводзіць за сабой і рэцыдыў рамантычных матываў. Побач з яркімі, вострымі сатырамі ён піша цыклы вершаў пад назваю „Раманцэра“, „Да Лазара“, у якіх распрацоўвае і некаторыя яўрэйскія нацыяналістычныя тэмы („Іегуда Галеві“, „Прынцэса субота“). Але да гэтага цыкла далучаецца і такі шэдэўр антырэлігійнай паэзіі, як „Дыспут“, у якім аўтар вельмі зло і астраумна высмейвае ўсе рэлігіі, паказваючы нецярпімасць і фанатызм як хрысціян, так і яўрэяў, здзекуецца над бяссэнснасцю рэлігійных абрадаў. Надзвычайны вывад, які робіць паэт у канцы „Дыспута“. Паэт стамляе публіку, якая прысутнічае на дыспуце, бясконцымі сваркамі і спрэчкамі паміж рабінам і патэрам, стамляе і чытача і надзвычай лагічна вынікае бліскучая канцоўка, што:

И раввин и капуцин
Одинаково воняют.

Вядома, нельга ды і няма сэнсу закрываць вочы на супярэчнасці ў гейнеўскім светапоглядзе. Мы бачым і хістанні ў ім, адчуваем вялікую трагічную супярэчнасць, якая перашкаджала паэту да канца зблізіцца з класам, якому належыць будучае. Варта адзначыць і супярэчлівую трактоўку рэлігійных пытанняў. У яго антырэлігійных вершах гучаць матывы шчырага жыццерадаснага смеху над верай у радасці на тым свеце, поўнацэннае раскрыцце двудушнасці духавенства, якое вучыць гэтым старым казкам народ („Прасвятленне“, „Вішні“ „Дыспут“ і інш.). Але разам з тым, асабліва ў апошні перыяд, узмацняюцца матывы богаборніцтва, страснае абурэнне супроць несправядлівасці бога (напр. „Выгнанне з рая“ „Кінь свае іншасказанні“ і інш.).

Тым не менш уся палітычная лірыка сведчыць пра тое, наколькі класічная спадчына паэта сваёй пераважнай і лепшай часткаю належыць пролетарыяту.

Толькі пераможны пролетарыят (які на думку Гейне пагражаў яго вершам) можа зразумець, ацаніць і палюбіць яго творчасць. Мы добра разумеем, што яго супярэчнасці, яго імкненні і двуістасць вынікалі з умоў грамадска-соцыяльнага і палітычнага жыцця. Але яго творчасць становіць сабой каласальную каштоўнасць як у сэнсе дасканаласці мастацкай формы, так і ў дачыненні яе баявога ідэйнага зместу.

Гейне быў наватарам не толькі зместу, але і формы. Свае яркія, пукатыя, пластычныя вобразы ён умеў абрысоўваць двума-трыма выразлівымі штрыхамі, невялікай колькасцю канкрэтных дэталяў. Адной якой-небудзь дэталлю ён умеў дасягнуць вялікай выразлівасці, таму што браў толькі найбольш тыповае. Скупасць слоў, лаканізм, кароткасць павялічвалі сілу выразлівасці сатыр Гейне. Яго бліскучыя канцоўкі таксама лаканічныя і надзвычай астраумныя, адыгрывалі вялікую ролю ў наданні сугуба выкрываючага гучання сатырам. Урэшце, варта адзначыць вялікую канкрэтнасць і вобразнасць паэзіі Гейне, які не цярпеў туманных сказаў і невыразнасці думкі. Яго вобразы заўсёды канкрэтныя, яго зарысоўкі заўсёды рэалістычныя, хоць звычайна ён падае іх у плане рэалізма гратэскнага. (Гумпеліна ў „Італіі“ і інш.). Нават такое абстрактнае паняцце, як клопат, малюе ён у вобразе бабулькі, якая ні на хвіліну яго не пакідае, сядзіць заўсёды каля пасцелі і вяжа доўгую панчоху.

Сидит в безмолвии мрачных ночей,
Скрипит да скрипит табакеркой своей.
(„Бабулька—клопат“)

Гейне ўводзіць у нямецкую паэзію жывыя рытмы народнай паэзіі, размоўныя інтанацыі. Любоў да багатай рыфмы, да іх складанасці ніколі не перашкаджае выяўленню не менш багатага зместу. Наадварот, рыфмы ў Гейне ствараюць багатую мелодыку верша, яшчэ мацней падкрэсліваючы багацце думкі і выразлівасць яе.

Творчасць Гейне, накіраваная супроць старога свету дэспатызма, супроць рэакцыі, выкрываючая рэакцыйнасць нямецкай буржуазіі, ускрываючая ўродлівае аблічча нямецкіх ура-патрыётаў, „тупых прыхільнікаў нацыяналізма“, якія з'яўляюцца самымі жорсткімі ворагамі нямецкага народу, разуменне будучай ролі комунізма ў барацьбе з гэтымі „абломкамі тэўтаманаў“—усё гэта вызначае месца Гейне ў нашай сучаснасці. Недарма так ненавідзяць Гейне фашысты, якія спальваюць разам з іншымі творамі сусветнай культуры і творы Гейне. Недарма лепшыя рэволюцыйныя антыфашысцкія паэты і пісьменнікі, як Эрых Вайнерт, Іоганес Бехер ды інш. выкарыстоўваюць класічную спадчыну Гейне ў сваёй барацьбе з фашызмам. Прыёмы сатыры Вайнерта, у якіх адчуваецца ўплыў лепшых традыцый Беранжэ і Гейне, паэма „Германія“ Бехера, прысвечаная Генрыху Гейне і цэлы рад іншых твораў—усё гэта прызнанне дзейснасці і актуальнасці яго творчасці. Гейне—наш у разгарнуўшайся барацьбе сучаснай эпохі, творчасць яго знаходзіцца ў цяперашні час не ў якім-небудзь літаратурным музеі, а змагаецца ў першых шарэнгах міжнароднага антыфашысцкага літаратурнага фронта.

# ХРОНІКА

## НА СХОДЗЕ СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

1-га чэрвеня сабраўся агульны сход совецкіх пісьменнікаў БССР, каб заслухаць даклад аб контррэволюцыйнай трацкісцка-авербахаўскай і нацдэмаўскай дыверсіі ў літаратуры. Вялікай палітычнай памылкай праўлення ССПБ трэба адзначыць тое, што даклад быў даручаны Бранштэйну, які сам аказаўся ворагам народу. І не дзіва, што даклад хутчэй нагадваў блытаную пакаянную прамову. Прахадзімец і двурушнік, сіяніцкі ублюдак Бранштэйн умела абышоў усе вострыя палітычныя пытанні, знарок не выкрыў усе агідныя справы ворагаў, якія доўгі час арудавалі ў беларускай літаратуры.

У спрэчках выступіла 25 чалавек беларускіх, яўрэйскіх і польскіх пісьменнікаў, якія рэзка асудзілі дрэнную работу праўлення саюза пісьменнікаў.

Агульнае абурэнне выклікала паведамленне аб дзейнасці намесніка старшыні праўлення ССПБ Александровіча.

Александровіч у розныя часы прысвячаў свае вершы злейшым ворагам народу, шпіёнам і дыверсантам, у 1927 і 28 г. ён падпісваў антысовецкія дакументы.

Выступаючы на агульных сходах Александровіч „каяўся" ў сваіх памылках і „грахах", зробленых ім да 1930 года. Аднак, як выявілася на сходзе, Александровіч свае контррэволюцыйныя вершы перавыдаваў у розных зборніках аж да 1933 года. Яго паэма „Цені на сонцы" напісана па простаму заданню ворагаў народу.

У сваіх выступленнях пісьменнікі Куляшоў, Кучар, Галавач, Крапіва, Лынькоў, Чорны, Глебка і іншыя расказалі сходу аб тым, якімі бруднымі шляхамі ў сваім мінулым ішоў да гэтых двурушніцкіх спраў Александровіч. Пісьменнікі расказалі аб склочніцтве і кар'еризме Александровіча, які акружыў сябе „сваімі" людзьмі, многія з якіх выкрыты, як ворагі народу. Ён адпомшчваў таварышам за малейшую спробу крытыкі яго творчасці і работы ў праўленні ССПБ.

На сходзе Александровіч выступіў два разы. Ні першае, ні другое яго выступленне ні ў малейшай ступені не задаволіла схода. Александровіч усякім чынам ухіляўся ад палітычнай ацэнкі сваіх праступкаў, называў сябе „сляпым інструментам у руках ворагаў" і г. д.

Рабоце праўлення ССПБ сход удзяліў вельмі многа ўвагі. Высвятлілася, што праўленне груба парушала элементарныя прынцыпы совецкай дэмакратыі. Так, напрыклад, без ведама пісьменнікаў у члены саюза былі ў свой час прыняты ворагі народу Домбаль, Браўковіч, якія не мелі ніякіх адносін да літаратуры.

Рэзка раскрытыкавана была работа некаторых секцый і ў прыватнасці секцыі драматургаў.

Сход рэзка асудзіў прамову Глебкі на паэтычнай секцыі, як яўна нацыяналістычную і палітычна-шкодную. Глебка прысвяціў сваю прамову нейкім „двум лініям" у народнасці совецкай паэзіі і супроцьставіў Янку Купалу — Маякоўскаму, а гаворачы аб брацкіх літаратурах і параўноўваючы іх дасягненні з дасягненнямі беларускай літаратуры, ён ахаяў велізарныя дасягненні грузінскай совецкай літаратуры.

Сход пісьменнікаў пастанавіў вывесці Александровіча з складу праўлення саюза совецкіх пісьменнікаў БССР і паставіў пытанне аб вывадзе яго з складу праўлення саюза совецкіх пісьменнікаў СССР.

Вылучана спецыяльная камісія для дэталёвага азнаямлення з творчай і практычнай дзейнасцю Александровіча, каб у бліжэйшыя часы паставіць пытанне аб прабыванні яго ў саюзе совецкіх пісьменнікаў. Сход прызнаў работу праўлення саюза совецкіх пісьменнікаў БССР нездавальняючай і паршыў у бліжэйшыя часы правесці перавыбары праўлення саюза.

## НА СХОДЗЕ САЮЗА СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ АЗЕРБАЙДЖАНА

12 чэрвеня скончыўся агульны сход саюза совецкіх пісьменнікаў Азербайджана. Выступаўшыя пісьменнікі паказалі на буйнейшыя зрывы і памылкі ў рабоце праўлення саюза.

Аднак ні выступленне старшыні саюза Шамілава і сакратара Самеда Вургуна, ні выступленне былога кіраўніка саюза Алекберлі не задаволілі прысутных., Гэтыя таварышы не знайшлі ў сабе мужнасці ўскрыць усе памылкі і агіднасці, якія тварыліся ў саюзе.

Таварышы С. Рустан, Дж. Хандан, А. Фарух, Сарывеллі, М. Рагім,—прызнаючы правільным артыкул у „Правде" „Ухищрение врага" паказвалі, што з дапамогай злейшых ворагаў народу Рухулы Ахундова і Мікаіла Гусейнова і поўнай страты пільнасці кіраўніцтвам саюза, на працягу шэрагу гадоў у асяроддзі азербайджанскіх пісьменнікаў арудавалі агенты япона-германскага фашызма, трацкісты, нацыянал-ухілісты, мусавацісты, панцюркісты і іншыя контррэволюцыйныя элементы, як напрыклад: Алі Назім, Ахмед Джавад, Талыблы, Тагі Шахбазі, Алі Разі, Гусейн Джавід, Санылы Мушфік, Сеід Гусейн і інш.

Сход пастанавіў вызваліць Шамілава ад абавязкаў старшыні і Самеда Вургуна ад абавязкаў адказнага сакратара ССП.

Сход абраў новае праўленне ў складзе сямі чалавек: Алі Мамедава (старшыня), А. Г. Расул — Задэ. (адказны сакратар), С. Рустама, С. Вургуна, М. С. Ордубадзі, Мкртычана і Камскага.

## НА СХОДЗЕ ПІСЬМЕННІКАЎ АШХАБАДА

Два дні працягваўся сход пісьменнікаў Ашхабада. Выступаўшы з дакладам загадчык аддзелам друку ЦК КП(б)Т тав. Э. Султан Ніязаў гаварыў аб поўным развале работы праўлення ССПТ. Трацкіст Чарыяў доўгі час стаяў на чале праўлення і тармазіў творчы рост маладых пісьменнікаў, не пускаў іх творы ў друк, зацягваў пераклады класічных твораў, выданне зборніка народнай творчасці.

Побач з гэтым за апошні час выйшлі працы, якія маюць ідэалагічна-шкодныя ўстаноўкі, як напрыклад: „Урывак з гісторыі" Ата Ніязава, „Праз 25 год" Насырлі, „Соцыяльна-класавы твар журнала „Туркмен Ілі"—А. Рухі. Праўленне да гэтага часу не выступіла з крытыкай гэтых прац.

Па дакладу выказалася 20 чалавек. Выступаўшыя выкрывалі дзейнасць „вучняў" Чарыява: Ата Ніябава, Шахбердыева, Сарыханава.

Сход зацвердзіў пастанову праўлення, аб выключэнні Чарыева з членаў саюза совецкіх пісьменнікаў. Заяву Ата Ніязава і Халы Шахбердыева сход прызнаў нездавальняючай.

Сход вырашыў таксама пытанне аб бліжэйшым рэспубліканскім сходзе саюза совецкіх пісьменнікаў.

## НАД ЧЫМ ПРАЦУЮЦЬ КАЗАХСКІЯ ПІСЬМЕННІКІ

Маладыя казахскія пісьменнікі працуюць над новымі мастацкімі творамі, прысвечанымі XX гадавіне вялікай пролетарскай рэволюцыі:

Таір Жарокаў закончыў паэму „Таскін" („Навадненне"), у якой паказвае горад Верны, узяцце яго чырвонымі партызанамі і навадненне ў 1921 годзе.

Утебай Турманжанаў рыхтуе зборнік паэм. К. Абубакіраў працуе над паэмай „Батыр" аб Чырвонай арміі і над аповесцю „Махтабат" аб дасягненнях бавоўнікаў Казахстана.

К. Хасанаў перакладае на уйгурскую мову паэму Пушкіна „Бахчысарайскі фантан" і „Браты—разбойнікі".

Ж. Саздыкаў піша раман у вершах аб старым і новым аулах і адначасова працуе над паэмай „Дзве сустрэчы"—аб героях працы.

## ТВОРЧЫ ВЕЧАР АБХАЗСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ

15 чэрвеня ў палацы пісьменнікаў Грузіі адбыўся творчы вечар абхазскіх пісьменнікаў. У гэтым вечары прынялі ўдзел абхазскія пісьменнікі Д. Гулія, С. Чанба, Л. Лабахуа, Шынкуба, Ф. Канонідзе, Г. Гулія, Жванія, Н. Мікава. Лепшыя творы абхазскай паэзіі і фалькλора у перакладзе на грузінскую мову былі прачытаны грузінскімі паэтамі С. Эулі, П. Самсонідзе, Г. Цецхладзе, В. Гапрындашвілі, В. Горгадзе, М. Патарыдзе, І. Абашыдзе, В. Габескірыя, Д. Гачэчыладзе.

Вечар з'явіўся яркай дэманстрацыяй непарушнай дружбы брацкіх народаў. Абхазскія і грузінскія пісьменнікі, абменьваючыся творчым вопытам, яшчэ

больш мацуюць дружбу савецкіх народаў. Пісьменнікі савецкай Абхазіі пераклалі на абхазскую мову паэму Акакія Цэрэтэлі „Выхавацель“, аповесць Д. Чонкадзе „Сурамская крэпасць“, раман К. Лордкіпанідзе „Далоў кукурузную рэспубліку“. У сувязі з юбілеямі Ільі Чаўчавадзе і Шота Руставелі, Д. Гулія перакладае паэму „Разбойнік Како“ і асобныя разделы з „Віцязя у тыгравай скуры“. С. Чанба пераклаў урыўкі з „Кацыя—адаміані“, „Расказы жабрака“ і верш „Паэт“—Ільі Чаўчавадзе. Ён працуе таксама над перакладам паэмы Руставелі.

Па ініцыятыве саюза савецкіх пісьменнікаў Грузіі ў Тбілісі выдаецца зборнік твораў абхазскіх пісьменнікаў на грузінскай і рускай мовах.

Наступны творчы вечар абхазскіх пісьменнікаў будзе праведзены ў Тбіліскім рабочым клубе імя Плеханава.

## ДА 750-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ШОТА РУСТАВЕЛІ

Афіцыйна абвешчана дата ўсенароднага свята 750-годдзя з дня нараджэння найвялікшага паэта Грузіі Шота Руставелі, аўтара бессмяротнай паэмы „Віцязь у тыгравай скуры“. Святкаванне гэтага надзвычайнага юбілея пачнецца з 11 снежня. У гэты дзень у Тбілісі адбудзецца урачысты вечар, арганізаваны рэспубліканскім юбілейным камітэтам. 12 снежня ў залах дзяржаўнага музея адчыніцца вялікая выстаўка „Шота Руставелі і яго эпоха“. Выстаўка будзе ілюстраваць соцыяльна-эканамічнае становішча, дзяржаўны лад, мастацтва і літаратуру Грузіі XI і XIII стагоддзяў. Значную цікавасць набываюць захаваныя ў Тбілісі ўсе 19 рукапісаў паэмы Руставелі. Самая старажытная з іх адносіцца да 1646 года. Акрамя гэтых рукапісаў на выстаўцы будуць паказаны ўсе 22 друкаваныя выданні паэмы, пачынаючы з выдання 1712 года, таксама ўсе пераклады на розныя мовы і літаратура аб Руставелі.

Выстаўка будзе мець таксама спецыяльны раздзел „Помнікі матэрыяльнай культуры эпохі Руставелі“. З гэтай мэтай у Грузіі праводзяцца значныя археалагічныя раскопкі. У прыватнасці, раскопкі у Дманісі (развáліны старажытнага грузінскага горада) далі ўжо шэраг каштоўных матэрыялаў. Пачаты таксама работы па вывучэнню і рэстаўрацыі вядомага пячорнага горада Вардзіа, які быў пабудаваны ў часы Руставелі.

Да юбілейных дзён выйдзе ў свет юбілейнае выданне поўнага акадэмічнага тэкста паэмы Руставелі „Віцязь у тыгравай скуры“ на грузінскай мове з ілюстрацыямі мастака прафесара М. Тоідзе. Асобна выйдуць масавыя выданні і шэраг перакладаў паэмы на рускай, украінскай, цюркскай, армянскай, французскай і англійскай мовах. Акрамя таго выпускаецца шэраг спецыяльных манаграфій, зборнік выказванняў нябожчыка акадэміка Н. Я. Марра аб Руставелі, альбом старажытных грузінскіх ілюстрацый да паэмы.

## У ПАРТАРГАНІЗАЦЫІ ЛЕНІНГРАДСКАГА АДДЗЯЛЕННЯ САЮЗА САВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ

На сходзе партарганізацыі ленінградскага аддзялення саюза савецкіх пісьменнікаў абгаварвалася дзейнасць сакратара праўлення саюза Н. Г. Свірына. Як высвятлілася Свірын у мінулым — адзін з кіраўнікоў „Літфронта“, да апошняга часу падтрымліваў дружбу з былымі літфронтаўцамі, ворагамі народу Камегулавым, Гарэлавым і Майзелем. Ён адкрыта заяўляў, што—Майзель бездарны літаратар і тым не менш усяляк прасоўваў яго на кіруючыя работы ў навуковай арганізацыі. Свірын дапамог Майзелю стаць на працу ў інстытуце рускай літаратуры. У сваіх выступленнях Свірын патрабаваў аказваць поўнае палітычнае давер'е гэтаму здрадніку. Партарганізацыя пастанавіла выключыць Свірына з партыі, пакінуўшы за ім права праз год хадайнічаць аб аднаўленні ў шэрагах ВКП(б).

## РУКАПІСЫ І ДАКУМЕНТЫ ВЯЛІКАГА ПІСЬМЕННІКА АЛЕКСЕЯ МАКСІМАВІЧА ГОРКАГА

Дзяржаўны літаратурны музей працягвае перадачу свайго каштоўнага Горкаўскага фонда інстытуту літаратуры імя А. М. Горкага.

Усяго інстытуту літаратуры музеям перададзена 98 рукапісаў, у тым ліку адзін з самых ранніх, да гэтага часу неапублікаваны рукапіс пісьменніка Леаніда Андрэява, выпраўлены Алексеем Максімавічам. Не меншую цікавасць прадстаўляе серыя другіх матэрыялаў. Гэта—3650 друкаваных старонак твораў Горкага, надрукаваных рознымі выдавецтвамі ў дарэволюцыйны час.

Адначасова інстытуту перадана каля 20 розных афіцыйных дакументаў А. М. Горкага. Вялікую цікавасць набы-

вае „пахвальны ліст“, выданы ў 1878 годзе Кунавінскай пачатковай сельскай школай за „отличные пред прочими в науках успехами ученику Алексею Пешкову“. Гэты „пахвальны ліст“ з'яўляецца адначасова першым з дайшоўшых да нас аўтографаў пісьменніка: рукою юнака Горкага на „пахвальным лісце“ зроблены жартоўныя надпісы, якія сведчаць аб тым, наколькі скептычна юнак аднёсся да гэтай ацэнкі. Літары Н. С. К. (начальнасельскае Кунавінскае) Горкі расшыфроўвае на „пахвальным лісце“, як „Наша свінскае Кунавінскае“...

Літаратурным музеем здадзена Інстытуту імя Горкага таксама пашпартная кніжка А. М. Горкага, атрыманая ім у 1914 годзе пасля звароту ў Расію з-за мяжы.

☐ **Для арганізуемага інстытутам сусветнай літаратуры Горкаўскага музея К. П. Пятніцкім перададзены** шэраг новых каштоўных матэрыялаў. Сярод іх звыш 100 пісем пісьменніка, рукапісаў, напісаных рукою Горкага, неапублікаваныя творы.

З перададзеных пісем вялікую цікавасць набываюць тры лісты Алексея Максімавіча, напісаныя адразу-ж пасля вызвалення яго з Петрапаўлаўскай крэпасці ў 1905 годзе. Яны даюць поўны малюнак таго, што думаў, перажываў, чым цікавіўся Горкі ў гэты перыяд.

Інстытуту перададзены рукапіс п'есы „Варвары“, напісаны ў 1905 годзе. Арыгінал п'есы „Дзеці сонца“, створаны у Петрапаўлаўскай крэпасці, арыгінал „Дачнікаў“, выпраўлены рукою Горкага.

З ненадрукаваных рэчаў у Пятніцкага захавалася неапублікаваная аповесць Горкага „Публіка“, невядомы варыянт „Дзяцінства“ і інш. Аповесць „Дзяцінства“, была, як вядома, напісана ў 1913 годзе, але як высвятляецца, гадоўза 20 да гэтага, Горкім было напісана другое „Дзяцінства“, якое зусім адрозніваецца ад вядомага.

## ВЕЧАР У ЗЯЛЁНЫМ ТЭАТРЫ

18 чэрвеня у Зялёным тэатры парка імя Горкага (Менск) быў наладжаны вялікі літаратурны вечар, прысвечаны памяці пралетарскага пісьменніка А. М. Горкага. У вечары прынялі ўдзел савецкія пісьменнікі І. Гурскі, К. Крапіва, К. Чорны, М. Хведаровіч, П. Броўка, Кавальскі, Аксельрод, Харык, Галавач, а таксама, артысты тэатра юнага глядача.

Платон Галавач зрабіў даклад аб жыцці і творчасці Горкага. Прысутныя пісьменнікі выступілі з чыткай перакладаў твораў Горкага, а таксама з чыткай твораў, прысвечаных вялікаму пісьменніку. Артысты тэатра чыталі творы Алексея Максімавіча Горкага.

Арганізаваны вечар сабраў шырокую аудыторыю слухачоў.

## ГОРКІ НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

Здадзены ў друк чарговыя томы твораў А. М. Горкага на беларускай мове. Ужо выданы 5 і 6 томы, 18-19, 7-8, 20.

Здадзены ў набор новыя тамы. На беларускую мову перакладзены ўжо: „Клім Самгін“, „Маці“ і інш. буйныя творы пісьменніка.

Акрамя таго Белдзяржвыдавецтва выдае шэраг твораў Горкага асобнымі выданнямі. Так, выйдуць асобнымі кнігамі „Маці“, „Дзяцінства“, „У людзях“ і інш.

## ПРАВЯДЗЕННЕ ГАДАВІНЫ З ДНЯ СМЕРЦІ ГОРКАГА

☐ У клубе імя Леніна (Гомель) пастаноўкай твору Горкага „Ворагі“ пачаліся гастролі тэатра МОСПС. На вечары былі запрошаны ўсе чыгуначнікі Гомельскага вузла. Апрача таго клубная бібліятэка падрыхтавала вітрыну, прысвечаную жыццю і дзейнасці пісьменніка.

☐ Актыўна падрыхтаваўся да гадавіны смерці Горкага клуб фабрыкі „Праца“. Арганізавана выстаўка памяці Горкага, бібліятэка папоўнілася новымі экземплярамі твораў пісьменніка, ёсць рэкамендацыйны спіс лепшых яго твораў, якія нарасхват разбіраюцца рабочымі. Праведзены вечары памяці Горкага і гутарка аб яго жыцці.

☐ Школа імя Горкага (Гомель) правяла вялікі вечар памяці вялікага пралетарскага пісьменніка, імя якога яна носіць. Старэйшыя класы падрыхтавалі да пастаноўкі некалькі ўрыўкаў з п'ес Алексея Максімавіча.

☐ Дзяржаўная бібліятэка імя Леніна (Гомель) арганізавала фото-выстаўку, якая характэрызуе ўвесь творчы шлях пісьменніка, а таксама выстаўку яго лепшых твораў. Падрыхтаваны альбомы з выразак газет, прысвечаных дню яго смерці.

☐ У сувязі з гадавінай смерці Алексея Максімавіча Горкага на радзе прадпрыемстваў горада Віцебска праводзіліся гутаркі аб творчасці вялікага пралетарскага пісьменніка. У гарадскім Доме кнігі імя Горкага арганізавана вялікая выстаўка, прысвечаная памяці Горкага. Работнікі Дома кнігі арганізавалі ў кал-

гасе імя Чырвонай арміі вечар. Калгаснікі заслухалі даклад аб творчасці пісьменніка, а затым глядзелі выдатны кінофільм „Маці“.

□ Выстаўку і фото-мантаж аб жыцці і творчасці М. Горкага арганізавала бібліятэка клуба чыгуначнікаў. У Парку культуры і адпачынку 18 чэрвеня праводзіліся масоўкі, прысвечаныя памяці Аляксея Максімавіча.

□ Любімым заняткам пасля работы цыган калгаснікаў калгаса „Чырвоная гара“, Безуеўскага сельсовета, Рэчыцкага раёна, стала вывучэнне мастацкай літаратуры нашых выдатных класікаў. На кватэры калгасніцы тав. Янкоўскай Пашы збіраюцца цыганы калгаснікі Янкоўская Прося, Янкоўская Ліда, Янкоўская Таня, Янкоўскі Ефім і інш., якія сумесна чытаюць і расказваюць прачытанае.

У чэрвені месяцы комсорг тав. Кохна прывёз з гарадской цэнтральнай бібліятэкі мастацкую літаратуру на цыганскай мове, творы Максіма Горкага „Страсці мардасці“ і „Макар Чудра“. Гэтыя кнігі вельмі спадабаліся цыганам.



□ Гарадская цэнтральная бібліятэка і бібліятэка фанернага завода ў Рэчыцы падрыхтавалі да 18 чэрвеня—гадавіны з дня смерці вялікага рускага пісьменніка Максіма Горкага—вялікія выстаўкі на тэму: жыццё і дзейнасць Максіма Горкага.

## ПРАТАТЫПЫ ГОРКАЎСКІХ ГЕРОЯЎ НА ЭКРАНЕ

У надзвычайнай аповесці Горкага „Маці“ пад імем Палагеі Нілаўны Уласавай (цэнтральны вобраз твора) выведзена Анна Кірылаўна Заломава. Ей ленінградская фабрыка „Саюзкінохронікі“ прысвячае спецыяльны фільм (аўтар—аператар В. Беляеў) у сувязі з гадавінай з дня смерці вялікага пісьменніка.

У карціне будуць фігураваць таксама сын Заломавай Пётра (па аповесці — Павел), які жыве зараз у горадзе Суджэ, сын Александр працуе зараз на ленінградскім заводзе „Севкабель“, унук Пётр—інжынер і іншыя. Род Заломавых налічвае зараз 43 прадстаўнікі...



АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ*.
РЭДКАЛЕГІЯ: *А. Александровіч, М. Клімковіч, Я. Колас, Я. Купала, М. Лынькоў, І. Харык, К. Чорны.*
АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Савецкая, 68. Дом Пісьменніка. Тэлефон 25-394.**

# ЗМЕСТ



---

Рэдактар *М. Лынькоў*

Здана ў набор 31/V—37 г. Падпісана да друку 17/VII-37 г. Аб'ём $9^1/_4$ друк. арк.
Знакаў у друк. арк. 52.000. Папера $62 \times 94^1/_{16}$. Тыраж 3 150 экз.
Зак. № 809. Уп. Галоўлітбела №К—386.

Друкарня імя Сталіна, Менск, Дом Друку.

**Заўважаныя памылкі друку**

| Стар. | Радок | Надрукавана | Павінна быць |
|---|---|---|---|
| 105 | 27 зверху | соцыяльна-дэмакратычнага пролетарыята | соцыял-дэмакратычнага пролетарыята |
| 108 | 1 знізу | Ю. М. Лермантава | М. Ю. Лермантава |
| 111 | зноска | Ленін, зб. твораў, т. V, стар. 468 | Ленін, зб. твораў, т. XV, стар. 468 |
| | у змесце | П. Матэвушаў | В. Матэвушаў |

Зак. 809.

